УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
П14

Літаратурны альманах Гомельскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», 2013 г.



У к л а д а н н е:
Анатоль Бароўскі,
Генадзь Лапацін

**Палац** : літаратурны альманах. Гомель. / укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. — Мінск :
**П14** Кнігазбор, 2014. — 272 с.
ISBN 978-985-7089-29-1.

Літаратурны альманах Гомельскага аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» «Палац» на сваіх старонках змяшчае прозу, паэзію, успаміны, а таксама гістарычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, прысвечаныя жыццёваму шляху і спадчыне знакамітых творцаў гомельскай зямлі.

У першым нумары альманаха прадстаўленыя як творы сталых пісьменнікаў, так і лепшыя ўзоры спробаў пяра маладых літаратараў.

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-29-1**




# Мы моцныя словам палкім

Азіраючыся туды, у засмужаную далеч, у мінулыя дні, успамінаючы братэрскія сябрыны і гарачыя поціскі рук майстроў слова, не-не ды і сціснецца ад успамінаў сэрца, міжволі падумаеш: як хутка ляціць час! Некаторых сяброў ужо няма сярод нас, а ўспаміны пра іх грэюць сэрца і душу, адно шкадуеш, што не дадалі мы нешта ім, не дагаварылі пра галоўнае, а яны ж так стараліся, каб мы былі лепшыя, каб пісалі таленавіта і тварылі дабро, раўняліся на іх, помнілі пра іх.

Перад тым, як напісаць уступнае слова да першага нумара новага альманаха, палічыў сваім абавязкам звярнуцца да свайго папярэдніка, які больш за мяне і раней за мяне далучыўся да пісьменніцкай працы і літаратурна-грамадскага жыцця, — драматурга і празаіка Васіля Ткачова. Яго ўспаміны будуць дарэчы да агульных старонак нашага выдання:

«Мне пашанцавала ў тым плане, што калі я ўзначаліў абласную пісьменніцкую арганізацыю, то ў ёй былі такія слынныя пісьменнікі, як Міхась Даніленка, Уладзімір Верамейчык, Іван Сяркоў, Віктар Ярац, Мікола Янчанка, Іван Кірэйчык… Пазней уступілі ў Саюз Соф’я Шах і Ізяслаў Катляроў са Светлагорска, гамяльчанка Таісія Мельчанка. Гэтыя прозвішчы былі вядомыя не толькі на Гомельшчыне, а і ў рэспубліцы, бо яны друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, выходзілі іх кнігі.

Карыстаючыся нагодай, не праміну ўспомніць пра сяброўства з Іванам Кірэевічам Сярковым. Менавіта з яго падачы мяне абралі старшынёй абласной арганізацыі. А да Сяркова старшынёй абласной суполкі пісьменнікаў быў Леанід Гаўрылкін. Я да Івана Кірэевіча часта прыходзіў дадому, ён апошнім часам хварэў, амаль нікуды не выходзіў з хаты. Зрэдку мог пасядзець на лаўцы каля пад’езда, тады мы з ім гаварылі гадзінамі. Дарэчы, калі яшчэ быў жывы Іван Кірэевіч, мы стварылі ў Пакалюбічах музей — «Музей аднаго твора». Там і «пасялілася» яго трылогія пра Саньку — «Мы з Санькам у тыле ворага», «Мы — хлопцы жывучыя», «Мы з Санькам — артылерысты».

Музей і сёння жыве, папоўніўся кнігамі Сяркова, яго асабістымі рэчамі і накідамі будучых твораў, рукапісамі і блакнотамі.

Альбо Мікола Янчанка. Я вучыўся ў Ільічоўскай школе на Рагачоўшчыне, а Мікалай Ігнатавіч працаваў у раённай газеце. Дасылаў яму свае вершы, допісы і апавяданні. Так атрымалася, што я пасля школы нікуды не паступаў, а адразу, скончыўшы вучобу ў 1966 годзе, пайшоў працаваць у раённую газету «Зара над Сожам». І туды прыслалі Міколу — адказным сакратаром. Я ў яго шмат чаму навучыўся, навучыўся працаваць над словам.

Альбо Міхась Пятровіч Даніленка. Ён мой, так бы мовіць, хросны бацька ў літаратуры. Працаваў у гомельскай абласной газеце. Яму я і паслаў сваё першае апавяданне «У завіруху». Апавяданне не надрукавалі, але які цудоўны адказ я атрымаў тады ад Міхася Пятровіча! Ён кожны радок разабраў «да костачкі», падказаў, як правільна трэба пісаць той альбо іншы сказ. У канцы зрабіў прыпісачку, каб не кідаў пісаць, бо ў мяне ёсць літаратурныя здольнасці. Тое і паслужыла штуршком да заняткаў літаратурнай творчасцю, за што я яму вельмі ўдзячны. Вельмі шкадую, што не зберог той адказ, а мо дзе, мусіць, і ляжыць сярод мноства папер, чакае свайго часу.

Ён стаў «хросным бацькам» і для іншых пачаткоўцаў. І сёння, дзякуй Богу, маючы столькі гадоў, не адмаўляецца ад сустрэч з маладымі, дае ім парады, вучыць, як трэба ставіцца да слова.

А Уладзімір Верамейчык. Я не ведаю, ён быў мацнейшы ў паэзіі ці ў педагагічнай справе. Я ездзіў не раз да яго ў Ведрыч, выступалі разам перад вучнямі яго школы. І там я ўпершыню, пабыўшы на яго ўроку, убачыў Педагога з вялікай літары. Я мог ацаніць узровень яго таленту, бо мая маці Вольга Якаўлеўна Тарасава, выдатнік народнай асветы, выкладала ў школе беларускую мову і літаратуру. А тут… Такіх настаўнікаў я больш не сустракаў. Нідзе. Яго запрашалі і ў Мінск. Прапаноўвалі пасаду ў Міністэрстве адукацыі, клікалі ў прэстыжныя літаратурна-мастацкія часопісы. Нікуды ён не паехаў, сказаў, што для яго важней яго вучні. Дзеці яго любілі, як і ён іх. Калі нехта прыязджаў у вёску, хто выбіўся ў вялікае жыццё, то найперш да яго прыходзілі, а потым ужо да родных.

Што яшчэ? І мы выпускалі альманахі. Тры нумары. Назву яны мелі «Магістраль». Па назве першай кнігі Анатоля Грачанікава. І тады ж існавала літаратурнае аб'яднанне пры абласной пісьменніцкай арганізацыі імя Анатоля Грачанікава.

Ладзілі літаратурныя святы — «Над Дняпром, Дзяснойі Сожам». Часта сустракаліся літаратары Расіі, Украіны і Беларусі — Бранск, Чарнігаў і Гомель. Стварылі музеі Андрэя Макаёнка, Івана Мележа, Міхася Лынькова. Наладзілі абласныя прэміі Аляксандра Капусціна, М. Доўнар-Запольскага, Івана Сяркова.

…Так, ёсць пра што ўзгадаць. Дзякуй Васілю Ткачову за яго ўспаміны. І сёння мы павінны не губляць тое, што зроблена папярэднікамі, годна трымаць творчы сцяг літаратараў і майстроў слова.

Сёння іншы час, больш складаны і супярэчлівы. Прайшліся плугі па ўрадлівай глебе, але праклюнецца вясною жытнёвае зярнятка, пацягнецца да сонца сваім першым кволым лісточкам, а потым вырасце збажына і нальецца сілай важкі колас…

Падрыхтаваны першы нумар альманаха, і ў ім мы адвялі літаратурныя дзялянкі пачаткоўцам і вопытным творцам — Анатолю Кашэвічу і Язэпу Крупе, Міколу Фядосіку і Івану Сачуку, Сяргею Сапоненку і Аляксандру Муху, Аляксею Дужаму і Андрусю Мельнікаву… Збіраем і рыхтуем матэрыялы для другой кніжкі.

Мы спадзяёмся, што адкрыем новыя імёны, новыя творы, таму па ўсіх раёнах вобласці мы кінулі покліч, каб адгукнуліся літаратурныя аб'яднанні, творчыя суполкі, каб лепшыя з лепшых аўтары займелі сваю дзялянку ў нашым «Палацы».

Да сустрэчы, сябры, у наступным нумары!

*Анатоль БАРОЎСКІ,*
*старшыня Гомельскага абласнога аддзялення*
*грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»*




# Подых часу

## Алег Макушнікаў

### Замак, горад і яго жыхары ў XVI–XVIII стст.

*З гісторыі Гомеля*

Гомель XVI–XVII стст. жыў складаным лёсам «ускраіннага» горада, які выконваў адказную фунцыю фарпоста на шляху варожых войскаў. У XVI ст. пад яго мурамі і ў наваколлі не аднойчы з'яўляліся орды крымскіх татараў, у канцы XVI — сярэдзіне XVII ст. ён цярпеў ад аблогаў казацка-сялянскіх харугваў і расейскіх войскаў. Няпросты лёс наклаў адпаведны адбітак на жыццё горада і побыт гамельчукоў. Другім пасля здабычы хлеба надзённага клопатам было ўзвядзенне і падтрыманне абараназдольнасці гарадскіх умацаванняў. Гэтыя справы паглыналі ўнутраныя рэсурсы Гомеля і воласці і з'яўляліся сур'ёзнай перашкодай на шляху пастулальнага развіцця Старога горада. Гэта было адной з прычынаў, чаму Гомель мала змяніўся за тры стагоддзі. Нават да канца XVIII ст. ён так і не выйшаў з «сярэднявечнага стану», застаючыся малым напаўаграрным горадам.

Насельніцтва Гомеля скарачалася ў цяжкія перыяды войнаў, якія звычайна суправаджаліся голадам, эпідэміямі, пажарамі (як было ў 1530-х, 1580-х, 1640–60-х гг.). Натуральны прырост гарадскога насельніцтва быў невялікі, таму колькасць жыхароў аднаўлялася пераважна за кошт перасяленцаў — беглых сялян, што шукалі «службы гаспадарскай», шляхты, казацтва, а з канца XVII ст. — расейскіх стараавераў.

Дакладныя лічбы, якія б сведчылі пра колькасць гарадскога насельніцтва ў розныя перыяды гісторыі, адсутнічаюць. Аднак інвентар 1681 года дае магчымасць зрабіць некаторыя падлікі. Так, згодна з гэтай крыніцай, у Гомелі налічвалася 165 гаспадарак (дымоў)[1]. Калі прыняць пад увагу, што сярэднестатыстычная сям'я складалася з 6 чалавек, то колькасць жыхароў складзе

[1] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4–10.

каля 1000 чалавек[1]. Агульная колькасць гараджан была, верагодна, усё ж большай. Яна набліжалася да 1100 (бо ў інвентары не ўлічваліся сем'і, што не мелі юрыдычных правоў на ўчасткі гарадской зямлі, а таксама асобы, якія жылі на землях свецкіх і духоўных феадалаў). Такім чынам, Гомель канца XVII ст. быў хутчэй не горадам, а мястэчкам (шэраг даследчыкаў «ніжнім парогам» колькасці жыхароў горада для ВКЛ вызначаюць лічбу ў 1500 чалавек).

Разам з тым дэмаграфічная сітуацыя канца XVII ст. наўрад ці з'яўляецца паказальнай для XVI і пачатку XVII ст. Другая палова XVII ст. — час жудаснага спусташэння і занядбання краю, якія прынесла дваццацігоддзе войнаў (1648–67 гг.) — унутранай і знешняй. Вядома, што гарады Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага ваяводстваў у гэты перыяд страцілі ад 50 да 70% сваіх гаспадарак і насельніцтва[2]. Гомель знаходзіўся ў цэнтры баявых дзеянняў, а таму чалавечыя страты былі асабліва значныя. Калі меркаваць, што яны набліжаліся да максімальных, то колькасць гарадскога насельніцтва на пачатак XVII ст. можна вызначыць лічбай каля 3500–4000 чалавек.

Верагодна, што 3–4 тыс. жыхароў Гомель меў у параўнальна спакойныя гады сярэдзіны XVI ст.

У XVIII ст. насельніцтва горада павялічвалася вельмі марудна. І нягледзячы на тое, што Паўночная вайна не закранула горада наўпрост, яе наступствы адмоўна адбіліся на эканоміцы ды насельніцтве. Вялікую шкоду прынёс пажар 1737 г. У выніку на 1765 г. у горадзе мелася ўсяго 206 гаспадарак[3].

У момант далучэння да Расійскай імперыі (а калі дакладна, па стане на 1773–75 гг.) у Гомелі было 1889 жыхароў, у тым ліку 921 мужчына і 968 жанчын (уключна з 207 насельнікаў, «непринадлежащих оному городу», то бок тымі, хто не карыстаўся гарадскімі правамі)[4]. У гомельскім прадмесці Спасава слабада, насельніцтва якой яшчэ не лічылася гарадскім, у тыя ж гады пражывала 557 чалавек, у тым ліку 287 мужчын і 270 жанчын[5]. Такім чынам, у канцы XVIII ст. у межах «Вялікага Гомеля» жыло каля дзвюх з паловай тысяч чалавек. У гэтыя гады колькасць месцічаў павялічвалася за кошт выхадцаў з іншых рэгіёнаў Беларусі, у крыніцах таго часу шмат згадак (Лабаноўскі — «мещанский сын из Орши», удава Мацвеева — са Шклова, Кулачонак — з-пад Смаленска, Анацкі — з «деревни Любовин Чечерской парафии» і інш.)[6].

---

[1] Ці крыху менш, бо некаторыя гамельчукі валодалі адразу некалькімі дамамі. Зрэшты, у нейкай меры гэтая акалічнасць кампенсуецца фактам пражывання ў шэрагу сядзібаў дзвюх і больш сем'яў.

[2] Нарысы. Ч. І. Мінск, 1994. С. 252.

[3] Ткачёв М. А. Замки Белоруссии. Минск, 1987. С. 72.

[4] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (ЦДГАУ). Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 4 адв., 5.

[5] Тамсама. Арк. 8.

[6] Тамсама. Арк. 3 адв., 4 адв.

Насельніцтва горада было неаднародным па сваім маёмасным і сацыяльным стане. Па фрагментарных паведамленнях пісьмовых крыніц і аналогіях з іншымі гарадамі ВКЛ XVI–XVIII стст. можна казаць, што на верхняй прыступцы сацыяльнай лесвіцы была невялікая праслойка заможных гараджан — буйных купцоў, ліхвяроў, чальцоў гарадскога самакіравання. За імі ішла шырокая група «сярэдніх» гараджан, ці «паспольства». Яе складалі гандляры, рамеснікі, прамыславікі ды іншыя месцічы. Унізе знаходзіліся плебс, бяднейшыя чальцы грамадства — батракі, збяднелыя рамеснікі, дэкласаваныя элементы. У дакументах канца XVIII ст. згадваліся гаспадаркі гомельскіх беднякоў («хаты бездворные и безземельные»), называліся батракі Хокаў, Кісель, работнікі мясцовых габрэяў — Васілеўскі, Тутуш, Паддзячнік, Ляскоўскі, Пілчук. «Атрад» гомельскіх жабракоў у першай палове 1770-х гг. налічваў 25 чалавек[1].

Расслаенне гараджан у больш ранні перыяд, у канцы XVII ст., можна вызначыць па колькасці зямлі, што знаходзілася ў іх ва ўладанні (агародаў, «валок» і «моргаў»). Самыя буйныя надзелы ў горадзе мелі ў 1681 г. месцічы Васіль Свірыд, Іван Казелка, Павал і Іван Лысыя, Нічыпар Дубіна, Ясько Гаўрычонак, Фёдар Вітала, Лявон Янчонак, Багдан Саракалет, Кір'ян Балбос, Іван Міхаловіч, Ярах Рак і некаторыя іншыя; плошча іх надзелаў перавышала ўладанні асноўнай масы гараджан у два ці нават некалькі разоў[2].

Месцічы складалі вялікую па колькасці гарадскую абшчыну-карпарацыю. Неабходнасць бараніцца ад шляхецкага свавольства, абараняць свае маёмасныя правы, ствараць спрыяльныя ўмовы для рамяства, гандлю, промыслаў і земляробства спрыялі выпрацоўцы ў беларускіх гарадах наогул і ў Гомелі ў прыватнасці традыцый самакіравання. Нейкія элементы жыхары Гомеля маглі мець яшчэ ў «старажытнарускія» часы (г. зв. звычаёвае права па канонах «Рускай праўды»), але за іх захаванне і пашырэнне неабходна было весці несупыннае змаганне. Права на асабістую свабоду (адразу за гарадскімі сценамі разлівалася бязмежнае мора прыгону) магла даць вышэйшая дзяржаўная ўлада.

Зацікаўленыя ў стабільных паступленнях у скарбніцу, вялікія князі літоўскія ўжо ў канцы XIV ст. даюць некаторым беларускім гарадам магдэбургскае права, згодна з якім месцічы вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцяў і атрымлівалі юрыдычна падмацаваныя правы займацца рамяством і гандлем, ладзіць кірмашы, абіраць орган гарадскога самакіравання — магістрат. Магістрат выконваў ролю адміністрацыі, якая пры гэтым не распаўсюджвалася на жыхароў воласці, духоўных і свецкіх феадалаў, габрэйскія абшчыны і некаторыя іншыя катэгорыі насельніцтва. У XIV–XVI стст. магдэбургскае права атрымліваюць Берасце, Полацк, Гародня, Навагрудак, Магілёў, Орша ды іншыя гарады.

---

[1] ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 3 адв., 4 адв., 64.

[2] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4–7 адв.

Якімі былі дакладныя формы і характар органаў гарадскога самакіравання, невядома. Але той факт, што яны былі, не падлягае сумневу. 21 сакавіка 1560 г. Жыгімонт Аўгуст падараваў гомельскім месцічам гарадскую пячатку з выявай крыжа і надпісам на лаціне «Герб горада Гомеля». Пячатка дазваляла гараджанам без умяшальніцтва пасрэднікаў (мясцовай дзяржаўнай адміністрацыі ды шляхты, што карысталіся сваімі пячаткамі) уступаць у маёмасныя і іншыя стасункі паміж сабой, а таксама з вялікакняскай і мясцовай уладамі і іншымі жыхарамі ВКЛ. Як мяркуе беларускі гісторык М. Ф. Спірыдонаў, што знайшоў тэкст каралеўскага прывілея ў архіве, гамельчукі карысталіся пячаткай не толькі да далучэння Гомеля да Расійскай імперыі, але і пасля — аж да перадачы горада Кацярынай II графу П. А. Румянцаву-Задунайскаму (1776)[1]. Пячатка з гербам, без сумнення, з’яўлялася важным пацверджаннем прызнання вярхоўнай уладай права горада на самакіраванне.

Сама выява найстарэйшага герба Гомеля не захавалася. Беларускі гісторык А. К. Цітоў прапанаваў яго рэканструкцыю. Згодна з ёй выява крыжа сведчыць пра тое, што ўладальнікі былі носьбітамі хрысціянскіх каштоўнасцяў і былі гатовыя на самаахвярную іх абарону. Колеравыя характарыстыкі найхутчэй наступныя: крыж — белага колеру, што адпавядае колеру крыжа святога Георгія, а поле — чырвонае. Менавіта гэтыя два колеры часта выкарыстоўваліся ў беларускай геральдыцы XVI ст.[2]

У 1670 г. кароль Міхаіл Карыбут-Вішнявецкі даў гараджанам права на вольны гандаль і вольны правоз тавараў[3].

Існаванне ў Гомелі (прынамсі, напрыканцы XVII ст.) нейкага органа мясцовага самакіравання пацвярджаецца інвентаром 1681 г., дзе гаворыцца пра наяўнасць «меского войта»[4]. Між іншым, у 1773-75 гг. гомельскія гараджане вызначаліся як «мяшчане-земляробы», што не карысталіся правам магдэбургскім[5], хаця апошняе не выключае магчымасці наяўнасці гэтага права ў ранейшы перыяд.

Пэўную частку насельніцтва Гомеля складалі «служылыя» людзі, што ўтваралі асаблівую, адрозную ад месцічаў саслоўную групу. У яе ўваходзілі слугі адміністрацыі староства, замкавыя гарматнікі, вайскоўцы (жаўнеры, казакі) гомельскага гарнізона і іншыя. Прывілеяваную частку насельніцтва прадстаўлялі шляхта і духавенства, што валодалі найбольшымі і найлепшымі кавалкамі зямлі.

Значныя надзелы ў горадзе і побач з ім напрыканцы XVII ст. мелі паны Міхал Кіцлажэўскі, Красоўскі, Ян Фаш, Руцкі, Самуэль Усціновіч, а таксама

---

[1] Спірыдонаў М. Гербы гарадоў феадальнай Беларусі // Маладосць. 1990. № 12. С. 156–163; Гомель. Энциклопедический справочник. Минск, 1991. С. 131–132.

[2] Цітоў А. Герб Гомеля // Вячэрні Гомель. 1994. 14 кастрычніка.

[3] Виноградов Л. Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142–1900. М., 1900. С. 21. Прим. 40.

[4] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 9.

[5] ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 4 адв.

гомельскія цэрквы[1]. Левановічы, Усціновічы і Фашы (Фашты, Фашчы, Хвашчы) — найбольш старыя гомельскія шляхецкія сем'і, нашчадкі мясцовых баяраў XV–XVI стст., якія захоўвалі свае ўладанні фактычна да пачатку XX ст.[2]

Левановічы вялі радавод ад баярына Лявона Рыгоравіча Воўка, які ў 1560 г. валодаў землямі Лаўраўскай, Хацееўскай і Сабельнікаўскай пры сялібе Азарычы, а таксама зямлёй Палуеўскай «пры месцы Гомельскім»[3]. Згодна з прывілеем Жыгімонта Аўгуста ад 9 жніўня 1560 года Левановічы атрымалі правы валодання на два двары ў самім Гомелі[4]. Да канца XVIII ст. значныя ўладанні Левановічаў меліся ў паселішчах Высокая, Слабада Поташава Рагачоўскага, Азарычы, Кажанаўка, Сяроўка, Плутоўка Беліцкага паветаў[5].

Радавод Фашчаў распачынаецца ад баярына Яна Фашча, які ў 1560 годзе «трымаў» раллю і сенажаці, дані мядовыя ва ўрочышчах Сутызінская і Занькаўская пры сяле Насовічы пры сяле Юркавічы на Сожы[6]. Новыя дараванні Фашчу былі зробленыя ў Гомелі і ваколіцах у 1562 г.[7]. Два двары ў Гомелі згодна з прывілеем Аўгуста III ад 5 лістапада 1762 г., атрымаў Аляксандр Фаш[8]. У дакуменце 1773–75 гадоў шляхціц Фаш названы «панам судзьёй»[9]. У канцы XVIII ст. зямельныя ўладанні Фашаў павялічыліся і меліся ў Дуравічах, Папоўцы, Пышнаўцы Рагачоўскага і Галавінцах, Лукаўі, Насовічах, Грабаўцы, Макаўі Беліцкага паветаў[10].

Баяры Усціновічы атрымалі тры двары ў Гомелі па прывілеях Жыгімонта Аўгуста і Яна II Казіміра ў 1555 і 1664 гг. адпаведна[11]. Напрыканцы XVIII ст. яны валодалі землямі ў вёсках Кірыятаўка, Ухава, Шылавічы Рагачоўскага і ў Чонах і Сеўруках Беліцкага паветаў[12].

Бальшыня гараджан была беларусамі па этнічным паходжанні. На 1681 г. большая частка прозвішчаў жыхароў Гомеля мае «беларускае гучанне»: Кутчонак, Філановіч, Шпак, Янчонак, Гаўрычонак, Леванёнак, Ціт, Жураўлёнак, Сідаронак, Барысёнак, Дайнека, Вераценнік, Гапанёнак. Мясцовае

---

1 ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 4–15.

2 Першапачаткова воіны-рыцары Вялікага Княства Літоўскага называліся баярамі, з пачатку XV ст. — таксама і шляхцічамі, а яшчэ пазней і зямянамі. Буйныя зямельныя ўладальнікі, якія мелі васалаў, ужо з пачатку XV ст. тытулаваліся польскім па паходжанні тытулам «пан», якое перадавалася па спадчыне (Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 15–127).

3 АВАК. Т. XIII. Вильна, 1886. С. 360.

4 Памяць. Гомель: у 2-х кнігах. Мінск, 1998. Кн. I. С. 126.

5 Цэнтральны дзяржаўны архіў старажытных актаў (ЦДАСА). Ф. 16. Спр. 763а. Арк. 160 адв., 173.

6 АВАК. Т. XIII. С. 358, 373.

7 Жудро Ф. А., Сербов И. А., Довгялло Д. И. Город Гомель. Географическо-статистический очерк // ЗСЗОРГО. Кн. 2. Вильна, 1911. С. 308.

8 Памяць. Гомель. С. 126.

9 ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 4 адв.

10 ЦДАСА. Ф. 16. Спр. 763а. Арк. 167 адв., 176 адв., 177.

11 Памяць. Гомель. С. 126.

12 ЦДАСА. Ф. 16. Спр. 763а. Арк. 167, 175 адв.

паходжанне пацвярджаецца тым, што падобныя прозвішчы мелі ў той час і жыхары сельскай мясцовасці Гомельшчыны: Клімовіч, Апанасёнак, Леванёнак, Міраповіч, Маланка, Семянёнак і інш.[1] У XVIII ст. беларускія прозвішчы па-ранейшаму пераважаюць сярод гомельскіх мяшчан. На старонках дакументаў 1770-х гг. знаходзім Жыхара, Крычаўца, Дубіну, Кудзіновіча, Аксаміта, Мурашку, Зязюлю, Магілёўца і інш.[2]

У XVI–XVIII стст. шэрагі гараджан «сілкаваліся» таксама за кошт выхадцаў з рускіх земляў. Іх доля была параўнальна невялікай на працягу розных гістарычных этапаў. У першых дзесяцігоддзях XVI ст., калі горад знаходзіўся ў складзе Масковіі, тут маглі з'явіцца гандляры, рамеснікі, беглыя сяляне, стральцы, што стваралі сем'і па месцы службы. З'яўляліся маскавіты і пазней — у XVII ст. У інвентары 1681 г. знаходзім рускія прозвішчы сярод жыхароў сельскай мясцовасці ў ваколіцах Гомеля: Іван Дзедаў, Сямён Агееў, Павел Максімаў, Аляксей Герасімаў, Сава Карпаў і інш.[3] У XVIII ст. з'яўляюцца на Гомельшчыне стараверы — выхадцы з Арлоўскай, Цвярской, Калужскай і іншых расейскіх губерняў[4].

Безумоўна, прысутнічалі на гомельскіх землях таксама і прадстаўнікі ўкраінскага этнасу, але вызначыць іх на падставе наяўных у крыніцах прозвішчаў наўрад ці магчыма з-за моцнага падабенства да мясцовых. Больш пэўна можна казаць пра наяўнасць украінскай дыяспары ў Гомелі напрыканцы XVIII ст. Так, «Пагалоўны спіс» 1773–75 гг. называе гамельчукоў-перасяленцаў з Седнева пад Чарнігавам, з Кіева, Белай Царквы ды інш.[5]

Перасяленцы з Польшчы з'яўляюцца ў Гомелі з канца XVI ст., пасля Люблінскай уніі, але найбольш інтэнсіўнай іх плынь робіцца ў канцы XVII ст. Сярод тых, хто згадваецца ў інвентары 1681 г., — прадстаўнікі шляхецкага саслоўя: Кіцлоўскія, Красоўскія, Плескія, Руцкія і інш. У першай палове 1770-х гг. «жыхарам каталіцкага закона» належала 18 падворкаў, дзе жылі 67 чалавек, што складала каля 3,5% ад агульнай колькасці гараджан[6].

Найбольш старажытную этнаканфесійную групу гомельскага насельніцтва складалі габрэі. Можна меркаваць, што першыя прадстаўнікі гэтага народа з'явіліся тут яшчэ за часамі Кіеўскай Русі, а новая хваля рассялення прыйшлася на часы праўлення Вітаўта. Першыя вядомыя аўтару згадкі пра гомельскіх габрэяў адносяцца да сярэдзіны XVII ст. Пасля жорсткай разні, учыненай у горадзе казакамі Нябабы, нешматлікія ацалелыя, верагодна збеглі далей ад Украіны. Так, у 1681 г. са 156 двароў-гаспадарак горада толькі 2 належала іўдзеям.

---

[1] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4–27.
[2] ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 1–4; Памяць. Гомель. С. 118–124.
[3] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4–20 адв.
[4] ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 4–8.
[5] Тамсама. Арк. 3 адв. – 5 адв.
[6] Тамсама. Арк. 3, 4 адв.

Да 1770-х гг. габрэйская грамада істотна пабольшала. Ёй належала каля 70 двароў, а колькасць чальцоў складала 596 чалавек, ці 32% насельніцтва[1]. Сярод гомельскіх габрэяў былі як буйныя (што мелі наёмных працаўнікоў) так і дробныя гандляры, рамеснікі, беднякі, жабракі і святары. Усе іўдзейскія жыхары Гомеля ўваходзілі ў абшчыну — кагал. У 1770-х старшынёю кагала быў рабі Давідовіч[2] — вышэйшы святар і суддзя па ўсіх пытаннях сямейнага і рэлігійнага жыцця габрэяў.

Дакументальныя матэрыялы дазваляюць нам уявіць у агульных рысах знешні выгляд Гомеля і яго забудовы ў XVI–XVIII стст. Гарадская тэрыторыя тады ахоплівала толькі нязначную частку цэнтра сучаснага горада і ўключала прастору між Кіеўскім спускам і Гамеюком (цяпер на рэштках яго рэчышча знаходзіцца Лебядзінае возера, утворанае пры Паскевічы). З іншых бакоў горад абмяжоўваўся рэчышчам Сожа і мясцовасцю, дзе цяпер праходзіць вуліца Працоўная. З поўдня, захаду і поўначы да горада далучаліся прадмесці.

«Сэрцам» быў добра ўмацаваны драўляны замак. Яго папярэднікам быў радзіміцкі град, на месцы якога пасля стаяў дзядзінец Гомія эпохі Кіеўскай Русі. Цвержа знаходзілася на мысе, што ўтваралі Сож і Гамяюк.

Умацаванні замка XVI–XVIII стст. у выглядзе землянога вала абаранялі невялікую цытадэль плошчаю каля 1,5 гектара. Вакол вала ішоў шырокі і глыбокі роў. На валах узвышаліся драўляныя сцены з байніцамі, перакрытыя дахам. Найбольш небяспечныя ўчасткі мелі вежы рознай вышыні. Самым адказным месцам у абароне замка была ўязная вежа-брама з пад'ёмным мостам. Сцены і вежы замка былі пакрытыя тоўстым слоем гліны, якая захоўвала дрэва ад гніення і надавала ўмацаванням падабенства з мураванымі замкамі. У замку меўся падземны ход, што вёў да Сожа і выкарыстоўваўся пад час аблогаў для таемных выправаў супраць ворага і для папаўнення запасаў[3].

Замак неаднаразова гарэў і перабудоўваўся. У канцы XVII ст. яго абарончыя збудаванні складаліся з дастаткова простай драўлянай сцяны (палісаду). У сцяну было таксама ўключана 11 жытлаў — двухярусных пабудоваў, ніжэйшы ярус якіх займалі жыхары з маёмасцю, а верхні выкарыстоўваўся ў якасці памосту для вайскоўцаў[4]. Пляцоўка ў межах замкавых умацаванняў мела дастаткова шчыльную забудову драўлянымі будынкамі featuredрознага прызначэння[5]. У цэнтры замка месцілася багатае харомнае збудаванне з шматлікімі пакоямі, кафлянымі печкамі і галерэямі. Меліся таксама «каморы» — памяшканні для захавання рознай маёмасці, хаты слуг, склепы, у тым ліку «вінны» — піўніца, леднік. Былі кухні, клеці, стайні, бровар, лазня і іншыя пабудовы, неабходныя для абслугоўвання гаспадаркі і гарнізона.

---

[1] ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 3, 4 адв.

[2] Тамсама.

[3] Некаторыя звесткі пра Гомельскі замак аўтар знайшоў у М. А. Ткачова (Ткачёв М. А. Указ. соч. С. 65–71).

[4] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 1.

[5] Тамсама. Арк. 1–5.



*Гомель у XVII ст. Рэканструкцыя аўтара. Малюнак Ю. М. Лупіненкі*

У замак можна было трапіць толькі праз адну браму, побач з якой знаходзілася вязніца. Найбольш заўважным будынкам была бадай драўляная Мікалаеўская царква.

Нягледзячы на істотныя перабудовы, асноўны замкавы комплекс існаваў аж да канца XVIII ст. — часу пабудовы каменнага палаца П. А. Румянцава-Задунайскага[6]. Апошнія будаўнічыя работы вяліся ў 1737 г. па даручэнні старасты М. Ф. Чартарыйскага, калі між іншага заклалі новыя вежы і сцены, паглыбілі равы і падправілі пад'ёмны мост[7]. Канчаткова замкавыя ўмацаванні былі разабраныя паміж 1780 і 1785 гг.[8].

У гомельскім замку захоўваўся вайсковы рыштунак і зброя. У арсенале меліся розныя віды халоднай і агнястрэльнай зброі. У XVI ст. шырока быў распаўсюджаны просты жалезны «кій» — трубка з адтулінай у казённай частцы для запальвання пораху. У сярэдзіне XVI ст. яго змянілі значна больш сучасныя гакаўніца, ручніца і аркебуза, апошнія — іспанскія па паходжанні — стрэльбы мелі калясцовыя і ўдарна-крамянёвыя механізмы[9].

---

[6] Памяць. Гомель. С. 123–125.
[7] Ткачёв М. А. Указ. соч. С. 72.
[8] Тамсама. С. 72–73.
[9] Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі. Мінск, 1993. С. 25, 149.

Важнейшым сродкам абароны былі гарматы. Пасля 1540 г. Гомельскі замак атрымаў іх з віленскай людвісарні. Гарматы XVI ст. падзяляліся на даўгаствольныя (фельдшланга, фалькона, квартшланга, фальканэт, серпанціна), сярэдняствольныя (шарфмэта, картавуна, салавей) і для стральбы каменнымі кулямі[1].

У зацішным для Гомеля 1681 г. у арсенале яго замка захоўвалася толькі 5 гармат, да іх мелася 23 жалезныя ядры, 6 гакаўніц, 11 мушкетаў і інш. Асобны від складалі «арганкі» — шматствольная зброя, ствалы якой размяшчаліся на некалькіх узроўнях гарызантальна на спецыяльных станках[2].

У замкавых свірнах захоўваліся запасы зерня і іншага правіянту. Ствараліся яны за кошт каралеўскіх падаткаплацельшчыкаў і эксплуатацыі замкавых пашаў. Да замкавай гаспадаркі адносіліся шэсць млыноў — на рацэ Мільчы, у сёлах Валаковічы, Прыбытковічы, на Узе каля Бабровічаў і два каля сяла Юркавічы[3]. Адным са старэйшых быў «млын замкавы» каля Бабровічаў, які згадваецца яшчэ ў рэестры рэвізіі 1560 г.[4]. Складовай часткай замкавай гаспадаркі былі дзве вадзяныя механічныя сукнавальні, што стаялі на Уце ў сяле Прыбытковічы і на рацэ Узе. Важную ролю адыгрывалі заводы-рудні ў Юркавічах і Маркавічах.

Такім чынам, замкавая гаспадарка была даволі вялікай і выходзіла далёка за межы гарадскіх сцен.

Калі замак быў «сэрцам» горада, то яго «целам» і «рукамі» было места. Яго плошча ў межах гарадскіх сцен у XVI–XVIII стст. складала каля 10 гектараў. Уезд і выезд ў места ажыццяўляліся праз брамы Чачэрскую, Магілёўскую, Рэчыцкую. Водная брама выводзіла на гарадскую прыстань. Праз роў каля брамаў былі перакінутыя пад'ёмныя масты[5]. Горад быў аточаны дубовымі сценамі-палямі і двух'яруснымі «гароднямі-ізбіцамі»[6].

У XVI–XVIII стст. горад меў дастаткова выразную радыяльна-паўкальцавую планіроўку і падворкава-вулічную забудову тэрыторыі. Галоўныя вуліцы, а іх было 5, веерам разыходзіліся да абарончага комплексу, дзе завяршаліся «глухімі» вежамі і праезнымі брамамі.

Важнейшай часткай горада была гандлёвая плошча-кірмаш, што месцілася на поўнач ад замка. Кірмаш займаў звыш пяці тысяч квадратных метраў[7]. На кірмашы размяшчаліся гандлёвыя шэрагі і склады для захоўвання тавараў — драўляныя «каморы». У 1681 г. іх было 16; за права карыстання імі гараджане супольна сплочвалі ў гаспадарскі скарб 4 злотыя. Тут жа на кірмашы знаходзілася спецыяльнае памяшканне, дзе ашчадна захоўваліся дзве

[1] Ткачоў М. А. Артылерыя // ЭГБ. Т. I. Мінск, 1993. С. 157–159.
[2] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 2; Арган // ЭГБ. Т. I. С. 141.
[3] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 2 адв. – 3 адв.
[4] АВАК. Т. XIII.
[5] Ткачёв М. А. Замки Белоруссии. С. 68.
[6] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 2.
[7] Згодна з «Планом местечка Гомля, нынешнего его положения, со всею подробностью» 1799 г. Копія плана захоўваецца ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі.

гіры — вагавыя эталоны[1]. Да 1776 г. колькасць гандлёвых месцаў павялічылася ў два разы[2].

Адной са старэйшых вуліц, трапіць на якую можна было выйшаўшы з замкавай брамы, была вуліца Чачэрская[3]. Пачыналася яна прыблізна каля цяперашняй сядзібы Петрапаўлаўскага сабора і заканчвалася метраў праз 100 Чачэрскай брамай у сістэме гарадскіх умацаванняў. У 1681 г. на вуліцы Чачэрскай месціліся 15 гаспадарак, а таксама карчма і бальніца[4]. Дакументы 1765 і 1770-х гг. таксама ўзгадваюць гэтую вуліцу[5].

Амаль паралельна Чачэрскай ішла вуліца Троіцкая, якая таксама даходзіла да замкавай сцяны. У канцы XVII ст. на Троіцкай было крыху больш за паўтара дзясяткі двароў і стаяла Троіцкая царква.

Сярод даўніх вуліц Гомеля адзначым таксама вуліцу Спаскую, абавязаную сваёй назвай таксама адной з цэркваў горада. Напрыканцы 1680-х гг. на вуліцы было каля двух дзясяткаў двароў, касцёл[6]. Параўнальна вялікай была вуліца Карнілаўская з 28 сядзібамі[7]. Самая ж вялікая вуліца XVI–XVIII стст. — Рэчыцкая. У 1681 г. на ёй было 40 гаспадарак.

Важнай часткай гарадской тапаграфічнай структуры была прыстань на Сожы, якая месцілася каля замка, магчыма ля вусця Гамеюка. Тут жа знаходзілася гарадская паромная пераправа, што згадваецца ў дакументах сярэдзіны XVII ст.

---

[1] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4.

[2] Памяць. Гомель. С. 125.

[3] Лакалізацыя старэйшых вуліц Гомеля, якія існавалі да «румянцаўскіх» перапланіровак пачатку XIX ст., з'яўляецца дастаткова складанай праблемай, рашэнне якой патрабуе комплекснага даследавання гісторыка-геаграфічных, гісторыка-картаграфічных і археалагічных крыніц. Першая «ідэнтыфікацыя» сярэдневяковых гомельскіх вуліц, якая абапіраецца на навуковыя звесткі, прапанавана аўтарам у пачатку 1990-х гг. Гл. публікацыі ў «Гомельскай праўдзе»: «З гісторыі гомельскіх вуліц» (15 студзеня 1991 г.), «Ісціна ляжыць на паверхні, або Аб тым, як весці дыскусію аб ранейшых гарадскіх назвах Гомеля» (8 жніўня 1991 г.).

[4] Карчма — традыцыйная ўстанова ў беларускім горадзе, якая давала стабільныя даходы на карысць дзяржавы ці феадала. Першая вядомая аўтару згадка пра гомельскую карчму адносіцца да 1560 г. (АВАК. Т. XIII. С. 377).

[5] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 4; ЦДГАУ. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 3750. Арк. 1.

[6] НГА РБ. Ф. 694. Воп. 7. Арк. 5 адв., 6.

[7] Тамсама. Арк. 6. Згодна з інвентаром 1681 г., Спаская царква знаходзілася на аднайменнай вуліцы, у дакуменце ж 1776 г. яна змешчаная на Дзеканоўскай. Растлумачыць гэта можна па-рознаму: а) царкоўная сядзіба змяніла сваё размяшчэнне; б) яна выходзіла на дзве суседнія вуліцы; в) Спаская вуліца стала называцца Дзеканоўскай. Апошняму варыянту тлумачэння супярэчыць упамінанне ў дакументах канца XVIII ст. як Спаскай, так і Дзеканоўскай вуліц.

**Пасляслоўе**

Стары Гомель не быў разбэшчаны ўвагай летапісцаў і гісторыкаў. Але, углядаючыся ў яго доўгі, поўны цяжкіх выпрабаванняў шлях, здзіўляешся, наколькі багатая на імёны і падзеі яго гісторыя, наколькі дзівосна яна пераплеценая з мінулым Беларусі і знітаваная з лёсамі Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы.

Гісторыя засялення мясцовасці, якая пазней сталася «калыскай» горада губляецца ў смузе тысячагоддзяў. Першыя людзі — паляўнічыя на мамантаў — з'явіліся тут яшчэ ў эпоху палеаліту. Самае старое сталае паселішча на берагах Сожа ўзнікла ў часы герадотавых плямёнаў, каля сярэдзіны I тыс. да н.э. Гомельскія пагоркі зведалі і подых пераменаў, што прынёс у Еўропу вецер Вялікага перасялення народаў. У VI–VII стст. н. э. тут з'яўляецца вялікае паселішча. З гэтага моманту чалавек ужо ніколі не пакідае мясцовасць, вядомую па летапісах пад назвай «Гомій».

Гомель займае пачэснае месца ў шэрагу найстаражытнейшых усходнеславянскіх гарадоў, што сягаюць каранямі ў былінныя часы. Народжаны ў самабытнай паганскай стыхіі зямлі радзімічаў і абыдзены калісьці ўвагаю адукаваных супляменнікаў, ён рашуча ўваходзіць у гісторыю Старажытнай Русі ў легендарным XII ст. Буйнейшы і багацейшы цэнтр Пасожжа множыць славу і багацце Чарнігаўскіх князёў. Жыццё квітнеючага горада трагічна парушаецца ў сярэдзіне наступнага крывавага стагоддзя. Летапісны Гомій падзяляе лёс Кіева, Разані, Чарнігава і іншых цэнтраў усходнеславянскага свету, знішчаных мангола-татарскімі ордамі.

Павольна падымаючыся з попелу, Гомель упарта намагаецца аднавіць былую веліч пад скіпетрам літоўска-беларускіх князёў у XIV–XVI стст. Але воляю гісторыі горад становіцца памежным — маючы суседам магутную Маскоўскую дзяржаву, якая вядзе за горад жорсткую барацьбу. Такі стан выракае Гомель на нялёгкую будучыню і стрымлівае пастунальнае развіццё, пакідае свой цяжкі адбітак на воблік горада-цвержы.

XVII стагоддзе штурхае Гомель у віхуру самых страшных падзеяў беларускай гісторыі наогул. Але ні войны, ні пажары не могуць зламаць яго. Горад падымаецца нанова, чым абавязаны надзвычайнай моцы і стваральнай працы яго жыхароў.

У гісторыі Старога Гомеля і па сёння застаецца шмат «белых плямаў». Не ўсе пісьмовыя дакументы, датычныя яго, сабраныя і даследаваныя. А колькі таямніц, разгадка якіх дазволіць праліць святло на туманныя старонкі мінулага, яшчэ захоўвае сама гомельская зямля!

Напэўна, таму ў летапісе Старога Гомеля занадта рана ставіць апошнюю кропку.

## АЛЕГ МАКУШНІКАЎ



Нарадзіўся ў 1960 годзе. Скончыў ГДУ імя Францішка Скарыны, доктар гістарычных навук. Аўтар 280 навуковых прац. Вядомы вучоны ў галіне археалогіі і сярэднявечча гісторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі.




# Проза

## МІХАСЬ ДАНІЛЕНКА

### Рамонкі на снезе
*Апавяданне*

Мусіць, на вуліцы ўсходжвалася завіруха.

Вера Іванаўна падкаціла да акна. Шыбы ўжо зацягваліся передвячоркавым замаразкам. На шкло мароз наносіў далікатныя ўзоры. Калі б дома была Лізка — абавязкова б перамалёўвала гэтыя зорачкі, ланцужкі, мудрагелістыя лініі. Але дачка ўжо другі дзень далёка: нарэшце дачакалася такой жаданай уласнай выставы.

Снежныя застругі віхрам намятала да металічнага гаража, што належаў маладому суседу. Жыў ён у суседнім пад'ездзе. Лізавета казала, што завуць яго Канстанцін. Здаецца, афганец. Неяк Лізка расказвала Веры Іванаўне пра перавал Саланг. Відаць, гэты Канстанцін нешта ўсё ж згадваў ёй пра сваё ранейшае жыццё.

Вера Іванаўна ўздыхнула і ад'ехала ад акна. Па звычцы хацела наблізіцца да пісьмовага стала. А пасля толькі горка ўсміхнулася. Ужо каторы год яна не перакладала ніводнага твора з французскай. Маладзейшыя спрытнюгі атрымлівалі ў выдавецтве заказы на пераклады. Ды каму чытаць тыя навінкі ў ахвоту? Вунь Лізка ці прачытала хоць адзін раман Гюго? Пра яе лаўрэацтва, здаецца, забыліся. Ды і сама Вера Іванаўна не рвалася да тых перакладаў: усё часцей пачало падводзіць сэрца. Часам прыходзілася трывожна чакаць: ці тахкае яно ў левым баку грудзей?

— Мамуля, — часта абдымала яе Ліза. — Ты б з'ездзіла куды адпачыць… Вось пачакай — можа, купяць мае карціны..

— Куды я паеду? — глядзела на свае ногі маці.

— Дык і я ж з табою «як нітка з іголкаю па свету беламу прайду». Памятаеш? Так пісаў адзін паэт. Ты любіла паўтараць.

Вера Іванаўна ведала: яна прыкавана да гэтых чатырох сцен. Як загінуў муж, а ў яе адняло ногі, жанчына ўсю сваю мацярынскую любоў аддавала дачцэ. А тая то па тыднях прападала на сваіх пленэрах (перад тым, праўда,

упрошвала суседку Дар'ю, каб прыглядала за маці), то тырчэла на эцюдах. А то раптам ехала ў другі канец горада, каб прыдбаць нарэшце дарагі для яе каланковы пэндзлік, рэдкія фарбы. Усё трэба было даставіць.

Добра, што з Францыі праз пасольства даслалі гэты інвалідны вазок. За пераклад моднага рамана Вера Іванаўна стала лаўрэатам літаратурнай прэміі. Дачка тады ўзгарэлася:

— Навошта, мама, нам грошы? Няхай лепей вазок дашлюць. Косця казаў: у Францыі вельмі ж шыкоўныя робяць.

Дачка нават ездзіла ў пасольства. Сапраўды: навошта ім былі тыя грошы? Дачу Вера Іванаўна прадала, як загінуў у аўтамабільнай катастрофе муж. Цяпер, атрымліваецца, адна дома.

У пакоі, дзе яна зараз, усё нагадвала краіну, пра якую шмат ведала. На сценах — здымкі Елісейскіх палёў. Набярэжная Сены. Манмартр. Лізка нават зрабіла копію адной карціны, на якой высілася Эйфелева вежа. Не дарэмна кажуць: «Убачыць Парыж — і памерці…» Ёй не наканавана яго ўбачыць…

Вера Іванаўна зноў падкаціла да акна. Вецер усходжваўся. Снег доўгімі пасмамі гнаў струмені ў бок гаража. Але — дзіўна. Белыя пялёсткі рамонкаў, якія яны з Лізкай высадзілі, калі прадалі дачу (прывезлі з вёскі), не адрываліся. А сцяблінкі нават не згіналіся ад парываў ветру. Жанчына працёрла вочы. У апошні час пагаршаўся зрок, і Вера Іванаўна баялася, каб хаця не здарылася горшага.

Не, рамонкі раслі каля Косцевага гаража. Дзіва: на дварэ мароз, лічы, завіруха, а ім — хоць бы што. Жанчына прыхілілася спіной да стала і задумалася. Як там Лізчыны работы? Хоць бы ўхвалілі, хоць бы звярнулі ўвагу…

З лесвічнай пляцоўкі пазванілі ў кватэру. Вера Іванаўна падкаціла да дзвярэй. Адчыніла. Суседка Дар'я ў новенькім халаце працягнула лісток.

— Гэта ж не дазваніліся да вас. Ток адключалі. Тэлеграму вам Ліза з Мінска прыслала.

Вера Іванаўна прабегла вачыма лісток. «Усё цудоўна. Нашы "Рамонкі" жывуць. Цалую, мамуля…»

Вера Іванаўна схілілася, хаваючы твар. Дар'я гладзіла суседку па плячах, што часта трэсліся. І шаптала:

— Нічога. Усё цудоўна. Вунь і Косця сказаў: «Не трэба хвалявацца». Усё ж выдатна, даражэнькая. Усё выдатна, Верачка.

Вера Іванаўна не бачыла. Завіруха яшчэ больш усхадзілася. Канстанцін у лінялай куртцы, перш чым выкаціць з гаража «Масквіч» (намяло ладную гурбачку снегу), ашчадна праціраў на пафарбаваным метале тры рамонкі, што некалі намалявала Ліза…

# Дрэвы і людзі

## Дуб

Дуб — сімвал сілы. У Лельчыцкім раёне непадалёку ад вёскі Даніляглі расце дуб-волат. Ён знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Цяжка сказаць, колькі гэтаму старажылу гадоў. У літаратуры ён вядомы як Цар-дуб. Некалі праваднікам да яго ў нас быў 80-гадовы дзед. Ён казаў: калі быў сямігадовым хлопчыкам, дык памятае — прыязджалі паны з Кіева і Мінска, каб падзівіцца на гэты цуд прыроды. Значыць, і тады дрэва было Цар-дубам…

Некалі беларускі класік пісаў: «Сілачом стаіць дуб развесісты, і здалёк відаць пышны верх яго…» Якія б буры-віхуры ні праляталі над магутным шатром-верхавінай дрэва, ён стаіць нязломна насуперак лёсу, моцна трымаецца ўчэпістымі каранямі за зямельку-маці. Можа, таму людзей, моцных характарам і духам, атаясамліваюць з гэтым дрэвам, у якога жалуды, як сказаў адзін рускі паэт, падобныя на «патрон у абойме»…

…Зрэшты, тупых у народзе атаясамліваюць з «дубаломамі» і «дубовымі лбамі». Што таксама правільна.

## Бяроза

«Ой, бярозы ды сосны…» — спяваецца ў вядомай песні Уладзіміра Алоўнікава пра беларускіх партызанаў. Калі мы кажам «бяроза», дык уяўляем Радзіму, Беларусь з яе разлівамі азёраў, ціхаплыннымі рэкамі і ціхмяным (цьфу-цьфу, хай бы не спраўдзілася) народам.

Вясною бярозы частуюць чалавека жыватворным бярозавікам. Некалі з бяросты гналі дзёгаць, які, дарэчы, таксама ўжываўся ў шматлікіх леках. У народзе кажуць: бяроза аберагае чалавека ў навальніцу ад перуноў. Маланка хутчэй жыгане ў асіну ці яліну, а бярозу абміне. Людзі заўсёды пра гэтае дрэва гаварылі з замілаваннем «бярозка, бярозачка». (А ў нас, у Беларусі, практычна знік дзіцячы часопіс «Бярозка», пра які некалі Анатоль Вялюгін напісаў: «Расце бярозка пад акном, з якога мне адкрыўся свет…» Не ўкладваецца ў маёй галаве…)

…Усё ж, пакуль на свеце шумяць пад ветрам бярозавыя гаі, пакуль вясной з-пад бяросты сцякаюць празрыстыя, як бурштын, кроплі салодкага соку, будзе вечнай зямля. І народ, які на ёй жыве.

## Рабіна

Бадай, няма на свеце якога іншага дрэва, пра якое б людзі не склалі столькі песняў, як пра рабіну. Часам міжволі задумваешся: можа, у рабіны ёсць душа? Можа, яна — жывая істота, толькі не ўмее сваёй лістотай сказаць на сваёй лясной мове? Каб адзначыць якую важную падзею (скажам, нараджэнне чарговага дзіцяці, чаго ў нас, на вялікі жаль, у апошнія гады здараецца ўсё менш і менш), чалавек высаджваў пад акном рабіну. Яна расла, набіралася

сіл. І вось прыходзіла чарговая восень, калі на яе галінках з'яўляліся важкія чырвоныя гронкі. Прыкладна такі ж і кругазварот жыцця. Вясна, лета, восень, зіма… Нараджэнне, дзяцінства, сталенне чалавека. Кожную восень рабіна пладаносіць. І яе ягадамі ласуюцца дразды-рабіннікі. І быццам нагадвае нам, людзям: а што ты зрабіў, чалавек, за сваё кароткае жыццё? Якія плады вырасціў? Якіх дзяцей выхаваў? Што пакідаеш на гэтым заблытаным свеце?

…Дарэчы, у нас, у Беларусі, пакуль не дасягнута даваенная колькасць насельніцтва.

**Ліпа**

Часам — быццам насланнё — успамінаецца, як я вяртаўся ў сваю родную вёску Ястрабка на Лоеўшчыне ў далёкім 1945 годзе. За плячыма — салдацкі мяшок, на плечы цісне салдацкі шынель, да таго ж — нялёгкія вёрсты пехатой з Рэчыцы.

З бліжняй дарогі ўбачыў шацёр высачэзнай раскідзістай ліпы. Некалі яна праводзіла мяне — падлетка — у школу. А бач вось — уцалела! Чамусьці здаліся не такімі цяжкімі на нагах салдацкія боты, падумалася: роднае дрэва чакае цябе, чалавеча, у родных мясцінах…

Даўно няма той ліпы. А вось успамін застаўся. Мусіць, нездарма людзі шануюць гэтае дрэва. Дзіва што: ліпавы мёд надзвычай карысны для здароўя. Нездарма, калі цвіце ліпа, працавіты пчаліны гуд з самай раніцы стаіць вакол яе развесістых галін.

Мусіць, кожнаму з нас са школьных партаў запомніліся радкі Янкі Купалы пра Алесю, пра яе лёс, які «не згадала матуля», якая «над калыскай ліповай пела калыханкі». Менавіта над калыскай, зробленай з ліпы, спявала дачушцы пад кукаванне зязюлі маці. Шчыра кажучы, у нялёгкі сорак першы год, калі нас, мабілізаваных прызыўнікоў, вучылі ў тамбоўскіх лясах («штыком калі, назад прыкладам бі!»), ліпа таксама выручыла. Пачыналіся асеннія замаразкі, а мы — амаль разутыя. Добра, што старэйшы за нас зямляк сплёў нам з сябрам з лыкаў ліпы лапці. Самі ж мы плесці не ўмелі. (Я да таго часу толькі скончыў Рэчыцкае педвучылішча.)

Прыемна заўсёды заходзіць у ліпавыя прысады. Мусіць, таму некалі пані Бараноўская ў Сuткове на Лоеўшчыне каля свайго маёнтка высадзіла такія прысады. Міналі гады, і дрэвы перажылі, як і людзі, не адно ліхалецце. Некаторыя ліпы з гушчэзнымі шатрамі-вяршынямі і цяпер растуць паблізу Дняпра…

Расці і шумі, ліпа, на радасць людзям!

**Каліна**

Некалькі кустоў каліны расло на маім лецішчы, адзін у гародчыку ад вуліцы. Але чамусьці дрэўца доўга хварэла, адчувалася — чагосьці не хапае каліне.

— Давай куст перасадзім бліжэй да гарода, — параіла неяк жонка. — Там больш прасторы, сонца.

Выкапалі і перанеслі восенню каліну. І яна ўвачавідкі пайшла ў рост. Да канца лета на яе галінках з'явіліся гронкі буйных чырвоных ягад. Неяк завітала аднавяскоўка Алена і папрасіла абарваць іх для варэння. Не ведаю, як яна варыла тыя ягады ў чыгуне. Але ж, відаць, недарэмна прыходзіла.

Здавён у народзе людзі любяць і паважаюць каліну. Каханую жанчыну нярэдка ў нашых мясцінах клічуць ласкава «калінка». А некалі алімпійская чэмпіёнка Ірына Радніна пад славутую рускую народную песню «Калінка» стала вядомай ледзь не ва ўсім свеце.

У вёсцы Казярогі, што на Лоеўшчыне, пахаваны вядомы ўзбекскі паэт Султан Джура. У далёкім сорак трэцім годзе ў час баёў за Дняпро куля насцігла кулямётчыка Джуру (у сучаснай транскрыпцыі Джураева), і ён быў пахаваны непадалёку ад таго месца, дзе была школа. Дарэчы, у нялёгкія пасляваенныя гады мне колькі часу давялося там працаваць. Пазней беларускі паэт Васіль Вітка адгукнуўся на смерць Султана Джуры паэтычнымі радкамі:

У вёску Казярогі,
На Палессе,
Прыйшла з далёкае дарогі песня.
З Ферганскае даліны,
З Андыжана,
І на лістку каліны задрыжала…

Шчымлівыя, пранізлівыя словы. Як і само дрэўца — каліна. З яе шчырасцю, сціпласцю, непрыкметнасцю. Адным словам — «Калінка-малінка…».

**Асіна**

З гэтым дрэвам людзі звязваюць нават нейкія таямнічыя знакі. Можа, таму, што пры ледзь адчувальным павеве ветрыку ў асіны пачынаюць трывожна дрыжаць лісточкі. Ды і нездарма ў народзе здавён бытуе параўнанне «горкі, як асіна». (Гэта — калі на смак мы пачынаем моршчыцца і нават адплёўвацца.)

Некалі беларускі класік пісаў пра адшчапенцаў (няважна — пра якіх): «Мала іх павесіць на сухой асіне, бо і тая асіна ад сябе адкіне».

Адзін мой знаёмы, каб паказаць нікчэмнасць чалавека, звычайна казаў: «Каб табе вечна насіць кірзавыя боты з халявамі ад асінавай кары…»

Цяжка, вядома, аспрэчваць падобныя ісціны. Але варта зазначыць, што ў нялёгкія пасляваенныя гады людзі ўзводзілі хаты з абчасаных асінавых бярвёнаў. Памятаю, як дапамагаў цесцю будаваць хату на Лоеўшчыне. Бяр-

венне прывозілі (на каровах!) з бліжэйшага лесу. Толькі адзін вянок з дубу пусцілі на зруб. Астатняе талакой рабілі, і дзякуй Богу! — стаіць яшчэ тая хата з асіны ў вёсцы Багатая Града. І не ведаю, колькі яшчэ прастаіць, калі не зруйнуюць яе бульдозерам. (Цяпер неперспектыўныя вёскі — як суседнія Грамыкі — прысыпалі зямлёй, нават праз некалькі гадоў ніхто і назвы не ўспомніць.)

Так што і асіна служыць спраўна чалавеку, калі, вядома, толькі ён да яе адносіцца па-людску.

**Сасна**

Здавён гэта дрэва ў беларусаў лічылася амаль што свяшчэнным. З ліпы і сасны бацькі рабілі для сваіх немаўлят калыскі. (У мяне да гэтага часу на гарышчы стаіць зробленая мясцовым умельцам калыска, з якой вырастала мая старэйшая дачка — ужо нябожчыца — Надзея.)

З сасновых бярвёнаў вяскоўцы складвалі зрубы. Некалі паэт Андрэй Александровіч чытаў:

Эх, сасонніца-сасна!
Дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
Хата новая.

На сасновых ствалах леснікі рабілі надрэзы, каб з цягам часу бурштынавая смала — кропля за кропляй — сцякала ў падстаўленую пасудзіну. Хто ведае: можа, некалі таленавіты скрыпач працягне некалькі разоў празрыстай каніфоллю па нацягнутых струнах смычка і, як некалі пісаў іншы паэт — Васіль Вітка, — узрушыць слых тысяч людзей.

Мусіць, так заведзена ў прыродзе. Буслы любяць сяліцца не толькі на саламяных стрэхах, што раней былі амаль ва ўсіх вёсках, а і на зламаных вяршынях стромкіх соснаў.

Урэшце сасна, можна сказаць, праводзіла чалавека і ў яго апошні шлях. Звычайна з сасновых дошак людзі збівалі дамавіны для нябожчыкаў. Праўда, у наш цывілізаваны век гэтага ўжо амаль не робяць. Прасцей заказаць на любы густ (абы тваё грошы), каб апошні «дамок» для нябожчыка змайстравалі ледзь не з чырвонага дрэва.

Што ж, няхай расце, раскашуе на нашых прасторах і сасна, і яліна! Няхай яе прыемны пах прыходзіць да кожнага з нас у кватэру кожны Новы год!

Расці, сасонніца-сасна!

## МІХАСЬ ДАНІЛЕНКА



Нарадзіўся 28 кастрычніка 1922 года ў вёсцы Ястрабка Лоеўскага раёна. У 1941 годзе скончыў Рэчыцкую педагагічную вучэльню і быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях на Паўднёва-Заходнім фронце. У траўні 1942 года непадалёку ад станцыі Мікалаеўка (Украіна) быў кантужаны і трапіў у палон. У сакавіку 1944 года уцёк з лагера ваеннапалонных. У жніўні 1945 года служыў у Савецкай Арміі. Затым працаваў настаўнікам Казярожскай сямігадовай школы Лоеўскага раёна. Скончыў завочна Гомельскі настаўніцкі інстытут (1952). У 1952–1982 гадах — супрацоўнік газеты «Гомельская праўда». Сябар СП СССР з 1950 года. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Першае апавяданне надрукаваў у 1940 годзе. Аўтар зборнікаў аповесцяў і апавяданняў «Мая песня» (1952), «Майская навальніца» (1959), «Наваселле» (апавяданні і нарысы, 1964), «Наш дом» (1971), «Запаветны акіян» (1972), «Маці Мар'я» (1976), «Журлівіца» (1980), «Родная зямля» (1982). Выдаў кнігі прозы для дзяцей «Вернасць слову» (1956), «Зачараваны гарлачык» (1961), «На вуліцы Сонечнай» (1963), «Ключы бабулі Зімы» (1986). З 1983 года жыве ў вёсцы Багатая Града Лоеўскага раёна і ў Гомелі.

# АНАТОЛЬ БАРОЎСКІ

## Туман

*Подступы да рамана*

### І. Знікненне

Ён выйшаў з шызага мроіва, спыніўся, азірнуўся. Пачакаў, калі следам з лагчыны выйдзе і Жуча, стане побач, глыбока ўздыхне, паглядзіць на яго разумнымі вачамі і яны далей пойдуць упобачкі — чалавек трошкі паперадзе, яна ж як не датыкаючыся да яго пысай.

Але Жуча нечага затрымлівалася, не выходзіла з балотца, толькі чуліся яе крокі, уздыхі. Ці то яна дапала да сакавітай травы і не магла адарвацца, мусіць, схоплівала шурпатым языком вяршкі зеляніны, ці што іншае затрымлівала яе за тым нябачным парогам… А ён і не злаваў за яе затрымку, бо характар рагуля мела ўпарты і неспакойны, цярпліва чакаў, гледзячы на наваколле. Падумаў толькі: «А дзе ж Насця? Не дачакалася, пайшла дадому? Мо збаялася чаго, а мо ён адпрэчыў яе сваім спудлівым вокрыкам».

Помнілася, што на гэтым месцы ўчора бачыў тоўстае бярозавае палена: ён пераступаў яго, ідучы па сцяжыне. Цяпер на гэтым месцы ляжала амаль спарахнелая рэштка дзеравіны, ладна ўжо струхлелай, а бяроста, што абкручвала яе, нагадвала няйначай закарэлыя бінты на чыёйсьці хворай счарнелай назе. Калоды ці «метроўкі», якую, мусіць, пакінуў ці згубіў нейкі чалавек, ён не ўбачыў, нават і знаку не засталося ад яе. Побач расла маладая бярэзінка, але замест яе вымкнулася новая дзеравіна, што і ствол рукамі абхапіць нельга. Перад ім лес адкрыўся неяк з іншага боку — стаў невядомы, загадкавы, зусім іншы…

Але па-ранейшаму выразна патыхала ядлоўцам, жывіцай, імхом.

Падумаў няўцямна пра тое, што ён, можа, зусім і не ў гэтым месцы ўвайшоў у тое загадкавае воблака, якое схавала яго не толькі ад жонкі, а і ад усяго навакольнага свету і сусвету… Здзіўлення асаблівага не адчуваў, як і не адчуваў і страху, што нешта перамянілася на зямлі. Не раз і да гэтага ён трапляў у невядомыя лясныя нетрыскі, блукаў, а потым праз нейкі час выбіваўся на нейкую сцежку, якая і прыводзіла да нейкай дарогі. І няважна, што ён адыходзіў ад сваіх мясцінаў за кіламетраў дваццаць, галоўнае, што без цяжкасцяў вяртаўся дадому. Людзі з далёкай вёскі, у якую ён трапляў, даведаўшыся, што ён зблудзіў, ахвотна тлумачылі, як яму цяпер дабрацца да яго Крушнікаў…

— Жуча, ты дзе? — паглядзеў ён у туман, які нізка слаўся над зямлёю, хаваючы буяшнік і ядлоўцавае кустоўе, але рагуля чамусьці не выходзіла на чысты прагалак, нечага марудзіла. — Мо цябе там дзе ваўкі задралі, што я і не чуў.

І ўсё ж яна, цяжка валюхаючы вымем, намацваючы нагамі цубкую зямлю, пачала вырывацца-выплываць з абдымкаў шэра-блакітнай наміткі. Спачатку паказаліся яе рогі, потым лоб, пыса, а потым і ўся галава, ногі ступалі на шызы мох, тапіліся ў ім, што і не відаць было капытоў, і Жуча переступіла мяжу-парог усімі чатырма нагамі, замахала хвастом, быццам адганяла ад сябе плойму надакучлівых здрокаў…

Жуча падышла да гаспадара, спынілася, апусціла да зямлі галаву, быццам прасіла ў яго даравання за сваю затрымку.

— Нічога, нічога, я не злуюся на цябе, — пастараўся супакоіць Жучу чалавек і паклаў руку на яе галаву. — Пайшлі дадому ўжо, бо зачакаліся нас, хвалююцца, дзе гэта мы падзеліся з табой…

Жуча ўзняла галаву, уздыхнула, пайшла павольна паперадзе гаспадара.

Паспрабаваў выцерабіцца на сцежку, па якой з Насцяй ішлі да ўзболатка, да лагчынкі, якую збіраліся перайсці разам, каб, падняцца па схіле наверх і дапяць да сваіх грыбных мясцінаў. Сцежкі той не ўбачыў. Тады ён рашыў пайсці напрасткі, не разбіраючы ўжо дарогі і сцежак, ведаў, што ўсё роўна выб’ецца на поле сваёй вёскі.

Ён і сам не ведаў, чаму яны надоечы пайшлі з Жучаю ў лес. Яна чамусьці заўпарцілася, не захацела ісці ў агульны гурт статка. Калі ён завёў яе да іншых кароў, што ішлі па вуліцы вёскі, яна «загізавала» і як не бегма кінулася назад да свайго хлява. Як ні ўгаворвала яе Насця пайсці да вясковых кароў, яна стала як укапаная ў хляве і не рухалася з месца…

— Нічога не разумею, — развяла рукамі гаспадыня, гледзячы на гаспадара, як бы вінавацілася, што Жуча так сябе паводзіла, — ніколі такога з ёю не здаралася…

— Ну няхай пастаіць у хляве, раз ёй так хочацца, — рашыў гаспадар, не здзівіўшыся выбрыкам рагулі, — а мы пайшлі якіх губякаў назбіраем ды сваю баравіковую палянку наведаем… Ажыны паспелі ўжо.

Гаспадар насунуў на ногі гумавыя боты, накінуў на плечы брызентавы дажджавік з капюшонам — у такой амуніцыі сама найлепш пачувацца ў лясных гушчарніках.

Дзеці — старэйшая Веранічка, якая хадзіла ўжо ў пяты клас, і Змітрок — першакласнік выйшлі з хаты і стаялі ў двары. Маці перад гэтым пакарміла іх, наказала нікуды далёка ад дому не адлучацца, папрасіла яшчэ пакарміць курэй і гусей.

Гром, адчуўшы, што гаспадары сабраліся ў лес, радасна вішчэў, скуголіў, нецярпліва круцячыся побач, адчуваючы, што наперадзе шчаслівыя хвіліны — набегаецца ўволю, лясных жыхароў папужае, качак балотных паганяе…

Наста, накінуўшы вочапку кашаля за плячо, першай пайшла па цубкай сцежцы да лесу. Але калі яны мінулі агароды і дайшлі да ўскрайку лесу, пачулі, як позаду іх рыкнула карова. Яны азірнуліся — Жуча стаяла воддалеч і маўкліва паглядала на іх, як прасіла дазволу пайсці разам з імі ў лясныя нетрыскі…

— Ну і наравістая ты, аднак, — паўшчуваў для прыліку нязлосна гаспадар, усміхнуўшыся, гледзячы на жонку, — пайшлі ўжо, пайшлі… Знойдзеш травы для сябе, галоднай не будзеш…

Яны прайшлі Алёсы, потым мінулі Міколікаў брод, хутар дзеда Апанаса, дзе стаялі старыя здзічэлыя яблыні і грушы, вішні, — выбіліся на шырокую сцежку, якая і вяла да тых мясцінаў, якія прыцягвалі іх, адкуль яны не раз вярталіся з поўнымі кашалямі баравікоў і рыжыкаў…

Настрой у Антона сапсаваўся яшчэ з вечара. Разглядаючы старыя фоты ў альбоме, Наста нечакана наткнулася на агульны здымак, на якім ззаду ўсіх, а не стаяла побач з ім, Яніна. Антон ніколі і не гартаў старонкі таго старога альбома, не гарэў настальгіяй па тым часе, і ў думках амаль ніколі не ўспамінаў, а хіба калі так, зрэдзьчасу. А тут… Разглядвала Наста той здымак, уздыхнула, а потым горычна, нават з адценнем нейкай раўнівай злосці, папракнула ўголас:

— От не можаш забыць сваёй Яніны!

Ён здзіўлена паглядзеў на яе, не разумеючы, па якой прычыне яна яго так папракнула — ніякай жа нагоды не даваў, ніколі не ўспамінаў пра той час і дзяўчыну, чаму жонцы не дае спакою тое, што ён некалі кахаў дзяўчыну. Кахаў, ну і што, дужа кахаў, ды Яніна не ўпусціла яго ў сваё сэрца, забараніла нават і весці яму нейкія размовы пра каханне. Што яго вельмі здзівіла і пакрыўдзіла нават. Не ведаў, чаму дзяўчына так рэзка адпрэчыла яго.

Антон падышоў да жонкі, якая сядзела на канапе, трымала на каленях фотаальбом, а ў руках трымала тую агульную фатаграфію.

— Жонка, што з табою? Я ніколі не разглядваў гэтую фатаграфію. Калі яна табе не даспадобы, парві яе і выкінь. Няма ніякай Яніны, можа, яе і зусім не было. Ці мала мы можам закахацца ў каго ў юначым узросце, ну і што з таго?

— Але ты кахаў яе? — пеканула жонка зноў, але кладучы ўжо фота ў альбом. — Цалаваўся-мілаваўся?

— От ты зноў за сваё. А што ж у такіх выпадках робяць — на адлегласці гавораць адно аднаму словы? Ну ці не сорамна табе варушыць мінулыя гады? Пасаромейся, Наста. Дзяцей пасаромейся, Бога пабойся.

— Пры чым тут Бог?

— Можа, мне знікнуць, з'ехаць куды на час, каб ты супакоілася, га? Каб, пабыўшы адной, зразумела, што ты разбураеш тое, што існуе між намі.

Жонка як не чула яго болю, незразумелае пачуццё рэўнасці, што нечакана падступілася да яе, агнём палала ў душы і засланіла ўсё на свеце — і розум, і пачуццё рэальнасці, і адказнасці за праяўленне сваёй безадказнасці. Нехта, злы і атрутны, зашыўся ў яе душу, у яе сэрца.

— Ды знікай, калі табе так хочацца! Мо мне лягчэй стане.

Голас гучаў не яе, а нечы іншы, яна і сама здзівілася, што вымавіла іх. Як нехта паклаў іх на язык, а яна іх і прамовіла. Прамовіла і спужалася, але было позна. Яна ўжо мерылася ступіць назад, жахнулася, абхапіла шчокі рукамі,

хацела неяк выбачыцца, папрасіць нават даравання, але ў роце здранцвеў язык, а рот нехта замкнуў на замок.

Антон, не заўважыўшы яе ніякаватасць і нечаканую віну, пакінуў жонку, пайшоў у двор. Балюча стала на сэрцы, не ведаў, як утаймаваць той боль. То ніколі не ўспаміната пра Яніну, а тут нечакана выбухнула. Не разумеў яе рэўнасці, не разумеў, чаму яна стараецца зрабіць яму балюча. Вунь дзеці амаль дарослыя, гаспадарка ў спраўнасці, у школе ўсё ідзе ладна, а яна як з-за вугла: «Ты ж кахаў яе…» Калі тое было, а калі і было, то сплыло. Крыўдна, вельмі крыўдна, што яна так балюча раніць яго.

Гром насіўся па лесе бы ўгарэлы, то ў адным месцы чуецца брэх, а праз хвіліну зусім у адваротным баку, а то і зусім не чуваць яго, і здагадайся, дзе цюцьку нялёгкая носіць. Малады, жвавы, неспакойны… Непадобны на іншых сабакаў — адмецінка цікавая на лбе ў яго ў форме сардэчка. Сам увесь чорны, а «чырва» на лбе белая, як на карце намаляваная.

Жуча маўкліва плялася позаду, зрэдку спынялася і зрывала з сакавітых купак яшчэ не зжоўклую траву, даганяла зноў.

Ішлі, не ўспаміналі ўчарашнюю размову. Наста хацела ўсё ж павініцца за свае нячайныя словы, ды падумала, што не цяпер яна іх скажа, а тады, калі вернуцца назад, калі прыйдуць стомленыя дадому, калі сядуць за стол, каб павячэраць. Нейкі ўнутраны сорам за нявытрымку пасяліўся ў яе сэрцы. І яна ўжо шкадавала Антона, шкадавала, што незаслужана пакрыўдзіла яго. Рашыла надалей быць мудрэйшай, не распускаць язык, а цаніць тое, што ў іх было, — а было ў іх усё: і каханне, і павага, і душэўная цеплыня…

Далей трэба спусціцца ў нізінку, а з яе падняцца на ўзгорак. Нізка па зямлі слаўся-сцяліўся малочны туман, стаяў нерухома, да яго не датыкаўся подых ветру. Быццам агромністая снежная глыба апусцілася на зямлю, схаваўшы, увабраўшы ў сябе кустоўе і карані дрэваў, адно шчыкі бяроз і асінаў выглядвалі зверху. Яна нагадвала яшчэ і важкае воблака, што легла адпачыць, і было яно нейкае таямнічае, пагрозлівае, — такога яны ніколі не бачылі, не сустракалі, таму спыніліся і здзіўлена паглядалі на яго, маўчалі. Перад імі ўзвышалася нябачная сцяна, якая перагарадзіла ім дарогу і не пускала ісці далей. Ім бы павярнуць назад, альбо абысці за сотню крокаў тую мясціну, ці, найлепей, перачакаць, калі згіне снежны туман, развеецца. Яны не зрабілі гэтага, нехта зацьміў ім розум, і яны ўжо не валодалі сабой, нехта кіраваў імі, штурхаў наперад…

І зазвінела напятай струной даўкая цішыня. Ні голасу птушак, ні подыху ветру, — усё знерухомела, стаілася, застыла ў гнятлівым чаканні.

Нават Гром суцішыўся, стаў на адным месцы, не круціўся. Гаўкнуў раз, другі. Брэх яго выдаваў неспакой, напружанасць. Ён загірчэў, як быццам убачыў наперадзе ляснога звера, натапырыўся, упёрся нагамі ў зямлю, прыпаў галавой да шызага імху. Пачаў адступаць назад, падцiснуўшы хвост, пузам сунуўся па зямлі, вочы гарэлі, выдаючы адначасова сабачы страх… Не вытрымаў, порстка ўскочыўшы, адскочыў ад таго месца, адбегся і схаваўся

за Настай, верачы, што тое невядомае і страшнае, што стаілася ў гушчары, не дацягнецца ўжо да яго.

Жуча, аднак, таго туману не бачыла, не адчувала і ніякай пагрозы ці трывогі, яна сотні разоў разам са сваімі таваркамі ныралаў росныя ранкі і вечаровыя тумановыя прасцірадлы, у якія заганяў іх пастух, таму і тут не спынілася разам з гаспадаром і гаспадыняй, першай пасунулася ў купчастую і пеністую шэрань…

Следам за ёй падаўся і гаспадар, прагнаўшы ад сябе імгновае здранцвенне і прасцярожлівасць, якія авалодалі ім, упэўнена зрабіў першы крок наперад: пераступіў прывідны парог, за якім знерухомелі тугія касмылі бела-памаранчавай купы…

І ў той жа момант, як пераступіў мяжу і другой нагой, наперадзе бліснула зыркая маланка, асляпіўшы яго дашчэнту, як не адштурхнула нябачнай энергетычнай хваляй назад. Тут жа загрымеў гром, нават не гром, а выбухнуў з шыпеннем пярун, скіраваўшы сваё жоўта-белае джала ў зямлю, праменька яму пад ногі. Ногі апаліла кіпячая магма, і ён ужо не стаяў на зямлі, бо не адчуваў апірышча, а вісеў…

А потым адчуў дзікі боль у скронях — як хто абхапіў абцугамі галаву і пачаў сціскаць яе мацней і мацней, выціскаючы з яго жыццё і сілу; потым да яго прыляцелі-падбеглі нейкія невядомыя істоты і працялі наскрозь вострымі дзідамі, прыўзнялі-адарвалі ад зямлі, паднялі ўверх, да вяршыняў бяроз, да самага неба…

Перад тым, як адштурхнуцца ад прыцяжэння зямлі, здагадаўся крыкнуць-папярэдзіць жонку загадна-гучным выкрыкам:

— Насця, не ідзі сюды, не ідзі-ііі!..

Не чуў, што яна крыкнула яму ў адказ, бо адразу праваліўся ў нейкую прорву, падаў і падаў ужо некуды ўніз, губляючы сябе і рэальнасць часу… Ці то свет перакуліўся перад ім, ці ён сам перакуліўся перад светам, не зразумець. І адключылася ад яго свядомасць, ён перастаў быць самім сабой, і не ведаў, ці знаходзілася ў ім душа, ці вылецела з яго і паляцела ў невядомым кірунку, каб перасяліцца ў нейкую іншую істоту…

Але перад тым, як знепрытомнець, паспеў ці то прашаптаць, ці то падумаць: «Божа, уратуй!..»

Вяртаўся ён у вёску не той дарогай, якой яны выправіліся з жонкай у лес, а з іншага боку вёскі. Тры дарогі злучаліся ў Крушніках. Адна з іх цягнулася з Зімовай Буды, другая — з Зялёнага Моху, трэцюю праклалі з Турбінкі. Ён і апынуўся на турбінскай дарозе. На самым нават пачатку яе — перад уваходам у вёску.

Уздыхнуў, вызваліўшыся ад душэўнага цяжару, выпхнуўшы з сябе трывогу, абтрос з сябе рэшткі напружанасці. Да яго падступілася спакойная роўнасць, нават праблескі ўнутранай радасці. Не цярпелася ўжо дапнуць неяк да роднага селішча, парадавацца разам з усімі сустрэчы…

Першым ішоў гаспадар, за ім не адставала Жуча.

Непакоіла хіба адно пытанне — чаму не дачакалася яго жонка? Нейкая нават крыўда сядзела ў ім. Ці напалохаў яе ягоны папераджальны воклiч аб небяспецы, ці, можа, прайшло ладна часу і яна знемаглася чакаць яго, пакуль ён выйдзе да яе з Жучай? Прыйдзе дадому, разбярэцца, распытае, разам пасмяюцца з гэтага здарэння.

Знаёмыя гукі сустрэлі яго — брэх сабакі ў нейкім двары, недзе закудахкала чубатка, праляскацелі колы пустога воза па драўляным мосце… Ды і паветра, настоенае на зеляніне агародаў, на спелай садавіне і вясковым церпкім настоі дымоў ад печаў, палыну і святаянніку, гною ад калгасных фермаў, — усё ён гэта ўспрыняў як роднае і звыклае, якое даўно злілося з яго істотай, стала неад'емным і неразрыўным… Таму ён падняў твар да сонца, што схавалася ў аблоках, прымружыў вочы і ўдыхнуў праз нос на поўныя грудзі ў сябе паветра, уцягваў да тае пары, пакуль не кальнула ў скроні. Выпускаў з сябе накопленае паветра, сціснуўшы зубы, прапускаючы маленькімі порцыямі праз губы, пакуль не выйшла ўсё да апошняй кропелькі…

Прыслухаўся: у сплецiва гукаў і пахаў упляталася ледзь чутная музыка — быццам бы гухкаў бубен, выводзіў нейкую мелодыю саксафон. Мелодыя была бадзёрая, заліхвацкая, толькі для скокаў. Прычулася, што падаў голас звон у храме, але, зразумеў, што тое падалося: у вёсцы ні касцёла, ні царквы не збудавалі.

Да сэрца зноў, больш настойліва падступілася радасць — ён дома, у роднай вёсцы, хутка сустрэнецца са сваімі роднымі, абдыме іх, прытуліць да сябе.

— Ну, што, Жуча, пайшлі дахаты, твае таваркі на пашы, так што будзем карміць цябе дома…

Рагуля матлянула галавой, разумеючы гаспадара, пайшла паперадзе яго. Толькі цяпер заўважыў, што дарога пакрытая асфальтам і што асфальт пакладзены не ўчора-заўчора, а значна раней, але не прыдаў гэтаму асаблівага значэння, іншыя думкі непакоілі яго.

Параўняўся з першай хатай — дзядзькі Зміцера, лесавода, які накульгваў усё жыццё на правую нагу — некалі пашкодзіў калена сякераю. Зміцер акурат стаяў каля веснікаў, паклаўшы рукі на частаколіны, углядаўся пільна ў чалавека, што крочыў па вуліцы разам з кароваю. Калі падышоў бліжэй, то і не пазнаў чалавека, выглядаў ён неяк нязвыкла, не так, як раней, і тварам змяніўся, сівая барада кудлацілася…

— Вітаю вас, Зміцер Апанасавіч! — выгукнуў голасна, радуючыся, што сустрэў аднавяскоўца.

Зміцер нахмурыўся, яшчэ пільней пачаў прыглядацца да чалавека — пазнаваў і не пазнаваў аднавяскоўца, нешта замінала адказаць на вітанне. Таму ў адказ толькі кіўнуў галавой, адразу ж павярнуўся і нішком пашыўся ў двор. Падалося, што чалавек нечага ці некага спалохаўся.

«Мусіць, не пазнаў, — падумаў вясёла, — ведама ж, як Піліп з канапель выглядаю, ды і капюшон яшчэ накінуў на галаву… Адкуль жа Зміцеру пазнаць мяне?»

Тады ён здагадаўся скінуць з галавы капюшон, нават вызваліўся і ад самога плашча, здзівіўшыся, чаму хламіда вісела на ім — на вуліцы ні дажджу, ні слоты не было.

Крочыў далей ужо вальней, быццам вызваліўшыся ад непатрэбнага цяжару, які замінаў яму, перашкаджаў адчуваць сябе лёгка і свабодна.

Найперш захацелася зазірнуць у вясковую раду — сельсавет, дзе працавала жонка бухгалтарам, абрадаваць яе сваім з'яўленнем. Але варотцы, аказалася, былі зачынены — на іх вісеў важкі замок.

«Мусіць, сёння выхадны дзень у іх, — падумаў, адыходзячы ад веснікаў, — а мо што іншае…»

Але чым бліжэй падыходзіў да сваёй хаты, тым галосней чулася музыка. Ці то моладзь весялілася, ці проста хто ўключыў радыёлу на ўсю моц…

Каля хаты цёткі Мацвеіхі на лаўцы сядзелі жанчыны. Трое жанчын. Ён пазнаў іх, але не адразу, — Паліна, Зоська і Ганна. Яны яшчэ здалёк углядаліся ў чалавека, які крочыў у іх бок, дзівіліся, хто гэта ў такі час разам з кароваю мерае крокі па вясковай вуліцы. Мацвеіха — цётка Ганна — паднесла руку да вуснаў, нечага пахітала галавой, наклала на сябе крыж.

— Вітаю вас, цётачкі! — схіліў падарожнік галаву ў паклоне, усміхаўся, гледзячы на іх. — Бог у помач!

— І табе… хай Бог па… магае, — не зганяючы з твару здранцвеласць, з цяжкасцю прамаўляючы словы, адказала цётка Ганна.

Жанчыны пераглянуліся, не ведалі, як паводзіць сябе, што казаць далей. Нечаканай была сустрэча, дужа нечаканай. Нават недарэчнай.

— Мо не пазналі мяне, цётачкі? — заўсміхаўся гаспадар Жучы, гладзячы рагулю па шыі.

— Чаму ж не, ды пазналі цябе, Антон, як не пазнаць. Хаця ты чамусьці памаладзеў за гэты час…

— За які час?

— За той час, як не бачылі цябе…

— А-а…

— Як там мае?

— Ды нічога, усё добра… Ідзі, сам пабачыш.

Ён развітаўся, пайшоў. А яны пачалі шаптацца, накладалі на сябе крыж, уздыхалі, ніяк не маглі даўмецца, што ж гэта такое здарылася з чалавекам, што прапаў нечакана, як скрозь зямлю праваліўся, а тут вынырнуў знекуль, людзей палохаючы сваім з'яўленнем…

Цётка Ганна наўздагон наклала крыж на вясковага настаўніка, уздыхнула:

— Памажы, Божа!.. Госпадзе, памілуй яго душу грэшную!

Чым бліжэй падыходзіў да сваёй сядзібы, тым больш пачынала трымцець сэрца — ці не ў яго двары раскашоўвалася, весялілася грамада, падагрэтая віном і бадзёра-ўзнёслай музыкай, і што ж за такое свята ці падзея наведаліся ў іх хату… Выйшлі на вуліцу хлопцы і дзяўчаты, смяяліся, нешта выкрыквалі, размахвалі рукамі. Мо віном падвесялелыя, а мо радасць нейкая выпірала

вонкі, але ніхто з іх не мог і секунды пастаяць спакойна, як танцавалі ўсё роўна, плечукамі дзёргалі…

Першае, што яго здзівіла, — гэта плот каля палісадніку і вялікія вароты з весніцамі. Ён такога не будаваў. Хата як быццам яго, але ўсё астатняе… Дзве легкавушкі стаялі воддалеч ад варот — такіх ён ніколі не бачыў, не айчынныя, нейкія замежныя. Юнак, адышоўшы ад сяброў, адвярнуўшыся, сам з сабою гаварыў, прыставіўшы нейкую прыладзіну да вуха, дакараў некага, што той не пералічыў некаму грошы…

Каля плота палісадніку, паклаўшы галаву на пярэднія лапы, ляжаў сабака. Быў ён стары, амаль нямоглы, вочы сумныя, безуважныя. Амаль і не глянуў на таго, хто падышоў да яго, толькі левае вуха ледзь уздрыгнула. І тут настаўніка паласнула па галаве пякучая здагадка — няўжо гэта Гром? Толькі ў аднаго яго магла быць такая адмецінка. Толькі чаму ён так састарэў? За адну ноч састарэў?

— Гром! — ціха паклікаў яго гаспадар. — Ці ты гэта, мой Гром?

Антон прысеў, пагладзіў старога цюцьку па галаве, але той не зварухнуўся, не адгукнуўся на сваё імя, нават вочы заплюшчыў…

Яго ніхто не чуў, ніхто не прызнаваў. Чамусьці ён адчуў сябе чужым. Злавіў сябе нечакана на гэтай думцы і жахнуўся. Убачыў, што хата, якую яны будавалі разам з жонкаю, выглядала неяк інакш. Вунь і прыбудоўка зробленая, нават большая, чым сама хата. Хто паспеў пабудаваць яе? Калі?

Нічога не разумеў. І ісці наперад ужо нешта замінала, і адступаць не выпадала. Але ж трэба ж неяк праясніць сітуацыю, бо галава можа раскалоцца ад супярэчлівых думак, ад загадак і здагадак, ад незразумеласці свайго становішча і месца ў гэтым свеце і сусвеце…

Настаўнік абняў Жучу, паклаў галаву на яе шыю. Слёзы вось-вось гатовыя паліцца з вачэй. Ці то ён шкадаваў самога сябе, ці дакараў, што ніяк не можа зразумець самога сябе…

На яго здзіўлена паглядалі хлопцы і дзяўчаты. Нехта з дзяўчат курыў, далікатна збіваючы пальчыкамі попел з цыгарэткі, адна з іх павісла на плячы ў хлопца і зазірала яму ў вочы, мусіць, чакаючы, калі ён яе абдыме і пацалуе… А спаднічка на ёй кароценькая, а цыцкі бессаромна амаль вываліліся з разрэзу сукенкі. Дзе ён? Што з ім? У якім сне знаходзіцца і прачнуцца не можа? Калі ж заснуў — учора ці сто гадоў назад, чаму рэальнасць уцякла ад яго, адварочваецца і здзекуецца з яго? Ён сапраўдны на гэтым свеце ці прывід, якога не жадаюць бачыць людзі. Па якой прычыне, чаму?

Антон адважыўся. Кінуў дажджавік на плот, каб уварвацца ў вясельную грамаду і крыкнуць на ўсё горла, спытаць, што тут робяць невядомыя яму людзі? Але ўсё яшчэ стаяў у роздуме і нерашучасці, вагаючыся, якое прыняць рашэнне, як паводзіць сябе далей. Ён нікога не пазнаваў з тых, што стаялі каля варотаў. І не было сярод іх яго вучняў. А мо то зусім прыезджыя, якіх запрасілі на гэты фэст, невядома… Але хто запрасіў іх і адкуль яны? У галаву ўпіваліся тысячы нябачных іголак, скроні ледзьве вытрымлівалі напругу, якая выкручвала ўсю яго істоту.

Наперадзе чакала невядомасць, і яна прыгнятала, адбірала разважлівасць і розум. Адчуў, што ў яго жыцці здарылася нешта незразумелае і нечаканае, а што, даўмецца не мог, бо мазгоў на асэнсаванне сітуацыі не ставала…

І ўсё ж ён, павагаўшыся нейкі момант, расчыніў насцеж веснікі, ступіў наперад. Перад ім у прасторным двары, які расшырылі без яго, аднёсшы плот далей, у сад, стаялі ўпрытык адзін да аднаго сталы, засцеленыя белымі абрусамі. На іх бачны бутэлькі з віном і гарэлкаю, поўна яды, а ў цэнтры сядзела нявеста ў белым вэлюме, шчасліва ўсміхалася.

Яна не адразу заўважыла таго, хто пераступіў парог. Яе таўхануў лёгенька пад бок жаніх, паказаўшы позіркам на госця, што стаяў разгублены і зніякавелы, не ведаў, куды сябе падзець. Вясельнікі былі занятыя сваім, на чалавека ў гумовых ботах ніхто не звярнуў увагі, не да яго ім цяпер, не да яго — дзынкалі чаркамі, крычалі хмельна «горка», чакалі, калі лабызнуцца маладыя і можна будзе прапусціць чарговую чарачку… Госці асалавелыя, вясёлыя, на добрым падпітку.

«Па ўсёй краіне ідзе антыалкагольная кампанія, а яны тут адкрыта і смела балююць, нічога не асцерагаючыся, нікога не баючыся…»

Справа ад маладой сядзелі мужчына і жанчына, падобныя на маці і бацьку, толькі нейкія састарэлыя. Бацька глядзеў на яго, трымаючы ў руцэ шкалік, як скамянеў — рука павісла ў паветры. Маці перакідвала позірк то на госця, то на гаспадара. Сядзелі, здаецца, леваруч ад жаніха, калі гэта яны, цешча і цесць. Перапыніўшы гамонку між сабой, маўкліва глядзелі на нечаканага госця, якога ніхто і не запрашаў на вяселле. Нехта здагадаўся выключыць музыку. Усталяваліся гнятлівае маўчанне і цішыня. Усе адчулі, што ў гэты момант адбываецца нешта важнае, неардынарнае. Толькі менавіта што, ніхто не ведаў.

Нявеста прымружыла вейкі, упілася позіркам у зніякавелага госця, выйшла з-за стала. Не верачы, не ўсведамляючы, але не губляючы надзею, якою цешылася ўвесь час, узняўшы рукі да неба, што было сілы ўсклікнула:

— Мамка! Наш татачка прыйшоў! Ідзі сустракай!

Яна ababегла вакол сталоў з вясельнікамі, спатыкаючыся на туфлях з высокімі абцасамі, кінулася да бацькі. Падбегла да яго, абхапіла, абняла, прытулілася, пачала цалаваць, не раздымаючы рук, як бы баючыся страціць яго зноў, галасна заплакала. Вэлюм зляцеў з галавы і павіс на плячы. Дачка крычала ад радасці, павярнулася да вясельнікаў, абвяшчала:

— Мой татачка вярнуўся, я верыла, што ён вернецца…

А Антон нічога не разумеў: яго дачка Веранічка выходзіць замуж? Дык ёй жа ўсяго дванаццаць годзікаў, які замуж? Што за метамарфоза адбываецца на яго вачах? Хто здзекуецца з яго, жартачкі наладжвае? Ці гэта насамрэч сон і ён ніяк не можа прачнуцца? Дык і сон атрымліваецца нейкі задоўжаны, што ён прачнуцца ніяк не можа і ад таго пакутуе нясцерпна…

— Мама! Мама! — пагукала некуды да людзей Вераніка. — Наш татачка прыйшоў да нас. Мама!...

Людзі здранцвела глядзелі на сцэну сустрэчы, пераглядваліся, стараючыся асэнсаваць убачанае, і ніяк не маглі даўмецца, што адбывалася на іх вачах. Адразу працверазелі, але ацаніць сітуацыю ўсё ж не маглі…

Наста пачула покліч дачкі. Трымаючы ў руках вялізную місу са смажанай рыбай, выйшла з веранды на ганак. Убачыла, што Вераніка абдымае нейкага чалавека, плача ад радасці. Нічога не разумела, бо не чула асноўных слоў, што казала дачка — занятая была на кухні, гасцей старалася накарміць свежай рыбай, па падносах раскладвала…

Антон убачыў жанчыну, што пільна ўглядалася ў яго, прымружыўшы вейкі, быццам мела кепскі зрок, нерухома стаяла на ганку, бы здранцвела… Не пазнаваў яе — выглядала мажнай і паўнатварай, непадобная была на яго Насцю, — тую жанчыну ён не ведае, не сустракаў яе ніколі. Розум адмаўляўся што-небудзь асэнсаваць ці разабрацца ў гэтай сітуацыі…

— Мамка, гэта ж татачка наш вярнуўся, хіба не пазнаеш? Сустракай!

Толькі тады нешта дайшло да жанчыны, і яна войкнула, хапілася за левы бок, хапнула на поўныя грудзі паветра і выгукнула:

— Антон!.. Ты…

Металічная міса выпала з рукі і кавалкі рыбы рассыпаліся па падлозе, сама ж, знепрытомнеўшы, асунулася на падлогу.

Толькі па голасе, як яна выгукнула яго імя, пазнаў жонку, яе голас ён мог адрозніць з тысячы і тысячы жанчын, адразу кінуўся да яе. Прыпадняў, падсунуў руку пад шыю, прытуліў да сябе. Адчуў, што толькі яна адна звязвала яго з гэтым незразумелым светам, у які ён апынуўся, бо з людзей ён нікога не пазнаваў, амаль не пазнаваў, нават нявесты-дачкі… Недзе тут павінен быць і сын, але і яго не пазнаў бы, хоць бы той і назваў сябе…

Жонка цяжка дыхала, старалася дацягнуцца да некага рукой, хітала ў бяспамяцтве галавой.

Нехта прынёс вады, ліную на Насцін твар, хтосьці паднёс да носа бутэлечку з нашатырным спіртам — і яна крутанула галавой, перакрывіўшыся тварам, хацела прамовіць нешта, але ціха прамычэла, як Жуча, ніяк не могучы расплюшчыць вачэй…

Глыбока ўздыхнула, набраўшы ў сябе паветра, толькі пасля гэтага расплюшчыла вочы. Зірнула няўцямна на мужа, не бачачы яго, не пазнаючы яго…

— Насцечка, я вярнуўся, каханая мая, вярнуўся… Як я засумаваў па табе, па дзецях, адзін толькі Бог ведае…

— А чаго так доўга не вяртаўся?

— Як — доўга?

— Столькі доўгіх гадоў…

— Гадоў? Чаму — гадоў? Я ж учора згінуў у тым д'яблавым тумане, а ты мяне не дачакалася… Мяне схапілі невядомыя…

— Божа, Божа, ты хоць ведаеш, Антон, колькі я адна без цябе жыла?

Яна заплакала, зноў знепрытомнела, адкінуўшы галаву на яго руку…

Побач стаялі Вераніка і Змітрок, але іх Антон Клімовіч не бачыў.

Нехта крануўся яго пляча, і пачуўся хрыплы голас:

— То ты гэта, сын?

Антон, пазнаўшы, адгукнуўся на бацькаў голас, не паварочваючыся да яго:

— Так, гэта я.

— Ну й дзяла, — уздыхнуў скрушна-радасна бацька, не адымаючы рукі ад сынавага пляча, — з мёртвых уваскрос…

Сын, не адрываючы позірк ад жонкі, не чуў бацькавых слоў, а калі і пачуў бы, то не зразумеў бы іх сэнс: не для яго яны прамоўленыя, не для яго прызначаліся…

## АНАТОЛЬ БАРОЎСКІ



Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі педінстытут. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». У 1979 годзе надрукаваў аповесць «Тросніца» ў часопісе «Маладосць». Аўтар кніг «Азірніся ў каханні», «Чорны бусел — белы цень», «Пякельны рай», «Заручуся з бліскавіцай», «Искушение», «Мы — Юницкие» і інш. У 2012 годзе выдаў Збор твораў у двух тамах. Першы том — раманы «Воляй абраны» і «Дамова на спакусу». Другі том — аповесці, апавяданні, прыпавесці, казкі, нарысы. Жыве ў Гомелі.

## СЯРГЕЙ БАЛАХОНАЎ

# У горадзе лоўчых сноў

*Фрагменты рамана «Інфанта і аднарог»*

47.

Для адкрытага ўрока я загадзя аздобіў дошку раздрукоўкамі розных фатаграфій часоў Сталінградскае бітвы. Асобна на адмысловым драўляным штатыве, які мы жартаўліва называлі шыбеніцай, вісела адпаведная гістарычная карта. Разгорнуты план урока з дакументамі ляжаў на стале. Я хадзіў па яшчэ пустой аўдыторыі і цепліў спадзеў, што ўрок праляціць хутка і незаўважна, а яго далейшае абмеркаванне будзе зведзена да фармальнасцяў. Разам з тым мяне не пакідала думка, што на ўроку могуць пачацца некантраляваныя працэсы. Я нават дзівіўся, чаму так доўга мяне нікуды не завіхурвала.

«Калі я аднарог, то, паводле легенды, цуд можа выклікаць толькі цнатлівая дзяўчына, — даймалі мяне думкі. — Можа, ліміт цнатлівасці скончыўся? Можа, новая віхура немагчымая? Але чаму тады доўжыцца чарада нез'яснімшчыны? Чаму мне сніўся Селезень? Усё гэта не проста так. Я мушу быць гатовым не дацягнуць да канца гэтага ўрока».

Ненаўмысля я пакратаў у кішэні цацачны пісталет, расплаўленую рулю якога надоечы давялося падправіць спадручнымі сродкамі. У мяне не было ніякага канкрэтнага разліку, але пісцік на ўсялякі выпадак быў усё-ткі прыхоплены. «Калі не спатрэбіцца ў ролевай гульні, дык хоць Зінаіду Львоўну папужаю», — голасна рассмяяўся я, палічыўшы свой жарт удалым.

У класе збіраліся вучні майго 11 «А» і госці — Мятлікава, Келдышава, Данцова. Я ветліва ўсміхаўся ўсім і зычыў асалоды ад будучае дзеі. Пасля званка на ўрок я хутка справіўся з традыцыйным арганізацыйным момантам і агучыў назву новай тэмы.

— Пасля паражэння нямецкіх войскаў пад Масквой у выніку бітвы канца 1941 — пачатку 1942 года быў развенчаны міф аб непераможнасці гітлераўскіх войскаў, — пачаў я. — Чырвоная Армія адкінула праціўніка на 100–200 кіламетраў ад ранейшай лініі фронту. Аднак моц нямецка-фашысцкіх узброеных сілаў не была цалкам зламана. Адольф Гітлер і яго хеўра прагнулі рэваншу. Погляды нацысцкага кіраўніцтва былі скіраваныя ў паўднёвыя рэгіёны Савецкага Саюза. Адным з важных стратэгічных аб'ектаў, які гітлераўцы планавалі захапіць, стаў горад Сталінград. Кантроль над гэтым горадам на Волзе азначаў адрэзку ад асноўнай часткі СССР яго жытніцы і багатых на прыродныя рэсурсы раёнаў. Да таго ж Гітлер надаваў вялікую ўвагу сімвалічнасці захопу геаграфічнага пункта, які меў назву ў гонар кіраўніка краіны, з якой Германія ваявала. 17 ліпеня 1942 года трынаццаць нямецкіх дывізій пры падтрымцы паветранай флатыліі пачалі наступленне.

Планы праціўніка савецкаму камандаванню сталі вядомыя не адразу. Толькі ў другой палове жніўня 1942 года намеры фашыстаў высветліліся, і савецкае камандаванне ўзялося за паспешлівую распрацоўку плана абароны Сталінграда. 23 жніўня адбылося жорсткае нямецкае бамбардзіраванне горада, у выніку якога ён быў зруйнаваны. Следам у горад увайшлі нямецкія танкі. Вораг збіраўся святкаваць перамогу. Але савецкае камандаванне вырашыла любой цаной утрымаць Сталінград у сваіх руках. Яскравым доказам рашучасці ў гэтым пытанні сталася выданне знакамітага загада № 227, які атрымаў вобразную назву «Ні кроку назад!». Калі ласка, Аліса Селязнёва зачытае нам урывак з гэтага гістарычнага дакумента, а кожны з вас хай падумае і паспрабуе адказаць, чым сталінскае кіраўніцтва абгрунтоўвала прынясце такіх жорсткіх захадаў, як загад № 227.

Стараючыся не заўважаць Зінаіду Львоўну, я важна прадэфіляваў між шэрагамі партаў, спыніўся каля Алісы і ўручыў ёй ксеракопію дакумента. Мой бакавы зрок зафіксаваў, як Данцова нешта зачыркала ў нататніку. Але большая мая ўвага скіравалася на Селязнёву. Уручаючы ёй паперу, я не прамінуў дакрануцца да яе далоні. Яна падняла на мяне вочы і ўсміхнулася. Яе суседка па парце — Карына Кляшторная — не тое каб здзіўлена, але з прыкметамі заклапочанасці на твары паматляла галавой. Мне хацелася адпусціць у яе адрас рэпліку з напамінам, што акурат яна ўвосень сваёй маленечкай заўвагай расплюшчыла мне вочы на Алісу. Але казаць гэта было лішнім, пагатоў пад прыцэлам завостранага данцоўскага алоўка.

Вучаніца пачала зачытваць дакумент. Я злавіў на сабе погляд Келдышавай. Пахмыляючыся, яна махала мне пальцам. Мне заставалася быць шчаслівым ад таго, што на ўрок не з'явіліся Рыбанька з Андрамедавай. Калі ўжо я звярнуў увагу на Лію Навумаўну, то міжволі зірнуў і на Галіну Альгімонтаўну. Хто-хто, а яна іскрылася добразычлівасцю і паказвала жэст, якім у старажытным Рыме гледачы маглі ўратаваць няўдалага гладыятара, а ў нашых шыротах быў раўназначны ўхвале. На Данцову я нават і касавурыцца не паўзяўся.

— Насельніцтва нашай краіны, якое з любоўю і павагай адносіцца да Чырвонай Арміі, пачынае расчароўвацца ў ёй, губляе веру ў Чырвоную Армію, а многія з іх праклінаюць Чырвоную Армію за тое, што яна аддае наш народ пад ярмо нямецкіх прыгнятальнікаў, а сама ўцякае на ўсход, — чытала Селязнёва. — Некаторыя недасведчаныя людзі на фронце суцяшаюць сябе размовамі аб тым, што мы можам і далей адступаць на ўсход, бо ў нас шмат тэрыторыі, шмат зямлі, шмат насельніцтва і што хлеба ў нас заўсёды будзе ў дастатку. Гэтым яны хочуць апраўдаць свае ганебныя паводзіны на франтах. Але такія размовы з'яўляюцца наскрозь фальшывымі і лжывымі, выгоднымі толькі нашым ворагам.

Я павярнуў твар да дошкі і ўбачыў сцяну старога таварнага вагона.

— Хопіць ужо соўгацца! Сядзь ты ўжо на месца. Неўзабаве прыедзем, тады і набегаешся, — пачуўся грубы мужчынскі голас, які, аднак, не мог заглушыць сабою грукат вагонных колаў.

Вагон быў набіты салдатамі Чырвонай Арміі. На мне таксама была форма шараговага чырвонаармейца. Ніхто з нас не меў зброі, калі не лічыць цацачнага пісталета, які ляжаў у маёй кішэні. Павагаўшыся, я асеў на падлогу.

— Ты адкуль сам будзеш, хлопча? — спытаў у мяне сівавалосы мужчына з характэрным прымружваннем.

— З Галацічаска, — неахвотна адказаў я.

— О, дык ты ў нас беларусік! — нечакана ўзрадаваўся мой суразмоўца і прадэкламаваў класічныя радкі:

Стыдно робеть, закрываться перчаткою,
Ты уж не маленький!.. Волосом рус,
Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый больной белорус…

— Мне не вельмі падабаецца гэты каланіяльны вобраз, — прызнаўся я, спрабуючы здагадацца, у якім кірунку паімчыцца гутарка.

— Цікавая тэрміналогія, — усміхнуўся ён. — Можа, тады вось гэта спадабаецца:

Червонное золото Белой Руси
Вонзается в глотку России.
Все странно молчат, о чем ни спроси.
То близится эра насилий.

Недаўменна я ўтаропіўся на сівавалосага.

— Падабаецца? — перапытаў той і, не чакаючы адказу, прадоўжыў: — Ты не хвалюйся. Нават калі гэта здаецца крамолай, то ў нашым агульным выпадку яна мала што значыць. За яе не расстраляюць ні цябе, ні мяне, ні міжвольных сведак. Чаму? Таму, што мы і без таго кіруемся на верную смерць. У самае логава лоўчых сноў.

— Прафесар, ты калі-небудзь заткнешся?! Дастаў ужо, — выказаў незадаволенасць адзін з вайскоўцаў.

— Бляха, мне НКУС рот закрыць не здолеў. Думаеш, ты здолееш? Хрэнушкі, — было адказам на незадаволеную рэпліку.

— Вы сапраўды прафесар? — пытала мая цікаўнасць, якая раптоўна стала разгарацца.

— Гэта таксама не так істотна, — заявіў суразмоўца. — Скажу толькі, што быў знаёмы з вашымі Доўнарам-Запольскім, Пічэтам, Ластоўскім. Як помніцца, яны таксама не любілі каланіяльныя стэрэатыпы.

— Мы з Ластоўскім былі асабіста знаёмыя, — неспадзявана для самога сябе схлусіў я, ясна ўсведамляючы сваю хлусню. — Але яго больш няма.

— Калі яго няма недзе ў гэтай рэчаіснасці, то гэта яшчэ не азначае, што ён адсутнічае ў нейкай з іншых, — прамовіў прафесар. — Таму наша пагібель не павінна нас турбаваць.

— Вы хочаце сказаць, што мы мёртвыя?

— Жывыя. Але Іціль гэта хутка выправіць.

— Хто выправіць? — не дачуў я.

— Іціль. Горад, у які мы едзем, — патлумачыў ён.

— Чакайце. Але ж Іціль — гэта сталіца колішняга Хазарскага каганата. І месца яе размяшчэння археолагі дагэтуль не адшукалі, — бліснуў дасведчанасцю я.

— Сапраўды, так кажуць. Але насамрэч ёсць людзі, якія ведаюць, што на месцы старажытнага Іціля знаходзіцца горад Сталінград.

— Сталінград? — агаломшана выгукнуў я.

— Ён самы, — кіўнуў ён. — Ты думаеш, чаму немцы вырашылі наступаць менавіта туды?

— Каб адрэзаць паўночныя раёны Савецкае Расіі…

— Гэта ўсё лухта, — абарваў мяне сівавалосы. — Гітлеру патрэбен Сталінград, бо ў нетрах пад ім спачываюць нятленныя рэшткі хазарскіх лаўцоў сноў і іх лавецкія прылады. Ты чуў раней пра лаўцоў сноў?

— Так, Ластоўскі мне паказваў фотакопію з аднаго старога слоўніка, — часткова схлусіў я. — Калі мне не здраджвае памяць, лаўцы сноў — гэта хазарскія святары, якія ўмелі чытаць чужыя сны, жыць у іх, як ва ўласным доме, перамяшчацца там у пошуках здабычы, якой магло быць практычна ўсё: рэч, жывёла, чалавек.

— Власт цябе някепска падкаваў, — пахваліў прафесар. — Усё сапраўды так і было. І вось цяпер Гітлер хоча раскапаць таямніцу гэтых ловаў, каб малымі рэсурсамі канчаткова разграміць Савецкі Саюз. Але ў яго нічога не атрымаецца. Лоўчыя сноў — мёртвыя яны ці толькі спачылыя — сцерагуць свае сакрэты. Менавіта таму па зруйнаваным нямецкімі бомбамі Сталінградзе паплывуць крывавыя рэкі. Гэта будзе кроў і немцаў, і нашых салдат — такіх, як ты і я. Лоўчыя сноў абавязкова возьмуць гэтую ахвяру, каб навек застацца ў недасяжных для людзей нетрах.

— Але ў мяне няма планаў гінуць у Сталінградзе, — запярэчыў я, дастаў з кішэні здымак з Алісай ды яе бойфрэндам і працягнуў сівавалосаму. — Мне трэба абавязкова адшукаць гэтую дзяўчыну.

— Прыгожая паненка. Я б і сам за такую ў агонь пайшоў, калі б дакладна ведаў, што яна гэтага хоча. А вось ты гэта ведаеш? Га? Ты ідзеш у пекла старажытнай хазарскай сталіцы дзеля дзяўчыны, якая на картцы абдымаецца не з табой? — ад суразмоўцы павеяла збянтэжанасцю.

— З кім бы яна ні абдымалася, яна ўсё адно будзе маёй, — рашуча заявіў я.

— Ну, калі ты такі ўпэўнены, то, можа, і трэба яе знайсці. Ва ўсялякім разе, у сваёй свядомасці ты ўжо склаў, нібыта мазаіку, такі свет, дзе ты і гэтая прыгажуня разам. Застаецца напоўніць твой уяўны свет жыццём, прайшоўшы праз полымя і кроў Сталінграда. Ты паходзіш з даўняга радзіміцкага горада. А радзімічы нейкі час залежалі ад хазар. Летапісы пра гэта амаль нічога не паведамляюць. Але магчыма, што залежнасць азначала не толькі данніцкія адносіны, але і пэўнае пераняцце традыцый. Я не выключаю, што некаторыя радзімічы маглі стаць лаўцамі сноў. І мне падаецца, што нехта з іх быў тваім продкам. Інакш тваю смеласць цяжка патлумачыць. Разумееш, тут усе

баяцца. Усе. Нават мне страшна, хаця я цудоўна ведаю, што смерць — гэта ўсяго толькі мост у іншыя рэчаіснасці.

— Але мне ніколі не выпадала прыкмячаць у сабе здольнасці, якія мелі хазарскія лаўцы сноў.

— Тое, што ты не прыкмячаў у сабе гэтых здольнасцяў, не азначае, што іх у цябе зусім няма. Адзін блізкаўсходні святы быў настолькі занураны ў аскезу і чытанне рэлігійных тэкстаў, што не прыкмячаў, як моцна прываблівае большую частку гараджанак. А калі ён гэта зразумеў, то было надта позна. «Ачхнуўся манах, калі хер далавах», — як сказаў адзін з вашых даўніх беларускіх ерэтыкоў.

Па вагоне пракацілася хваля смеху тых чырвонаармейцаў, што ў паўвуха падслухвалі нашу з прафесарам размову. Ён ніяк не адрэагаваў на гэта, паглядзеў на мяне працяглым выпрабавальным позіркам і ўрэшце выдаў:

— Зрэшты, здольнасці здольнасцямі, але ці ваяваў ты раней?

— Так, пад Ржэвам, — я ўзвёў сваю хлусню ў найвышэйшы ранг.

— Ого! Тое, што ты выжыў у баях пад Ржэвам, многае значыць. Не скажу, што ў Сталінградзе табе будзе прасцей. Але для салдата, які пасля Ржэва едзе ваяваць у Сталінград, лаўцы сноў хоцькі-няхоцькі мусяць зрабіць папустку. Аслабіць зацятую пятлю лёсу…

Эшалон рэзка затармазіў. Звонку чуліся камандныя галасы. Салдатам загадвалі пакідаць вагоны і кіравацца да Волгі. Прагучаў такі загад і для нашага вагона. Усе дружна падскочылі і па чарзе сталі выскокваць на чыгуначны насып. Я адчуў незвычайную мяккасць зямлі пад нагамі, быццам патрапіў у балота. Аднак гэтае адчуванне вельмі хутка мінула. Перад вачыма разгарнулася прыгожае і адначасова жудаснае відовішча. Наўпрост перада мной, метраў за сто ад чыгункі, несла свае воды Волга — велічная рака, якую ў вельмі далёкія часы называлі Ра, падобна старажытнаегіпецкаму богу Сонца. На процілеглым беразе ляжалі руіны Сталінграда, над якімі сям і там курэў дым, што сведчыў толькі пра адно — вулічныя баі ў горадзе працягваюцца, і спадзявацца трапіць туды ў поўнай бяспецы не атрымаецца.

48.

Сэрца маё моцна забілася. Не ад страху, а ад навізны, якую прагна ўспрымалі мае вочы. Ад навізны, якую я прагна ўдыхаў разам з паветрам. Стаяць і любавацца краявідамі ні мне, ні каму іншаму з чырвонаармейцаў не дазволілі малодшыя камандзіры і афіцэры, што сустракалі эшалон. Па спадзістым спуску нас пагналі да Волгі. Я ўжо заўважыў, што там было нешта накшталт прыстані, у якой стаялі баржы — убогія копіі карабля, на якім па нябесным зводзе плаваў Ра. Трушком мы дабраліся туды, і нас адразу скіравалі ў адну з памянёных вадаплаўных пасудзін.

Наша баржа павольна плыла ў кірунку Сталінграда. На ёй нас было, можа, сотня, а можа, і болей. Мне заўсёды было цяжка вызначыць колькасць людзей на вока. Настрой у бальшыні салдат быў катастрафічна панурым. Нехта ўтрапёна маўчаў. Нехта цішком маліўся. Нехта нервова паўтараў сло-

вы пра хуткую смерць. І толькі некалькі чалавек улучна са мною захоплена сузіралі раку, нібыта з палубы параплава для водных прагулак. Міжволі з маіх вуснаў сарваліся радкі з паэмы сярэднявечнага нямецкага падарожніка:

На чоўне немаленькім плылі мы праз раку.
Ліпеў спадзевам ценькім мой подум на круку
Той велічы, якою блішчэла ў Ра вада,
Нас клікала да бою дэльфінаў чарада.

Над намі пачуўся гуд авіяцыйных рухавікоў. Чырвонаармейцы адначасова паўздымалі галовы, быццам спадзяваліся, што над Волгай ляціць не цуг нямецкіх самалётаў, а вялікі пчаліны рой. Калі такія надзеі ў кагось і былі, то іх марнату цяжка ацаніць. Салдаты рэзка ўпалі долу. Некалькі «месершмітаў» абрынулі на нашу і на іншыя баржы кулямётны агонь. Я, як стаяў, так і застаўся на сваім месцы. Кулі раз’юшана свісталі побач са мной. «Дурніца! Кладзіся давай! Заб’юць жа!» — хтосьці закрычаў у мой бок. Але свінец параненейшаму абмінаў мяне — у той самы час, як у многіх маіх сутаварышаў забіраў жыццё.

Абстраляўшы баржы, самалёты скіраваліся ў напрамку прыстані, але, не даляцеўшы датуль, развярнуліся. Было зразумела, што іх вяртанне проста так не пройдзе і абстрэл паўторыцца. Не вагаючыся, я дастаў цацачны пісталет і прыцэліўся ў «месер», які набліжаўся да нас. Перш, чым нябачны мне нямецкі кулямётчык паспеў націснуць на гашэтку, я стаў бліскавічна цiскаць на цынгель дзіцячага пластмасавага пісціка, выпускаючы на волю дробныя шарыкі. Стройнымі чародкамі шарыкі паляцелі і ўдарыліся ў абшыўку нацысцкага сталёвага птаха, прабіваючы і разрываючы яе. Хапіла пяці секунд, каб варожы самалёт разваліўся на часткі, якія гучна плёхнуліся ў Волгу. Толькі тады на авіяцыйны налёт адказаў адзіны катар аховы, што суправаджаў баржы. Але было позна — астатнія «месеры» зніклі ў смузе над Сталінградам.

Я адчуў цяпло ў далоні. Пісталет зусім расплавіўся, і мне давялося выцерці руку аб фальшборт. Тыя з чырвонаармейцаў, хто выжыў пасля налёту, замітусіліся вакол мяне. Чалавек у форме НКУС, які суправаджаў нас, выйшаў з-пад невялікай сталёвай павеці і загадаў мне здаць зброю. Салдаты адразу ж выбухнулі гневам і ўшчыльную падступілі да «сіняй фуражкі», патрабуючы не назаляць мне недарэчнымі прычэпкамі. Палкасць суправаджальніка прыкметна ачахла. Яго твар мне нагадаў твар гардэробшчыка з рэстарацыі «Арэса». Толькі гэты здаваўся значна маладзейшым.

— Лёгкіх наркотыкаў ці надзейных кантрацэптываў? — іранічна спытаўся я.

— Дык што ж, выходзіць, гэта ты ў Мінску восенню 1937 года паклаў канвой НКУС і пазбег расстрэлу? — задаў контрпытанне ён.

Пытанні павіслі ў паветры. Наша пасудзіна дабралася да правага берага Волгі. Нкусавец аддаў загад выбірацца. Ён заўважна пасмялеў. У яго голасе зноў з’явіліся выразныя ноткі нахабнасці. З насцярогаю я скочыў на зямную

цвердзь і азірнуўся. Суправаджальнік чорнымі варонамі разляцеўся ў розныя бакі. Ніхто на гэта не звярнуў ніякай увагі. Салдацкая плынь бегла да пункту выдачы зброі. Афіцэр у масцы чумнага доктара тлумачыў праз «мацюкальнік» умовы ўзбраення: «Вінтоўка выдаецца адна на дваіх! Другі без вінтоўкі з ім! Калі першага з вінтоўкай забіваюць, другі падбірае яе і страляе!» Пачуўшы гэта, я згадаў словы прафесара пра крывавае ахвяраванне нятленным рэшткам лаўцоў сноў.

Я ўсведамляў, што пераважная большасць і тых, хто возьме зброю першымі, і тых, хто пойдзе ў зруйнаваны горад без вінтоўкі, чакае блізкая немінучая смерць. Аднак мне хацелася адцягнуць момант смерці хаця б аднаго з чырвонаармейцаў. Я наўмысна закешкаўся, і на выдачы зброі мне нічога не дасталося. Ваяка, што ішоў паперад, азірнуўся і са шкадаваннем паглядзеў на мяне, быццам не яго, а маё жыццё мусіла скончыцца праз якую сотню крокаў. Убачыўшы маю бесклапотную ўсмешку, ён яшчэ болей сумеўся. Мне давялося махнуць яму рукой і кінуць яму пустое суцяшэнне: «Не бяры да галавы».

Подбегам мы набліжаліся да гарадскіх руінаў. Там адбывалася амаль бесперапынная страляніна, грымелі выбухі. Я хутка скеміў, што немцы білі з разяўленых вокнаў паўразбуранага чатырохпавярховіка, а іх гарматы і гранатамёты стаялі трохі далей — за крушнёю іншага прылеглага будынка. Каб зноў не выглядаць белай варонай, я прыгнуўся і перамяшчаўся ў гэтай пачаставе, быццам мне папраўдзе пагражалі варожыя кулі і снарады. Аднак нават тады, калі савецкіх салдат, што імчалі насустрач агню праціўніка, смерць касіла і рвала на шматкі, я заставаўся жывым і здаровым. Запэцканы ў яшчэ гарачую кроў загіблых, я не губляў прытомнасці і рухаўся наперад, прыхапіўшы адну з асірацелых вінтовак.

У пэўныя моманты мне здавалася, што мой рух не мае ніякае мэты, што я бягу ў нікуды. Гэтае адчуванне дасягнула свайго апагею, калі пасля гадзіны набліжэння да чатырохпавярховіка я застаўся практычна на тым самым месцы, з якога пачынаў. «Залюстроўе, ліха яго бяры», — прамовіла мая роспач. У тое самае імгненне страляніна і выбухі аціхлі. Я выразна пачуў гук рынгтона мабільніка Алісы. Мелодыя «Forgotten» Аўрыл Лавінь лунала сярод агню і руінаў Сталінграда. Для мяне яна стала і сігналам да дзеяння, і маяком. Я паімчаўся на гэты гук. Нямецкі снайпер узяў мяне ў прыцэл. Ён страляў і страляў мне ў галаву, аж пакуль яго гняздо не выкрыў, каб трапна расстраляць, адзін спрытны чырвонаармеец. На мне не было ні драпінкі. Рынгтон даўно змоўк, але я паспеў вызначыць каардынаты месца, адкуль ён далятаў. На ўласнае здзіўленне, я імчаў стрымгалоў, выбіраючы самую кароткую дарогу, нібыта добра ведаў сталінградскія вуліцы. Я сігаў між разбуранымі дамамі. Я саскокваў у сутарэнні і выскокваў з іх пад град нацысцкіх куляў, ад якога збочваў да чарговае руіны, дзе знікаў пад апалымі трохкутнікам плітамі перакрыццяў.

Урэшце я выбраўся да ацалелага фантана. Не, ён не струменіў. Яго цудоўная захаванасць палягала ў іншым: скульптурныя выявы хлопчыкаў і

дзяўчынак, што вадзілі карагод вакол кракадзіла, насуперак бамбёжкам захаваліся амаль беззаганна. Я стаў на ўвесь рост і здранцвеў перад гэтым відовішчам. Не ведаю, што мяне паланіла ў скульптурах, але я стаяў, стаяў, стаяў і глядзеў, глядзеў, глядзеў. Я стараўся зразумець сэнс рытуальнага танца дзяцей і значэнне, што надавалася кракадзілу ў ім. «Які пракаветны рытуал знайшоў пластычнае ўвасабленне ў самым цэнтры Сталінграда? А можа, кракадзіл не толькі сімвалізуе хазарскіх лаўцоў сноў, але і служыць пасярэднікам між імі і недалучанымі да ісціны людзьмі?» — думаў, думаў і думаў я. Але ўсе мае роздумы былі марнымі, нібы кленічы закаханага перад дамай свайго сэрца, якая іх ні чуць, ні разумець не жадала. Здавалася, што кракадзіл вось-вось павернецца пашчаю да мяне, падыме лапу і пакруціць ля ўяўнае скроні або каменныя дзеці заспяваюць хорам:

Баласт га…но пляскаў,
на ваду пускаў,
палонікам пераймаў,
сабе ў боршч затаўкаў.

Але кракадзіл заставаўся нерухомым, а дзеці маўклівымі. І толькі чарговы нямецкі снайпер скіраваў оптыку свайго прыцэла на маю дурную патыліцу. Раптоўна зайграў знаёмы рынгтон, і я рэзка павярнуў галаву. Куля, якая не павінна была мяне нават зачапіць, балюча чыркanula мне па шыі. «Нічога сабе непаражальнасць», — войкнуў я і заскочыў за фантан. Цяпер мая ўласная кроў лілася па маім целе. Можна было ляжаць і ствараць меланхалічныя оды ў гонар болю і крывавае раны. Але я моцна сціснуў у руках вінтоўку і стрэліў у акно блізулеглае развaліны, дзе зіхцеў сонечны зайчык, які пускала варожая оптыка. Зайчык збег. Ці збег унівеч снайпер, мне было невядома. Я зняў з галавы пілотку, начапіў яе на кавалак арматурыны і падняў да ўзроўню бардзюра, каб падражніць верагодна жывога снайпера. Нулявая рэакцыя ў адказ дадала мне пэўнасці, што немец усё-ткі загінуў. Павагаўшыся, я стаў падымацца. Снайпер ажыў і ўляпіў мне кулю ў перадплечча. Я застагнаў ад болю і бразнуўся на зямлю, усланую кавалкамі цэглы, камення і целамі салдатаў абедзвюх варожых арміяў.

Я ўзрыхляў сваю свядомасць у надзеі адшукаць адказ на пытанне: чаму правілы гульні змяніліся без папярэджання, а я мушу пакутліва курчыцца пад дзіўным сталінградскім фантанам? Вуснамі і языком я дацягнуўся да раны, разлічваючы залізаць яе, як герой рамантычных паэмаў. Мяне чакала неймавернае адкрыццё — з раны тачылася не кроў, а ліпавы мёд. Я гучна засмяяўся, бо знемагаў ад козыту, які спараджаў мой шурпаты язык. Нямецкі снайпер пачаў страляць на мой смех. Але кожную з ягоных куляў перахапілі скульптурныя выявы дзяцей і закінулі ў пашчу кракадзіла. Нехта яўна не жадаў, каб змена правілаў адбілася на маім здароўі.

Я падскочыў і пабег у бок, адкуль кагадзе гучаў рынгтон. Снайпер анічуць не шкадаваў для мяне новых і новых куляў. Яны ўваходзілі ў маё цела, як нож у соты. Прадзіраўлены, я сцякаў мёдам, які адразу ж загойваў мне

раны, што мне нават на імгненне не даводзілася адчуваць боль. Дзёрзкі смяшок раз-пораз вырынаўся з маіх вуснаў. Гэта не азначала поўнай адсутнасці страху. Я баяўся падумаць, што змагу спазнаць, калі чарговая куля лучыць мне ў галаву.

У недасяжным для снайперскага абстрэлу месцы я падабраў нямецкую каску і без найменшых ваганняў напяў яе сабе на галаву. Не ведаю, як я выглядаў звонку, але стаў пачувацца мішэнню і для нацыстаў, і для саветаў. Але наступная частка маёй дарогі выявілася збольшага спакойнай, калі, канечне, не мецъ на ўвазе маіх уласных насцярогаў. Я крочыў па доўгім вузкім праходзе між дзвюх абшарпаных сценаў без вокнаў. Напэўна, гэта былі руіны нейкіх прамысловых будынкаў. Але для мяне было важным толькі тое, што ні злева, ні справа ніхто не наравіў учыніць спробу зрабіць мне смерць. Удалечы на маім шляху стаяла нейкая драўляная канструкцыя, падобная на браму.

«Брама? Як гэта сімвалічна», — пасміхнуўся я, працягваючы церабіць свой шлях. Аднак чым меншай рабілася адлегласць, тым больш выразна вымалёўвалася сапраўдная карціна — я падступаў да шыбеніцы, якая была выкарыстаная па прызначэнні. Вяроўка з шыбенікам мерна гайдалася. Разгледзець яго нейкі час не атрымлівалася з-за дыму, які валіў з боку будыніны, дзе ледзь расчытваўся надпіс «УНИВЕРМАГ». Дым змешваўся з туманам, якога не павінна было быць. Але ён быў і ў супольнасці з дымам рабіў сваю містычную справу.

З заміраннем сэрца я набліжаўся да шыбеніцы. Кожны новы крок мне даваўся складана з прычыны надакучлівых думак. Мне мярэсцілася, што на бэльцы гойдаецца Аліса. Калі б гэта было сапраўды так, то мне не засталося б нічога іншага, як разуцца, а потым прымудрыцца прытуліць рулю вінтоўкі сабе ў падбароддзе і вялікім пальцам правай нагі націснуць на цынгель. Зрэшты, меркаваны драматызм неверагодна скурчваўся, бо не было ніякай пэўнасці, што мой самастрэл здолеў бы выправіць сітуацыю на карысць паквітання з жыццём.

Падышоўшы да шыбеніцы, я нарэшце змог пераканацца, што мае самыя чорныя здагадкі не мелі пад сабой ніякага грунту. На вяроўцы боўтаўся жанчынападобны манекен. Да яго была прымацавана фанера з вельмі неахайным надпісам:

А я ўсё страляла,
А я так і знала,
Што для вызвалення
Гэта будзе мала.

Я нервова сплюнуў. Позірк слізгануў па адным са слупоў шыбеніцы. На ім быў выдрапаны надпіс: «Вераніка». Пакуль я змагаўся са збянтэжанасцю, згары мне на каску ўпала нешта зусім лёгкае. Я задраў галаву і ўбачыў, што зверху на шыбеніцы сядзела сарока-варона. На маленькай газніцы ў маленькім чопе яна варыла грэцкую кашу і напявала песню:

Mit jedem Tag und jeder Nacht
Der liebe Nam’ gewinnt an Pracht .

— Ich bitte um Entschuldigung, — выбачаючыся, звярнуўся я да сарокі панямецку. — Ці не бачылі вы тут маладзенькай беларускай дзяўчыны Алісы Селязнёвай?

— Мы, сарокі-вароны, шмат каго бачым, — з гонарам прамовіла яна. — Але ніхто з нас не абавязаны расказваць пра гэта ўсякаму ніякаму.

Птушка з важным выглядам размяшала змесціва чопа, зачэрпнула лыжкай кашы і пакаштавала яе.

— А хто тут усякі ніякі? — манерна абурыўся я. — Між іншым, з Веранікай, над якой вы зараз кулінарыце, мы добра сябравалі.

— Ты сябраваў з манекенам? — ухмыльнулася сарока-варона. — Дэбіл — ён і ў Сталінградзе дэбіл. З табой нават размаўляць няма пра што.

Я ўскінуў вінтоўку і стрэліў у газніцу. Сарочына размазня разляцелася на ўсе бакі. Сама ж кухарка страпянулася і з абурэннем закрычала:

— Пустадомак! Што ж ты нарабіў? Чым жа я дзетак буду карміць?

Падзьмуў неверагодна моцны вецер. Міжволі я схапіўся за слуп. А манекен на вяроўцы тым часам крутнуўся праз бэльку і ўдарыў сароку-варону. Яна ўпала да маіх ног і ціхенька крумкнула:

— Аліса ніколі не будзе тваёй.

Я не паспеў адчуць ні злабы, ні роспачы, як грымнуў яшчэ адзін стрэл. Снайперская куля разрэзала вяроўку, і манекен бухнуўся долу, падмінаючы пад сябе крылатую кухарку. Зрэагаваўшы на стрэл, я скочыў за бліжэйшую цагляную кладку і бачыў толькі тое, як балбатлівая, але незгаворлівая пташэнцыя пад цяжарам распалася на нулі і адзінкі. Мая рука пацягнулася туды і ўхапіла колькі нулікаў, каб шпурнуць іх у шырокую апусцелую вітрыну ўнівермага. Думалася, што так можна будзе пераключыць увагу снайпера ад мяне і прымусіць яго выкрыцца. Аднак у выніку майго кідка пачуўся не банальны грукат, а сапраўдны выбух, накшталт гранатнага. Разам з ім пачулася руская лаянка, і ў адказ на мой кідок усчалася неўтаймоўная страляніна. Цяпер і чырвонаармейцы намагаліся накрыпаць мяне кулямі. Не жадаючы лішні раз выпрабоўваць лёс, я літаральна закапаўся ў зямлю проста за цаглянай кладкай. Агонь не спыняўся некалькі хвілін. Пулялі не толькі з дэфіцытных вінтовак, але і з трафейных аўтаматаў. Пулялі так, быццам сіліліся тым самым знішчыць увасабленне сусветнага зла. Я ляжаў і амаль не рыпаўся ў сваёй схованцы, вычэкваючы спыненне сяброўскага агню.

Страляніна не магла застацца па-за ўвагай немцаў. На вялікай хуткасці, зносячы сваёй магутнасцю шыбеніцу, прымчаў нямецкі танк. Здавалася, што яго экіпаж меў дакладны план дзеянняў, а не проста імправізаваў дзеля красы ваеннага мастацтва. Рух танка суправаджаўся безупыннай кулямётнай стральбой па каробцы ўнівермага. Баявая машына ледзь прыкметна скінула хуткасць. Гарматная вежа з элегантнасцю немаладой балерыны павярнулася ў кірунку вітрын. Гармата стрэліла, абваліўшы вялікую частку вонкавай і

ўнутранай сценаў крамы. Рускія перасталі страляць. Я быў перакананы, што іх група палегла пад цэглай і бетонам. Аднак, калі танк стаў манеўраваць, каб вярнуцца назад, з іншага крыла ўнівермага выбег хлапчыска. Ён сігануў да танка і трапна кінуў звязку гранатаў. Машына выбухнула і загарэлася. Танкісты спрабавалі ўратавацца, вылазячы з танкавага чэрава, але немінуча траплялі пад аўтаматныя чэргі таго самага хлапца і мёртвымі падалі на зямлю. На даху жылога дома ачомаўся нямецкі снайпер. Ён стрэліў у юнака. Той грымнуўся проста пад тракі.

Я цікаваў за ўсім, што адбывалася, праз невялічкую адтуліну паміж дзвюма цаглінамі. Мне ўдалося засекчы месца знаходжання снайпера і ўгаманіць яго. Падалося, што юны салдат паварушыўся. Стараючыся быць максімальна абачлівым, я рушыў да яго. Абачлівасць не застрахавала мяне ад статусу мішэні для новых снайперскіх гнёздаў. Фашысцкае снайпяр'ё зноў намагалася нарабіць ува мне дзірак. Ды гэтым разам іх намаганні не мелі ніякага плёну. Не, кулі не аблятaлі мяне. Але і не дзіравілі. Яны праходзілі скрозь мяне і ляцелі далей. Ні болю, ні іншых непрыемных адчуванняў ува мне гэта не спараджала. Галава закружылася ад нейкага падабенства эйфарыі.

Хлапец быў жывым. Убачыўшы на мне нямецкую каску, ён без развагаў падняў аўтамат і выпусціў чаргу проста мне ў твар.

— Цішэй ты. Гэта свае, — сказаў я яму, адчуваючы, што мой твар пакрываецца рабаціннем.

— Хіба ты не немец? — недаверліва папытаў той знаёмым мне голасам.

Я больш уважліва разгледзеў яго чорны ад сонца і бруду твар. Памылкі быць не магло. Перада мной ляжаў паранены ў плячо Грыша Стахіевіч.

— Не, Грыша, я не немец. Але і не рускі. Я тут з-за дзяўчыны, — нахлынула на мяне хваля празмернае шчырасці.

— Добра, што не немец, — гаварыў Стахіевіч, нібыта не заўважыў, што я назваў яго па імені. — Мы зразумелі: немцы не людзі. Слова «немец» для нас самы страшны праклён. Слова «немец» б'е з ружжа. Не будзем гаварыць. Не будзем абурацца. Будзем забіваць. Калі ты не забіў за дзень хаця б аднаго немца, твой дзень змарнаваны. Калі ты думаеш, што за цябе немца заб'е твой сусед, ты не зразумеў пагрозы. Калі ты не заб'еш немца, немец заб'е цябе. Ён возьме тваіх і будзе катаваць іх у сваёй шалёнай Нямеччыне. Калі ты не можаш забіць немца куляй, забі немца штыхом. Калі на тваім участку зацішша, калі ты чакаеш бою, забі немца да бою. Калі ты пакінеш немца жыць, немец павесіць рускага чалавека і зняславіць рускую жанчыну. Калі ты забіў аднаго немца, забі іншага — няма для нас нічога весялейшага за нямецкія трупы. Не лічы дзён. Не лічы вёрстаў. Лічы адно: забітых табою немцаў. Забі немца! Гэта просіць старая маці. Забі немца! Гэта моліць цябе дзіця. Забі немца! Гэта крычыць родная зямля. Не прамахніся. Не прапусці. Забі!

Я моўчкі слухаў яго і перавязваў рану.

— Колькі немцаў ты сёння паклаў? — пацікавіўся ў мяне Грыша.

— Сто піццот, — машынальна ляпнуў я бязглуздзіцу на сеціўным слэнгу.

Мой адказ выклікаў у параненага нечакана бурлівую рэакцыю. Ён спрытна ўскочыў, заламаў мне руку, выхапіў з халявы свайго бота агромністы нож і, прыставіўшы яго лязом да маёй шыі, пагрозліва зашыпеў:

— На каго працуеш, сука?

— Труждания мої зело велікі і неісповедімы, яко будь-якая бузіна ў гародзе істых памкненняў бязэцных разбойнікаў рэчаістасці, — быццам мантру калыханкавага кшталту, забубнеў я нешта самому незразумелае.

Слова ўзяў савецкі снайпер, які адправіў кулю проста ў нож. Верагодна, яго таксама, як і юнака, збіў з панталыку мой галаўны ўбор, а ў склюд ён пацэліў з тым разлікам, каб падштурхнуць лязо і падарыць маёй шыі падвойную асалоду. Аднак склюд ад трапнага стрэлу разламаўся, а куля адспружыніла ў цела нямецкага танкіста, які толькі-толькі стаў падаваць прыкметы жыцця.

Грыша моцна збянтэжыўся, чым скарыстаўся я, ухапіўшы яго за руку і пацягнуўшы за танк, каб схавацца ад рускага снайпера. Ідэя была не самая лепшая, бо на тым баку нас мог сустрэць чарговы снайпер немцаў. Спадзевы на нябачнага апекуна-печалоўніка былі па-ранейшаму хісткімі, бо правілы гульні пастаянна змяняліся і іх логіка не паддавалася ніякім прагнозам. Замест снайпера нас чакаў моцны кулямётны шквал. Мы паваліліся на зямлю. «Паміж молатам і кавадлам», — толькі і падумаў я. У тое самае імгненне ўсчаўся больш магутны вецер, чым зусім нядаўна. Гэтым разам ён падняў з зямлі клубы пылу. Пыл закруціўся ў віхуры і ўтварыў дзве сцяны па абодва бакі ад танка. Чамусь я адразу скеміў, што кулі не маглі прабіць пылавую браню. Своеасаблівы калідор раскінуўся на дзясяткі метраў наперад аж да разбуранае шыбеніцы. Я тарғануў асалавелага Грышу, і мы шпарка пабеглі па гэтым калідоры.

## СЯРГЕЙ БАЛАХОНАЎ



Нарадзіўся ў 1977 годзе. Празаік, паэт, музыка, блогер. Скончыў ГДУ імя Ф. Скарыны. Аўтар кніг прозы «Імя грушы» і «Зямля пад крыламі Фенікса». Жыве і працуе ў Гомелі.

МІКОЛА БУСЕЛ

## Кананічная тэрыторыя

*Аповесць*

Я пішу ўспамін пра тое незвычайнае здарэнне толькі зараз, пасля таго, як мінула багата гадоў. Наш тагачасны дырэктар сп. Мікалай Краўчанка напрамілы бог прасіў нас — настаўнікаў, тэхнічны персанал і вучняў — дзеля нашага дабра і дзеля захавання добрай славы нашай старажытнай школы нікому нічога не казаць пра перажытае і ўбачанае, і мы паабяцалі і захавалі наша маўчанне.

Але прайшло шмат часу, і мне здаецца, што зараз ужо можна даверыць паперы аповед пра падзеі таго незвычайнага дня, дзеля таго каб калі-небудзь нашыя нашчадкі даведаліся, як такое адбылося.

### Прынцыповая сантройка

А ў нашай Дуброўскай школе ў той жахлівы дзень, як заўсёды перад урокамі, сантройкі ў класах правяралі чысціню дзяцей. У дзявятым класе ўсё было звычайна. Спярша санітары паглядзелі, ці чыстыя вушы, папрасілі ўсіх паказаць рукі, а потым прапанавалі разуцца і паглядзець, якія ў каго шкарпэткі і ногі. Апошняя прапанова заўсёды выклікала незадаволенасць вучняў, але сантройка была зацята прынцыповая. З незадаволеным бурканнем хлопцы і дзяўчаты пачалі разбэрсваць шнуркі, сцягваць чаравікі і пантофлі, а Андрэй Т. раптам успомніў, што яму пільна патрэбна ў прыбіральню.

— Паслухай, Андрэй, — сказаў яму Міша Доўгі, — ты ніколі не паказваў нам свае ногі. Нашаму класу могуць знізіць бал за санітарны стан, як тым разам.

— Ага, — падтрымаў суседа і сябра Жэня Дайнека. — Я ўжо сем разоў паказваў ногі і кіпцы. Давай, пакажы і ты хоць раз.

— Хлопцы, я толькі збегаю ў туалет і вярнуся. Ногі мае чыстыя і кіпцы мытыя, — заенчыў Андрэй.

— Ведаем мы цябе, — сказала Таня Друзік. — Пойдзеш і вернешся толькі на ўрок. Давай, разувайся, пакажы ногі, а потым хоць на ўсе чатыры бакі.

— Ой, — заенчыў Андрэй, схапіўшыся за жывот. — Вельмі ж мяне прыперла. Пусціце, пабягу.

— Толькі пакажы ногі і бяжы, — сказаў Сяргей Бусел. — Ат, што з ім гаварыць.

З гэтымі словамі Дайнека Жэня схапіў Андрэя і пасадзіў на стол. Доўгі Міша шмаргануў за канец шнурка, разбарсаў чаравік і спрытна сцягнуў яго… Сцягнуў і здранцвеў: замест ступака з парванай шкарпэткі тырчэў… капыт. У гэты момант Андрэй раптам бразнуўся са стала на падлогу, з ягоных ноздраў паваліў смярдзючы шызы дым, ён жудасна раўнуў, захроп і за-

торгаўся, як у прыпадку эпілепсіі. Дзеці завішчалі і штомоцы сіганулі з класа. Апошнім выскачыў Жэня. Ён бразнуў дзвярыма і крутнуў у замку ключ.

Дзеці стаялі ў прасторнай рэкрэацыі, дрыжалі ад жаху і лямантавалі. На крык з другога канца калідора бегла перапуджаная настаўніца Ніна Рыгораўна.

— Што, што здарылася? — спрабавала высветліць яна, але дзеці спужана крычалі і паказвалі на дзверы класа. А з-пад іх ужо поўз смярдзючы шызы дым.

— Што вы запалілі? — пытала Ніна Рыгораўна. — Трэба пажарных выклікаць. Божухна! — залямантавала настаўніца. — Адчыняйце пажарны выхад, і выходзім з памяшкання.

— Не, там не пажар. Там Андрэй, — нарэшце прамовіў Жэня. — Ён… ён…

— Што ён? — спытала настаўніца.

— Ён д'ябал, — сказаў Міша.

І як бы пацвярджаючы ягоныя словы з-за дзвярэй ізноў пачуўся нечалавечы рык і нешта гучна грукнула.

Ніна Рыгораўна спалатнела і, быццам у сне, пасунулася ў настаўніцкі пакой.

Ейны стрыечны дзядзька Мікола Клімавіч сядзеў за сталом, корпаўся ў сваім пашарпаным жарым партфелі і ціха лаяўся. Партфель быў стары і аблезлы, і ў ім Мікола Клімавіч штодня насіў у школу безліч карысных рэчаў: бел-чырвона-белы сцяжок, прапагандысцкія брашуры, каляндарыкі ад радыё «Свабода», Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, свае каляндарныя планы, праграму навучання замежным мовам, нататнік, нумары «Нашай Нівы» ды «Нашага слова», грэцка-ангельскі слоўнік, крыўска-маскоўскі слоўнічак Станкевіча, Евангелле паводле св. Яна, брашурку з найважнейшымі малітвамі і гімнамі на лаціне, невялікі англійскі геаграфічны атлас, фотаздымкі ад Алеся Пушкіна, паштоўкі з краявідамі возера Ціцікака, ручкі, алоўкі, сцірку, карабочак з кнопкамі ды багата іншых актуальных рэчаў. Настаўнік справядліва лічыў, што ніколі не ведаеш, калі што можа тэрмінова спатрэбіцца на ўроку. Толькі тое патрэбнае належыць своечасова знайсці. Акурат такімі пошукамі і быў заняты Мікола Клімавіч, калі ў настаўніцкі пакой амаль самлелая прысунулася Ніна Рыгораўна.

Глянуўшы на яе, настаўнік спытаў:

— Што з табою?

Жанчына проста рухнула на крэсла. Мікола Клімавіч хуценька наліў з крышталёвага графіна ў крышталёвую шклянку вады і падаў ёй.

Жанчына ўся трэслася, яна паднесла шклянку да вуснаў, і ейныя зубы заляскалі аб крышталь.

— Ды што здарылася? — спытаў яшчэ раз Мікола Клімавіч.

Настаўніца піла, разліваючы ваду, і ў паўзах між глыткоў спужана заікалася:

— Там… у шостым… кабінеце… панадзіўся… чорт…

— Які чорт? — не зразумеў настаўнік. Але, чуючы дзяціны лямант і прынюхаўшыся, зразумеў, што нешта сапраўды здарылася.

Мікола Клімавіч выйшаў на калідор. Дзеці стаялі ля настаўніцкай і спалохана туліліся адзін да аднаго.

— Дзе? — перапытаў настаўнік.

— Ён там, унутры. Чуеце, як смярдзіць. Шчэ спейкае школу.

— Чортам смярдзіць, — пажартаваў настаўнік. — Стойце тут, а я схаджу па дырэктара.

Дырэктар Дуброўскай сярэдняй школы сядзеў у сваім кабінеце і прыкідваў, каму колькі даць матэрыяльнай дапамогі, як да яго без паўзы пасля стуку зайшоў Мікола Клімавіч.

— Мікалай Дзям'янавіч, патрэбна вашае ўмяшанне, — не здароўкаючыся, сказаў ён. — У школе надзвычайнае здарэнне.

— Што такое, галубчык? — спытаў дырэктар.

— Шчэ невядома, але справа сур'ёзная. Не-не, усе цэлыя, — папярэдзіў ён магчымае пытанне дырэктара. — Хадземце наверх.

Яны выйшлі з кабінета і пайшлі на другі паверх.

— Чым гэта так смярдзіць? — спытаў дырэктар.

Мікола Клімавіч спадылба пазірнуў на Мікалая Дзям'янавіча.

— Чортам, — прамовіў ён.

Дзеці стаялі, заціснуўшы насы, і спалохана пазіралі на дырэктара. Ведаючы, што будзе гармідар, дырэктар звярнуўся толькі да Жэні:

— Раскажы, як і што было. Астатнія дапоўніце.

Хлопец, хвалюючыся, расказаў пра здарэнне і як яны ўратаваліся. Паслухаўшы вучняў, дырэктар таксама збялеў.

— Збярыце ўсіх на першым паверсе. Нікому са школы не выходзіць. Усім настаўнікам сабрацца ў мяне… Мікола Клімавіч, вы раней чыталі часопіс «Навука і рэлігія». Што там пісалі пра такія здарэнні?

— Уласна кажучы, навука не верыла ў чартоў. Там болей выкрывалі мошчы ды моц святой вады, тлумачачы яе як іённую рошчыну срэбра. Але з іншых крыніц збольшага вядома, як трэба паводзіць сябе пры з'яўленні д'ябла.

— Як? — нецярпліва перабіў дырэктар.

— Слова Божае — найвастрэйшая ідэалагічная зброя хрысціяніна.

— Рабіце самае неабходнае, вазьміце з сабою Генадзя Яўгенавіча, — распарадзіўся дырэктар і, павярнуўшыся да настаўнікаў, што падышлі, рашуча сказаў: — За мною!

От калі спатрэбілася карыснае змесціва рудога партфеля! Нервова трасучыся, Мікола Клімавіч вытрас партфель на стол і сярод груды каштоўных папер знайшоў Евангелле паводле св. Яна. Калупнуўшы паперы яшчэ раз, убачыў сінюю вокладку ватыканскае брашуры.

Хвалюючыся, ён пагартаў кніжку, знайшоў патрэбнае і хуценька прабег тэкст вачамі. У гэты момант увайшоў Генадзь Яўгенавіч з дзвюма сякерамі на доўгіх дзяржаннях.

— Так будзе смялей, — зазначыў ён.

Трымаючы ў адной руцэ Евангелле, а ў другой напагатове сякеру, Мікола Клімавіч пайшоў да кабінета № 6. Генадзь Яўгенавіч бясстрашна ішоў на крок ззаду.

У кабінеце нешта выла і скуголіла, чуўся то трэск, то грукат, то бразганне. Ходарам хадзілі дзверы.

— Vade retro, vade retro spiritus inmunde, — гучна заклінаў настаўнік.

«Каб яму трохі росту, дык з яго б выйшаў добры заклінальнік», — падумаў Генадзь Яўгенавіч, не ведаючы, што моц экзарцыста залежыць не ад памераў цела, а ад колькасці гарчычных зярнятак ягонае веры.

Асцярожна наблізіўшыся да дзвярэй, мужчыны спыніліся. У гэты момант у дзверы ляснулі нечым такім, ад чаго яны за малым богам не выскачылі з вушакоў і ад чаго ў дзвярах утварылася дзірка, з якой пыхкаў смярдзючы дым.

— Давай хутчэй, а то затлумімся, — сказаў Генадзь Яўгенавіч.

— Vade retro, падла, — дрыготкім голасам прасіпеў настаўнік.

За дзвярыма сціхла. У адно імгненне Мікола Клімавіч падсунуў пад шыльду «Кабінет гісторыі» Евангелле паводле св. Яна і адскочыў ад дзвярэй. За імі зноў нешта жудасна завыла і зайшлося да нематы.

Мужчыны пляваліся і задам адыходзілі ад кабінета.

**Нарада ў дырэктара**

Збянтэжаныя настаўнікі сядзелі ўздоўж сцяны і не ведалі, што і казаць. Такога ў іхнім жыцці яшчэ не здаралася.

— Ну, што, калегі, пачнём, — сказаў дырэктар, калі Генадзь Яўгенавіч і Мікола Клімавіч уладкаваліся на зэдліках. — Такога ў нас шчэ не было. Пачнём, як на ваеннай нарадзе. Хай кожны выкажа сваё меркаванне. А пакуль што я папрашу нікога са школы не выпускаць і нікога не пускаць. На званкі не адказваць. Нікому нічога не казаць. Божа крый, каб дайшло да раяна. Хай дзяжурны настаўнік першага паверха падзяжурыць у вестыбюлі.

Першым пачаў Анатоль Міхайлавіч:

— Каб нячыстая сіла не выйшла, трэба блакаваць яе абразамі.

— Дзе ты тыя абразы знойдзеш? — сказаў Генадзь Яўгенавіч. — Па-першае, патрэбен абраз з выявай Спаса, потым абраз мусіць быць асвечаны епіскапам. У каго ёсць такія абразы?

— Думаю, у Пятра Змітравіча ёсць такі абраз. Ён сам выразаў аблічча Спаса і вазіў на асвячэнне.

— Неадкладна схадзіце да Пятра Змітравіча і высветліце ўсё. Ідзіце, Анатоль Міхайлавіч. Толькі нічога нікому не кажыце.

Анатоль Міхайлавіч па-вайсковаму павярнуўся і выйшаў з кабінета.

— Скажыце мне, Паліна Паўлаўна, — павярнуўся дырэктар да сваёй намесніцы па гаспадарцы. — Я вам прывёз бітон свянцонай вады. Вы інструктавалі тэхнічак, як рабіць правільна прыборку са святой вадой?

— Канешне, Мікалай Дзям’янавіч. Сто грамаў асвечанай на вядро звычайнай неправаслаўнай вады. Як вы казалі.

— І вы выкарысталі ўсю ваду?

— Не, былі ж канікулы, і мы радзей рабілі поўную прыборку. Таму шчэ літры з чатыры ёсць.

Тут сёй-той з настаўнікаў залыбіўся. Мала хто не ведаў, што Паліна была дробнай карупцыянеркай і паціху прадавала святую ваду настаўніцам. Для паляпшэння колеру твару, казалі яны. А мо яшчэ для якіх бабскіх штукарстваў, хто яго ведае. Акультызм значна пашырыўся апошнімі часамі, і чытачкі жаночых, удовіных і дзявочых часопісаў бадай не горш за варажбітак ведалі пра «Сто спосабаў ужытку святой вады». У ёй варылі бульбу для адмысловага смаку, заварвалі палюбоўную каву, гатавалі прыпаркі і прыціркі ад розных немачаў, а то і пілі нашча нараніцы. Словам, попыт быў значны, а ў царкву ў Парычы ездзіць ленаваліся. Нават дырэктарыха Майна Барысаўна пару разоў чэрпала па поўнаму палоўніку і таемна ад мужа перадавала зрэдзьчас пляшачку з вадою нявестцы праз шафёраў аўтобуса да Гомля.

«От так усё жыццё, усё жыццё. Усё сам. Калі ўжо нашая адукацыя пачне выпускаць кваліфікаваных наменікаў дырэктара па гаспадарчай частцы?» — з крыўдаю падумаў Дзям'янавіч сам сабе.

Дырэктар памятаў, што да Дырэктывы №1 быў сакрэтны дадатак адмыслова пра ролю праваслаўнай царквы ў здаровым ладзе жыцця і, у прыватнасці, пра ўзрастанне ў нашым жыцці важнасці святой вады па меры набліжэння да рынкавага сацыялізму. І дырэктыве і канфідэнцыйнаму дадатку да яе быў прысвечаны адмысловы навукова-практычны семінар, але тады ён амаль увесь семінар прадрамаў, пра што цяпер пашкадаваў.

Працягу цікавай тэмы балансу святой вады перашкодзіла з'яўленне Анатоля Міхайлавіча з Пятром Змітравічам. Яны былі вельмі ўзрушаныя і ўсхваляваныя. Вопратка пакамечаная, гальштукі парваныя. Пятро Змітравіч моцна туліў да сябе загорнутыя ў ручнік абразы.

— Ледзь выврваліся. Іх трое, а мы ўдвух. Напалі, хацелі абразы адабраць, — выдыхнуў Анатоль Міхайлавіч…

— Пастой, хто напаў? Дзе? — Дырэктар уважліва пазіраў на абодвух. «Няўжо паспелі каўтануць па чарцы? — падумаў ён. — Не, не падобна на тое».

— Мужыкі-дарожнікі. Вунь, ля канторы стаіць машына, бітум варыць. Як убачылі нас, падышлі і, не пытаючы і не кажучы нічога, пачалі рваць да сябе абразы. Нейкія крукі ў руках трымалі, рукамі не дакраналіся. Але мы здолелі адбіцца…

«Канешне, — іранічна прамовіў Уладзімір Уладзіміравіч. — Вы ж два фізрукі».

— Вы, Пятро Змітравіч, і вы, Уладзімір Уладзіміравіч, ідзіце наверх і заблакуйце абразамі калідор. Генадзь Яўгенавіч, у вас там не засталося колля?

— Акурат учора стругаў пехаўе на сахор. Лёгкае, асінавае…

— Асінавае? — ажывіўся дырэктар. — Якраз тое, што трэба! Будзеце заахвочаны!

— Я яшчэ канец абпаліў, — дадаў, падбадзёраны перспектывай, настаўнік працы.

— Клас! Гэта нам вельмі дарэчы! — зазначыў дырэктар. — Ніна Рыгораўна, — звярнуўся Дзям'янавіч да настаўніцы. — Памятаецца, вы былі піянерважатай, калі нашы дзеці прымалі хрост. Скажыце, ці хрысцілі тады Андрэя?

Ніна Рыгораўна залілася чырваннем.

— У той дзень ён у школе быў, на лінейцы стаяў. Лаяцца, дык ён лаецца.

— Сам чуў, — сказаў дырэктар. — Я не пра лаянку, а пра хрост. Вы яго да бочкі з вадою падводзілі?

— Весці, памятаю, вяла. А вось што далей было — не памятаю. Ну, раз вяла, то, мусіць, давяла.

— Тады, Анатоль Міхайлавіч, у мяне да вас пытанне. Вы вазілі дапрызыўнікоў у ваенкамат. Там праўджвалі даведкі аб вадохрышчы?

— Так.

— І што ж? Было такое пасведчанне ў Андрэя?

— Справа ў тым, што акурат перад паездкаю ў ваенкамат Андрэй захварэў. У мяне ёсць пра гэта ягоная даведка. Таму, натуральна, тым разам яе не было.

— А другім разам?

— Другім разам былі хлопцы з іншага класа, яна і была, але паперы пераблыталіся і прапар сказаў, што сам разбярэцца і пазвоніць мне, але шчэ не званіў. Пачакаю дні два, а потым пазваню яму.

Анатоль Міхайлавіч трохі хітраваў. Сапраўды, ён акуратна прывёз усе паперы ў ваенкамат, але прапар з аддзела дапрызыўнага ўліку меў такі варты жалю выгляд пасля ўчарашняга, што добры Міхайлавіч вырашыў яго падлячыць, і яны разам схадзілі ў манапольку. Назад Міхайлавіча везлі дапрызыўнікі.

— Можаце не турбавацца. Учора пасля абеду мне званілі з ваенкамата і паведамілі, што даведка фальшывая. Падробка. Кантрафакт.

Анатоль Міхайлавіч разгублена маўчаў.

— На паперы няма вадзяных знакаў праваслаўнага крыжа, — працягваў дырэктар. — Не, мне проста дзіва. Хлопец прыняты ў БРСМ, але не хрышчоны, не меў даведкі ад бацюшкі. Вас гэта павінна было насцярожыць. Поўная халатнасць і безадказнасць. А што скажа класная настаўніца?

Класная дама Тамара Рыгораўна памкнулася была ўстаць, але дырэктар жэстам папрасіў яе сядзець.

— Ну… — пачала яна. — Вы ж ведаеце з якой ён сям'і: маць-перамаць. Я… мы з Валянцінай Мікалаеўнай рэгулярна наведвалі гэтую сям'ю, гутарылі… Казалі і пра тую маечку са страшнай выявай шайтана, што ён апранаў у школу. От гэтыя маечкі і давялі… У нас ёсць усе запісы на гэты конт.

— А за правілы дарожнага руху і правілы супрацьпажарнай бяспекі ён распісваўся?

— Канешне, — запэўніла настаўніца. — І за правілы паводзін на вадзе. Але ўсё ж курыць, — уздыхнула яна.

— Шчэ як курыць! — з’едліва ўпікнуў дырэктар. — Па паперах у нас усё амаль у парадку, а толькі на пытанне, чаму гэта адбылося, і менавіта ў нас адказаць не можам. Калі не здужаем самі — ганьба на ўсю вобласць.

У кабінет дырэктара вярнуліся Пятро Змітравіч і Уладзімір Уладзіміравіч. Іхнія вочы слязіліся, і яны ўвесь час смаркаліся.

— Ну, што там? — пацікавіўся дырэктар.

— Усё добра. Толькі ўнутры нешта вые і дужа смярдзіць. Дзверы не чапае, але каб у акно не вырваўся, шыбы паб’е.

— Не вырвецца, — запэўніла настаўніца гісторыі Раіса Анатольеўна. — Акурат да свята я параіла дзецям упрыгожыць вокны і намаляваць на іх крыжы. А перад гэтым прыбіральшчыцы мылі вокны вадою. Так што з класа яму цяпер не вырвацца. Але варта было б умацаваць асаду нячыстага якімінебудзь святымі рэчамі.

(Настаўніца гісторыі ў душы была камуністкаю-фундаменталісткаю. Яна не любіла каталікоў і справядліва лічыла, што Бога няма, але наш барадаты Бог лепшы за іхняга паголенага. І ўсё ж, маючы патрэбу ў пакланенні, яна з пашанай ставілася да маляваных святых.)

— А што са святога ў нас ёсць? — спытаў дырэктар.

— Мо герб і сцяг?.. — няўпэўнена прамовіла Валянціна Мікалаеўна, сацыяльны педагог па пасадзе і піянерважатая па сумяшчальніцтве.

— Не блытайце Божую ласку з яечняю, — саркастычна падаў голас Мікола Клімавіч. — Зрэшты, у нас у кабінеце беларускай мовы ёсць абраз, памойму, Міколы-цудатворца. Але ці асвечаны ён? Ды і тэрмін гарантыі на асвячэнне, мабыць, мінуў.

— І ў мяне ёсць аўтамабільны абраз Міколы-цудатворца, — уставіў слова Мікалай Дзям’янавіч. — Колькі езджу — ніводнага разу не падвёў.

— Вам проста пашанцавала купіць добры абраз. Ліцэнзійны. На жаль, як сведчыць статыстыка, аўтааварый большае. І што цікава, у кожным разбітым аўтамабілі быў абраз, ці нават два. Вунь ля Жыткавіч пабушкаліся тры легкавікі. Мора крыві, сем нябожчыкаў. Вы думаеце, у іх не было абразоў? Самі разумееце, што гэта за абразы, — падсумаваў Мікола Клімавіч. — Але што будзем рабіць? Як відаць, самі мы не маем патрэбнай для гэтага выпадку падрыхтоўкі. Навуковы атэізм вывучалі, пры камунізме чэрці пад увагу не браліся…

— Я вось што хачу сказаць… Можа, нам варта паспрабаваць шаптуху?.. — няўпэўнена прапанавала дырэктарыха Майна Барысаўна. — У нашым сяле ёсць шаптухі. Традыцыйныя. Так, Ніна Рыгораўна?

Ніна Рыгораўна, як адказная ў школе за фальклор, моўчкі кіўнула галавою.

— Ды ў нас паўшколы шаптух, — з’едліва прашаптаў Пятро Змітравіч.

— Ага, значыць, «сігола жыў, сігола не», — успомніў Мікола Клімавіч.

— Ніякіх шаптух. Гэтыя шаптухі да змяркання разнясуць чуткі па сяле, — запярэчыў дырэктар.

— Трэба выклікаць міліцыю, — прапанавала Ніна Рыгораўна.

— Якую міліцыю! — абурыўся Мікола Клімавіч. — Тут выклікаць трэба аднаго экзарцыста.

— Каго-каго? — перапытала Тамара Рыгораўна.

— Экзарцыста. Адмыслоўца па выгнанні д'ябла.

— Думаеце, у нас такія адмыслоўцы ёсць? — засумняваўся дырэктар.

— Хто мае дачыненні з Богам, той мусіць зважаць. Таму ўсё ж варта пагаварыць са святарамі.

— Сваіх дуброўскіх панішчылі, царкву зруйнавалі… дажыліся, — буркнуў сабе пад нос Пятро Змітравіч.

— Дзе тут у нас святары? Мы ў чыім кананічным полі? — задаў пытанне дырэктар.

— Ні ў чыім мы кананічным абшары. У нас ёсць выбар. У Шацілках ксёндз, кажуць, добры экзарцыст. Мне адна ягоная парафіянка казала, што ўся шацілаўская нечысць дрыжыць перад ім. Але, пэўне, ніхто з нас з ім не знаёмы. То я мяркую, варта пагаварыць з Любаю Доўгаю. Яна штатная парафіянка Парыцкай аўтакефальнай царквы і добра знае тамтэйшага айца Ладымера. Магчыма, ён нам паможа, — сказаў Мікола Клімавіч.

— Добра, пайду да Доўгай, — уздыхнуў дырэктар. — Уладзімір Уладзіміравіч, — звярнуўся ён да намесніка па навучальнай частцы, — вы застаяцеся старшым. Ніякіх кантактаў, акрамя як са мною. Скажыце кухарцы, хай тэрмінова гатуе абед дзецям. Класныя, забаўце дзяцей. Разам з Пятром Змітравічам ладзьце дзень здароўя. Словам, трэба захоўваць спакой. Я не забаўлюся. Дзякую, усе вольныя.

Дырэктар апошні выходзіў з кабінета. Яго на момант затрымаў Мікола Клімавіч.

— Мікалай Дзям'янавіч, мне падаецца, што справа трошкі складанейшая, чым здаецца. Не падабаюцца мне і машына з бітумнай смалою, і несправакаваны напад тых рабочых. Чаму б тут раптам яны?

— Вы мяркуеце, між здарэннямі існуе сувязь?

— Хто яго ведае, але мець на ўвазе трэба.

— Добра, дзякую. Я ўлічу. Толькі прашу вас, цікуйце за гэтымі смалакурамі… ці смалаварамі… мала што…

І ён цяжка і неахвотна, як чалавек, у якога здарылася бяда, сышоў з прыступак ганка.

**У Доўгага**

Старшыня сельсавета Міхайла Доўгі акурат снедаў. Ён сядзеў за сталом і еў босую яечню з салам. Спадар Доўгі смачна жаваў і нават і блізка не падазраваў, што спажывае англійскую народную страву пад тамтэйшым назовам «бэйкан эн' эгз». І тым болей у яго нават у галаве не было, якія падзеі разгортваюцца на тэрыторыі ягонага сельсавета ў Дуброўскай сярэдняй школе. Ягоная прывабная жонка Люба завіхалася ля стала. Учора яна была ў царкве і поўнілася ўражаннямі ад абедні і прачулай казані айца Ладымера. Сёння

яна хацела правесці рэлігійную работу з мужам, які лічыў царкву бабскай забаўкай, але не ведала, скуль пачаць.

І трэба ж так здарыцца, што ў самы разгар ейных прапагандысцкіх сумненняў за дзвярамі пачуўся званок, і ў пакой зайшоў дырэктар школы Краўчанка. Ён павітаўся і пажадаў спадару старшыні смачна есці. (Спадар Доўгі якраз вымазваў з талеркі скібкаю хлеба тук.)

— Прашу да стала, Дзям'янавіч. Люба, падай нам шчэ адну талерку. Ад чаркі не адмовішся? — запытаў ён.

— Дзякую, мо пазней. Ты, Міхайла, снедай, а я пакуль надвор'е па тэлевізары пагляджу. Як там з ціскам. — Краўчанка ўладкаваўся перад тэлевізарам, а сам пазіраў праз акно.

Міхайла скончыў снедаць і падышоў да дырэктара.

— Ну, што скажаш? Што прывяло цябе?

— Прабач, але без цябе нельга. У цябе сувязі. Ты добра знаеш айца Ладымера?

— Ну, ведаю, — няўпэўнена пачаў Доўгі. — Мая жонка лепей ведае. Люба, хадзі сюды!

З ручніком у руках падышла Люба.

— Слухай, ты добра знаёмая з айцом Ладымерам? Во Дзям'янавіч нешта цікавіцца.

— Ну, ведаю. Да споведзі да яго хаджу. Пашчуся. На храм ахвярую.

— Люба, у нас чэпэ. Трэба дапамога айца Ладымера.

— А якая дапамога?

— Гэта пакуль між намі. У нас у школе з'явіўся шайтан.

Пры гэтых словах Люба імпэтна перажагналася:

— А вы ўпэўненыя, што гэта шайтан?

— Я ніколі з гэтай нечысцю не спатыкаўся, але ўсе прыкметы паказваюць на тое.

— Божухна, які жах! — зноў перажагналася Люба.

— Які сорам! У маім сельсавеце! — прашаптаў старшыня.

— У нашым, — паправіў Краўчанка. — Я ж таксама дэпутат. Патрэбен экцарзыст, цьфу, халера ясная, экзарцыст.

— Хто-хто? — перапытала Люба.

— Ну, чалавек, які ганяе нячыстую сілу. Звычайна гэта святар.

— Не ведаю, ці можа гэта айцец Ладымер. Можна пазваніць і спытаць.

— Ніякіх тэлефонаў! — запярэчыў Краўчанка. — Толькі асабіста. Зрэшты, можна даведацца, ці дома ён.

Мужчыны моўчкі чакалі, пакуль Люба званіла ў Парычы. Айцец Ладымер толькі што вярнуўся з рыбалкі і збіраўся падрамаць, але дэпутатам з Дубровы ў пастырскай дапамозе не адмовіць.

— Ну што, Паўлавіч, — звярнуўся Краўчанка да Доўгага. — Заводзь машыну, паедзем. Любоў Міхайлаўна, без цябе ніяк нельга. Едзь з намі.

— Трэба дык трэба, — пагадзілася Люба. Яна выйшла пераапрануцца і вярнулася ў праваслаўным адзенні.

— З бензінам у мяне тугавата, — пачаў Доўгі.

— Я б з дарагой душой паехаў, але ў мяне дызель, бак нішчымны, і ў хлопцаў нічога пакуль няма.

— Дзе б гэта дастаць літры з чатыры?

— Мо як да запраўкі ў Парычах даедзеш, — сапсавала манеўр мужу Люба.

— Праўда, — пацвердзіў Краўчанка.

З выразам неахвоты на твары Доўгі выйшаў з хаты. Люба і Дзям'янавіч пакеўлялі за ім.

**У бацюшкі**

Настаяцель Парыцкай аўтакефальнай царквы а. Ладымер сядзеў у хатнім падрасніку і чытаў свежы нумар трэбніка. Спярша ён прачытаў новы варыянт трэбы за душы камуністаў, потым акафіст у гонар новага святога адмірала Ушакова. Але словы трэбы і акафіста нешта ніяк не заставаліся ў памяці. Айцец Ладымер быў шчэ пад уражаннем удалай рыбалкі. Матушка завіхалася ў кухні, ладзячы рыбу. Ёй дапамагала сястра-стажорка, лоўка глушачы драўляным малатком рыбу і порачы нажом рыбіныя чэравы.

— Бачыце, колькі рыб айцец Ладымер налавіў, — сказала сястра-стажорка.

— Хрыстос казаў, што зробіць апосталаў лаўцамі душ. Як вы думаеце, сястра? У рыб ёсць душа?

— Раз іе кроў, то іе й душа, — душачы чарговую рыбіну, адказала сястра. — Толькі яна невялікая, аттачкая, — і сястра паказала рукамі нікчэмны памер рыбінай душы.

Развагі пра рыбіныя душы перарваў пошчак званка ў дзвярах.

— О, да нас нехта спяшаецца, — прамовіла пападдзя. — Ідзіце адчыніце, сястра.

Сястра выйшла.

У сенцы ўвайшлі трое: Люба, Доўгі і Краўчанка.

— Мы да бацюшкі, — сказала Люба. — Нам прызначана сустрэча.

— Пачакайце хвілінку, калі ласка, — сказала сястра. — Я скажу айцу.

Яна знікла за дзвярыма пакоя і праз хвілінку з'явілася:

— Заходзьце, айцец Ладымер вас чакае.

Айцец Ладымер стаяў у святарскім адзенні. Мужчыны падышлі, павіталіся. Люба пацалавала папу руку, ён перахрысціў яе.

Пачаў Краўчанка.

— Ойча, не будзем марнаваць час. У нас надзвычайнае здарэнне. Справа тычыцца гонару школы, здароўя дзяцей. І гонару царквы.

— Што ж у вас здарылася? — спытаў поп.

— Я мяркую, што аднаго нашага вучня апанаваў шайтан. Зараз ён зачынены ў класе. Але што ён там робіць, нам невядома. Калектыў чакае ад вас помачы.

Айцец Ладымер маўчаў. Яму самому ніколі не даводзілася мець справу з шайтанам. Тым болей выганяць яго. У шайтанаў былі свае клопаты, у айца,

свае. На кніжкі з трактатамі па выгнанню д'яблаў ён пазіраў скептычна, тым болей што пад час святарскай вытворчай практыкі тэма экзарцызму нават не закраналася. І марна! Па меры набліжэння, як вядома, барацьба абвастраецца.

— А ці вялікіх памераў шайтан? — спытаў нарэшце айцец.

— Мне здаецца, не надта. Так, пакаёвых. Мо які падлетак, — няўпэўнена сказаў Краўчанка.

— Каб быў вялікі, то ён бы шкоды нарабіў, а пакуль жа сядзіць, — уставіў слова Доўгі.

— І што ён? Буяніць?

— Буяніць. Але мы яго атачылі абразамі і Евангеллем, так што вырвацца яму не ўдаецца. Пакуль што…

— Д'ябал — гэта сур'ёзна. Гэта пляма, гэта дакор.

— Таму мы тут, вельмі спадзяёмся на вас, ваша прывялебнасць, — сказала Люба.

— Я б з дарагой душой… але мы ў семінарыі не праходзілі гэтага... Так, у тэарэтычным разрэзе. Ні гамілітыка, ні дагматыка на гэтым не засяроджваліся.

— Ваша прывялебнасць, — пачаў Краўчанка. — Пры чым тут гэтыя шаноўныя навукі? Мы багата чаму вучымся на практыцы, на ўласным досведзе: ад навукі кляпання касы да навукі свяшчэннай таямніцы шлюбу — правядзення першай шлюбнае начы.

Пры гэтых словах усе ўсміхнуліся.

— Так, — пагадзіўся поп. — Але колькі фрустрацый!

— Той, на чыім баку Збавіцель, мецьме поспех. Ойча, вы ж добра ведаеце словы Спаса пра гарчычнае зярнятка веры. Ці вы?..

«Адкуль гэта ў яго веданне Святога Пісьма?» — прамільгнула ў галаве папа.

— Я не адмаўляюся, але да ўсяго патрэбная падрыхтоўка. На гэты момант… — сказаў ён.

— Нам таксама рэкамендавалі шацілкаўскага ксяндза. Езуіты на Захадзе, кажуць, насцакамі д'яблаў выкідаюць. Тамака шайтаны ўжо ці не статкамі ходзяць. Унь, гідоцце, аднаполыя шлюбы навыперадкі дазваляюць.

— Мярзоцце перад Госпадам, — пагадзіўся поп.

— Дык каб гэтага мярзоцця не паболела, патрэбен ваш подзвіг. Мы вам паможам.

— Ойча, вось мы на храм сабралі, — з гэтымі словамі Люба выняла з торбачкі ладны пук нацыянальных грошай і паклала на столік побач з трэбнікам. Поп скасавурыўся на грошы, Краўчанка і Доўгі з удзячнасцю зірнулі на Любу.

— Ойча, калі вы не маеце магчымасці, то ў нас безвыходнае становішча. Да Шацілак паўгадзіны язды.

Поп намёк зразумеў і задумаўся.

— Гэта няпроста, — пачаў ён. — Трэба памаліцца, папрасіць Божае ласкі. Потым, зноў жа, трэба папрасіць блаславення дабрачыннага.

Краўчанку гэты дыялог здаўся задоўгім. Ён не вытрымаў.

— Паспяшайцеся, ойча. А то пакуль вы збераецеся з благачынным, з Беларусі ўсе мухі паляцяць у вырай, — саркастычна вымавіў ён.

Бацюшка заварушыўся.

— Праз чвэрць гадзіны буду гатовы, — паведаміў ён.

Увайшла сястра з графінчыкам настойкі, кубачкамі кавы і пульхнымі пузатымі булачкамі на разносе.

— Падмацуйце плоць, а я тым часам займуся зборамі, — кіўнуў поп.

Наведнікі прыселі да стала.

**Супраць нячысціка**

З выццём сірэны, з уключанай мігцёлкаю на найшпарчэйшай хуткасці па шашы з Парыч імчаў картэж: міліцэйскі легкавік, за якім дыбаў сельсавецкі «жыгуль». Поруч з шафёрам сядзеў бацюшка і бесперапынна маліўся, хрысцячыся на аўтамабільны абразок. Ззаду шаптала модлы Люба, цубка трымаючы святыя дары і дараносіцу. Краўчанка малітваў не ведаў, акрамя пачатку Божае малітвы, таму шаптаць яму не было чаго, але ён, з усведамленнем таямніцы, моцна аберуч трымаў кадзіла, а нагамі сціскаў пластмасавую пасудзіну са свянцонай вадою. У кішэні ён меў зараджаны святою вадою вадзяны пісталет. (Надоечы купіў унуку цацку, выняць з кішэні забыў, а цяпер вось можа прыдацца.)

На скрыжаванні каля могілак міліцэйскі легкавік раўнуў сірэнаю астатні раз і зухавата развярнуўся. «Жыгуль» павярнуў налева да школы.

Убачыўшы сельсавецкую легкавушку, малойцы ля смалаварні замітусіліся, забегалі, дым з коміна паваліў шчэ чарнейшы, і было відаць, што работнікі яўна нервуюцца.

Бацюшка пацягнуў паветра носам.

— Геенай смярдзіць, — канстатаваў ён.

— Ойча, мы на двух суботніках, даруйце, усе да аднаго каўляшы выскраблі з дарогі. Гэта мо з фермаўскіх адстойнікаў прэ водар, — запярэчыў дырэктар. І з дакорам зірнуў на Доўгага, як старшыню сельсавета.

— Гляньце! — крыкнуў Доўгі. Смалакуры таропка раскручвалі тоўсты шланг, накіроўваючы яго на легкавік.

Доўгі націснуў на газ, рухавік крактануў, пасіліўся, і легкавік маланкаю прамчаў паўз смалаварную машыну. Чорны струмень бітуму слізгануў паўз саменькія шыбы і загарэўся ззаду.

— Напалмам пуляюць! — крыкнуў Краўчанка, двойчы паспеўшы пырснуць з пісталета ў найбліжэйшага смалавара. Той падскочыў, як падпражаны.

— Ага, патрапіў! — узрадаваўся дырэктар.

Тым часам Доўгі шыкоўна падвёў аўтамабіль да ганка школы. Усе з палёгкай уздыхнулі: тут нечысць дастаць іх не магла.

Убачыўшы святара, дырэктара ды старшыню сельсавета, у школе таксама ажывіліся. Няпэўнасць пакрысе знікала.

У дырэктаравым кабінеце бацюшка апранаў спецвопратку. Ён ціха шаптаў малітвы і раскладаў начынне, адначасна інструктуючы Любу і дырэктара, што і як рабіць.

Нарэшце, сцішыўшыся на момант, ён голасна папрасіў дапамогі Усявышняга, і маленькая кампанія выправілася наверх.

На другім паверсе было пуста. Страшэнна смярдзела, бо вокан не адчынялі. Падышлі да дзвярэй і прыслухаліся. Там нешта мармытала, жаласна скуголіла і выла. Доўгі ўставіў ключ, каб адамкнуць дзверы. Поп стаяў спалатнелы і нервова дрыжэў.

— Вы ж, бацюшка, афіцэр. Капітану не выпадае дэманстраваць страх.

— Маёр я… маёр ужо. Пры чым тут гэта?

«Бач ты, як шпарка нашыя святары растуць у чыне. Я як быў старэйшым лейтэнантам лёгкавупражнай абознай службы, гэтак ім і застаўся. Вунь Мікола Клімавіч, настаўнік з вышэйшай адукацыяй, звекаваў яфрэйтарам бранятанкавых войскаў», — падумаў сам сабе дырэктар, але гэтыя разважанні былі сублімінальныя і невярбальныя і доўжыліся хіба мо адну нанасекунду, таму вонкава не пакінулі аніякага знаку.

Доўгі рэзкім рухам адчыніў дзверы, і Краўчанка лёгенька падпіхнуў айца ў клас. Дзверы імгненна зачынілі.

— Давай, ідзі, Поль Робсан, — прамовіў іранічна Доўгі, хоць было не да жартаў.

Яны стаялі і слухалі. Першае імгненне ў кабінеце была цішыня. Потым пачуўся жаласны енк, які перайшоў у страшны львіны рык. І па-над усім яшчэ гучней быў чуцен уладарны голас святара, які імем Збавіцеля загадваў нячысціку выйсці і пайсці прэч. Потым пачуўся грукат і трэск, нешта падала, валілася, качалася. І ні на імгненне не сціхала Божая малітва. Люба стаяла на каленях і малілася, прытуліўшы абраз да грудзей. Краўчанка сутаргава сціскаў вадзяны пісталет, Доўгі схапіў асінавы кол і трымаў яго аберуч. Нарэшце жудасныя енкі сцішалі і пачуліся толькі глухія ўдары. Краўчанка не вытрымаў, паднёс рулю пісталета да дзіркі, папырскаў і зазірнуў унутр. Потым знакам загадаў Доўгаму адамкнуць дзверы і прасунуў галаву ў шчыліну.

У кутку стаяў заціснуты нячысцік з аграмаднымі геніталіямі, нібы Пан ці то Сацір. Святар, абліваючыся потам, па-баксёрску лупіў хукам з правай і з левай рукі, чытаючы пры гэтым Божую малітву. Адзін хук прыпадаў на адзін склад словаў малітвы. «Ой-трэсь! ча-бац! наш-плясь!» Адначасна поп наравіў даць насцаком па геніталіях. «Бач, заскакаў у тэмпе вальса, як цар Давід», — падумаў Краўчанка. Нячысты, як здавалася, зморана абараняўся. Але, заўважыўшы Краўчанку з вадзяным пісталетам, шалёна завыў, адштурхнуў святара і кінуўся да дырэктара. Цвёрдаю рукою Краўчанка выліў на нячысціка амаль увесь запас вады. З калом ускочыў Доўгі. Пачварнае стварэнне жудасна раўнула, павярнулася і сiганула праз шыбу.

Святар ляжаў на падлозе з заплюшчанымі вачамі. Тут жа ляжаў Андрэй. Убегла Люба, залямантавала і пачала крапаць святара вадою. Краўчанка пырскаў са свайго аружжа на Андрэя. Праз якую хвіліну абодва прыйшлі ў прытомнасць. Доўгі памог бацюшку ўстаць.

— Дзе той? — спытаў поп.

— Знік, прапаў, — задаволена сказаў дырэктар.

Святар ізноў узяўся за свае прычындалы.

— Трэба асвяціць пакой і школу, — стомлена сказаў ён. — Памажыце мне. А ты, сыне, прыйдзеш да нас у царкву. У цябе сур'ёзныя праблемы, — звярнуўся ён да Андрэя.

Хлопец кіўнуў.

Люба і Пятро Змітравіч узяліся за сакральнае. Астатнія настаўнікі і Міхайла Доўгі рушылі за імі.

Дырэктар сабраў нас унізе і папрасіў нікому нічога не казаць. Я зірнуў на гадзіннік: ад пачатку здарэння да ягонага канца мінула роўна дзевяноста хвілінаў. Два ўрокі.

Пакуль святар свяціў школу і дзяцей, у сталоўцы быў сабраны стол. Дзяцей мы пусцілі дамоў. Паабедалі.

Дырэктар школы доўгаціснуў айцу Ладымеру руку і прачула паўтараў:

— Ваша дастойнасць… ваша дастойнасць…

Бацюшка выглядаў зморанып, але задаволеным.

— Мікалай Дзям'янавіч, — звярнуўся ён да дырэктара. — Я мушу спавядацца благачыннаму, але ў друк нічога не патрапіць. Будзьце спакойныя.

— Скажыце, ойча, а чаму смалавары не напалі на нас, не пайшлі на дапамогу свайму? — спытаў нехта з настаўнікаў.

Святар на момант задумаўся.

— А куды вашы прыбіральшчыцы выливалі ваду пасля прыборкі? — спытаў ён.

— Калі куды. А часцей пад школу.

— От гэта і ўратавала вас. Увесь перыметр школы, акрамя ўваходу, быў абаронены полем святой вады. Нечысць не магла пранікнуць праз яго.

Перад тым як паехаць дадому, а. Ладымер даў нам кожнаму па блаславенню і адпусціў правіны.

Мы правялі святара да машыны. (Каб бацюшка не хістаўся, Пятро Змітравіч і Генадзь Яўгенавіч асцярожна трымалі яго пад рукі. Доўгі з пашанай нёс царкоўнае начынне.) На шашы іх чакаў міліцэйскі патруль.

**Эпілог**

А смалавары?

Убачыўшы, што іхняя авантура не ўдалася, яны падхапілі свайго хаўрусніка і хуценька зніклі з вёскі, не забыўшы пазычыць трох падсвінкаў у Палькі Клімавай. Праз пару тыдняў іхні бітумавоз выпадкова знайшлі ў Казакоўскім лесе. Машына моцна прасмярдзела пякельным смуродам, так што без процівагаза да яе нельга было падысці, але аніякіх слядоў ейныя ўладальнікі

не пакінулі. Зямля вакол машыны была стакаваная дзікамі. Прыгледзеўшыся, можна было між малых капытоў заўважыць значна большыя, пэўна, гэта быў кныр. Каб чаго не здарылася, адмыслова выкліканыя супрацоўнікі МНС машыну спярша аблілі канцэнтраванаю святою вадою, а потым узарвалі.

Так была пастаўлена пакуль што апошняя кропка ў гэтым небяспечным здарэнні.

Зрэшты, здарэнне знайшло свой невялікі, але шматзначны працяг.

Начальнік каманды, што ліквідавала аўтасмалаварню, зняў з машыны сабе на памяць нумарную таблічку. Таблічка была не зусім звычайная: замест лічбаў на ёй строгімі класічнымі лацінскімі літарамі было выведзена «DECIMA LEGIO». (Такі ж надпіс быў праз усю пярэднюю частку кабіны.) Вярнуўшыся з лесу, ён замкнуў таблічку ў службовы сейф. Да свайго здзіўлення, на наступны дзень таблічкі ў сейфе ён не знайшоў — яна таямніча і бясследна знікла, хоць усё астатняе было абсалютна нечапанае. Невялікае службовае расследаванне не дало ніякага выніку.

Канешне, у друк нічога не патрапіла. І тое, што вы чытаеце, адзінае, што наогул можна прачытаць пра той векапомны для нас дзень.

Дарэчы, усе ведаюць, што ў Казакоўскім лесе водзяцца ведзьмы. Але ў той сезон іх было тамака нашмат болей, чым калі-небудзь. Звычайна даволі рахманыя, гэтым разам яны палохалі і разганялі ягаднiц і грыбнікоў. Міліцыя баялася сунуцца ў лес і не магла даць ніякай рады. І вось скажыце… Мінула столькі гадоў, але і дагэтуль пасажыры, што вяртаюцца апошнімі рэйсамі з Бабруйска ў Шацілкі ці Каленкавічы, праязджаючы праз лес, заўсёды бачаць невялікія чародкі ведзьмаў па-над вершалінамі. Дзеля чаго яны злятаюцца?

Але гэта ўжо іншая аповесць…

Дарэчы: усе імёны ўласныя, пасады і роднасныя сувязі ў гэтай аповесці ёсць выпадковым супадзеннем.

## МІКОЛА БУСЕЛ



Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Пружынішчы Акцябрскага раёна. Вучыўся ў Інстытуце замежных моў, працаваў настаўнікам іспанскай і англійскай моў. Перакладаў з італьянскай, іспанскай і грэчаскай. Зараз пенсіянер. Жыве ў вёсцы Дуброва на Светлагоршчыне.

# ЯЗЭП КРУПА

## Юзэфа
*Апавяданне*

*Маці сваёй прысвячаю*

1

Пазнавала і не пазнавала сваю родную вёску Юзэфа…

Дзіва што, столькі часу прайшло, як з'ехала адсюль. Падалося, што вёска на яе паглядала з нейкім дакорам, нават крыўдай, што яна, Юзэфа, здрадзіла ёй, у цяжкую хвіліну пакінула яе, ратуючыся ад злыбяды…

На душы ў жанчыны не было ні радасці ад сустрэчы з роднай Крушынаўкай, ні здзіўлення, нават ніякае віны не адчувала, што столькі год не паказвалася ў родных мясцінах. Перагарэла ўсё, у вялікай печы ў полымі смутку і скрухі перагарэў яе боль. Пераадолела і прыцягненне да роднай хаты, да людзей, якія, нягледзячы ні на што, не маючы магчымасці вырвацца з драпежных кіпцюроў тагачаснага ладу, марылі вызваліцца з няволі, з путаў рэжыму. Марылі, але нічога не рабілі… Ды і што яны маглі зрабіць? Нічога… Самае крыўднае, што людзі і самі не адчувалі, што яны здушаныя нябачнай пятлёй і што тая пятля зацiскалася на шыі мацней і мацней. Яны толькі прадчувалі нешта нядобрае, сэрца сціскала туга і цяжкае прадчуванне нечага страшнага, але ў глыбіні душы кожны верыў, што бяда абыдзе іх, не кране. Некага забіраюць і арыштоўваюць? Дык мо і ёсць за што, значыць, вінаватыя, суддзям часу відней, яны вершаць справядлівы суд.

Ёй сустракаліся людзі, але не пазнавалі яе, кідалі мімаходзь позірк і крочылі далей.

Юзэфа толькі падумала, што нехта з сустрэчных быў падобны ці то на Ладзіка, ці на Паўла-Пеліка — каваля, і не спыніла нікога, не ўдакладніла. Бо адчула сябе нейкай чужой да гэтых людзей, да іх клопатаў… Вяскоўцы ж, прайшоўшы колькі крокаў, усё ж цікаўна азіраліся на незнаёмку, але і то толькі з-за таго, каб яшчэ раз паглядзець на чужынку, якая невядома адкуль прыбілася да іх вёскі.

Каб з гадоў дзесяць-пятнаццаць таму, то на яе вачах выступілі б слёзы і яна выплакала б іх, каб аблегчыць душу, а цяпер і слёз не было, як і болю не было: яна пакінула іх там, у далёкім краі, дзе знайшла з сям'ёй прыстанішча…

Яна не ведала, хто жыў у іх хаце, і ці ўвогуле тая хата існавала, бо маці даўно памерла. І каб пайшла цяпер на клады, то і не знайшла б таго месца, дзе спачывала маці. Шкадавала, што не правяла яе ў апошні шлях, бо і не ведала, калі яе не стала…

Юзэфа стаяла ў роздуме і не ведала, куды, у якую хату ёй трэба было ісці, бо ўсё неяк перамянілася, перайначылася. Але роднае селішча прыцягвала, клікала да сябе, і яна, яшчэ пастаяўшы нейкі час каля нечага новага плоту, які атуляў невядомую сядзібу, пайшла пакрысе па вуліцы.

З кожным крокам адчувала, як пачынала гулка біцца яе сэрца, аж вырывалася, здаецца, з грудзей. Яна ўваходзіла ў сваю вёску, як быццам нараджалася нанова, як быццам ператварылася ў тую дзяўчынку, якая ўпершыню адчула сябе жыхаркай сваёй Крушынаўкі.

Да яе хаты заставалася крокаў мо з дзвесце, але яна адчула, што не дойдзе, бо знячэўку пачалі дрыжэць ногі і ўсё паплыло перад вачыма, захісталіся дрэвы, пагатоў упасці на зямлю. Добра, што каля плота была лаўка, і Юзэфа пакіравала да яе, каб аддыхацца, пасядзець, набрацца сілаў, адпачыць пасля першага ўзрушання.

Але не дайшла, ступіла крок-другі і асунулася на волглую зямлю, выпусціўшы з рук валізку. Не бачыла, як нехта схіліўся над ёю, не чула, пра што папыталіся ў яе. На яе твары адбілася вінаватая ўсмешка, і з яе грудзей вырваўся цяжкі стогн і ўздых. Ёй не хапала паветра, хаця цяпер яна дыхала ім напоўніцу.

— Мо да каго ў госці прыехала, — выказала меркаванне невядомая кабета, падклаўшы ёй пад галаву руку, спрабуючы падняць яе, вярнуць да свядомасці, — аслабела, мусіць, за дарогу…

Калі пырснулі на твар халоднай вады, калі далі глынуць яе з кубка, яна схамянулася, здзіўлена і радасна глядзела на жанчын, выдыхнуўшы з сябе цяжар гнятлівасці, прамовіла:

— Добры дзень вам, мае родныя!..

2

Так ужо здарылася, што за год да пачатку вайны Юзэфа Крупіца разам з мужам Ігнатам і трыма дзецьмі дашкольнага ўзросту — Міколкам, Змітраком і Тамарай — перасяліліся з мазырскага Палесся на Цюменшчыну: у паўночны раён вобласці.

Іншых у той час нкусаўцы арыштоўвалі і адпраўлялі ў лагеры, а сям'я Юзэфы, як горка жартавалі людзі і яны самі, добраахвотна выправіліся ў ссылку…

Начальства калгаса і нават раённае кіраўніцтва з разуменнем аднесліся да перасяленцаў, адзначаючы пры гэтым, што «перасяленцы з Беларусі — народ працавіты і шчыры, не схільны да чаркі і без працы сядзець не любіць…»

Старшыня калгаса Ягор Пятровіч Салановіч — не стары яшчэ чалавек — доўга і не распытваў у іх пра прычыны перасялення, хіба здагадваўся толькі, што не ад лёгкага жыцця пакінулі родныя котлішчы і выправіліся ў такі няблізкі свет. Можа, таму, што сам меў карані з Беларусі — дзед Аўгей некалі прыехаў у гэтыя мясціны са сваёй Марфай, і ад іх пайшлі на расейскай зямлі Цюменшчыны Салановічы. А мо і ад таго, што меў характар добразычлівы,

да людзей адносіўся з цеплынёй і павагай. Як бы яно ні было, але ён з першых дзён, як Юзэфа прыехала ў Маскоўку, так звалася вёска, выдзеліў ім пустую хату з агародам.

— Вы ўжо самі прыводзьце яе ў парадак, — як бы вінаваціўся Ягор Пятровіч, — бо і рук рабочых у нас не хапае…

— Ды нічога, як-небудзь давядзём да ладу, не бязрукія ж, — радавалася шчыра Юзэфа, што ўсе яе перасцярогі і страх перад невядомасцю зніклі, што, дзякуй Богу, усё складвалася як найлепш.

— І яшчэ кароўку вам дадзім, каб малачко ў вас было, дзяцей трэба падымаць на ногі… Карову ж даіць умееце, Юзэфа?

— А як жа не ўмець? Хто ж, жывучы ў вёсцы, без каровы? Умею. І даяркай працавала, там, у сваім калгасе.

Старшыня калгаса абрадавана паглядзеў на перасяленку, усклікнуў:

— І нам даяркі патрэбныя! Пойдзеце на ферму?

Юзэфа нават пачырванела ад такой увагі да сябе, галавой пахітала:

— Пайду, пайду, Ягор Пятровіч! Дзякую, што так клапоціцеся пра нас.

— Ну а ты, Ігнат, на трактар пойдзеш. Нам механізатары вельмі патрэбны.

— Добра, — кіўнуў згодна галавой гаспадар.

— Удвух з Пятром на адным трактары працаваць будзеце. Будзеш за прычэпшчыка. Пятро — муж загадчыцы фермы. Хлопец ён ніштаваты, спрацуецеся…

Салановіч хутка і развітаўся, падаўся далей па сваіх старшынёўскіх дарогах, пакінуўшы палешукоў у радасным узбуджаным настроі. А яна паглядзела на дзяцей, прытуліла да сябе. Агледзела яшчэ раз хату, радасна падумала: «Нічога, усё наладзіцца. І хату прывядзём у парадак — Ігнат адштукуе яе як след, абновіць… Уга, ды зажывём, зажывём, дзетачкі вы мае, Бог паможа нам, пасобіць…»

З самай раніцы падалася на ферму, як сказаў старшыня.

А ферма недалёчка, праз агароды, праз мост перабегчы.

Жанчыны прынялі яе не тое, каб і радасна, але і не абыякава. Спыталі толькі, як зваць, і паказалі ёй, якую групу кароў будзе даіць. Быццам яе ведалі даўно, быццам яна была ў доўгім адпачынку, а цяпер толькі да працы вярнулася… А на лепшае яна і не разлічвала. А што ж яна хацела — каб у абдымкі да яе кінуліся? Яшчэ чаго… Пройдзе час, яны зблізяцца, прытруцца адна да адной, усё наладзіцца… Добра, што позірку ніводнага лядакага не заўважыла, і за тое дзякуй.

Як скончылі дойку, загадчыца фермы Параска падышла да Юзэфы, з ледзь прыкметнай усмешкай пахваліла:

— А ты нічога, новенькая, спрытна працуеш… Старшыня сказаў, каб ты кожны дзень брала сабе трохлітровы слоік малака. Бясплатна. Да тае пары, калі твая кароўка дасць прыплод.

Параска — аднаго ўзросту з Юзэфай, трошкі вышэйшая за яе. Танклявая, увішная, голас то звонкі, начальніцкі, каб усе пачулі, а то на ціхмяны пе-

раходзіць, калі з адным чалавекам гаворыць. У вачах жаночая спакойнасць, цеплыня. Адразу спадабалася сваёй шчырасцю, пра сябе вунь што расказала, не кожная і адкрыецца, як яна…

А праз тыдзень Юзэфа Крупіца адчувала ўжо сябе сваёй сярод жанчын.

Даяркі, прыгледзеўшыся больш пільна да яе, убачыўшы, што на яе можна пакласціся, што яна і падмяніць зможа, калі трэба, што рукі ў яе спрытныя і працавітыя, прынялі ў свой калектыў ужо як роўную.

А з Параскай яшчэ больш зблізіла тое, што іх мужы Пятро і Ігнат працавалі на адным трактары.

На цямочку бегла на ферму, пакідаючы хату на Тамару як старэйшую. Прыходзіла дадому, як дзеці яшчэ спалі. Абавязкова трохлітровы слоік з цёплым малаком, ухутаны ў світку, стаяў на стале.

Гаспадыня запальвала ў печы, абірала бульбу, ставіла да агню чыгунок, — і тады ўжо толькі будзіла дзяцей.

Тамара ўставала адразу ж і кідалася памагаць маці, а Міколка і Змітрок яшчэ разлежваліся ў ложку. Ды нядоўга, самі па сабе падымаліся, ішлі да мыцельніка, паласкалі твары.

Каб сказаць, што Юзэфа была поўнасцю задаволена сваім жыццём, дык не. Не думала, як ехала на новае месца, што яе будзе так тачыць сум па родных мясцінах. Ноччу ў сне прыходзілі і маці, і суседзі, родзічы, і свая родная Крушынаўка бачылася, нават пах роднай вёскі сніла… Снілася, што па грыбы хадзіла, аббегла і Люхчэ, і Броньку, да Міколікавага Броду дайшла, і грыбоў у кашалі набралася, што і данесці дадому не можа… Але найчасцей прыходзіла ў сны бабуля Стафаня. Дакарала ў нечым маўкліва, галавой хітала…

Бабуля Стафаня… Ласкавая бабулечка, з заўсёднай усмешкай. Добра з ёю, спакойна, радасна. Аднойчы старая паклікала да сябе Юзэфу. Не сама паклікала, перадала запрашэнне праз Тамару, папрасіла, каб праведала яе.

Вечарам, калі ўпарадкавала ўсё па гаспадарцы, і прыйшла да бабулі. Юзэфа і так кожны дзень прыходзіла да яе, каб не толькі пасядзець каля яе, а і памагчы ў хаце прыбраць, у печы выпаліць. Старой ужо амаль сто гадоў, але яшчэ цвёрда трымалася на зямлі.

Стафанію ведала ўся вёска. Ды што вёска, жыхары бліжніх і далёкіх вёсак ведалі яе. І нават далёка за Мазыром і Петрыкавам ведалі.

Бо бабуля славілася сярод людзей як шаптуха, як знахарка. Яна і павітухай была, колькі родаў прыняла ад парадзіх, не злічыць. З гадамі яна перастала прымаць роды, саступіла месца медычкам радзільных дамоў, якія тое рабілі па-навуковаму, з веданнем сваёй справы. Не было ніводнага выпадку, каб Стафанія калі няправільна абышлася з парадзіхай, а ў радзілках… Вунь дачка дырэктара школы Паліна нарадзіла свайго першынца ў радзілцы. Ды, аказалася, што з вывіхам бядра. Выцягвалі моцна акушэркі, самі не заўважылі, што нарабілі… І потым жа не прызналіся, што не ўгледзелі, але сказалі, што аперацыю рабіць трэба…

Палінка сярод ночы, каб ніхто не бачыў, да Стафаніі прыйшла. На калені стала, просячы бабулю, каб вылечыла сыночка. Не адмовіла павітуха. На аб-

разы памалілася, пагладзіла кашчавымі рукамі па баках немаўля, як выроўнівала цела Віцечкі… А той маўчаў, нават усміхаўся, гледзячы на бабулю…

— Яшчэ два разы прыйдзі, галубка, да мяне, — сказала шаптуха, — вывіх у яго, але, Бог дасць, усё добра будзе.

Калі ж праз месяц Паліна завезла малога да дактароў у Петрыкаў, тыя падзівіліся:

— Ваш сынок здаровы! Хто ж яго вылечыў, скажыце?

На іх пытанне нічога не адказала, дужа абрадавалася, што яе сынок пазбавіўся хваробы, пазбавіўся, дзякуючы тайнаму лячэнню бабулі Стафаніі.

Пераступіўшы парог бабульчынай хаты, Юзэфа ўбачыла, што бабуля ляжыць у ложку. Устрывожана падышла да яе, глянуўшы ў вочы, спыталася:

— Занядужала, бабулечка?

Стафанія заўсміхалася, выцерла сухой даланёй вусны, прыхільна на ўнучку паглядзела:

— Хіба ж з-за клопатаў можна занядужаць, га? Ды гэта я так, натэпалася за дзень, нагам адпачынак рашыла даць.

Уздыхнуўшы, бабуля прыўзнялася на ложку. Спусціла ногі долу, рукамі абаперлася на матрац. Потым стала на падлогу, адышла ад ложка.

«Чаго ж яна паклікала мяне? — бралі здзіўкі Юзэфу. — Не хворая, вясёлая нават, жартуе. Папрасіць што хоча? Ці паведаміць што патаемнае?..»

Стафанія падышла да абразоў, наклала на сябе крыж, нейкі час чытала малітву. Юзэфа ўвесь час маўчала, не перабівала ні малітву, ні бабульчыны думкі. Чакала, калі яна сама звернецца да яе…

— Чаго я паклікала цябе, Юзэфка? Ніколі не клікала, бо сама прыходзіла амаль штодня. Сон мне надоечы прысніўся. Харошы сон, спакойны. Быццам мы падышлі з табой да Прыпяці, і трэба нам з табой на другі бераг. І човен маленькі прывязаны да пня. І ўдзвюх нам не памясціцца ў ім. Дык я цябе пасадзіла ў той човен і на другі бераг адправіла…

Унучка з нейкай унутранай трывогай і няўцямным хваляваннем глядзела на бабулю, не адважвалася, але ўсё ж спытала:

—Да чаго сон, бабуля?

— А да таго, што прыйшла пара перадаць табе тое, чым мяне Бог надзяліў. Навучу я цябе шаптаць і людзей лячыць. Ты ў Бога верыш, не адпрэчыла Госпада ад сябе, калі цябе ў камсамол заганялі ў школе, мяне паслухалася. Значыць, з Яго дапамогай ты будзеш аблегчваць пакуты людзей…

«Вось яно што, — адлегла на душы ў Юзэфы, — а я не пра тое падумала… Але ж і ніколі не думала, што бабуля хоча сваё ўмельства мне перадаць. І я ніводнага разу не задумвалася над гэтым… Але ці трэба мне тое? Гэта ж адказнасць якую трэба ўзяць на сябе. Гэтым уменнем трэба ж асцярожна і далікатна карыстацца, каб яно дало добры плён, не нашкодзіць людзям…»

— Дачцэ маёй нельга было перадаць Божы дарунак, не атрымала на тое дазволу… вось табе… Сёння маладзік. Да наступнага маладзіка ты павінна штовечар прыходзіць да мяне. За гэты час ты і павінна перапраўіцца ў сваім чоўне на той бераг, дзе цябе чакаюць.

Юзэфа адчула, што з гэтай хвіліны пачынае мяняцца яе жыццё, што яна пераступае парог нечага новага, яшчэ нязведанага, незвычайнага і таямнічага. І яна ўжо не працівілася гэтаму пачуццю, наадварот, прымала яго, настройвалася на тое, што яе чакала…

— Вось хутка пайду да сваіх дзядоў, а забіраць з сабой знахарства не хачу… — уздыхнула бабуля, гладзячы на каленях андарак у квятах.

— Бабуля…

— Маўчы, унучка, маўчы, усё мне вядома загадзя… Летам, у пару квецені, мяне і не стане. І адбудзецца ўсё тое ноччу. Лягу спаць — і засну назаўсёды.

— Ба… — спрабавала нешта прамовіць Юзэфа, але бабуля зноў строга і ласкава загадала ёй:

— Цыц, Юзэфка! Не гавары нічога. З часам ты зразумееш, што нараджэнне і смерць — гэта адно і тое ж. Мы з аднаго свету прыходзім у другі, і — наадварот. Не будзем губляць з табой час. Сённяшні вечар мы правядзём з табой у малітве, укленчыўшы, вымольваючы ў Бога дазвол, просячы ў яго дабраслаўленне…

Унучка падчынілася загаду бабулі, змоўкла, стала побач з ёю на калені. Глядзелі абедзве на абразы, маліліся…

3

Раніцай прачыналася і адчувала, як нешта падціскала пад грудзі. Разумела: не можа забыцца пра родную вёску. Яна была падобнай на бярозку, якую вырвалі з коранем з зямлі і адшпурнулі далёка ад роднага котлішча.

Калі б не абставіны, яна ніколі б не пакінула Крушынаўку, ніколі ў жыцці.

Добры чалавек, далёкі родзіч яе бацькі Сямён Зданевіч, які служыў у органах НКУС, шапнуў аднойчы ёй пад покрывам ночы:

— Юзя, слухай мяне ўважліва. Хутка арыштуюць палову вёскі. Складзены спісы. У тыя спісы патрапіла і твая сям'я, як ворагі народа. Неадкладна з'язджай куды-небудзь… А то з Ігнатам апынешся ў лагерах, а дзяцей здадуць у дзіцячы дом… Заўтра ж пакінь вёску.

— За што ж такая кара, Сямён? — не разумела яна нічога з таго, што пачула. — Якія мы ворагі народа?

— Яны не разбіраюцца, хто вораг, а хто друг. А з'язджай вось куды…

Ён сунуў ёй у руку паперчыну, у якой і быў указаны маршрут і адрас.

— Там вас прымуць. Там — цішэй. Мо яно як наладзіцца, дык вернецеся потым, а пакуль… Смерць тут стукаецца ў кожную хату.

Яна хацела выказаць яму словы падзякі, але яго ўжо побач не было, шуснуў у густое кустоўе.

Калі «чорны груган» пачаў прыязджаць у Крушынаўку, каб забраць сярод белага дня дырэктара школы Пятра Кашэвіча, калі арыштавалі загадчыцу фермы Марыю Фалінскую — здохлі ў статку дзве каровы, калі ссадзілі з воза дзядзьку Яна Фіцнера — вёз гной на соткі — і сказалі, што ён польскі шпіён, — усё роўна як прачнулася і ачулася Юзя-Юзэфа, уявіўшы, што чакае яе сям'ю, — адважылася, рашылася, як загадала Ігнату:

— Уцякайма, Ігнат! І да нас дабяруцца — ты родзіч дзядзькі Яна.

— А хата, хата як, на каго пакінем, Юзя? Колькі мы поту пралілі, будуючы яе, колькі сілаў паклалі! Кідаць усё?

— Кідаць! Я толькі адной маці скажу, што ад'язджаем, больш нікому. Хай і жыве ў нас… Кожная гадзіна дарагая! Уцякайма, бо…

— Добра, — глуха выдыхнуў гаспадар, зразумеўшы, што азначала «бо», — як ты рашыла, так і будзе. Ведаеш, куды паедзем?

— Ведаю. Адрас у памяці. Але нам ніхто пісем пісаць не будзе — бо адшукаюць і там.

Пераначаваўшы і яшчэ адну ноч, на наступны дзень, пад вечар, выправіліся на падводзе ў дарогу. Стрыечны брат Ігната — Зюнё — падрадзіўся даставіць іх на чыгуначную станцыю Муляраўка. Раніцай былі на месцы. І праз дзве гадзіны, як прыехалі, яны селі ў вагон цягніка…

Рэчаў з сабою шмат не бралі — самае неабходнае. Ды бабульчын абраз Божай Маці, з якім выправіла яна іх у дарогу. Ведала Юзэфа, што Багародзіца не пакіне іх у бядзе, душа і сэрца навучыліся прадчуваць няшчасці і радасці.

Ноччу, каб Ігнат не бачыў яе скруху, ліла слёзы ў падушку. Птушкай бы, здаецца, паляцела б у родную Крушынаўку, каб хоць гадзінку прайсціся басанож па росным полі ці лесе, падыхаць пахамі лясной жывіцы…

Як там хаця родная хата? Ці даглядае яе маці? Ці не хапіліся тыя, хто арыштоўвае ворагаў народа? А калі хапіліся, ці не шукаюць іх? Невядомасць… І папытацца няма ў каго, ні ліст напісаць туды.

А бабуля слова сваё стрымала. Як і казала, у лепшы свет адышла летам, у жніўні, у пахмурнае надвор'е… Дажджоў тады не было, толькі нахмарвала, і сохла ўсё на сотках і агародах. А калі пахавалі нябожчыцу, неба абрынулася на людзей спорным і зацяжным дажджом. Казалі старыя, што так заўсёды адбываецца: калі хаваюць праведнага чалавека, ідзе дождж… Як быццам неба плача, што зямлю пакінуў чалавек, выратаваўшы шмат людскіх жыццяў.

Так яно было і насамрэч — удзячны былі шаптусе Стафаніі тыя, каго яна вярнула з таго свету.

— Мама, а што сёння на сняданак? — адарвала Тамара ад думак маці.

Юзэфа схамянулася, не адразу зразумела, што хоча ад яе дачка.

— Бульбачка даварваецца, яечню зробім з салам, я малачка прынесла… Мыйцеся, ды за стол.

— А мы гатовыя ўжо. Даўно гатовы.

— Ну то і добра. То ўжо і сядайце за стол.

4

…Час ляціць хутка, не заўважылі, як і год праляцеў.

Ігнат і сапраўды адштукаваў жытло, усё зіхацела. Зіму пражылі, не мерзлі. Усе дзірачкі пазаканапачваў гаспадар, і вокны ўцяпліў. Юзэфа парсючкоў завяла — у хлеўчуку рохкаюць, курэй.

Дзеці захацелі сабаку мець, дык сыны Параскі прынеслі чорнага шчанюка. Разам і будку змайстравалі. Жуком і назвалі, раз чорны.

Так сталася, што хаты Параскі і Юзэфы недалёка адна ад адной, дзеці то ў адной хаце збіраюцца і ладзяць свае гульні, то ў другой. Мала таго, дык Міколка і Дзяніс у адным класе вучыліся — у пятым, а Змітрок з Андрэем — у шостым. Тамара са Святланай — у чацвёртым. А астатнія двое сыноў Параскі — Васіль і Сцёпка — па розных класах: сёмым і восьмым…

І Параска, і Юзэфа днямі прападалі на ферме. Працы навальвалася з кожным днём усё болей і болей, перарабіць чалавечымі рукамі яе немагчыма. Параска і сама ўпрагалася ў работу, не глядзела на тое, што яна хоць і невялікая, але начальніца, то гной выкідвала разам з усімі, то бітоны прымецца мыць, а то і сцены бяліць, каб святлей было ў сцёпцы, дзе збіраліся даяркі…

Дзеці былі аддадзены самім сабе. Ігнат з Пятром дык ад цямна і да цямна ў полі, варочалі і варочалі скібы зямлі. То азіміну сеялі, то дыскавалі зямлю для будучай сяўбы…

Аднойчы здарылася неспадзяванае. У вёску сярод белага дня прыехаў «чорны воран». З легкавіка выйшлі двое ў вайсковай форме. Юзэфа акурат з фермы вярталася — на дзяцей хату пакінула, таму хвалявалася, каб у печы выпалілі ды акуратна ўсё зрабілі, прыспешвала хаду. Насустрач нкусаўцы ідуць. Твары строгія, насупленыя.

«Ну, усё — і тут адшукалі нас… — як не самлела Юзэфа, калі яны амаль параўняліся з ёю. — Нас арыштоўваць прыехалі…»

— Скажите, а где проживает директор школы Бобров? — не павітаўшыся, спыніліся перад ёю. — Семён Андреевич… Знаешь такого?

— Зна… Знаю, — кіўнула няўцямна галавой, стараючыся стаяць цвёрда на нагах і не выдаваць свайго хвалявання і трывогі. — В другом конце деревни. Под большим тополем…

О, як яна ненавідзела сябе ў гэты момант! І схлусіць ім не магла, бо тое магло абярнуцца для яе кепска, ды і ўсё роўна яны даведаліся б ад людзей, дзе ён жыве… А так яна стала «стукачкай», «даносчыцай»… Хоць і не прамой, але ўсё ж. Слова «стукач» для яе было добра знаёмым. У роднай вёсцы, дзякуючы пільнаму воку даносчыкаў, некалькі сямей арыштавалі служкі д’ябла… Так бабуля Стафанія называла вусатага ў Крамлі…

«І тут ёсць свае стукачы? — падумала роспачна Юзэфа. — Што мог кепскага зрабіць Баброў? Хлопцы вунь як хораша гаварылі пра яго — прыветны, разумны, ніколі голасу не павысіць. Мог гадзінамі расказваць пра жыццё Пушкіна і Лермантава, Дастаеўскага і Цютчава…»

Прыезджыя пільна пaглядзелі на яе, як рэнтгенам усё роўна пранізвалі.

— А вы откуда идёте?

— С фермы… Дояркой работаю. Коров подоила, домой спешу… Дети одни дома, покормить их надо.

— И, как доярка с фермы, каждый день молоко воруешь? — паглядзеў на яе трохлітровы слоік з малаком той, што быў вышэйшы ростам, чарнявы.

— Да нет, то мне старуха Серафима каждый день даёт, я ей корову дою, — знайшлася адразу жанчына, ужо адчуўшы душэўную раўнавагу.

— Ну-ну, — як быццам пагадзіўся нкусавец, паглядзеўшы ўжо ўздоўж вёскі, быццам яго і перастала хваляваць сустрэчная жанчына і яе малако. — Так уж и даёт… Бесплатно. Ладно, проверим, разберемся. Так говоришь, под высоким тополем?

Яны павярнуліся і павярнуліся ў адваротны бок, а яна яшчэ колькі хвілінаў не магла скрануцца з месца — ногі прыраслі да зямлі.

«І прынёс жа іх нячысцік мне насустрач, — абуралася Юзэфа, гледзячы ім услед. — То ж увесь час напрасткі хадзіла, а сёння, на табе, круг захацелася зрабіць… Вось і зрабіла. Як у каравячы ляпях уступіла. Калі што з чалавекам здарыцца, усё жыццё сябе караць буду…»

Баброва забралі. Пасадзілі ў «эмку» і павезлі ў невядомым кірунку. Чулі людзі, як роспачна галасіла дырэктарава жонка Галіна Пятроўна, калі легкавік ад'ехаў ад хаты. Ніхто не ведаў, за што арыштавалі дырэктара школы. Замест яго прызначылі Кіру Юр'еўну, адзінокую жанчыну, якая працавала завучам, амаль кожны дзень, нават і не ўзгадняючы з Бабровым, праводзіла лінейкі і мітынгі, прысвечаныя мудраму правадыру Сталіну. Яна была адзінотніца, без мужа. Ніколі і замуж не выходзіла. Злая характарам, як сухадрэвіна кастлявая, з вострым носам… Яна і на жанчыну не была падобна, усю сябе аддавала «вучэбнаму працэсу», выхоўваючы ў дзяцей любоў да «бацькі народаў…»

Аднойчы Параска пацікавілася ў Юзэфы, чаго яна выехала з роднай вёскі, чаму не атрымлівае ніякіх вестак з радзімы.

— Не бойся, не з дурной цікавасці пытаюся, — як апраўдвалася загадчыца фермы, каб не падумала тая чаго кепскага — яны за гэты час сталі сяброўкамі, як і іх мужы пасябравалі, — а каб ведаць, што пра цябе сказаць, калі які злы чалавек спытае…

Юзэфа ўздыхнула. Не ведала, гаварыць, ці не, але ж, з іншага боку, няма з кім і падзяліцца сваім болем. А Параска яе зразумее, благога не падумае.

— Ды ў нас больш як палову вёскі людзей «чорныя груганы» павывозілі… І дырэктара школы, і старшыню калгаса… Усіх маіх родзічаў расстралялі. Мяне папярэдзілі, што і да нас чарга дойдзе. Вось я, Парасачка, тут і апынулася. Таму і не ведаю, жывыя маці мая і бабуля ці не, што там сёння дзеецца…

— Я так і думала, што цябе нешта выштурхнула з родных мясцінаў, што прыехалі да нас голыя і босыя. Па ўсёй краіне такое, Юзэфка… І ў нас во такое, сама бачыш. Да вашага прыезду шмат людзей пабралі. Сціхлі, а то во зноў пачалі… Усе ведаюць, што гэтая сухапарая завучыха напісала на яго данос, захацелася падырэктарстваваць…

Маўчыць Юзэфа, горла нешта перацiснула. Хацелася сказаць пра многае, ды слоў не знаходзіла. Сядзяць жанчыны, маўчаць, кожная пра сваё думае.

Сядзелі ў салатопцы, так называлі даяркі прыбудоўку, дзе сушылі бітоны, дзе стаяў стол і льга было пасядзець, пагаманіць. І адпачывалі там даяркі, калі выпадала вольная хвіліна, перакусвалі, калі бралі абед з сабой. А было, што і віна ці самагонкі прыносілі, калі быў у каго дзень народзінаў.

Дзверы салатопкі расчыніліся, і на парозе ўзнікла постаць даяркі Міхаліны. Вочы шырока раскрытыя, хапае ротам паветра, на Параску глядзіць, сказаць нешта спрабуе…

— Там… ну, сын твой… Андрэйка… з бярозы ўпаў… ну… нежывы ляжыць…

Параска нічога не разумела, але перамянілася з твару. Адчуванне бяды найхутчэй да сэрца дайшло, а розум яшчэ не схопліваў, і таму жанчына сілілася зразумець, што адбылося з яе сынам…

— Чаму не… нежывы, чаму ляжыць?

— Ну, гулялі яны, паспрачаліся, хто вышэй залезе, — апамяталася Міхаліна, аглядвалася, быццам з салатопкі было бачна тое, — ну і сарваўся твой Андрэй, саслізнуў з галіны… З той бярозы, што каля школы расце…

Параска хапнула ротам паветра, з грудзей вырваўся нейкі незразумелы крык. Зірнула на Юзэфу, падскочыла і, адпіхнуўшы на парозе даярку, выскачыла на вуліцу. Потым, трохі паразважаўшы, пабегла ў бок школы.

Следам за ёю выправілася і Юзэфа. Ні на крок не адставала. Школа ад фермы недалёка, крокаў з трыста, але гэтую адлегласць жанчыны прабеглі, здаецца, за хвіліну…

Пад бярозай сабраліся людзі. Андрэй ляжаў на зямлі, адвярнуўшыся тварам да бярозы. Вочы заплюшчаны. Каля яго стаялі сябры, маўкліва і вінавата апусцілі галовы, плакалі, выціраючы слёзы…

Маці ўкленчыла, нахілілася над сынам, да грудзей вуха прыклала — слухала, ці б’ецца сэрца. Нічога не пачула і загаласіла, зразумеўшы, што адбылося самае страшнае.

Яе лёгенька адпіхнула ад хлопца Юзэфа. Паклала руку на лоб. Заплюшчыла вочы, падняла твар да неба. Зашаптала: «Гасподзь міласэрны! Пачуй малітву маю, Божа! Зрабі так, каб вярнулася жыццё рабу твайму Андрэю. Тваімі найсвяцейшымі вуснамі было сказана, што без Цябе нічога не можа адбыцца ў гэтым жыцці. Госпадзе, памажы!..»

Яна не адрывала рукі ад ілба, шаптала і шаптала, не расплюшчваючы вачэй. На яе здзіўлена паглядала Параска, хацела ўжо і адпіхнуць Юзэфу, не верачы ні ў якія забабоны, але ў гэты ж момант з грудзей сына вырваўся глыбокі ўздых і ён расплюшчыў вочы…

— Устань, Андрэй! — загадала Юзэфа. — Табе нельга ляжаць, уставай…

Яна памагла яму прыўзняцца, і ён сеў. Хлопец няўцямна паглядаў на людзей, не ведаючы і не разумеючы, чаго яны сабраліся, чаму абступілі яго з усіх бакоў.

— Ма… ма… — пазнаў ён матулю і падаў ёй рукі.

Параска прытуліла да сябе сына, не верачы, што на яе вачах адбыўся цуд. Доўга не выпускала са сваіх абдымкаў. Потым памагла яму ўстаць. Ён стаяў, але хістаўся, шукаючы апірышча. Маці трымала яго за руку і абняўшы ззаду. Ён зрабіў адзін крок, пасля другі…

— Юзэфа, ты мне вярнула сына, дзякую табе! — прамовіла ўдзячна жанчына, аглядваючыся, стараючыся сустрэцца з ёю позіркам.

Але яе побач не было, і сярод людзей яе не ўбачыла.

— Юзэфа! — пагукала Параска. — Ты дзе, Юзэфа?

Ніхто не адказаў ёй. І ўжо ўсе пачалі шукаць яе, здзіўленыя тым, што адбылося на іх вачах, — і не знаходзілі яе. Ніколі беларуская жанчына не паказвала сваіх здольнасцяў, а тут…

Не разумела Параска, чаму Юзэфа пакінула яе ў такі радасны і прыемны момант, не дачакаўшыся нават падзякі. Падумала, што аддзячыць яе потым, калі прыйдзе да яе, а сёння яна, мусіць, стамілася, таму і пайшла дадому. Нічога, потым разам з Андрэйкам сходзяць, будзе для таго час.

Яна ўсё яшчэ не выпускала са сваіх рук сына, як маленькага некалі вяла, калі ён вучыўся хадзіць. Людзі зразумелі, што трэба іх пакінуць адных, і пакрысе пачалі разыходзіцца па хатах.

У кожнай сям'і і была толькі размова пра тое, як бежанка Юзэфа вярнула з таго свету сына загадчыцы малочнатаварнай фермы…

…А Юзэфа, аддаўшы ўсе свае сілы на ацаленне хлопца, тут жа заспяшалася дадому. Ёй стала холадна, і яна калацілася ўсім сваім целам. Бегла па вуліцы і нічога не бачыла перад сабой. Праз сілу пераступіла парог і, хістаючыся, дайшла да ложка… Ляскала зубамі, біла яе ліхаманка. Усё плавала перад вачыма, хісталася…

Ігнат ужо быў дома, і тое абрадавала яе.

Убачыўшы яе змэнчаны твар, спалохана спытаў:

— Што сталася?

— Мне вельмі холадна, Гнат. Накрый мяне ўсімі лахманамі, што ёсць… І не чапайце мяне. Я буду доўга спаць, вы не хвалюйцеся…

— Скажы, што з табой? На вуліцы цёпла, а табе холадна…

Але яна ўжо не чула яго пытання — правалілася ў нейкае мяккае воблака, бы ўпала на мяккае сена ў бацькавай адрынцы, як у дзяцінстве, калі спала з маці там цёплымі начамі…

Спала яна суткі, спала двое… І на трэція пераваліла. Ігнат адпрасіўся ў старшыні калгаса і сядзеў каля жонкі.

Прыходзіла Параска, цікавілася, чаму даярка да сваіх каровак не прыходзіць, але Ігнат не пусціў яе да спячай жонкі.

— З таго вечара спіць, як прыйшла аднекуль… — шаптаў гаспадар, баючыся парушыць сон Юзэфы. — Прыйшла ні жывая ні мёртвая…

— Ад мяне яна прыйшла… Андрэйку да жыцця вярнула. Нялёгка ёй, значыць, тое далося, ой, нялёгка, — прамовіла глуха загадчыца фермы, — жыццё амаль аддала сваё…

Ігнат маўкліва ківаў галавой, даведаўшыся ўжо, што адбылося там, каля бярозы.

— А гэта вам на вячэру, — паклала Параска на стол сетку з каўбасамі, хлебам, кансервамі, — родзічка з Цюмені прыехала, прысмакаў прывезла… Хай прачынаецца-папраўляецца Юзэфа, з кароўкамі мы і самі ўправімся. Дзякуй вам, Ігнат, за дабрыню вашую і спагаду…

Моўчкі выйшла з хаты. Дзеці баяліся і слова вымавіць, ціха сядзелі за сталом, рабілі ўрокі. Раз-пораз зіркалі на ложак, дзе спала маці, не разумелі, чаму яна не прачынаецца.

Ад дырэктара школы ніякіх звестак не прыходзіла…

Прачнулася Юзэфа сярод ночы.

Ігнат спаў, лежачы ў ложку, стаміўшыся ад клопатаў па гаспадарцы і каля яе седзячы — днюючы і начуючы. Яна спынілася побач з ім, хацела пабудзіць, але перадумала. Ціха падышла да вядра, зачарпнула конаўкай цёплай вады, выпіла да дна, потым зноў зачарпнула — зрабіла некалькі глыткоў. Выцерла далонёй вусны, уздыхнула. Паглядзела на шэрае акно. Дакладны час не ведала, але адчувала, што чатырох гадзін яшчэ не было.

Нячутна прачыніла дзверы, выйшла ў сенцы. Ва ўсім целе адчувала млявасць, але да яе пакрысе вярталіся сілы, яснела галава. Не, не трэба было браць на сябе вяртанне Андрэйкі да жыцця, ні ў якім разе, падумалася ёй, бо і сама ледзьве не выправілася ў іншы свет… Яна пераступіла мяжу дазволенага, забыўшыся на перасцярогу бабулі. «Не ўсіх з таго свету вернеш, — казала яна, — а сябе загубіш… Асцярожна распараджайся гэтым, вельмі асцярожна…»

Недзе на ўсходзе спрабавала святлець неба, але зоркі на неба былі яшчэ зыркія, спелыя. Вунь Вялікая Мядзведзіца свой чарпак закінула ўверх, перакулілася, выліўшы змесціва, каб не замінала днём. Было ціха. Дзесьці ў канцы вёскі падаў голас певень — ці не ў дырэктарыхі? Так і знік чалавек у невядомасці. Ні вяскоўцы, ні жонка не ведалі, ці жывы хоць і дзе знаходзіцца…

Да пляча асцярожна дакранулася рука Ігната:

— Паднялася ўжо?

— Колькі ж можна вылежваць бокі, — абазвалася ціха, не паварочваючыся да яго. — На ўсё жыццё адаспалася…

Ён сеў побач, абняў Юзэфу, прытуліў да сябе. Яна адчула цеплыню яго цела, дужасць рук. Паклала галаву на плячо.

— Як дзеці?

— Ды нічога, не галодныя. Я на працу не хадзіў, каля цябе быў. А за цябе даяркі тваіх кароў даілі, і Параска даіла з імі. Прыходзіла, як ты спала.

— Як Андрэйка?

— Дзякуй Богу, усё добра. Нядаўна прыбягаў з хлопцамі. Нічога не памятае, што з ім адбылося.

— То і слава Богу, — уздыхнула, прымружыла вочы.

Калі пачаў ружавець усход, падумала, што пара прымацца за хатнія клопаты. Вунь хутка і даяркі адправяцца на ферму, і таму ёй нельга бавіцца дома. Ды і Ігнату пара на трактар, цяжка Пятру без памагатага.

Ноч яшчэ трошкі падужалася з раніцай і ўступіла ёй свае правы.

Распачынаўся ясны і гожы дзень…

Жнівень… Задуха…

Сама сенакосная пара, калі на нарыхтоўку корму для жывёлы кідаюцца ўсе сілы, і тады на сенажацях уся вёска — ад старога да малога. І настрой нейкі ў людзей святочны, радасны, бо ўсіх аб'ядноўваў агульны клопат.

І тады па ўсёй ваколіцы разлягаецца грукат малаткоў — клепяць мужчыны свае косы і потым, стаўшы ў рад, будуць спраўна класці валкі. А сярод іх не ўтрымаецца, стане і старшыня калгаса, стараючыся паказаць і свой спрыт…

Акурат усё, як і ў яе, Юзэфавай вёсцы, ніякай розніцы.

На другі дзень, калі паклалі ў валкі амаль усю траву, прызначаную для касьбы, прыскакалі на мокрых конях устрывожаныя пасланцы з раённага цэнтра. Трое веставых пад'ехалі да канторы калгаса. Махаюць рукамі, узбуджаныя, самі мокрыя, макрэйшыя за загнаных коней, склікаюць людзей да будынка.

— Бяда, людзі, вялікая! — саскокваюць з коней на зямлю. — Ой якая бяда!

Да старшыні калгаса ідуць, пакеты ўручаюць. Мокрыя твары рукавамі сарочкі выціраюць. Разарваўшы адзін за другім канверты, пахмурнее, стукае абодвума кулакамі па стале:

— Усё ж такі напаў!

Па вісячай рэйцы каваль б'е важкім молатам, і рэха ляціць-лунае ўверх, пад самыя аблокі. Трывожны гул разлягаецца па наваколлі, аж за дзясяткі кіламетраў чуваць яго. Пад сэрца шыецца трывога, і ў вачах кожнага вяскоўца непрыхаваны страх, нават вымавіць людзі баяцца словы пра прычыну набату…

— Да канторы ўсе, да канторы! — зноў ускочыўшы на коней, ганцы-веставыя па вёсцы падаліся, на сенажаць дапялі… — Бяда, людзі, вялікая бяда абрынулася на нас!..

Сабраліся вяскоўцы не хутка, цэлы пачак цыгарэт выкурыў старшыня калгаса, за другі прыняўся. Пахмурны сядзіць на ганку, задумлівы, не ведае, за што зачапіць рукі, як абвясціць народу аб усеагульнай бядзе…

Маўклівыя людзі, трывожна перашэптваюцца, не ведаючы, з-за чаго ўсіх сабралі каля канторы калгаса. Юзэфа з Параскай разам прыйшлі з фермы, стаяць сярод людзей, чакаюць…

— Не тамі нас, Ягор Пятровіч, абвяшчай сваю вестку, — як усё роўна загадаў дзед Антон, самы стары на вёсцы чалавек, за плячыма якога дзевяць дзясяткаў гадоў, — бач, народ чакае…

Старшыня калгаса шпурнуў у куст бэзу недакурак, прыжмурыўшы вочы, уздыхнуў:

— Горкая вестка, дарагія мае, прыйшла да нас. Не аб'яўляючы вайны, Гітлер сёння раніцай напаў на нашую краіну… Вайна пачалася, дарагія мае вяскоўцы, вайна!..

Побач з Юзэфай стаяла маладая даярка Кацярына, адразу заплакала-загаласіла і ўпала на зямлю. Кацярынка цяжарная, праз два месяцы нарадзіць павінна, уявіла, што з ёю будзе, знепрытомнела…

Загаласілі жанчыны, хітаючы галовамі, — ведалі, што заўтра іх мужоў і сыноў адправяць на вайну, і невядома, хто з іх вернецца дадому.

Ігнат з Пятром адразу ж, на другі дзень, па выкліку ваенкамата адправіліся на прызыўны пункт. Паспелі яшчэ перадаць свой трактар Нюрцы Максімавай, якая перад гэтым скончыла курсы трактарыстаў, — сама папрасілася ў старшыні калгаса, каб накіраваў на вучобу.

Старшыня калгаса для навабранцаў выдзеліў «транспарт» — колькі ў калгасе было вазоў, запрэглі коней. Ды ўсё роўна ўсе не паселі, яшчэ столькі патрабавалася. Да раённага цэнтра праводзіла абаронцаў Радзімы ўся вёска — жонкі, мацяркі, браты і сёстры. Ішлі, абняўшыся, маладыя пары. І не толькі маладыя, а і тыя, хто меў ужо некалькі дзяцей. Як усё роўна развіталіся назаўсёды, як усё роўна на хаўтурах знаходзіліся…

Плакалі не толькі жонкі, выціралі слёзы і іх мужы.

5

Юзэфа прыходзіла да Параскі, цікавілася, мо якую вестку атрымала ад Петруся.

— Не, Юзечка, нічога няма… І невядома, дзе нашы Пятрусь і Ігнат…

А то Параска, не вытрымаўшы, ці сон які ўбачыла нехарошы, да Юзэфы прыбягала, маўкліва пыталася пра навіны. Нічога адабральнага сяброўка не казала.

А потым нечакана паштарка прынесла ім лісты з салдацкім трохкутнічкам. Жывыя байцы, жывыя, у баях пабывалі ўжо, як і на трактары, у адным танку знаходзіліся. У баі жорсткім былі, падбілі некалькі нямецкіх «тыграў». Да ўзнагароды прадставілі, пра іх у дывізіённай газеце напісалі. І выразку з газеты прыслалі, каб на іх паглядзелі, людзям паказалі.

Жыццё рабілася цяжэйшым і цяжэйшым. Мужчынскую працу жанчыны ўзвалілі на свае плечы. Не чуваць песень у вёсцы, не чуваць смеху і жартаў. У вачах кожнага вяскоўца скруха і журба. Вунь ужо некалькі «пахаванак» прыйшло на вёску, галосяць жанчыны, заломваючы ў адчаі рукі.

Пачалі хварэць дзеці, а медычнай дапамогі ніякай. Успомнілі, што перад вайной Юзэфа вярнула да жыцця Парасчынага сына, да яе пачалі звяртацца па дапамогу…

Спачатку аднеквалася, але людзі, трымаючы на руках хворае дзіця, умольна паглядалі на яе, чакаючы помачы. І — пайшло-паехала… У каго залатуха, у каго рожа… Спальвала кудзелю на пухліне, малітву ўзносячы да Бога. Памагла аднаму, другому… Але людзі не проста прыходзілі, а з чымнебудзь — хто паўкошыка бульбы прынясе, хто акраец хлеба ці сала, солі ці драбок цукру, а то і газы, каб лямпу было чым запраўляць…

Вайна ў паўвёскі жанчын выбіла мужоў. Паўвёскі ўдоваў галосяць і плачуць, не ведаючы, як выжыць, як выгадаваць дзяцей, на ногі паставіць…

Малацілі збожжа на зернетаку. Падлетку, трынаццацігадоваму Фёдару, у вока асцюк папаў. Не прыдалі спачатку ўвагі, спадзяваліся, што сам са слязою выцеча з вока, ды не спраўдзіліся надзеі — апухла вока, нічога не бачыць. Спалохалася маці хлапчука — Нюрка, якая на ферме разам з Юзэфай працавала, да яе сярод ночы прыджгала, разбудзіла шаптуху.

Убачыўшы, што зусім блага з вокам у хлопца, адразу прынялася за лячэнне. Насцярожыла сіняватая пухліна, не верыла нават, што зможа памагчы.

— Дзе ж ты раней была? — накінулася на Нюрку Юзэфа. — Не ведаю ўжо, ці здолею памагчы…

— Памажы, Юзечка, памажы… Дурная я баба, казалі жанкі, каб адразу да цябе прывяла хлопца, а я… Памажы, Богам прашу.

Сухія кветкі рамонкаў закіпяціла ў каструлі. Працадзіла, дала адстаяцца. Наліла поўную шклянку цёплай вады, папрасіла, каб хлопец лёг на лаўку. Палівала на вока, шаптала і шаптала сваю малітву.

А потым, калі паўшклянкі выліла, нагнулася над Фёдарам, языком да вока дакранулася. Адзін раз правяла языком па вачніцы, другі, трэці… Хлопец пачаў уздрыгваць ад болю, ногі падкурчыў…

— Заўтра пад вечар зноў прывядзі хлопчыка, — прашаптала Юзэфа, — паглядзім, што будзе далей…

І яшчэ два разы прыводзіла маці сына. Тую працэдуру шаптуха паўтарыла, языком гладзячы вачніцу…

А яшчэ праз колькі дзён прыйшла Нюрка адна, без Федзькі.

— Дзякую табе, Юзя, — прамовіла жанчына. — Бачыць мой сынок цяпер, пухліна знікла… Ты вылечыла яго, каб не ты…

— Не я, Бог вылечыў… — аднеквалася шаптуха.

Нюрка паклала на стол важкі пакет. Паднялася, падышла да дзвярэй:

— Дзякую яшчэ раз. Хай памагае табе Бог…

…Пазнавала і не пазнавала сваю вёску Юзэфа Пятроўна.

Пазнавала і не пазнавала аднавяскоўцаў — у маладых бачыла тых, хто застаўся ў памяці, калі яна пакідала Крушынаўку.

Яе хата аказалася нічыйная. Маці, паміраючы, гаварыла людзям, што дачка вернецца, што хата няхай дачакаецца яе.

У хаце жылі муж і жонка — настаўнікі, якіх прыслалі ў школу. Яны хацелі выселіцца, калі даведаліся, што вярнулася гаспадыня.

— Не-не, — пакруціла галавой Юзэфа. — Жывіце, колькі трэба. Мне ж адной сумна будзе. Думаю, што нам цесна не будзе, ці не так?

— Не, — заўсміхаліся абрадаваныя педагогі, — але вы займайце лепшую палавіну, а мы і ў меншым пакойчыку памесцімся.

Але не пагадзілася гаспадыня з іх прапановай:

— Што мне адной? Як жылі да гэтага, так і жывіце.

І ў адзін з вечароў, пасля таго, як яна наведала могілкі, паглядзела, дзе спачываюць матуля і бабуля, сабраліся людзі ў яе хаце — родзічы блізкія і далёкія, сябры і сяброўкі дзяцінства.

І трымала жанчына споведзь перад людзьмі. Вінавацілася, што рашылася некалі на такі адчайны крок.

— Як жыла ўвесь гэты час, Юзэфа? Ці ёсць дзеці, унукі? — прыставалі з роспытамі вяскоўцы.

— Раскажу, усё раскажу… Дайце хіба толькі наглядзецца на вас. Без вас у той далёкай старане вельмі ж маркотна было, кажынную ночку Крушынаўка снілася…

— Праз колькі дзён, як вы з'ехалі, у вёску штодня «чорны воран» прыязджаў. Больш як палову вёскі арыштавалі нкусаўцы, і амаль ніхто не вярнуўся дадому… Ты правільна зрабіла, што з'ехала з вёскі. Доўга яны дапытваліся, дзе вы падзеліся. Маці тваю дык і ў Петрыкаў вазілі, мучылі яе там, здзекаваліся, пыталіся, дзе вы падзеліся… Не прызналася твая матуля.

Уздыхае Юзэфа, галаву апусціла. Зноў на вочы нагортваюцца слёзы, але вочы сухія, хоча заплакаць, ды не можа… Яна думала пра тое, як расказаць пра сябе, пра сям'ю, пра ўнукаў. Пра тое, што ўдавой пражыла ўсе гады. Як і Параска, яе сяброўка. Згарэлі іх танкісты ў танку — падбіў іх фашысцкі снарад. Пра дзяцей можна шмат чаго цікавага расказваць, пра ўнукаў… Пажаніліся, павыходзілі замуж, карані на чужой зямлі пусцілі, пра родную вёску забыліся. Клікала іх з сабою, ды дзе там… Яна разумее іх і таму не дакарае. І людзі, мусіць, дакараць не будуць, калі пра ўсё раскажа…

Юзэфа набрала поўныя грудзі паветра, агледзела ўсіх, хто сабраўся за бяседным сталом, ледзь прыкметна заўсміхалася:

— Ды з чаго пачаць, і сама не ведаю…

…Людзі разыходзіліся пад раніцу.

Людзі нічога не казалі, уражаныя пачутым.

Маўчалі зоркі на шэрым небе, цікаўна аглядала наваколле зыркая поўня.

Крушынаўка яшчэ спала, і праз нейкі час падалі голас першыя пеўні.

## ЯЗЭП КРУПА



Нарадзіўся ў вёсцы Будкі на Мазыршчыне. Скончыў тэхнікум сувязі. Пятнаццаць гадоў адпрацаваў на заводзе. Пасля перайшоў у будаўнічую арганізацыю «Мінсксельбуд». Цяпер на пенсіі. Друкаваўся ў часопісе «Полымя» — апавяданне «Два боханы хлеба», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» — апавяданне «Рэптылія». Жыве то ў Мінску, то ў Будках на Мазыршчыне.

## УЛАДЗІМІР ЛЯКІН

### Горад майго дзяцінства

Які́м жа яркім і светлым быў той дзень — 1 верасня 1960 года!

З тае пары прайшло ўжо амаль паўстагоддзя, але ж я выразна памятаю, як раніцай уся сям'я выйшла праводзіць мяне, ужо другакласніка, на ганак нашай «фінскай» шыферна-драўлянай хаткі (чамусьці так яе называлі), што стаяла ў чарадзе з ёй аднолькавых, — у канцы вуліцы Бялова райцэнтра Калінкавічы.

Я выглядаю вельмі спаважна: у новых, знарок купленых для школы, штанах і чаравіках, у прыгожай футболцы, што зладзіла на швейнай машынцы з нечага «дарослага» матуля, і галоўнае — за плячыма ў мяне з падручнікамі не якісьці там няшчасны брызентавы партфельчык на аборках, а самая сапраўдная афіцэрская сумка-планшэт на скураным рамяні.

Напярэдадні, калі мы з маці былі на «новым» рынку, што знаходзіўся на Жыткавіцкім тракце, я і ўгледзеў гэтую сумку ў гандлёвым радзе, дзе гандлявалі паношанымі рэчамі, керагазамі, прымусамі і іншым нехарчовым таварам. Шапнуў маці, што яна мне дужа спадабалася і вельмі хацеў бы мець яе для школы.

— Колькі, шаноўная, гэтая паношаная рэч у вас каштуе?

Гандлярка, дзябёлая цётка, апранутая на расейскі манер, відавочна, з нашага ваеннага гарадка, агледзела нас з маці з ног да галавы, хмыкнула:

— Сама ты, добрая жанчына, паношаная. А гэтая афіцэрская прылада была пры добрым лейтэнанце, мо і ў баях удзельнічала. А ты — «паношаная»…

— Дык колькі, кажы.

Маці была ўжо настроена рашуча, дабівалася адказу.

— Ну, для цябе дык я скіну, за палавіну кошту аддам…

І запатрабавала за сумку несусветную цану, што маці аж войкнула ад нечаканасці.

— Можа, твой сын афіцэрам стане, дык спатрэбіцца, — усміхалася цётка, няйначай здзекавалася.

Маці моўчкі пацягнула мяне за руку далей ад гэтай цёткі, мусіць жа, у яе кашальку вецер гуляў.

Але ж я натапырыўся, ледзь не плакаў ад крыўды, што маці не хоча мяне зразумець. Упрошваў я яе, канючыў, але маці была няўмольнай, толькі прамовіла:

— Можа, яшчэ ў іншых знойдзем такую ж, і танней…

Але мы абышлі ўсе астатнія гандлёвыя рады, прыглядаліся пільна да таго, што прапаноўвалі гандляркі, ды, на вялікі жаль, не траплялася таго, што мне хацелася.

— Ну, што з табой, сын, паробіш… — уздыхнула маці, пералічыўшы ў сваім кашальку рублі. — Пайшлі, мо ўгаворым тую цётку трохі скінуць цану, у мяне не хапае…

Спачатку цётка не згаджалася, ні на капейку не скідвала. Але калі маці раскрыла перад ёй кашалёк і паказала свае ўсе грошы, тая злітавалася:

— Што з вамі зробіш, бярыце.

Узяўшы грошы, жанчына падала мне сумку, прамовіла:

— Ой, станеш ты чырвоным камандзірам, чуе мая душа!

Сумка была светла-карычневая, амаль новая, з рознымі аддзяленнямі і кішэнькамі, у адной з якіх я нават знайшоў напалову сцёртую гумку.

Душа мая спявала і радавалася, і я не чуў пад сабою ног. Мне так хацелася тут жа пахваліцца перад сваімі сябрамі дарагім набыткам.

Падумаць толькі, можа, зусім нядаўна яе насіў які-небудзь бравы лейтэнанцік ці капітан, а мо і той самы палкоўнік з зоркай Героя, што прыходзіў да нас у нашу школу! Ды мала хто мог яе насіць! Галоўнае, што цяпер яе буду насіць я — як сапраўдны афіцэр!

Я ў гэты момант быў самым шчаслівым чалавекам на зямлі.

А цяпер, прыціскаючы да грудзей вялікі букет чырвоных вяргіняў, што зрэзала маці ў нашым палісадніку, я велічна крочу па вуліцы, не крочу, а маршырую — як салдат, як камандзір. На павароце азіраюся. Уся сям'я, стоячы на ганку, пазірае мне ўслед: строгі пахмурны бацька, невысокая стройная маці з маленькім брацікам Алесікам на руках, і другі брат, пяцігадовы Віцька.

Бацька сёння нават затрымаўся з выхадам на працу, каб мяне правесці ў школу. Ён у сваім заўжды нязменным цёмна-шэрым кіцелі без пагонаў, якія насілі ў тыя гады амаль усе работнікі дзяржустаноў, былыя франтавікі. Ёсць у бацькі і цывільны касцюм, але ён яго апранае не часта, з якой-небудзь нагоды.

Заўсёды на Дзень Перамогі — 9 траўня — ён дастае са схаванага ў шафе куфэрачка свае медалі і дазваляе мне з Віцем прымацаваць іх на пінжак. Спачатку мы прышпільваем «За боевые заслуги», пасля — «За победу над Германией», і потым яшчэ некалькі іншых.

Пра вайну бацька не вялікі аматар распавядаць. Калі аднойчы я папрасіў яго, каб расказаў пра вайну, ён нахмурыўся, уздыхнуў:

— Калі-небудзь, сын, як падрасцеш. Расказаць пра вайну — не казачку распавесці…

З маці ён больш гаваркі, але не заўсёды. Тую тэму — пра вайну — ён хаваў у сабе ўсё жыццё.

Аднойчы ўначы я прачнуўся ад іх нягучнай размовы.

— Сонца зайшло, цемра апраметная і цішыня, толькі немцы параненыя ў полі крычаць, сваіх клічуць. Дыскі мы ўсе расстралялі… Я і кажу: адыходзіць трэба, Мікалай, пакуль цэлыя… А ён раз'юшыўся, рукамі махае, зусім не пазнаць чалавека… Я разумеў яго. Мікола атрымаў ліст з Ленінграда: сям'я яго

пры бамбёжцы загінула — маці, бацька, жонка і дачка маленькая… Кажа злосным голасам: нікуды не пайду, пакуль апошняга гада не прыкончу. Фінку ў зубы і папоўз. Ну, і я за ім… Ён з немца штых-нож здымае і мне праз плячо кідае, быў загад такі — збіраць, мо дзеля ўліку іх страт, хто ведае… Два поўныя рамяні назбіралася, мо штук з сорак…

Маці ўздыхае, маўчыць. Потым напаўголаса гаворыць:

— А да нас у Лясец, неяк летам, прыехалі немцы, жудасныя, у чорнай форме… Сагналі ўсіх у адно месца. Галоўны праз перакладчыка пытаецца: «Хто камуніст, камсамолец, — падняць руку!». Я і сяброўка мая — Вольга Макшун, што побач стаяла, — былі адзіныя на ўсю вёску камсамолкі. Страшна ад такога загаду стала, але рук не падымаем, маўчым, галовы паапускалі… Перакладчык зноў паўтарае свой загад, і я адчуваю, што ўсе людзі чамусьці на нас пазіраюць… Падумала: «Мусіць выдаць нас немцам хочуць…» Усталявалася цішыня. І тут здарылася нечаканае — стараста вясковы, стары Іванчык, укленчыў перад афіцэрам і кажа: «Яны ж не камсамолкі, яны толькі настаўніцы, калі вы іх забераце — хто ж будзе вучыць нашых дзяцей?» Фашыст кажа: «Добра, праверым, але калі ты кажаш няпраўду, расстраляем і іх, і цябе». І расстралялі б, мусіць, ды пашанцавала: партызаны зрабілі каля Даманавічаў дыверсію, і немцы гэтыя неўзабаве ад нас з'ехалі…

Пасля доўгага маўчання зноў чуецца голас бацькі:

— Перад самай вайной далі мне ў часці водпуск, дзесяць сутак… Ехаць няма куды, акрамя як да старэйшага брата Фёдара, — ён тады з фінскай вярнуўся, ажаніўся… Пакуль дабраўся з Петразаводска ў свой Крычаўскі раён, пара ўжо і назад на службу, толькі два дні і пагасцяваў. Ад вёскі да станцыі кіламетраў з дзесяць. Брат у калгасе фурманку ўзяў, каб мяне адвезці. І трэба ж — з кіламетр нават не ад'ехалі, як даганяе нас «палутарка», — іх усяго на раён мо некалькі і было. Ну, падняў руку, каб супыніўся. Падумаў, чаго дарэмна каня марыць, на машыне далей паеду. Шафёр прытармазіў, я — за рэчмяшок, заскочыў у кузаў… Ды потым толькі ўспомніў, што з-за спешкі нават не абняўся, не пацалаваўся з братам. Здагадаўся толькі азірнуцца ды памахаць на развітанне рукой…

Маўчанне, напружанае маўчанне, бацька, мусіць, хавае ў сабе боль, не дае выйсці вонкі.

— Не магу, Вольга, сабе ўсе жыццё дараваць, што зрабіў так… Нейкая памарака найшла на мяне. А ўжо як сядзеў у той палутарцы, сябе дакараў, як толькі мог, за такое глупства… Падумаў жа запознена — колькі б мы маглі з братам за тую дарогу, пакуль ехалі да чыгуначнай станцыі, расказаць адзін аднаму, паўспамінаць, перагаварыць… Эх, бяда зялёная, жывём заўсёды заднім розумам. Ніколі сабе таго не дарую, што ад брата, роднага брата, уцёк. Я дэмабілізаваўся толькі ў сорак шостым. Прыехаў дадому, а брата няма на свеце…

Потым іх размова робіцца цішэй, і пад закалыхванне родных галасоў я зноў неўпрыкметку моцна засынаю…

У вялікай зашклёнай рамцы, дзе знаходзяцца фотаздымкі ўсёй нашай радні, ёсць тры фотакарткі маладых прыгожых хлопцаў у «будзёнаўках». Гэта бацькавы браты, значыць, мае дзядзькі, — я ж іх ніколі не бачыў.

Аляксей з Янкам загінулі на фронце, Фёдар вярнуўся з вайны спрэс скалечаны і неўзабаве памёр ад ран. Бацьку таксама крамсануў асколак нямецкага снарада: на яго спіне вялікая барвовая «латка» з парванымі краямі.

Ён працуе ў Калінкавіцкім аддзяленні Дзяржбанка. З дому выходзіць рана, вяртаецца позна, — з намі, дзецьмі, займаецца толькі ў выхадныя.

З вялікім нецярпеннем мы з братам чакаем бацькавага вяртання з экзаменацыйных сесій. Бацька вучыцца ў Ленінградзе — завочна ў інстытуце. Акрамя розных прысмакаў, што не знойдзеш у тутэйшых крамах, бацька заўсёды прывозіць кнігі — свае, па эканоміцы, для маці — яе любімых Пушкіна і Міцкевіча, іншую класіку, і нам — розную дзіцячую літаратуру.

Маці таксама вельмі занятая працай. Яна выкладае ў дзвюх калінкавіцкіх школах беларускую мову і літаратуру, але ж зараз, пасля нараджэння майго малодшага брата, у адпачынку.

Схільнасць да збірання цікавых кніг у мяне ад яе. Кніг у нашай хаце багата, імі забіта даверху вялікая драўляная этажэрка. Калі бацькоў няма побач, я з цікавасцю разглядаю «дарослыя» кнігі. Сярод іх ёсць адна без вокладкі, вельмі дзіўная: здаецца, па-расейску надрукавана, але ж у канцы шмат якіх слоў стаіць цвёрды знак, і яшчэ ў тэксце некалькі дзіўных літар сустракаецца, — у маім буквары такіх няма.

У старых, выдадзеных яшчэ мо да майго нараджэння, падручніках маці, на першай старонцы партрэт вусатага дзядзькі з прыжмурам вачэй, пад ім — верш беларускага паэта-класіка з назвай «Сталін». Тэксту я ўжо не памятаю, засталіся толькі ва ўспамінах рэфрэнам некалькі радкоў, якія паўтараюцца:

Як сонейка свеціць
Дарослым і дзецям.

(Дык вось, аказваецца, у гонар каго наша двухпавярховая цагляная школа раней звалася Сталінскай!)

Каля павароткі ў завулак я азіраюся, і з ганка мне ўсе махаюць рукамі. Тады я ўжо бягу з падскокваннем ўздоўж доўгіх штыкетных агароджаў на паралельную нашай — вуліцу Калініна, у пачатку якой («у горадзе») стаіць вялікі драўляны, счарнелы ад старасці, будынак. Двухпавярховая «Сталінская» школа перапоўнена, заняткі ідуць у тры змены, і з гэтай акалічнасці наш першы, а зараз ужо другі «б» клас часова змешчаны тут, у Доме піянераў.

Ад старэнькай буфетчыцы, што на вялікім перапынку прадае нам піражкі і кісель у шклянках, мы ведаем, што тут да рэвалюцыі знаходзілася яўрэйская сінагога, а потым, да вайны — гарвыканкам.

Гарадок наш невялікі. У цэнтры, па вуліцы Савецкай, брукаванка і драўляныя тратуары. Ад чыгуначнай станцыі, што нагадвае пра сябе паравозымі гудкамі, яго аддзяляюць пусткі і агароды. Праз горад працякае невялікая

рачулка, у якой летам мы весела плёскаемся, ловім апалонікаў і ўюноў. Дзятва называе яе «Пераплюйка» (яна ўсяго 3–4 метры шырынёй), аднак шыльда каля моста на Савецкай абвяшчае, што гэта «Закаванка».

А жанчыны, што палошчуць бялізну каля другога моста, на Гомельскім тракце, клічуць яе «Каўня». (Праз многія гады я прачытаў ў нейкім даведніку яе афіцыйную назву — «Канал Н-1. Калінкавіцкі канал». І ўжо зусім нядаўна, на мапах 1842 і 1878 гадоў, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, адшукалася яе сапраўдная, даўно забытая назва — рэчка Каленкаўка.)

Па святах на вялізную драўляную арку, што з'яўляецца ўваходам у агароджаны плотам гарадскі сквер (інакш бы яго хутка знішчылі козы з навакольных панадворкаў), прымацоўваюць белае палотнішча, на якім увечары бясплатна дэманструецца кіно. Звычайна гэта патрыятычная стужка накшталт «Красные дьяволята» ці «Подвиг разведчика».

Толькі паўгода таму ў Калінкавічах адчыніўся прасторны кінатэатр «Знамя», дзе ўжо не дэманструюць, як раней, у старым драўляным «Нардоме» (РДК) «нямое» кіно. Новая зала заўсёды і на ўсе сеансы запоўнена, а ў суботу ці нядзелю трапіць туды можна толькі тады, калі адстаіш вялізарную, выдаўжаную з фае аж на вуліцу чаргу.

У горадзе яшчэ няма высотных будынкаў гандлёвага дома «Берёзка», гастранома «Юбилейный», Палескага саўгаса-тэхнікума, велічнага Свята-Казанскага храма. На іх месцы несамавітыя драўляныя хаткі з садкамі і агародамі.

У крамах — чэргі, хлеб прадаюць па аднаму бохану ў рукі, цукар, крупы і любімыя намі цукеркі «падушачкі» — на вагу.

У горадзе, памятаю, яшчэ шмат гужавога транспарту, рэдкія аўтобусы заўсёды перапоўненыя, а вакол «Москвича», «Волги» ці «Победы» (на іх звычайна ў горад прыязджаюць лётчыкі з суседняга гарнізона Бабровічы) хутка збіраюцца хлапчукі і нават дарослыя.

У хатах яшчэ няма цэнтралізаванага ацяплення, водаправода і не праведзены газ. Да ўладальнікаў рэдкіх тэлевізараў, каб паглядзець канцэрт сталічных артыстаў, вечарамі збіраецца амаль што палова вуліцы. Калі людзі не ўмяшчаюцца ў хаце, «цудоўную скрынку» прымацоўваюць на падваконнік раскрытага насцеж акна. Затое амаль што ў кожным жылым пакоі, і нават дзе-нідзе на вулічных слупах, вісяць чорныя «талеркі» радыётранслятараў, якія скіраваны на адну хвалю:

— …міралюбівая знешняя палітыка нашай партыі і дзяржавы… агрэсіўная сутнасць імперыялізму… вышэй сцяг сацыялістычнага спаборніцтва!

На крамах і афіцыйных будынках вісяць плакаты з заклікамі перавыконваць заданні «сямігодкі» і ўрачыста абвяшчаецца, што сучаснае пакаленне савецкіх грамадзян будзе жыць пры камунізме.

Мы, зялёная моладзь, не сумняваемся, што так яно і будзе насамрэч. Дарослыя не вельмі вераць, але ж размаўляюць пра тое няшмат, напаўголаса, час ад часу ганьбячы нейкага «кукурузніка». У вачах большасці з іх — змо-

раная, незразумелая ў той час нам, дзецям, асуджанасць ад няздзейсненай пасля страшэннай вайны і перамогі ў ёй мары аб лепшым жыцці. І яшчэ ніхто не ведае, што дзесьці далёка ўжо праходзіць падрыхтоўку на касманаўта Юрый Гагарын, і яшчэ ніхто не здагадваецца, што ў гэтыя восеньскія дні нашым Калінкавічам спаўняецца чатырыста гадоў.

У старой драўлянай «забягалаўцы», якую нядаўна перайменавалі ў «Рэстаран», засядаюць цаліннікі, якія вярнуліся з казахстанскіх стэпаў. А шыльду «Чайная», што звалі яшчэ і забягайлаўка, перанеслі далей, у такую ж самавітую будыніну, што месцілася напачатку Жыткавіцкага тракту. Звычайна яна пустуе, але ж у кірмашны дзень біткам набіта фурманшчыкамі з навакольных вёсак, якія п'юць зусім не гарбату, а напой з «градусамі». Тут сустракаюцца былыя аднапалчане, і тады перакус зацягваецца надоўга, а праз шырока расчыненыя дзверы разам з клубамі дыму ад «Беламорканала» і тутэйшага самасаду на вуліцу даносяцца шматкі сардэчных гутарак.

— А памятаеш, дружа, як з разведкі ноччу вярталіся… заляглі на «нейтралцы», лупяць і немцы, і свае… не, ён потым загінуў, а я ў шпіталь трапіў, у Саратаў…

Падчас рэлігійных святаў ажыўляецца звычайна пусты двор прыгожай муравнай Свята-Нікольскай царквы, што насупраць гарадскога сквера. Мы, школьнікі, народ, асветлены школай, дакладна ведаем, што рэлігія — гэта опіум для народу (злавеснае слова «опіум» азначае, відавочна, нешта дрэннае, атрутнае), але ж з цікавасцю пазіраем здалёку на гэты натоўп, складзены ў асноўным з пажылых кабецін, нейкіх старцаў і жабракоў.

Запомніўся адзін жабрак сярэдніх гадоў, што заўсёды прасіў міласціну, — калі побач не было міліцыянераў, сядзеў заўсёды на пероне чыгуначнай станцыі. Спаміж ног у яго павернута «гузікам» уніз зашмальцаваная шапка з некалькімі медзякамі; абедзве рукі адсечаны вышэй запясцяў. Мясцовыя яму не падаюць, бо ўсе ведаюць, што гэта былы паліцай. Яго пакаралі так партызаны за жудаснае злачынства, пра якое пераказваць не хочацца.

Хіба толькі пасажыры, што сыходзяць на станцыі з цягнікоў, кідаюць яму дробязь, думаючы, што гэта інвалід вайны. Калі ж састаў адпраўляецца далей, ён падхопліваецца, спрытна падхоплівае сваімі кульцямі пляскатую шапку — і знікае.

Гэтаму, лічы, яшчэ пашанцавала, лёгка (калі так можна казаць) выкруціўся. Старэйшыя хлопцы паказалі нам, малечы, галіну на старым дубе, — насупраць чайной, на якой пасля вызвалення горада нейкія «смершаўцы» (і што за людзі такія, пра якіх гавораць шэптам?) прылюдна павесілі пяцёх злоўленых паліцаяў.

І калі наш дзіцячы гурт (мае суседзі-аднагодкі Алесь Мельнік, Віктар Масқаленка, Валера Шаўко, Васіль Ком і я), здараецца, увечары крочыць паблізу таго дуба, усе размовы адразу змаўкаюць, на душы робіцца жудасна, і мы трывожна кідаем позіркі ў цемрадзь лістоты, нібы там можна ўгледзець тых вісельнікаў.

Яшчэ адзін прывід існуе на так званай «Адамчыкавай горцы». Уласна кажучы, гэта ўжо мы так празвалі вялікую ўзгорыстую пясчаную пустку на ўскрайку Гомельскага тракту, таму што ў бліжэйшай да яе хаце жыве Адамчык, хлопчык гадоў сямі. У студзеньскую ноч сорак чацвёртага, калі нашы войскі з боем бралі горад, з гэтай горкі па іх вёў жорсткі агонь нямецкі кулямётчык. Калі фашыста абышлі і забілі, то выявілася, што гэта быў нейкі штрафнік, прыкаваны да свайго кулямёта ланцугом.

Гэта зусім не байка. Бацька Адамчыка, Павел, неяк распавёў сябрам, што доўга валтузіўся, пакуль зняў з мерцвяка той ланцуг, а потым — спраўны кажух. Ужо ў сталым узросце, завітаўшы неяк з Мурманска да малодшага брата ў нашу «фінскую хатку», я са здзіўленнем пачуў, як майго пляменніка-падлетка клікалі з вуліцы сябры:

— Віцька, чакаем цябе на Адамчыкавай горцы!

Яна існуе і сёння, хаця, як мне здаецца, моцна зменшылася ў памерах. І Адам Паўлавіч, ужо маючы ўнукаў, жыве ўсё там жа.

Пасля заканчэння вайны мінула ўжо пятнаццаць гадоў, але сляды яе ўсё яшчэ бачныя і прыкметныя. На нашай вуліцы жывуць некалькі адзінокіх салдатак, чые мужы загінулі на фронце. Дзеці ўжо выраслі і раз'ехаліся па свеце альбо памерлі ў віхурным ліхалецці.

Па шматгадовай звычцы рабіць акрамя сваёй, жаночай, яшчэ і мужчынскую працу яны спрытна ўпраўляюцца з канём, колюць дровы і цягаюць на сабе вялікія мяхі з бульбай. Дзве з іх — Тамара і Хрысціна — часта сустракаюцца каля калодзежа насупраць нашае хаты і, паставіўшы вёдры з карамысламі на зямлю, аб нечым доўга баюць. Іншы раз вецер даносіць іх размову, і я здагадваюся, што так ажыўлена абмяркоўваюцца здарэнні неймавернай даўніны.

— Ужо як я прасіла, як маліла гэтага немчыка: паночку, даражэнькі, не забірай падсвінка, у мяне ж дзеткі малыя, а ён шчэрыцца, рожа паганая, «гут», «гут» — забралі, і курэй апошніх палавілі…

На ўскрайку суседняй вуліцы Загараднай, амаль што ў лесе, стаіць маленькая, урослая ў зямлю хатка з адзіным акном і страхой з чароту. Каля яе няма, як ля іншых, агарода ці палісадніку, усё навокал у зарасніку пустазелля. Тут жыве старая Тэкля — дробненькая, сухенькая, з пранізлівымі вачамі на маршчыністым твары вар'ятка.

Па ўласцівай дзіцячым зграйкам жорсткасці мы іншы раз шпурляем услед розным бадзягам і жабракам каменьчыкі ці снежкі (гэта наша вуліца!), але ж Тэклю ніколі не чапаем. Мы ведаем, што ў 1945 годзе, па нечым недаглядзе альбо дурнаце, у Тэкліну хатку, акурат у Дзень Перамогі, прынеслі «пахаванку» на яе адзінага сына. Гаспадара яе, простага калгасніка, яшчэ да вайны арыштавалі як «ворага народа» і расстралялі.

У той дзень Базарная плошча з навакольнымі вуліцамі былі запруджаны святочным натоўпам. Тут былі ўсе жыхары Калінкавічаў, медыцынскі персанал і параненыя, акрамя ляжачых, са шпіталя, што месціўся ў «Сталінскай» школе. Гучаў духавы аркестр, усе абдымаліся, танцавалі, радасна спявалі —

усе, акрамя гэтай жанчыны. Людзі бачылі, як яна моўчкі блукала ў натоўпе, выдаўжыўшы наперад руку — трымала ў ёй тую жоўтую паперчыну. З таго дня, мусіць, яна і страціла розум.

Паўз нашую хатку часта праходзіць зграбны мужчына гадоў пад сорак, забеспячэнец канторы па нарыхтоўцы жывёлы. Будынак яе знаходзіцца на самым краі вуліцы Бялова. У яго руцэ нязменны партфель, другі рукаў шарсцяной гімнасцёркі пусты, спрытна падаткнуты пад афіцэрскую папругу. Увесь твар у шнарах і плямінах апёкаў: гарэў у танку.

У суседа Рамана адна нага значна карацейшая за другую, з-за чаго ён ходзіць вельмі павольна і неяк бокам. Пра яго расказваюць, што праваяваў толькі адзін дзень, і ў гэты ж дзень яго паранілі. У другога суседа, старога Астапа, адной нагі зусім няма — страціў яе яшчэ ў Першую сусветную. Седзячы ў пагодлівы летні вечар на калодзе ля свайго плота, ён дыміць саваёй піпкай-«насагрэйкай» і распавядае Раману ці каму іншаму пра тую сваю вайну і пра грамадзянскую, сведкам якой ён быў ужо дома.

— Як пагнаў Будзённы пілсудчыкаў на захад, дык і паны нашы, Горват з Навакоўскім, хутка ў Варшаву збеглі. Пакуль безуладдзе, пачалі мужыкі лясы панскія сячы — хто сабе на хату, хто на продаж… Жаўнеры польскія не пярэчылі, памятаю, казалі толькі: «Сячыце, сячыце, пся крэў, сячыце і сасну і дуб, але ж толькі лазу не чапайце. Калі мы вернемся, мы той лазой вас сячы будзем». Не вярнуліся, дзякуй Богу…

На Астапавым двары няма сабакі, і таму ў сезон мы бязбоязна лазім туды па чарэшні, што рана тут выспяваюць. Іншы раз стары заўважыць нас праз акно, стукае па шкле пальцам і махае сваёй мыліцай. Сыходзім з двара спаважна і знарок запаволена — усё роўна ж бязногі, не дагоніць.

Улетку, карыстаючыся тым, што ў нашых бацькоў, змораных штодзённай цяжкай працай, да нас проста рукі не даходзяць, мы робім вылазкі ў лес за ўсходняй ускраінай горада. Там шмат траншэй, акопаў і бліндажоў, якія хаця ўжо і пазарасталі хмызняком, але ўсё яшчэ захоўваюць у сабе нямала вайсковых трафеяў.

Калі па траншэі змяяцца кавалкі чырвонага тэлефоннага дроту — гэта нямецкая. Патроны ляжаць тут пад тонкім пластам зямлі дзе-нідзе проста россыпам, за пяць хвілін можна назбіраць поўныя прыгаршчы. Мы кідаем іх у вогнішча і жвава хаваемся па акопах і варонках, прыпадаючы да зямлі. Неўзабаве чуецца частае хлопанне, а іншы раз недзе побач ціўкне шалёная куля. І жудасна, і весела! Пры раскопках зрэдку трапляюцца таксама міны і снарады, але ж мы іх у рукі не бяром: гадоў са тры таму некалькі хлапчукоў з вуліцы Куйбышава ўзарвалі вялікі снарад і ўсе, акрамя аднаго, загінулі. Ацалелы зараз амаль не чуе, моцна кульгае і ходзіць у школу заўсёды адзін…

Але ж больш вабіць іншае. З сябрам Алесем Мельнікам, таксама вялікім аматарам кніг, мы часта наведваем дзіцячую бібліятэку, што займае частку старога драўлянага будынка па вуліцы Першамайскай і заўсёды перапоўнена дзятвой. Паклаўшы свае кніжкі на яшчэ высокую для нас стойку, мы стаім

у чарзе да бібліятэкаркі і з цікавасцю разглядаем выстаўленую насупраць нас, на паліцах, літаратуру.

Мяне асабліва вабіць пяты том («Сусветная гісторыя») шматтомнай дзіцячай энцыклапедыі. Але ж строгая гаспадыня ўсіх гэтых кніжных багаццяў хутка спыняе мае настойлівыя прэтэнзіі — малы яшчэ! (Праз паўгода яна ўсё ж дасць мне гэтую вялікую жоўтую кнігу, якую я перачытаю разы тры, напэўна.)

За першы год навучання мы моцна пасябравалі і напрыканцы летніх канікулаў з вялікай нецярплівасцю чакалі новай сустрэчы ў школе. Клас быў вялікі, інтэрнацыянальны: больш за палову яго складалі яўрэйскія хлапчукі, астатнія былі «тутэйшымі» — беларусамі, у тым ліку і я, і рускімі, у асноўным з сем'яў вайскоўцаў, што жылі ў калінкавіцкім ваенным гарадку.

Нават праз паўстагоддзя я добра памятаю тую бурлівую, нястрымную, набытую за лета энергію сваіх васьмігадовых равеснікаў. На парце каля дзвярэй сядзяць сын чыгуначніка Валера Гуцаў (вывучыўся потым на інжынера) і першая прыгажуня класа Таццяна Нізаўцова (будучы галоўны эканаміст аднаго з калінкавіцкіх прадпрыемстваў). За імі — Рыгор Тозік (скончыў «мараходку», стаў судавым механікам), Люда Церашковіч (зараз кіруе раённым ДК), Валера Міронаў (авіяцыйны тэхнік), Вольга Цімашэнка (настаўніца), Коля Завядзееў (высакакласны электрык) і Таццяна Малашчанка (харэограф).

А вось Эла Махцюк, Аркадзь Феферман, Фіма Шэхтман, Слава Сусцін, Рэгіна Гозман, Фіма Фактаровіч, Аркадзь Голад — яны з цягам часу пераехалі ў Ізраіль, ЗША і адбыліся там як паспяховыя прадпрымальнікі, урачы і педагогі. На перадапошняй парце сярэдняга рада сядзім я і мой цёзка, Валодзька Скаржынскі, сын начальніка калінкавіцкага ваеннага шпіталя; у дарослым жыцці абодва мы станем афіцэрамі.

Сёння, на першым занятку новага навучальнага года, мы ўважліва слухаем нашу настаўніцу — Ніну Гаўрылаўну Куляшову. Усе дзяўчынкі нашага класа (і хлапчукі таксама) у яе проста закаханыя.

Ужо ва ўзросце, лагодная і спакойная, з мяккім прыемным голасам, яна пільна назірае за кожнай партай, іншы раз павольна ходзіць па класе, схіляючыся над нашымі сшыткамі.

Ніна Гаўрылаўна ведае ўсё пра кожнага з нас, ведае нашых бацькоў, старэйшых братоў і сясцёр, ведае шмат цікавага — ведае, здаецца, усё на свеце! А яшчэ — яна жонка былога чырвонага кавалерыста, што ваяваў на грамадзянскай у дывізіі самога Чапаева!

Настаўніца распавядае нам аб нашай Радзіме, яе гісторыі, аб цяжкіх дваццатых гадах, калі яны, маладыя калінкавіцкія камсамольцы, будавалі новае жыццё, аб усенароднай вайне з фашыстамі; расказвае пра вучня чыгуначнай школы Косціка Ярмілава і яго сяброў, герояў калінкавіцкага падполля, пра вызваленне і пасляваеннае аднаўленне Беларусі. Памятаю, калі яна скончыла свой аповед, я падняў руку і спытаў, што азначае назва нашага горада і калі ён з'явіўся.

— Калінкавічы яшчэ не так даўно былі маленькім мястэчкам, — адказала Ніна Гаўрылаўна, — і я чула, чаму так называліся: былі ў акружэнні калінкавых гаёў. У кожнага горада ёсць свая гісторыя, і наша, напэўна, таксама вельмі цікавая. Але ж яна яшчэ не напісана, і, можа, гэта зробіш менавіта ты, Валодзя, калі вырасцеш…

Гэтыя словы мудрай жанчыны я запомніў на ўсё жыццё. Яны сталі нават компасам у маім жыцці.

Я кожны дзень збіраю крупінкі нашай гісторыі, яе светлыя старонкі, падзеі і эпізоды. Іх назбіралася шмат. І неўзабаве я выпушчу кнігу, якая будзе называцца «Майго дзяцінства горад».

…А сумка тая афіцэрская, што маці купіла, і сёння ў шафе ляжыць. Як напамінак пра той час.

Ды і напрарочыла гандлярка мне мой лёс — стаў я афіцэрам, ды яшчэ і марскім, на трох морах на караблі плаваў. А ўсё роўна ж прыплыў у свае родныя Калінкавічы — у свой родны край. Бо тут мой прычал, тут мая гавань, тут прапісаны я на ўсё жыццё.

Кожны чалавек павінен мець такую прапіску: далучанасць да роднага котлішча. Прапіска-штэмпель той ставіцца не ў казённым пашпарце, а ў душы чалавека. І тады прыналежнасць да родных каранёў ніколі не знікае, ніколі не мяняецца. Яна застаецца з чалавекам назаўсёды.

## УЛАДЗІМІР ЛЯКІН




Нарадзіўся 16 кастрычніка 1951 года ў гарадскім пасёлку Хойнікі Палескай (цяпер Гомельскай) вобласці. Аўтар кніг «Свет православия на калинковичской земле» (напісаная ў суаўтарстве з протаіерэем а. Георгіем Камінскім), «Фамилии калинового края», «Мы с берегов Каленковки», «Калинковичи на перекрестке дорог и эпох», «Мозырь в 1812 году» і інш. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Калінкавічах.

## МІКОЛА ФЯДОСІК

### Споведзь ветэрана

*Апавяданне*

Карп Антонавіч Акуліч характар меў спакойны, вылучаўся сярод усіх ураўнаважанасцю, нейкай незразумелай цярплівасцю.

Росту ён быў невысокага, так бы мовіць, ніжэй сярэдняга, крыху сагнуты ў плячах, але з таропкай хадой. Кароткая шыя, а на круглым твары ненатуральна выторкваўся прыплюснуты, шырокі чырвоны нос.

Ён стараўся не вылучацца з пенсіянерскай грамады, ніколі не лез у спрэчкі, ніколі не мітынгаваў, калі трэба было выказаць сваю думку па нейкім важным, ветэранскім, пытанні.

Здзіўляла яго добразычлівасць. Хто б ні звярнуўся да яго па дапамогу ці параду, ніколі не адмаўляў. Маглі ж яго папрасіць напісаць нейкую «разумную» паперу да ўладаў, растлумачыць нейкае незразумелае слова ці нават прыбраць у памяшканні.

Акуратыст ён быў незвычайны. Яго акуратнасць межавала з педантычнасцю. Карп Антонавіч — сакратар партыйнай арганізацыі домакіраўніцтва. А гэтая пасада абавязвала да многага.

Калі ж ён не паспяваў нейкае даручэнне выканаць у тэрмін, абавязкова дакладваў свайму начальству — ці то домаўправу, ці то райкаму партыі… І пры гэтым ён меў такі вінаваты выгляд, быццам учыніў нейкае злачынства, якое падпадала пад крымінальны кодэкс.

На субяседніка ён заўсёды глядзеў пільна і ўважліва, выслухоўваў яго да канца, хаця той мог гаварыць і гадзіну, і дзве… Такі ўжо ён чалавек — усім хацеў дапамагчы, усім дагадзіць.

У той час грамадскай працай займаліся ўсе, хто таго жадаў ці каго нагружалі гэтым абавязкам. Але ж нават і ў гэтай, здавалася б, аднаколернай масе Акуліч вылучаўся — непрыкметнасцю сваёй і маўклівасцю.

Заўважалі мы за ім і іншае. На ім заўсёды — у любую пару года — быў адзін і той жа шэры, у палоску, касцюм. Зімой і летам нязменнымі заставаліся чорныя, на каўчукавай падэшве, чаравікі і засціраная, да дзірак, кашуля. Быў чалавек вельмі бедны? Наўрад ці… Абыякавасць да свайго знешняга выгляду? Невядома… І спытаць у яго пра тое неяк не выпадала — яшчэ можна пакрыўдзіць неасцярожным пытаннем добрага чалавека.

Тады, у тысяча дзевяцьсот семдзесят восьмым годзе, напярэдадні Дня Перамогі, раённае начальства вырашыла запрасіць на ўрачыстае пасяджэнне ветэранскі актыў.

Зразумела, сярод запрошаных аказаўся і Карп Антонавіч.

На такія мерапрыемствы ветэраны, як правіла, прыходзілі з баявымі ўзнагародамі. У будні ніколі не насілі, але тут, з такой нагоды…

Я загадваў арганізацыйным аддзелам райкама партыі, а мой сябар Павел Собаль быў інструктарам нашага аддзела.

Мы, як зачараваныя, глядзелі на шматлікія ўзнагароды і любаваліся бляскам ордэнаў і медалёў.

Міжволі наш погляд спыніўся на невысокім сівым мужчыне ў форме артылерыйскага капітана.

На яго грудзях — два ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны першай і другой ступені, Чырвонага Сцяга, два медалі «За адвагу», а таксама «За баявыя заслугі» і «За перамогу над Германіяй». Не было ніякіх юбілейных, а толькі здабытыя «потам і крывёй»…

— Гвардыі капітан Акуліч, — назваўся ён, кашлянуўшы ў кулак, прачышчаючы горла ад хвалявання.

Не можа быць! Няўжо гэта Карп?! Якім непазнавальным ён стаў у гэтай форме! А яго ўзнагароды сведчылі, што ён не з баязлівага замесу, што не раз абдымаўся са смерцю… Тады адкуль у яго такія ціхмянасць, сціпласць і, даруйце, прыніжанасць?

Як можна быць такім — чалавекам у дзвюх ролях?

Пасля таго, як прайшла афіцыйная частка, як артысты паказалі сваё майстэрства і спявалі пра «салаўёў, якія не давалі спаць салдатам», — прыступілі да неафіцыйнай часткі. «Стаграмовай»…

Традыцыя тая ніколі не парушалася, не парушылася яна і цяпер.

Ветэраны пачалі шмат жартаваць, расказвалі яшчэ больш ахвотна пра вайну, пра сяброў, пра тых, хто не дажыў да гэтага дня… Адзін толькі Карп Антонавіч заставаўся маўклівым і пасіўным да ўсяго, што адбывалася вакол. Мы падышлі да яго з роспытамі. Канкрэтныя пытанні задавалі — за што атрымаў узнагароды.

— Навошта гэта вам, дарагія мае? Нічога значнага і адметнага ў маім ваенным жыцці не было…

— Дык жа ордэны — іх жа за проста так не даюць, Карп Антонавіч! І чаму вы не носіце юбілейных медалёў? Іх жа вам уручалі…

Ён кісла ўсміхнуўся:

— Юбілейныя? Хай іх і носяць тыя, хто іх прыдумаў… На фронце ўзнагароды трэба было атрымліваць, а не ў мірны час…

Былы артылерыст дастаў з кішэні партсігар, няспешна прыкурыў «прыміну», зацягнуўся дымком. Мы налілі яму поўную чарачку, як і сабе, прапанавалі выпіць за Перамогу…

— Адкуль я родам, пытаеце? Ды з Чачэрска… Бацькоў не памятаю — памерлі, калі я быў яшчэ маленькі. Мяне і дзвюх сясцёр узялі на выхаванне сваякі. Перад самай вайной скончыў педвучылішча. У Валасовічах трохі настаўнічаў — там была сямігодка. Але папрацаваць не прыйшлося — паклікалі ў войска…

Мы зноў напоўнілі чаркі, выпілі за баявых сяброў. А потым ветэран адмовіўся піць, прапанаваў замест гэтага выйсці на вуліцу, пасядзець у скверы на лаўцы.

— У арміі мяне накіравалі ў школу малодшага камандзірскага саставу, — працягваў далей Карп, зацягваючыся з асалодай дымком. — А як пачалася вайна, стаў камандзірам «саракапяткі». Першы бой прыняў пад Жлобінам… Мы тады ўдала выбралі пазіцыю — на павароце ракі, у лазняках. Наш разлік адразу ж падбіў танк і два браневікі. А потым што пачалося… Пекла пачалося… Самалёты скідвалі на нас бомбы — яны рваліся вакол, узлятала чорнае месіва ў неба…

Мы маўчым, не перабіваем, даём магчымасць перадыхнуць, каб ён з новай сілай «кінуўся ў свае ўспаміны»…

— Не памятаю, што адбылося… Ачуняў толькі ў Смаленску. Ну, за той першы бой і медаль «За адвагу»… Узнагароджвалі тады рэдка, і я сам не ведаю, чаму камандзіры выбралі толькі наш разлік.

Паўз нас прайшла маладая пара, убачыўшы ўзнагароды на грудзях Карпа, нахіліліся ў паклоне:

— Віншуем, дзядуля, з Днём Перамогі!

— Дзякую, дарагія, і вас з Перамогай.

Зноў ветэран нейкі час маўчыць, збіраецца з думкамі.

— Пасля шпіталю — пераафармленне. І — зноў у бой… Мы ўжо былі пад Масквой, у складзе групы Ракасоўскага… О, запомніў я тую ночку! Марозная, ядраная. А перад намі, за нашай высоткай, — прасторнае поле і шлях пасярэдзіне яго. Той шлях нам і было загадана перакрываць — па ім мерыліся фашысты гнаць тэхніку. Акопваліся ўсю ноч. Акапаліся, паспелі яшчэ і наладзіць запасныя пазіцыі. Толькі прылеглі прыдрамнуць, як гучыць каманда: «Да бою! Немцы наперадзе!..» На сталіцу прэ немец, а нам яго спыніць трэба. Яны не чакалі, што на іх дарозе мы наладзілі перашкоду… Ну, расстралялі мы іх, як курапатак… Паўгадзіны спатрэбілася на тое. І адразу ж на запасныя пазіцыі падаліся… Да таго часу мы ўжо трохі абабіліся, навучыліся сустракаць ворага без страху і панікі. Самалёты на нас кінулі… Але, на дзіва, яны нам вялікай шкоды не ўчынілі… Як толькі сціхла, на полі паказаўся бранявік. Дыстанцыя да яго была амаль недасягальнай, але мы падбілі яго першым жа снарадам — аж самі здзівіліся сваёй удачы. Бранявік крута развярнуўся і спыніўся. У бінокль убачылі, як адчыніўся люк і адтуль выскачылі два салдаты. Ды што гэта? Мы сваім вачам не паверылі — яны ў нашай форме! Ды і машына аказалася нашай… Во як яно бывае на вайне! А вы — «раскажы пра подзвігі, пра баі…»

Карп цяжка ўздыхнуў, зноў закурыў. Ён ужо болей, мусіць, і не хацеў нічога расказваць.

— Каб рэабілітавацца, пабеглі мы да іх на дапамогу… Снарад пашкодзіў правае кола. Вадзіцелю толькі твар асколкамі драпнула… Сяржант-разведчык атрымаў невялікую кантузію. А маладзенькаму лейтэнанту, камандзіру разведроты, развярнула жывот… Памёр па дарозе ў медсанбат… Хлопцы з разведкі вярталіся, а мы іх — як самых злосных фашыстаў… Ніколі не забуду такой ганьбы…

Карп Антонавіч усхліпнуў, уздрыгнулі плечы.

— Ваякі, тваю маць… Ну, само сабой, мяне і наводчыка пад вечар арыштавалі. Я ўзяў віну на сябе, і яго адпусцілі. Думаў, што да раніцы мяне расстраляюць — ужо развітваўся ў думках з бацькамі, з усім светам. Богу пачаў маліцца… Раніцай пад канвоем павялі ў асобы аддзел. Я за адну ноч стаў сівым-сівым… Ідзём, а па дарозе бачым, як генерал Ракасоўскі з нейкім палкоўнікам размаўляе. Убачыўшы нас, жэстам спыніў камандзіра, паклікаў нас да сябе.

— Дэзерцір? — спытаў у канваіра Ракасоўскі.

— Не, таварыш камандарм… Памылкова падбіў нашых разведчыкаў, калі яны вярталіся з баявога задання…

Паглядзеў на мой медаль, зацікавіўся:

— За што ўзнагарода, салдат?

— Наш разлік расстраляў варожую калону…

Канстанцін Канстанцінавіч паглядзеў на начальніка штаба, загадаў:

— Разбярыся, што да чаго, і адпраў мне гэтага смелага хлопца ў часць. Няхай ваюе, бо нам вельмі патрэбны знішчальнікі танкаў.

Мы ўсміхаемся, радуемся за Карпа Антонавіча, гаворым:

— Во як лёс іграе чалавекам…

— І не кажыце! А далей… Што далей? Прыбыў у батарэю, а з майго разліку ўжо не было нікога ў жывых. Раздушыў, бедных, нямецкі танк. А я, хто павінен быў памерці, застаўся… Таму я і сёння не ведаю — жывы я ці мёртвы. Вось і не вер пасля гэтага ў свой лёс, як не паверыць пасля гэтага, што мне памог Гасподзь, калі я звярнуўся да Яго з малітвай… Тады я ўзяў у пахавальшчыка дадзеныя таго лейтэнанта, што мы ненарокам падбілі… Узяў фатаграфію жонкі і дачкі… Я яго, паміраючага, да сённяшняга дня бачу — у сне часта наведваецца. Але што дзіўна — не папракае мяне ні ў чым, сядзіць насупраць і маўчыць. У руках толькі фота трымае — жонкі і дачкі. Не магу дараваць сабе таго… Калі ж я забіваю ворага, то я герой. А калі я свайго забіў, хто я тады, га? Забойца… Мо і дарэмна тады мяне не расстралялі, не насіў бы я і па сёння боль і віну ў сабе…

Мы супакойваем як можам ветэрана. А ён не на жарт расхваляваўся, месца сабе не знаходзіць, зубамі скрыгоча. Ніводнага разу мы не бачылі яго такім.

— Вы думаеце, гэта я такім мужным быў на фронце? Ды не… Сумленне мяне прыпірала да сценкі. Не мог тады дараваць выпадак з разведчыкамі… Ну і лез у гушчыню падзей, смерць сваю шукаў… Але яна, мусіць, пачала аббягаць мяне пасля таго… Дужа не спадабаўся я ёй сваімі паводзінамі. Да канца вайны, як ваяваў, у якіх баях ні ўдзельнічаў, нават не драпнула мяне… Во яно як здараецца…

Зноў «прыміна» ў зубах, але яго хваляванне зменшылася, голас вераўняўся. Ужо спакойна ён працягваў:

— Пасля вайны адразу ж на Палтаўшчыну падаўся… Адшукаў жонку і дачку таго лейтэнанта. Расказаў усё, як адбылося, павінаваціўся перад імі. Спачатку мне Таццяна, так звалі ўдаву, не паверыла, «пахаванку» паказала, у якой чорным па белым было напісана, што «лейтэнант Рыгор Раштэнка

ў цяжкіх баях з ворагам прапаў без вестак…». Таццяна працавала настаўніцай пачатковых класаў. І я ўладкаваўся туды ж — настаўнікам гісторыі. Усё, здаецца, было добра, ды сустракаў я касыя позіркі яе калег. А сваякі лейтэнанта, які загінуў па маёй віне, дык і зусім Таццяне ў вочы казалі, што за забойцу свайго мужа замуж выйшла… Не мог я трываць такое, хаця ў нечым яны і мелі рацыю… Прайшоў нейкі час, і я кажу Таццяне: «Паехалі да мяне ў Чачэрск, разам дачушку Аксану гадаваць будзем…»

Ветэран нейкі час маўчаў, унурыўшыся ў сябе, а потым, убачыўшы, што ў нас з Паўлам не прапала жаданне яго даслухаць да канца, уздыхнуў:

— Эх, вайна, вайна… Колькі яна жыццяў пакалечыла… Мы пабудавалі ў Чачэрску дом, жылі дружна. А дачку якую выгадавалі! Прыгажуня! Хлопцы на яе заглядваліся. Мы з жонкаю дзяцей так і не нарадзілі. Вінаваты ва ўсім быў я. Думаў так: да сваіх буду ставіцца лепш, чым да прыёмнай. Вы думаеце, што я не заўважаю ў вашых поглядах здзіўлення, калі бачыце мяне штодня ў адным і тым жа пінжаку? І здзіўляецеся, чаму я нават начую на працы…

— Беднасць — не загана… — прамовіў Павел Собаль.

— Ды не ў гэтым прычына… Я ж чалавек не бедны. Проста ўсё, што ў мяне ёсць, што зарабляю, аддаю дачцэ і ўнуку. Яны ж засталіся для мяне самымі блізкімі і кроўнымі людзьмі. Пасля вяселля дачкі мы з жонкаю купілі для іх кватэру тут, у Гомелі. Я ж трыццаць год адрабіў дырэктарам школы. А калі з’явіўся ўнук, купілі для дачкі і ўнука «Масквіч» — мне выдзелілі, як ветэрану. Ды вось якая бяда атрымалася… На легкавушцы, вяртаючыся з Гомеля, і разбіўся зяць Ігар з маёй Таццянай… П’яны трактарыст на сустрэчную паласу выехаў. Зноў я аказаўся віноўнікам няшчасця: хаця і ўскосна, але ж прыклаў руку да трагедыі… Вельмі ж жонка не хацела, каб я купляў тую легкавушку, працівілася. І ў машыну тады нехаця сядала, усё аглядвалася на мяне, як прасіла ўсё роўна, каб я адмяніў тую паездку ў Гомель… Не паслухаў раней яе жаночага сэрца — яна ж як прадчувала ўсё роўна тую бяду… А цяпер маё жыццё поўнасцю належыць дачцэ Аксане і ўнуку Славіку…

Карп Антонавіч замоўк. Яму больш не хацелася гаварыць. Ён нам выказаў свой боль, які насіў у сэрцы, можа, упершыню ў жыцці расказаў праўду пра сябе… Уздыхнуў і, гледзячы сабе пад ногі, глуха прамовіў:

— Вы, хлопчыкі, ідзіце, а я адзін пабуду… Мне трэба пабыць аднаму. За мяне не хвалюйцеся — расказаў вам, і мне неяк лягчэй стала… Ідзіце, ідзіце…

Мы, ладна адышоўшы, азірнуліся: Карп Антонавіч, не мяняючы паставы, так і сядзеў на лаўцы, унурыўшыся ў зямлю. І выглядаў ён няйначай помнікам мінулай вайны, якая прынесла столькі гора і пакут чалавецтву і асабіста яму…

## МІКОЛА ФЯДОСІК



Нарадзіўся на Петрыкаўшчыне ў вёсцы Лучыцы. Кандыдат тэхнічных навук, выдатнік адукацыі Беларусі. Працаваў генеральным дырэктарам аб'яднання пластмасавых вырабаў, начальнікам абласнога ўпраўлення «Быттэхінвентарызацыя». Цяпер узначальвае прыватнае прадпрыемства «Эксперт-Форум». Друкаваў апавяданні ў газеце «Дачнік», у альманаху «На зямлі Залатавуста» (Тураўшчына) — нарыс «На сваёй зямлі», у часопісе «Полымя» аповесць «Служу Радзіме» і апавяданне «Хілько-Хвалько», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» апавяданне «Адзінотнік».

## ІВАН САЧУК

### І сняцца мне матуля і вайна…
*Урывак з дакументальнай аповесці*

Кожны раз, калі нараджаецца вясна, калі абуджаецца зямля пасля доўгага зімовага сну, калі пад першымі цёплымі промнямі пачынае раставаць снег і сцякаць раўчукамі ў лагчыны, — у адну і тую ж ноч, паўтараючыся так з году ў год, у адзін і той жа час, заўсёды пачынае плакаць-смылець мая душа, непакоіцца, турбавацца, заходзіцца шчымліва-горкім болем, не знаходзячы супакаення…

Надараецца тое заўсёды пад раніцу, калі самы сон…

Я сплю і не сплю, бо яскрава адчуваю, як мяне зноў і зноў нехта штурхае і кідае ў агонь… Я ведаю, што не вярнуся адтуль, ведаю, але не стараюся абараніцца ад агню, уцячы ад яго, вырвацца з яго абдымкаў, — у мяне толькі адно дзіцячае настойлівае імкненне — што б мне ні пагражала, а я павінен абараніць маці і сястрычак, выхапіць іх з абдымкаў смяротнага полымя…

Але, на вялікі жаль, мне тое не ўдаецца зрабіць.

І ад бездапаможнасці, і ад таго, што не магу ўратаваць іх, — крычу ад страху, злосці і крыўды, прашу некага памагчы, уратаваць іх жыцці…

Але ніхто не прыходзіць мне на дапамогу…

Тады чую, як пад бок штурхае мяне жонка, і яна загадным голасам выводзіць з таго пекла сваім асцярожным голасам: «Іван!.. Іванка!.. Прачніся, чуеш? Ты дома, табе нічога не пагражае… Прачніся, Іванка!..»

І я прахопліваюся, але не адразу прыходзіць да маёй свядомасці, што няма ніякага пажару, няма вайны, няма немцаў… І што я не хлапчук Янка, а дарослы чалавек…

Калі ж здараецца, што я не крычу ў тым сваім жудасным дзіцячым сне, калі мой крык не вырываецца вонкі і Стафанія не чуе майго стогну і душэўнага болю, то тады выбягае з таго пякельнага полымя мая матуля і, растапырыўшы пальцы, узняўшы рукі ў неба, забараняе мне ісці да іх, ратаваць іх, не даючы, каб і я нырнуў у тое полымя.

Я не слухаюся яе, іду ўсё ж наперад.

Тады яна крычыць строгім і злым голасам, якім ніколі пры жыцці не крычала:

— Назад, сынок!.. Табе няможна сюды… Нельга! Я забараняю табе ісці да нас! За-ба-раняю-юууу!..

І яе голас пранізвае мяне наскрозь, цісне нема на барабанныя перапонкі, што яны, здаецца, вось-вось лопнуць, не вытрымаўшы, і я тады заціскаю вушы рукамі, ратуючыся ад невыноснага болю…

Я не разумею маці, не здагадваюся, чаму яна забараняе мне ратаваць іх, чаму так перакошаны яе твар, чаму так настойліва адпрэчвае мяне ад сябе, — і я прахопліваюся, ускокваю з ложка, адчуваючы, як мне горача, невыносна

горача ад таго полымя, якое і яшчэ гарыць у маім сне, дзе засталіся маці і сястрычкі… Я ўвесь мокры, увесь змэнчаны, толькі сэрца тахкае, б'ецца трывожна і апантана, гатовае вырвацца з маіх грудзей…

Я іду на кухню і, не ўключаючы святло, сядаю на зэдлічак — гляджу ў шэрае прасцірадла ночы, баючыся вяртацца да ложка. Бо там, над падушкаю, яшчэ доўжыцца мой трывожны дзіцячы сон і працягваецца вайна… І будзе яна доўжыцца да самай раніцы, аж пакуль не праб'юцца праз фіранкі першыя промні сонца…

А я буду сядзець да тае пары, пакуль не развіднее, пакуль не прыйдзе да мяне жонка і маўкліва не спытае пра мае жахі, хаця даўным-даўно ведае, што са мною творыцца ў гэтую ноч, чаму я такі знясілены і разбіты… З першай нашай ночы ведае. Яна ведае, што я вяртаюся з таго свету, і што з таго свету мяне праганяе мая матуля.

Я тады яшчэ доўга буду глухім да навакольнага асяроддзя, а буду чуць толькі матулін голас, чуць жудасныя крыкі людзей, нямецкае гергетанне, аўтаматныя стрэлы, а ў мае лёгкія будзе пранікаць-забівацца дым ад спаленых хат і жывых чалавечых целаў — маіх аднавяскоўцаў…

Божа, колькі я буду хадзіць і жыць з гэтым болем, няўжо мне такія пакуты наканаваны на ўсё жыццё?!

І колькі дзён я буду хадзіць ні жывы ні мёртвы…

У мяне будзе ныць, заходзіцца ад невыноснага болю душа, бунтаваць, прасіць паратунку…

Мне б у бальнічную палату, мне б пад уколы і кропельніцы медычных сясцёр, — каб улілі яны ў мяне жыватворныя кроплі… Але ж не скажаш дактарам, каб выдалі мне бальнічны з-за таго, што ў мяне пакутуе душа, што я не знаходжу сабе месца на гэтым неспакойным свеце, — паглядзяць жа на мяне, як на дзівака альбо на сімулянта, які хоча пабіць лынды колькі дзён, уцячы ад працы…

І таму я, пераадольваючы той душэўны боль і пакуты, іду на працу — іду да сваіх студэнтаў, каб правесці запланаваныя лекцыі, каб прыняць у іх іспыты ці правесці залікі… Але для гэтага стараюся з усіх сілаў задушыць у сабе тыя пакуты, тыя перажыванні, свой унутраны стан, — і я ўсміхаюся студэнтам і студэнткам, дэманструю свой вясёлы настрой, нармалёвы стан выкладчыка… І вельмі рады, калі яны не заўважаюць, што творыцца ў маім сэрцы, што я нясу ў сваёй душы… А мо і заўважаюць, ды не хочуць таго паказваць.

Тады я ім за тое вельмі ўдзячны, і не толькі ўдзячны, а і гатовы падзякаваць за мудрасць і тактоўнасць.

Неба… Перада мною вялікае-вялікае неба.

Я ляжу на поплаве, падаслаўшы пад сябе старую, зношаную ўжо, світку, заклаўшы рукі пад галаву, сашчапіўшы іх. Неба мяне як быццам зачаравала, прыцягвала да сябе сваёй таямнічасцю і загадкавасцю, падбадзёрвала, калі меў кепскі настрой, і я, гледзячы на неба, ствараў, прыдумваў свае казкі і дзівосы…

Найбольш мяне здзіўлялі воблакі…

Воблакі… Якія яны цудоўныя і загадкавыя! На небе я бачыў усіх-усіх людзей, каго ведаў. Найперш я бачыў Божаньку, пра якога мне так цікава і захаплялььна расказвала баба Марта. Яна навучыла мяне некалькім малітвам, якія я паўтараў кожны дзень. Казала яшчэ, што Ойча — як чалавек, як дзядуля Апанас у нашай вёсцы, з вялікай кужэльнай барадой, у срэбным адзенні.

І я, успомніўшы аповед бабулі, адразу ўбачыў Яго — Ойча. Ён, як жывы, паказаўся над страхой нашай хаты. А потым нечакана ператварыўся ў нашага дзеда Зміцера, затым — у дзядзьку Сяргея, а потым і зусім стаў бабай Мартай… А пасля гэтага — во якія бываюць дзівосы! — людзі пачалі ператварацца ў нейкіх казачных жывёлін.

То як быццам авечкі на небе пасвіліся, а потым і яны неўпрыкмет ператварыліся ў нейкіх іншых жывых і дзівосных істот…

Ужо добра прыгравала сонца, і не было чуваць ветру. Навокал стаяла цішыня і, здавалася, на зямлі не было ніякіх трывог і трагедый, пажараў і завірух, і мне верылася, што не плакала мама з-за таго, што тата пайшоў на нейкую вайну біць невядомых мне фашыстаў…

Мне здавалася, што бацька пайшоў у лес нарыхтоўваць дровы, каб нам цёпла было ўзімку. Ён зробіць сваю работу і вернецца дадому. Ён заўсёды быў побач са мною, бо штодня мне думалася пра яго…

А ён і сапраўды прыйшоў, і найперш падышоў да мяне, лёгенька катурхнуў за плячо, ціхенька паклікаў:

— Янка, прачніся, зямля сырая — прастудзішся…

Голас як быццам быў і не бацькаў, а нейкі іншы, дзявочы, таксама нейкі родны.

— Янка, маці кліча. Уставай. Ты прасіўся да бабы Марты, маці і адсылае нас з табой да яе. Баба нам аладак напячэ, а мы і маме прынясём… Уставай.

Я сеў і, нічога не разумеючы, глядзеў на сястру. На самым цікавым месцы разбудзіла мяне Таццянка. Мо мне і ўдалося б пагаварыць з татулем, мо што і падказаў бы, параіў бы — шмат пра што мне хацелася папытацца ў яго…

Сястрычка заглядвала мне ў вочы, адкідвала ад вушэй коскі, як хацела пераканацца, ці прачнуўся я, ці чую яе. Зноў кранула за плячо, папрасіла:

— Пайшлі, Янак, матуля чакае. Мы ж сёння павінны і назад вярнуцца да цемнаты. Маці прыхварэла, мы ў яе ж памочнікі…

— Добра, Таня, добра, — адказваю, падымаюся ўжо, прыхапіўшы світку.

Але перад тым, як ісці ў хату, зірнуў на неба — яно было пахмурнае і шэрае, і ніякіх дзівосаў у воблаках не бачылася.

— Пайшлі, — падахвочваю ўжо я яе, — на бабуліны аладкі спазняцца не трэба…

Маці ляжала ў ложку, чакала нас.

— Збегайце, сынок, да бабы, — слабым голасам як бы прасіла мяне матуля. А Таццянцы сказала: — Папрасі яшчэ бабу, каб зёлак ад прастуды перадала — заслабла я дужа… І дзе магла прастудзіцца, не ведаю…

— Добра, мамачка, папрашу, — паабяцала дачка. — Дык мы пойдзем?

— Ідзіце, ідзіце, толькі доўга не баўцеся, вяртайцеся адразу ж — час жа цяпер неспакойны… Але калі не паспееце, то можаце і заначаваць — заўтра прыйдзеце. Пагасцюйце ў бабулі…

— Добра, мама, — паабяцаў я за абаіх. — Да бабы Марты мы любім наведвацца…

Я хацеў дадаць яшчэ, што да другой бабы мы вялікага жадання не мелі хадзіць у госці — бо і да Мялешкавіч, у Іванкаўшчыну, было далекавата дапінаць, ды і не ляжала ў мяне чамусьці душа да бабы Аляксандры Сачук — маці майго бацькі. Ды я стрымаўся, не сказаў пра тое, бо ведаў, што і яна не надта часта сама ў іх бывала…

Да Раманаўкі, куды мы кіраваліся да бабы — Марты Іванаўны Прахарэнка, — было і не так далёка — гадзіна хады.

Раней мы жылі ў дзівосным, райскім куточку — на хутары Любіша, а потым чамусьці вырашылі перабрацца бліжэй да людзей, да родзічаў.

Не тое, што самі надумаліся, а ўлады прымусілі. Бо мы, удалечы ад населеных пунктаў, ад калгасаў, былі для іх аднаасобнікамі, амаль што кулакамі. А тое, на погляд прадстаўнікоў улады, выглядала зусім не па-савецку. А тады такая з’ява — аднаасобныя гаспадаркі — строга выкаранялася.

Тое я зразумеў значна пазней, калі пачаў вучыцца ў школе, а потым як быў студэнтам педвучылішча і пазней — універсітэта…

Але Любіша ў маёй памяці засталося як адкрыццё вялікай тайны. Тайны нараджэння чалавека.

Тады мы на хутары жылі ўсе разам — усёй вялікай сям’ёй.

З намі жыла і баба Аляксандра, і Сяргей Астрэйка, якога нанялі любішаўцы пасвіць статак. На хутары было хат з дзесяць, таму гурт кароў быў невялікі. І запомніў я пастуха з доўгай пугай, якой ён любіў «страляць», лоўка матлянуўшы ёю ў паветры…

Тады мама была цяжарная малодшаю сястрычкай, пра што я не ведаў, нават і не здагадваўся.

Запомнілася… Матуля крывіцца ад болю, а потым і крычаць пачала. Але, дзіўна, ніхто з дарослых не звяртаў на тое асаблівай увагі, нават, здалося, усе трывожна-шчасліва ўсміхаліся, што для мяне было, канечне ж, незразумела.

А баба Аляксандра, адарваўшыся ад печы, дзе яна грэла чыгуны з вадой, расчырванелая ад беганіны і ад печы, неяк затоена і загадкава папрасіла мяне:

— Пайшоў бы ты, унучак, на вуліцу пагуляў бы, га?..

— Я не хачу на вуліцу! — заўпарціўся я, не падазраючы, што павінна адбыцца і чаму я не павінен пры тым прысутнічаць. — Не пайду!

— Сынок, слухайся бабу, — папрасіла, як загадала, маці, і ўсё не пераставала стагнаць і хапаць ротам паветра — мне было вельмі шкада яе і таму не хацелася пакідаць яе.

Але просьбу маці я расцаніў як загад.

Далёка не адыходзіўся, чуйна ўслухоўваўся — што ж там рабілася такое ў хаце, што мяне выгналі на вуліцу?

А потым я пачуў крык немаўляці, чаму нямала здзівіўся.

То нарадзілася мая сястрычка — Палінка…

…Баба Аляксандра жыла адна — яна была салдацкая ўдава. Яе муж, а, значыць, мой дзед — Мітрафан Сачук, вяртаючыся дадому ці то з германскай, ці то з грамадзянскай вайны, малады і вясёлы, ніводнага разу не кранутага варожай куляй ці асколкам, недзе на нейкай станцыі папаў пад колы цягніка…

Адрэзала яму абедзве нагі.

Нехта з далёкай вёскі бачыў тое, прыйшоў і расказаў Аляксандры, як яго, акрываўленага, неслі санітары на насілках да шпіталя…

Мусіць жа, не вылечылі, мусіць жа, не вынес Мітрафан Сцяпанавіч такога калецтва і болю, хто ведае. Але чакала яго баба Аляксандра і паўгода, і год, і тры гады, ды і чаканкі пагубляла…

І засталася жанчына ўдавой.

Выйшла замуж, як казалі ў вёсцы, за паляка. Нажыла з ім перад вайной двое дзяцей… Ды нечакана знік той Масціч, збег ад яе, ніводнага разу не падаўшы голасу…

Забягаючы наперад, скажу і да канца пра яе. Пасля яна выйшла за Кадола, які быў на дзесяць гадоў старэйшы за яе. Неўзабаве трэці муж памёр, пакінуў бабу зноў адну…

А бабуля дажыла да 1978 года…

Калі ж гаварыць пра род Сачукоў, то трэба сказаць, што прабабку маю звалі Матруна, а прадзед — Сцяпан Сачук…

Мы ішлі з Таццянкай знаёмай дарогай, прыспешвалі крок, помнячы просьбу-загад маці. Ды яшчэ і падганяў голад…

Яшчэ больш пачало нахмарваць.

Следам за намі ляцела, перасаджвалася з дрэва на дрэва, з галіны на галіну, неспакойная сінічка. Ціліўкала пра нешта, як гаварыла з намі. Я спыніўся і чамусьці пільна прыглядзеўся да яе — сядзела блізка каля мяне на галіне дуба, што і рукой можна было дастаць. Я і вочкі-бісерынкі бачыў, і яна абрадавалася, здаецца, калі я прыкмеціў яе. І тады яшчэ званчэй заціліўкала, — як расказвала пра нешта, як хацела падзяліцца з намі нейкай сваёй запаветнай тайнай ці то, наадварот, папярэдзіць аб нечым.

Церусіў ужо дробны вясновы макрасей, наганяючы нуду, і я стараўся не адставаць ад старэйшай сястры, след у след ішоў за ёю. Нечакана з кустоў выскачыў шэры заяц і шмыгануў паўз мяне назад у кусты. Я ўздрыгнуў і войкнуў ад нечаканасці, адхіснуўся, як бараніўся ад нечага страшнага.

Сястра засмяялася, як папікнула мяне:

— Ну і палахлівец! Даўгавухага напалохаўся. Ён нас спужаўся, а ты — яго.

Я нічога не адказаў ёй: сястра казала праўду, і мне было трошкі сорамна перад ёю за мой дзіцячы страх. Колькі разоў сам сабе загадваў нічога не баяцца, а тут…

Таццяна пераклала палатняную торбачку з аднаго пляча на другое, павярнулася і пакрочыла далей, падахвочваючы мяне да хады.

А сінічка не адставала ад нас, з усіх сілаў старалася пагаварыць з намі, — як не на плячо мне сядала, і ў яе паводзінах не было ні кропелькі боязі.

На нейкі момант Таццяна павярнулася на птушыны голас, здзівілася, убачыўшы так блізка сінічку — ніколі так зблізку не бачыла крылатае стварэнне, але нічога не сказала. Сінічка асмялела, скочыла на плячо сястры, а потым борздзенька пырхнула і адляцела.

Відаць, птушачка пакрыўдзілася за такую няўвагу да сябе, бо ўжо наперад заляцела, як не на галаву сястры сядала.

Толькі тады Таццяна спынілася, паглядзела трывожна на мяне, спытала:

— Што гэта з ёю, Янка?

— Не ведаю — усю дарогу за намі ляціць, не адстае.

— Мо яе гняздо разбурыў хто — і яна дапамогі просіць?

— Таццянка, хто ж у такую пару гнёзды ўе? — спытаў у яе, бо ўжо добра разумеў, што птушкам яшчэ рана займацца сваім жытлом. — Непакоіцца яна пра нешта, а пра што, нельга зразумець. Каб была баба Марта з намі, яна патлумачыла б пра ўсё…

— Вось мы і раскажам ёй, як прыйдзем, — пагадзілася сястра, яшчэ раз уважліва паглядзела на птушачку, а потым ужо на неба, шукаючы намітку сонца, каб вызначыць час, — і мы заспяшаліся далей.

Я не адставаў ад яе, але не-не ды азірнуся, пагляджу на сінічку, так і не разумеючы яе неспакою — за сябе ці за нас?

Не ведаю чаму, але ў маёй дзіцячай душы нарадзіўся тады незразумелы трывожны неспакой і трывога. Можа, ад таго, што голас маленькай птушачкі пранізваў наскрозь маю дзіцячую душу…

Наперадзе пачуліся людскія галасы, іржанне коней, рогат і воклічы.

— Хаваймася! — адразу ж, скеміўшы што да чаго, загадала мне сястра, ухапіла за руку, пацягнула ў густое кустоўе.

Схаваўшыся за грудок, мы пачалі назіраць за дарогай.

Па ёй, праз нейкі час, пачалі калывацца падводы. На іх сядзелі са стрэльбамі людзі, галасна размаўлялі між сабой, прыкладваліся раз-пораз да бутэлькі — як на вясёлую забаву ехалі.

— То паліцаі, — шапнула мне на вуха Таццяна. — Мусіць, да нас у вёску едуць…

Падвод было некалькі, і на кожнай сядзела па чалавек сем-дзесяць ці нават больш…

— Мо скрыгалаўскія бобікі, — нахмурылася яна.

Нават калі яны і праехалі, сястра не спяшалася чамусьці выходзіць з нашай хованкі, асцерагалася нарвацца на паліцаяў, якія маглі рухацца следам.

Зямля была яшчэ не прагрэтая, халодная, але мы трывалі, не ўставалі, бо баяліся папасці на вочы ворагам…

Таццяна ўсё ж не вытрымала, паднялася, атрэсла мокрае шыгалле з каленяў, сказала:

— Пайшлі, Янка, колькі ж можна сядзець тут… Вунь і сонца ўжо над галавой…

І як толькі мы выйшлі зноў на дарогу і прайшлі з колькі крокаў, наперадзе пачулася гудзенне машын.

Мы зноў нырнулі ў кусты.

Гайдаючыся на калдобінах, правальваючыся ў глыбокія калюжыны, павольна рухаліся наперад, натужна равучы рухавікамі, цёмна-зялёныя тупарылыя машыны з нямецкімі салдатамі.

— То карнікі, — патлумачыла зноў сястра — яна ўжо добра разбіралася ў жыццёвых пытаннях, ведала, што да чаго, ведала і паліцаяў, і карнікаў.

І машын было некалькі. Карнікі ехалі амаль моўчкі. Я пачуў, як нехта з іх іграў на губным гармоніку — тыры-рып, пыры-пыры… Не зразумець мелодыю — чужая, не нашая…

Калі праехала апошняя машына і схавалася за павароткай, мы з сястрой зноў выйшлі на дарогу — чуйна ўслухоўваліся ў навакольныя гукі.

А калі прайшлі колькі крокаў, збоч дарогі, каля машыннай каляіны, я ўбачыў бліскучы прадмет і адразу здагадаўся: «Губны гармонік!..»

— Таццянка, пабач, што я знайшоў! — радасна выгукнуў я, паказваючы ёй сваю знаходку.

Абцёр аб штаны, падзьмухаў, каб вылецела з квадратных дзірачак смецце, паднёс да губ. Раз дзьмухнуў, другі… І абрадаваўся яшчэ больш, калі пачуўся музычны ўсхліп інструмента…

Сястра ж да маёй знаходкі аднеслася абыякава, калі не насцярожана, нават і не папрасіла патрымаць у руках. Не ведаю, што яна тады падумала пра варожы сувенір, але моўчкі павярнулася і пайшла па дарозе. А я рыпнуў яшчэ колькі разоў і запіхнуў рыпалку запазуху, сказаўшы, як усё роўна апраўдваючыся перад сястрой:

— Мне ён не трэба гэты гармонік, а калі прыйдзем дадому, абмяняю на што-небудзь — мо на хлеб, мо на муку…

Вось тады сястра паглядзела на мяне ўжо больш прыхільна і з лагоднай усмешкай.

Баба Марта як чакала нас усё роўна, рукамі ўспляснула ад радасці, абцерла рукі аб фартушок, абняла, расцалавала:

— А мае вы ўнучкі! Я як ведала сядно, што вы прыйдзеце, дранікаў нарыхтавала, ды са шкварачкамі — самі наясцеся і мамцы сваёй занесяце…

Дзед Зміцер таксама не хаваў сваёй радасці, глядзеў то на Таццянку, то на мяне, усміхаўся, і ў вачах выпраменьвалася дабрыня і спагадлівасць. Толькі і сказаў здзіўлена:

— От як хутка растуць мае ўнукі!..

Калі ж прайшла першая радасць сустрэчы, калі пачаставала нас баба Марта смачнымі дранікамі (смак якіх я памятаю і да сённяшняга дня!), калі наглядзеліся абое, як мы запіхваем наедак за дзве шчакі, напомніла Таццянка бабулі:

— Баба, а мама прасіла, каб ты зёлак дала ёй — прастудзілася яна.

— А Божачка мой, — пляснула рукамі Марта, галавой пахітала, — добра, што не забылася сказаць мне… У мяне ёсць і цвет ліпавы, і маліннік сушаны, і яшчэ што-кольвечы… Вы ешце, ешце, а я на гарышча злажу, знайду зёлкі…

Само сабой мы адразу і не выправіліся ў адваротны шлях. Каб і папрасіліся ў бабы з дзедам, то яны, канешне ж, не адпусцілі б нас, на ноч гледзячы, а па-другое, у госці, толькі паабедаўшы, ніхто да родных не прыходзіць. Тым больш да маці нашай матулі.

І начавалі мы ў бабы з дзедам.

А з імі яшчэ ж жылі дзядзька Васіль з цёткаю Марыляй і дзецьмі…

Ноччу ў вокны бліскала святло ад нямецкіх машын — рухаліся яны ў тым жа кірунку, што мы і бачылі, — у бок нашай вёскі. Злосна і пагрозліва гулі рухавікі — як і тых машын, што везлі некуды карнікаў…

Дзед Зміцер стаяў каля акна, смактаў сваю піпку і глядзеў задумліва на вуліцу.

Баба стаяла позаду, божкала, хрысцілася, гледзячы на абразы…

— Ой, Божа, каб якой бяды не было, — усхліпвала баба Марта, думаючы, што мы з Таццянай спім і нічога не чуем. — Гэта ж і бобікі туды-некуды едуць, і во — немчура…

— Цыц, старая! — злаваўся ўжо дзед Зміцер. — Не накліч якой бяды, ды і дзяцей не пабудзі…

Мы моўчкі ляжалі, не падавалі голасу. Але, памятаю, іх трывога адразу ж перадалася і нам.

На другі дзень, пад час абеду, перад тым, як адправіцца нам у адваротны шлях, Лёнік і Алесь, стрыечныя браты, абвясцілі мне:

— Янка, а там такая падзея! Бычок у ямку праваліўся, ніяк яго выцягнуць не могуць… Айда, паглядзім, там усе нашыя хлопцы!

Не даеўшы апошняга драніка, што паклала баба ў міску, я стрымгалоў выскачыў следам за імі на вуліцу.

Ужо ў спіну, наўздагон, крыкнула мне сястрычка:

— Доўга, братка, не баўся, нам жа назад яшчэ ісці…

А бычок ускочыў, праваліўся чатырма нагамі ў глыбокую калюжыну, якая была зацягнутая тонкім лёдам, і ніяк не мог выкараскацца з пасткі.

Старэйшыя хлопцы абвязалі бычка вяроўчынамі, хацелі такім чынам яго выцягнуць, але колькі ні тузалі, ні пручкаліся, не маглі даць рады. І мы памагалі — узяліся за вяроўчыну, упіраліся нагамі ў адталую і таму слізкую зямлю, цягнулі што было сілы, але не дужа ад нас было карысці.

Выбіліся з сілаў, а зрабіць нічога не маглі.

Бычок паглядаў на нас сваімі разумнымі і вялікімі вачыма, слаба мычэў, як усё роўна прасіў выратаваць яго ад смерці…

Ды во што яшчэ. Тая сінічка, што ўвесь час суправаджала нас, аказалася і тут. Яна сядала нават на бычка, не баючыся нас, стрыгла хвастом, круціла галавой. І — ціліўкала, ціліўкала, аж заходзілася, не могучы супакоіцца…

Прыбегла да мяне Таццянка, прасіла, каб я паспяшаўся, бо пара было вяртацца дадому.

— Я помню, Таццянка, вось яшчэ трошкі пабуду і прыбягу. Яшчэ трошачкі…

Следам прыходзіла ўжо і баба Марта, пачала ўшчуваць мяне, што я непаслухмяны, што маці хворая ляжыць, а я тут абібокам швэндаюся па вуліцы…

— Іду, баба, іду… Бачыш, бычок у бядзе.

— І без цябе яго выцягнуць — марш дадому!

Потым хлопцы паклікалі старэйшых — дзядзьку Васіля, майго хроснага бацьку, і яго жонку Марыю, ды яшчэ дзед Зміцер падышоў. Залыгалі за галаву, за шыю, пацягнулі ўсе разам — і выцягнулі яго на цубкую зямлю. Доўга валаводзіліся — аж амаль змерклася.

«Ну, цяпер мне перападзе на абаранкі ад бабы, — апамятаўся я і што было сілы пабег да яе хаты, — калі ўжо баба па мяне прыходзіла, то пакарання мне не пазбегнуць… Яна хоць і добрая, але правіны не даруе…»

На вочы набеглі слёзы, бо я адчуў за сабою вялікую віну, і я не ведаў, як цяпер апраўдацца, як вымаліць у бабулі і сястры даравання.

— Прыйшоў нарэшце? — з крыўдай у голасе спытала баба Марта, калі я пераступіў парог хаты.

— А дзе Таццянка, баба, дзе яна? — не адказаў я на пытанне, папытаўся пра сваё ў бабулі са слабай надзеяй, што сястрычка ўсё ж дачакалася мяне, бо быць таго не магло, каб яна пакінула мяне аднаго.

— Няма ўжо тваёй Тані. Сама пайшла. А ты гойсаеш з такімі ж байбусамі, як сам, і пра маці родную забыўся, — з лёгкім дакорам паўшчувала яна мяне.

У мяне з вачэй пацяклі слёзы:

— Я не вінаваты, бабуля, мы ж бычка ратавалі-ііі! Я і не заўважыў, як прабег час…

Не ведаў, куды падзець сябе ад сораму і крыўды. Я не знаходзіў сабе месца, і мне было ўжо ўсё роўна — будзе сварыцца яшчэ на мяне баба Марта ці не.

Тады бабуля, бачачы, як я перажываю, прытуліла да сябе:

— Не гаруй так, унучак. Заўтра ці паслязаўтра мы з табой пойдзем у Буду-Казіміраўскую. Я і сама па Тэклі засумавала. Вось і будзе прычына праведаць яе. Ды і Шурку даўно не бачыла, Полечку…

Баба Марта супакойвала мяне, як магла, гладзіла па галаве, суцішвала мой боль. Голас у бабкі мяккі, пяшчотны. Яна і загаворы ад розных хвароб ведала, людзей лячыла. Калі ў каго жывот забаліць ці малое заплача ды не перастае — да бабы Марты ішлі за помаччу…

І я тады адчуў нечаканую палёгку, калі бабуля дакранулася цёплай шурпатай даланёй да майго лба. Перахрысціла, як адагнала ад мяне нябачныя хваробы і няшчасці… Потым доўга шаптала нада мною малітвы, якія надавалі мне сілы, аберагалі ад суроку, ад слабасці.

Харошая ў мяне бабуля! Пяшчотная, мудрая, клапатлівая. Ніколі галодным не пакіне, накорміць, хаця, здавалася б, і не было чым. Пра яе я магу расказваць бясконца — дзень і ноч, бо след у маім жыцці яна пакінула глыбокі і адметны… Але пра тое я раскажу трошкі пазней.

Здаецца, я прыдрамаў на каленях у бабулі. А калі выпраміўся і сеў, то адчуў незразумелы ў сабе цяжар — балела страшэнна галава, вадзіла з боку ў бок.

Я і паскардзіўся бабулі:

— Баба Марта, у мяне дужа галава баліць.

— Мо застудзіўся ненарокам каля таго бычка, га? — устрывожылася старая, руку да лба прыклала. — Не, галава, здаецца, не гарачая…

— Я па мокрым не лазіў, на сухім быў. І мне не было холадна…

Бабуля паклала мяне ў ложак, дала папіць нейкага горкага адвару. Накрыла прасцірадламі і коўдрамі, яшчэ зверху старым дзедавым кажушком.

— Вось цяпер ты заснеш, Янік, а ранічкай прачнешся здаровы і бадзёры, — паабяцала мне бабуля, і я прыкмеціў, што баба раз-пораз трывожна ўслухоўваецца ў незразумелыя далёкія гукі — як быццам хто за вёскай біў важкім і вялізным молатам, што аж гухкала і, здаецца, дрыжэла зямля. — Адвядзі, Госпадзе, гора ад нашых душаў, пашкадуй сваіх рабоў — ні ў чым не вінаватых… Выратуй маю сям'ю і майго ўнучка ад ліхалецця… У імя Айца і Сына і Святога Духа, на векі вечныя! Амінь! Ойча наш, які ў нябёсах…

Бабуля чытала і чытала малітвы, і ў той жа час не адымала рукі ад маёй галавы, — як усё роўна старалася забраць мой боль сабе, аблегчыць мае пакуты…

Праз нейкі час я сагрэўся і, мусіць, заснуў.

Снілася мне, што я адстаў ад маці і сясцёр, якія некуды спяшаліся, і не глядзелі ў мой бок, як усё роўна ўцякалі ад мяне, хацелі пакінуць аднаго. Стараўся бегчы з усіх сілаў. Але мае ногі блыталіся ці то ў калючым дроце, ці то ў густым і шорсткім верасоўніку. Як летась, калі мы хадзілі з бабуляй па грыбы і я чапляўся за яго, высокі і сухі, не могучы пераступіць…

А маці аддалялася і аддалялася ад мяне, падштурхоўвала ў спіну Тацццяну і Шурку, а чатырохгадовую Палінку несла на руках. Ды яшчэ нехта мне замінаў бегчы наперад — нейкі чалавек у вайсковай форме (ці не бацька?!), як быццам адпіхваў назад, разлучаючы мяне з матуляй…

Я пачаў ужо злаваць і на бацьку, нешта крычаў яму злое і крыўднае, але ён не слухаў мяне — чэпка трымаў за плячо і не дазваляў і кроку ступіць далей…

І тут наперадзе — зусім блізка — нечакана ўспыхнула вялізнае полымя. Аж да самага неба. Яно раптоўна праглынула маці і маіх сястрычак, і шугала

тое полымя ўжо вышэй неба, аж сонца засланіў чорны і едкі дым. І дыхаць ужо не было чым — я задыхаўся: мяне душыў смурод…

Спалохаўшыся, я закрычаў. Але крыку не было, голас мой, ці крык, ніяк не мог вырвацца на волю — і я мычэў, як той бычок, якога мы ратавалі, — а потым як прарвала нешта, і я на ўсю бабіну хату нема і з надрывам закрычаў:

— А-ааа!.. Ма-ма-ааа!.. А-а-ааа!

Да мяне падышла баба Марта, абняла, прытуліла да сябе, трывожна спытала:

— Што з табою, Янік?

— Хата, твая хата гарыць, бабуля… Ратуймася, полымя вялікае! А-ааа!.. Мама, ты дзе, мама?

Бабуля не ведала, што са мной рабілася, якой даць рады, як і не ведала, што было таму прычынай. Толькі прыціскала мацней да сябе, як бараніла ад нечага страшнага і непапраўнага.

У акно ўскочылі чырвоныя водбліскі, заскакалі па сценах. І тут жа недзе за сцяной загухкалі выбухі — як быццам валілі пракаветныя дубы і яны гулка падалі на зямлю. Баба ўклала мяне ў ложак, нечым накрыла, і сама выбегла на вуліцу. Пачуліся людскія галасы, плач, галашэнне. Я не вытрымаў, ускочыў з ложка, таксама выйшаў да людзей…

Над лесам, у тым баку, адкуль мы прыйшлі ўчора з сястрою, зырка ўзгаралася полымя. Я не разумеў, што гэта было такое, як і не разумеў, чаму так устрывожыліся вяскоўцы…

— Я напачатку думаў, што лаўжы паляць, але ж не, то не лаўжы, — прасказаў дзед Зміцер, трывожна гледзячы ў той бок.

— То Буду-Казіміраўскую паляць…

І тут мяне апякла балючая думка-здагадка: «Паляць нашую вёску?! Дык там жа маці, там мае сястрычкі!..»

— Баба, дык там жа мая мама! — пачаў крычаць я, і мяне пачала курчыць нервовая ліхаманка — я ўжо не памятаў самога сябе, не ведаў, што крычаў, што гаварыў…

Бабуля абхапіла мяне за плечы, зноў прытуліла да сябе, прымусіла адвярнуцца ад полымя, ад чырвонага неба, ад чорнага дыму, загаварыла, каб пачула яе неба:

— Божа Усёмагутны, адвядзі бяду ад нас, уратуй і памілуй, Госпадзе!..

Мяне ўжо не суцішвала баба Марта, у самой, мусіць, заходзілася сэрца ад болю і трывала з апошніх сіл, але мяне не адпускала ад сябе… Яе біў калатун і ўздрыгвала цела — як быццам было ёй холадна і яна не магла ніяк сагрэцца.

Яна абдымала мяне сухімі і спрацаванымі рукамі, усё яшчэ стараючыся засцерагчы ад нейкай навалы… Я туліўся да бабулі, бо ведаў, што толькі ў яе, у маёй любай бабулі, я змагу знайсці суцяшэнне і засцярогу…

Адразу ж, на наступны дзень, старэйшыя з хлопцаў — смелыя і цікаўныя, — рашылі збегаць у Буду-Казіміраўскую, каб на свае вочы пераканацца, што там адбылося.

Выправіліся пасля іх у тую дарогу дзед Зміцер і дзядзька Васіль, з імі і цётка Марыя — Васілёва жонка…

Хлопцы доўга не забавіліся там, адразу і вярнуліся назад. Калі распытвалі ў іх пра вёску, гаварылі блытана, перабіваючы адзін аднаго…

— Там… страшна… няма вёскі — адны каміны тырчаць і галавешкі дымяць…

— А людзі, хто з людзей жывы застаўся? — дапытвалася баба Марта ў іх пра галоўнае.

— Няма нікога… Усіх спалілі… Паленымі людзьмі там пахне, дыхаць няма чым… Нікога ў жывых не засталося… нікога…

Адна з жанчын страціла прытомнасць — асунулася на зямлю. За ёй другая… Іх адлівалі калодзежнай вадой…

Баба Марта стала як каменная, неадрыўна глядзела ў бок Буды-Казіміраўскай, якой ужо не было, туліла мяне да сябе, нешта шаптала асмяглымі вуснамі…

Я ж ужо нічога не чуў — у маіх вушах стаяў суцэльны гул, звінела праціўна і надакучліва, быццам я прыставіў вуха да тэлеграфнага слупа (як я тое рабіў, калі быў у другой бабы Аляксандры ў Мялешкавічах) і ніяк не мог адарвацца ад яго…

А пазней прыйшлі пахмурныя дзед Зміцер і дзядзька Васіль, заплаканая, счарнелая, што і не пазнаць, цётка Марыя. Яна і загаласіла першая, абвясціўшы страшную вестку:

— Нікога, нікога, людцы мае, няма ў жывых, нікога-ааа!

А дзед Зміцер, каб я не чуў, хаця я і так нічога не чуў і не асэнсоўваў, паказаў бабе гаршчэчак, сказаў:

— Во ўсё, што засталося ад дачкі і ўнукаў — адзін попел. Пахаваць трэба на могілках…

Потым гудзенне ў вушах аціхла, як і знікла перад мною Марыя — я, мусіць, страціўшы прытомнасць, паваліўся на зямлю. І ўжо не чуў, як мяне падняў на рукі дзед Зміцер і, непрытомнага, панёс у хату…

Ачуняў, прыйшоў у сябе, і вярнуліся да мяне слых і свядомасць праз некалькі дзён. Але мне не хацелася ні есці, ні піць, ні гаварыць — я і не памёр, але і да жывых, здаецца, не належаў…

Мне карцела, але і было боязна ісці ў сваю вёску — нешта не пускала, стрымлівала. Ці то страх, ці прадчуванне таго, што на свае вочы пераканаюся ў тым, што пачуў — не існуе больш на свеце ні вёскі, ні матулі, ні сястрычак…

Хаця ж і прысніўся мне прарочы сон, хаця мяне і наведала прадчуванне, але я да апошняй хвіліны не мог паверыць у тое, што пачуў. Бо тое не магло ўкласціся ў маёй дзіцячай галаве і розуме — зусім нядаўна ж я бачыў матулю і сястрычак, а сёння іх няма на белым свеце… Няма!!!

І ніколі я з імі больш не ўбачуся!..

Выбраліся мы з бабуляй у Буду-Казіміраўскую праз некалькі дзён.

Баба Марта доўга малілася перад абразамі, мяне вучыла, як трэба перажагнацца, якую малітву чытаць, — і ранічкай, на цямочку, мы выправіліся ў дарогу…

Калі падышлі да нашага селішча, то нас сустрэлі чорныя галавешкі і ўзвышаўся над усім белы, закопчаны, комін нашае печы, на якой я любіў у лютыя маразы адаграваць пасля гуляў змерзлыя ногі…

Баба як стаяла, так і абвяла, асунулася на зямлю, слаба войкнула пры гэтым. Упала тварам у чорны попел, не рухалася нейкі час. А потым з яе грудзей вырваўся хрып і галашэнне, плач… Яна ўкленчыла перад печчу, але не падымала галаву ад зямлі, малілася ці гаварыла да печы, як да жывой, — і слоў нельга было разабраць, адно жудаснае завыванне — разрывалася бабульчына сэрца ад бездапаможнасці, ад непапраўнага гора, ад страты родных…

Я стаяў, зажмурыўшы вочы. І чуўся мне матулін голас, бесклапотны смех сястрычак… Яны былі зусім побач са мною — недзе за спіной, як усё роўна хаваліся, дражніліся са мною, гулялі ў хованкі…

У мяне скамянела сэрца. Я адчуў, што стаў іншым — ці то стаў дарослым, ці пачаў усведамляць сваё прызначэнне — жыць за іх, доўжыць род Сачукоў.

І ўжо нейкім інакшым, спакойным і з дарослай разважлівасцю голасам, дакрануўшыся да пляча бабы Марты, папрасіў:

— Уставай, баба… Уставай. Мы ім нічым памагчы не зможам…

Баба як і не пачула мяне, не падымалася.

Я разумеў падсвядома, што яе нельга чапаць цяпер, што яна нікога і нічога не чуе, а вядзе толькі гаворку з Богам.

Чамусьці ў той момант мне ўспомніўся губны гармонік, пра які я забыўся — ён ляжаў на дне глыбокай кішэні світкі. Дастаў яго і адразу бразнуў вобзем. Не трэба мне ні на што мяняць яго, лепей з голаду памру, а ў рукі больш не вазьму яго. Мо той фашыст, які губамі дакранаўся да яго, і спаліў нашую хату з мамаю… Але потым і гэтага мне падалося мала — узяў важкі камень і раструшчыў яго, колькі разоў ударыў па ім, увагнаў у зямлю…

На сваім селішчы, раскіданым — спаленым чужынцамі — гняздзе, я развітаўся са сваім дзяцінствам…

І ўжо не быў юнаком. Пастарэў я, мусіць, на сто гадоў…

Баба акрыяла трохі, села на калоду, няўцямна глядзела сабе пад ногі.

Неўзабаве і яшчэ людзі прыйшлі да спаленых хат — і з Раманаўкі, і з іншых вёсак, у каго былі родзічы, якіх спалілі…

Іх галашэнне, крыкі і праклёны запомніліся мне на ўсё жыццё…

У вёсцы жыла і родная сястра майго бацькі — Аўдоцця, для мяне — цётка Дуся. Любіла яна мяне вельмі, часта ў госці запрашала, радавала пачастункамі.

Як пачала гарэць вёска, уся сям'я, убачыўшы, што не ўратуюцца, у пограб хаты схаваліся…

Расказвалі, што Кірэй, муж цёткі Дусі, яшчэ, мусіць, нейкі час жыў, бо адпоўз ад пограба колькі крокаў, — але ўсё роўна задыхнуўся ў чорным дыме…

Так і стаў пограб хаты для бацькоў і дзяцей магілай…

І па іх балела мая душа, плакала маё сэрца…

Гэтак жа як і бабы Марты.

Калі я сказаў, пазней ужо, бабулі пра сінічку, якая суправаджала нас з Таццянаю ў дарозе, яна, скрушна ўздыхнуўшы, патлумачыла:

— То Бог анёлаў пасылаў да цябе, унучак… Адзін з іх у вобліку сінічкі і хацеў папярэдзіць вас аб няшчасці. Але ж вы не разумелі яе голасу і трывогі. Бачыла я тую сінічку, Янік, і яна мне ціліўкала пад акном, у шыбу стукалася. Я чула бяду, ведала, што яна прыйдзе, але не думала, што яна такой жудаснай будзе…

— Дык што, баба, выходзіць так, што ў мяне няма ўжо ні матулі, ні сястрычак, і ўжо ніколі-ніколі іх і не будзе?

Маё роспачнае пытанне прагучэла для яе знячэўку, і яна не ведала, што адказаць. Баялася нават адказваць нешта пэўнае.

Прамовіла ціха:

— У цябе ж ёсць бацька… Вось разаб’е ён фашыстаў, вернецца з вайны — і будзе ў вас усё добра…

Я ўсхліпнуў, а бабулі адказаў па-даросламу:

— Не, баба Марта, няпраўду ты кажаш — у мяне ўжо ніколі нічога добра не будзе. Ніколі.

— Цыц! Не кажы так, унучак, няможна так казаць! — як не крыкнула на мяне баба Марта, перажагнала, галавой спалохана захітала. — Ніколі і нікому не кажы так. Не наклікай яшчэ большую бяду на сваю галаву — бо і вецер на вуліцы цябе пачуе, і цішыня цябе пачуе, і той, каму і не трэба чуць… І думаць нават так нельга. Чуеш мяне, Янік?

Я паабяцаў бабулі так больш ніколі не гаварыць. Нават і не думаць так…

Пазней ужо людзі даведаліся, што акрамя Буды-Казіміраўскай, якая была спалена дашчэнту і загінула ў ёй сто дваццаць сем вяскоўцаў, у тую ж ноч фашысты спалілі ў другой вёсцы — Казіміраўцы — семдзесят шэсць хат і расстралялі трыста пяцьдзясят восем чалавек — жанчын і дзяцей…

Разам з карнікамі ў гэтай жудаснай акцыі ўдзельнічалі скрыгалаўскія паліцаі…

Такі ж лёс напаткаў і іншыя вёскі, якія былі непадалёк ад нас, — Зялёны Мох, Крушнікі, і ўжо зусім побач з намі Спрымачоў…

Улетку таго ж года, пятага чэрвеня, карны атрад гітлераўцаў напаткаў у лесе сто пяцьдзясят жыхароў з розных вёсак — яны хаваліся ад нямецкіх акупантаў. Людзей прыгналі ў Спрымачоў, загналі, упіхнулі ў адзін дом, забілі наглуха дзверы і вокны — і падпалілі.

Ніхто не выжыў…

## ІВАН САЧУК



Нарадзіўся ў вёсцы Буда-Казіміраўская, якую падчас вайны спалілі фашысты. Скончыў Мазырскае педвучылішча, пасля Маскоўскі ўніверсітэт імя М. Ламаносава. Працаваў у Мазырскім педуніверсітэце. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Цяпер — на пенсіі. Напісаў дакументальную аповесць «Цяплом душэўным падзялюся».

## АЛЕСЬ БРАГІНЕЦ

# Надзечка

Дзіця — бязмежнасць,
Дзіця — пылінка ў прасторы,
Дзіця — імгненне ў часе,
Дзіця — бясконцы сусвет…

*Я. Корчак*

1

Як добра ў дзяцінстве бегаць па цёплых лужынах, дыхаць вільготным травеньскім паветрам, пускаючы самаробныя лодачкі-караблікі з лазы па ручайках. Хай сабе потым маці з татам адлупцуюць за мокрую, брудную вопратку…

Менавіта тады, у траўні, я першы раз убачыў Надзечку. Яе прывезлі ў вёску да бабулі на сінім самазвале разам з татам і рознымі рэчамі ды вanзэлкамі. Тая бабуля — Паша — жыла па суседстве з намі, і я бачыў, як да яе ў хату заносяць гэтыя пажыткі. Белагаловая маленькая дзяўчынка ў блакітнай балоневай кашулі, белых калготках і чырвоных чаравічках бегала пад нагамі, замінаючы дарослым. Здалёк яна нагадвала кацяня, якое стала на заднія лапкі, каб папрасіць нечага ў гаспадыні.

— Надзя! Адыдзіся, не перашкаджай! Вунь бяжы пагуляй з дзецьмі! — сказаў нехта з дарослых.

Дзяўчынка бягом накіравалася ў наш бок.

— Саня, глядзі, сюды бяжыць! Давай не будзем з ёй размаўляць! — прапанаваў мой сябар.

— Мяне завуць На-дзе-чка! А цябе як? — на мяне паглядаў маленькі тварык з вочкамі колеру «чыстага, блакітнага, вымытага маладым травеньскім дажджом» неба.

— Калі хочаце, я назбіраю вам дзьмухаўцоў! Вунь колькі іх вакол дарогі, ці вось гэтых рознакаляровых каменьчыкаў! — не дачакаўшыся майго адказу, праспявала Надзечка.

— Мы не хочам! — сказаў мой сябар. — Ты яшчэ вельмі малая, каб гуляць з намі, мы ўжо заканчваем пяты клас! А табе, мабыць, гадоў пяць. І яшчэ: калі ты ад нас не адчэпішся, мы пасадзім табе на галаву гэтага хрушча. Глядзі, які вялікі! З доўгімі лапкамі!..

Нехта з разумных сказаў, што ўсё багацце свету не каштуе адной-адзінай дзіцячай слязы. Гэта я зразумеў праз многа год, а тады быў травень, цвілі кветкі і было бесклапотнае, чыстае дзяцінства…

2

Нягледзячы на канец навучальнага года, Надзечку ўзялі ў першы клас. Мая мама тады працавала настаўніцай у школе, казала, што Надзечка ўмее лічыць да дваццаці, ведае ўсе літары. І ўвогуле, разумнае дзіця з дарослым позіркам, толькі крыху адстае ў фізічным развіцці: «Вельмі ж маленькая, мабыць, недаядала. Пальчыкі, як у трохгадовага дзіцяці». Яшчэ я чуў, як мама размаўляла з суседкай пра Надзечку, дакладней пра яе маму, якая не прыехала з ёй сюды, бо памерла, нарадзіўшы Надзечку. Тата Надзечкі вярнуўся з Мінска, дзе меў кватэру і працу. Але пасля смерці жонкі пачаў піць. Спачатку гарэлку, а пасля ўсё, што ёсць. З работы, вядома, звольнілі, пасля і кватэру прадаў. Надзечка ўвесь час жыла ў другой бабулі, пакуль і тая не памерла. Бацька, каб не забралі Надзечку, прыцёгся да старой маці ў вёску на яе жабрацкую калгасную пенсію.

З працай у калгасе не заладзілася адразу, бацька Надзечкі Пятро пабоўтаўся тыдні два ў паляводах, хоць там асабліва непітушчых і не было, але жлукціць так, як ён, не адважваўся ніхто. Колькі разоў старшыня калгаса ўшчуваў яго — не памятае і сам Пятро. Потым яго перавялі ў памочнікі на трактар, дзе з ім выйшаў наступны казус. Пераворвалі яны клетку, Пятро сядзеў на прычапных плугах, нешта там рэгуляваў, зразумела, у добрым падпітку, ці то «Беларус» раптам тузануўся, ці Пятро прыкемарыў, але факт — зляцеў гарэтнік пад тыя самыя плугі. Трактарыст, Федаровічаў Вовік, заўважыў прапажу толькі як пачаў заходзіць на другі клін. Збялеўшы, падбег да Пятра, які, пахропваючы, мірна спаў у каляіне. Вовік падняў яго і размахнуўся, каб урэзаць па пысе, але раптам абмяк — у Пеці не хапала аднаго вуха. Колькі ні шукалі, спатыкаючыся па баразнах, так і не знайшлі, відаць, сцягнулі гракі ці вароны — спрадвечныя спадарожнікі аратых. Але з таго часу за Пятром трывала замацавалася мянушка — «П'ер Бязвухі». Урэшце яго звольнілі, як кажуць, з «воўчым білетам». З таго часу, каб было з чаго выпіць, хадзіў па хатах, рабіў каму якую працу: дровы пасекчы, кароў адпасвіць, выкінуць з хлява гной ці пасадзіць-выкапаць-перабраць бульбу…

Аднаго разу Пятро прыйшоў да нас, каб пазычыць грошай, бацька сціснуўшы зубы, моўчкі працягнуў скамечаныя паперкі. Мая баба Настуля яго потым за гэта надта ўшчувала: «А каб цябе пранцы з'елі! Нашто ты даў? Ведаеш жа, што прап'е і не аддасць табе ніколі!»

— Лепш хай не аддае, затое і не прыйдзе больш пазычаць! — не адрываючыся ад працы, гыркнуў тата.

— От, мой Божа, і слова не даюць сказаць, сіраціне!

— Усё, маці, адстань!

Недзе праз тыдзень пасля гэтага бабуля звярнулася да мяне з просьбай:

— Унучак, хай бы ты схадзіў да гэтага пустадомка, мо ён аддаў бы табе бацькавы грошы, я тады вазьму ў краме «рагалік» і марозіва. Пэўна ж, не адкажашся? Ну, збегаеш?

— Толькі, баба, не падмані. А ці выйдзе там яшчэ маленькі кулёчак цукерак? — радасна запытаўся я.

— Вядома, што выйдзе! Бяжы хутчэй, Сашка, мабыць, ён дома… Каб яго скулы ўзялі, ваўкарэзіну!

Абшарпаныя, перакошаныя дзверы паддаліся не адразу, цікава, як заходзяць у хату Надзечка ці састарэлая баба Паша?

Не звяртаючы на мяне ніякай увагі, у куце на лядоўні тры пярэстыя куры важна дзяўблі скарынку.

— Ё хто дома? — прасунуўшы галаву ў пакой, запытаўся я. — Баба Паша! Пецязя!

Хоць крыкнуў я досыць гучна, адказу не было. Толькі куры пырхнулі ў розныя бакі, абярнуўшы паўлітровы слоік з недапалкамі, які з грукатам, рассыпаючы ўсё смярдзючае змесціва, пакаціўся ў цёмны кут.

«Ну іх, тыя грошы, з тым марозівам», — падумаў я, падаўшыся да дзвярэй.

Толькі выходзячы на двор, я ўбачыў босыя, брудныя ногі, якія тырчэлі з малінніку.

— Пецязя! Ты жывы? — запытаўся я, падыходзячы бліжэй.

Пятро ляжаў на спіне, раскінуўшы ўбакі рукі, з шырока адкрытым ротам, дзе поўзалі тлустыя сінія і жоўтыя мухі. Побач з ім ляжаў парожні «фаўст» пладова-ягаднага, па якім караскаліся маленькія чырвоныя мурашы. Забыўшыся на грошы і абяцаныя бабай Настуляй гасцінцы, я, як шалёны, лузануў дадому…

3

Няма большага шчасця для дзяцей, як доўгія летнія вакацыі! Можна бегаць-скакаць вакол калгаснай лазні, гуляючы ў хованкі, страляць з рагаткі, катацца на ровары, паліць вогнішчы… але самае прыемнае — не трэба хадзіць шторанак у школу! Прачнуўся сабе і рабі, што хочаш. Я больш за ўсё любіў лавіць рыбу на канаве, што была непадалёк ад нашага дому. Прыйдзеш, бывае, падкрадзешся і глядзіш, як там, у глыбіні, ляніва плаваюць ліні, адбіваючы зялёнымі спінамі сонечныя промні. Але такая рыба чамусьці не траплялася на маю самаробную вуду з вялікім гусіным паплаўком. Часцей за ўсё гэта дзяўблі печкуры, пакідаючы на далонях кавалачкі срэбра. Час ад часу трапляліся карасі, якія досыць доўга не засыналі і боўталіся ў празрыстым мяшэчку з-пад цукру. Вяртацца дамоў з такім «уловам» было значна лепш. Бабуля Насця, корпаючыся ў гародчыку, заўважыла мяне толькі тады, калі бразнула брамка.

— Ну, і куды цяпер гэта смецце, мо хіба катэ паядуць? Абы з дому сцягнуцца! — «павіншавала» з уловам баба.

Ну, скажыце, хіба будзеш задаволены пасля такога! Давялося скарміць заўсёды галодным катам усіх маіх печкуроў, ды што там печкуроў, мой карась здаваўся цяпер ужо не такім вялікім і пасля нядоўгіх роздумаў бухнуўся перад кацінай мордай.

— До-бра-га дня вам, ба-бу-ля, — пачуў я за сваёй спінай знаёмы дзіцячы галасок. — Можа, вам дапамагчы вырываць зелле?

Так, гэта была Надзечка. Я не адразу заўважыў яе за мамінымі кветкамі.

— Са-ша! О Са-ша! Ой-яй-ёй! — раптам загаласіла баба. — Чаму ты не зачыніў весніцы на засоў?

Надзечка прыходзіла да нас досыць часта, асабліва калі дома была мама, бо бабуля мая яе не любіла. Тады яны хадзілі па гародчыку, мама рабіла якую работу, а Надзечка бегала за ёй усюды, не адстаючы ні на крок. Гаварылі пра нешта, але гэта мне было тады зусім нецікава. Мама шкадавала Надзечку, карміла яе штодня. Памятаю, мама купіла цукерак і падзяліла на дзве роўныя часткі, але я ж быў у яе адзін! Маёй крыўдзе не было канца — чужому дзіцяці аддаваць палову цукерак? Якіх і без таго бачыш толькі на Новы год!

— Сынок, хто ж ёй купіць? Пеця ж п'е, Пашынай пенсіі хапае толькі на хлеб! — спрабавала супакоіць мяне мама.

— Забяры і гэтыя! Мне не трэба! Хай і іх з'есць, калі яна табе даражэйшая за мяне! — роў я.

— І праўда, Ларыса, няўжо панясеш? —высунулася з пакоя бабуля Насця. — У яе што, бацька нябожчык? На такіх воз цягаць трэба! Добры бук! Хай і даглядае, калі нарадзіў! Ты і хлеб, я бачыла, з салам ёй давала, каторы я ў краме бяру за сваю пенсію. Каб не насіла хлеб, дык даўно ўжо мяне куды вуперлі! А гэта ж, — паказала па мяне баба, — твой меншы сынок! Хадзі да мяне, сіраціначка…

— Мама, хіба ж у вас лёс быў іншы? З дванаццаці гадоў самі сірата! Ці лёгка вам было? Але ж дапамагалі людзі! Дык чаго вы ад мяне хочаце?

— Дапамагалі!? Я людзям падлогу па хатах мыла, на свінарніку па калена ў га…не работала, рук не пакладаючы! Вот яка помач была! Ага, мілая мая! Затым вайна — Івана ў баразне раджала!.. Хай бы хоць прыйшла ды жука з картапляніку сабрала, а то адныя цырбалкі тырчаць!

— Якога жука, мама? Вы яе пальчыкі бачылі? А ручкі? Аднаго разу кажа: «Давайце, цёця, я вам падлогу памыю», як я ёй гэту анучу пудовую дам! Што вы верзяце?

Сказаўшы так мама адвярнулася ад нас, але я паспеў заўважыць слёзы на яе вачах.

Увечары прыйшоў з працы тата, баба Насця, як бы няўзнак, узгадала той хлеб, які бярэ за свае грошы:

— Сцёпа, як сабе хочаце, але «белага» больш браць не буду! Хіба ж я дурніца, каб чужых кідуноў карміць?

Тата працаваў шафёрам у калгасе, вядома, летам прыходзіў позна і, як правіла, неверагодна стомлены.

— Маці, я на рыбу месяц выбрацца не магу, а ты мне тут «белы хлеб»! Шурык, заўтра з раніцы накапай чарвякоў, пасля абеду паедзем на возера, можа, і кум паедзе, калі Надзя адпусціць? Хопіць, трэба стаць на рамонт!

4

Амаль увесь тыдзень ішоў халодны восеньскі дождж. Нізкія кудлатыя хмары зацягнулі неба. У такія часы нельга уцяміць — раніца зараз, дзень ці вечар? Дарогі ператварыліся ў рудыя лужыны. Нават куры не выходзілі з хлява, каб падзяўбці ячменю.

Раніцаю такога дня Надзечка не прыйшла ў школу. Не ведаю як цяпер, а у маім дзяцінстве, калі хтосьці прапусціў хоць адзін урок без дай прычыны, меў непрыемную гутарку з класным кіраўніком. А тут дзіцяці няма цэлы дзень. Адбылося наступнае.

Надзечка хацела перайсці вялікую лужыну, па Міхайлавічавых калдобінах, паслізнулася і ўпала. Спрабавала падняцца, але не змагла. Ледзь дапаўзла да кворткі, там яе ўбачыла баба Паша. Яна ўсцягнула малую на канапу і пашкандыбала да фельчара. Толькі пад вечар малую адвезлі ў раённую лякарню. Вазіў мой бацька з маці на грузавіку, ахінуўшы Надзечку ватовай коўдрай. У такое надвор'е на «хуткую» разлічваць было дарэмна. Надзечка нацярпелася болю і зусім не плакала, толькі ўсю дарогу цяжка дыхала. Прыехалі позна ноччу, і Надзечка засталася ў нас.

Ранкам, збіраючыся ў школу, я, прыадчыніўшы дзверы ў залу, бачыў як спала Надзечка.

— Сынок, хай сабе адпачне! Пойдзеш у школу, скажаш Раісе Іванаўне, што мяне сёння не будзе, а магчыма, і ў панядзелак таксама. Зразумеў?

Вяртаючыся са школы дадому, я на ганку сустрэўся з бабай Пашай, якая выходзіла ад нас.

— Дай вам бог здароўя, Ларыса Іванаўна! То і праўда, ёй лепш пакуль у вас! А тога ж прыдурка ўжо трэці дзень няма! Як пайшоў у Жалы (вёска недалёка ад нас) некаму дровы рэзаць, дык і няма…

— От, можа, Паша, яго прытаўклі дзе? — сказала баба Насця, сцягваючы з ног боты. — А ты раней прыйсці не мог? Я, пакуль хлеб прыпёрла, уся вымакла! — гэта было ўжо да мяне.

— Настуля, можа, яно так і лепш было б. Паплакала б адзін раз, ды ўсё тут. Ён мяне так задзёргаў, няма сілы… Ларыса Іванаўна, я да вас заўтра зноў прыйду. Заўтра ж Тамара-паштарка пенсію прынясе, дык вазьму Надзейцы чаго смачнага ў магазіне.

— Так, Паша, прыходзь!

5

У нядзелю нарэшце стала сонечна і цёпла. Па-летняму добры настрой не маглі сапсаваць нават мухі, якія надакучліва гулі ў верандзе, біліся ў шыбы. Мы з татам збіраліся ў грыбы, калі да нас падышоў Пятро:

— Салют, Сцяпан!

— Чаго табе? — не падаўшы рукі, спытаў бацька.

— Відзіш, Сцёпа, какая сітуацыя… Забалела мая Надзечка… Я тока сённі ўзнаў, што к чаму. Добра, што тока вывіх… На зарабатках быў у Жалах… Ну так вот, трохі паработалі, сам панімаеш, нада ж выпіць. Сам не знаю, как ано

вышла, кароча, дзенех — нету. Хачу дочке купіць чэво, ты, можат, аддалжыш скока-нібуць? Я патом аддам, скора ў Пашы пенсія.

— А, дык гэта ты па грошы прыйшоў? Аддалжыць, кажаш? Ну, гэта можна! — паставіўшы кош, сказаў бацька. — Шурык, збегай у хату, вазьмі мне плашч!

— Папа, дык ён жа тут, у «масквічы», з рыбалкі яшчэ ляжыць!

— Тады вазьмі мне куртку ў каморы! Ды хутчэй ты, часу няма! — чамусьці раззлаваўся бацька.

Калі я вярнуўся, Пеці ўжо не было. Тата нечага павыстаўляў з багажніка нашыя шпагатовыя кошыкі. Толькі падышоўшы бліжэй, я заўважыў, як у яго трасуцца рукі.

— А дзе… Пецяʼ? — разгублена запытаўся я, гледзячы на тату.

— Сынок! У грыбы паедзем іншым разам. Занясі кашы на калодзеж… Такі добры быў настрой… усё спаскудзіў, сука! — плюнуў сабе пад ногі тата. — Пайшлі лепш куму дапаможам дровы парэзаць, пакуль там яшчэ хто галаву не скруціў! Маці нічога не кажы, зразумеў?

Я моўчкі кіўнуў галавой.

— Зразумеў, пытаю, ці не?

— Так… зразумеў!

— Тады хуценька бяжы за пілой!

Настрой сапраўды быў сапсаваны…

Паша забрала Надзечку толькі ў сераду, калі тая магла ўжо неяк хадзіць…

— Я вам, Ларыса Іванаўна, маслякоў прынясу! Багата. Знаю каля возера месца — там іх процьма, ніхто, акрамя мяне, той ельнік не знае! Вы толькі іх самі спарадкуеце, а то не бачу, старая стала, каб добра пачысціць.

— Нашто мне, Паша, твае грыбы, як ты толькі цягаеш тыя кашы за пяць кіламетраў? Сцёпа з Сашам паедуць калі, то і прывязуць.

— Ат, сяраўно дома сяджу! Брыгадзір сказаў, каб больш на ферме майго і духу не было, з тога разу як плоха мне стала ды ўпала ў цялятніку. Старая я, нікому не патрэбная стала. Цяжка думаць, калі памру, што з дзіцём будзе? — сказала старая, выціраючы хусткай запалыя вочы.

— А сколькі табе ўжо, Паша? — пацікавілася баба Настуля.

— Ну, восемдзесят… было некалі, трэба пашпарт глядзець. Добра не помню. Сілы то ё, а вось галава як дурная! Іду, бывае, у хлеў прыйду — чаго сюды прысунулася — не помню.

Я добра запомніў гэты дзень, тады мы размаўлялі з бабай Пашай апошні раз.

6

Сонечным ранкам я бачыў, як Паша ў сваёй шэрай выцвілай «плюсаўцы», згорбіўшыся, шкандыбала з вялізным кашом да лесу…

Яе знайшлі толькі на трэці дзень прыехаўшыя з Урэчча на двух грузавіках салдаты, з кудлатымі жоўтымі аўчаркамі.

Паша, скруціўшыся, ляжала на ўзгорку каля маленькай хвойкі, сціснуўшы ў высахлай руцэ чорны кош, які здаваўся зараз непамерна вялікім, у параўнанні з яе маленькім целам. Высыпаныя грыбы таксама былі чорнага колеру і нагадвалі загінулых, дзюбатых варон. З таго часу я ненавіджу маслякі.

Прайшоў, здаецца, тыдзень калі да нас пад'ехала шэрая «Волга» з незразумелым надпісам «ИЗЫСКАТЕЛЬСКАЯ». Тоўстая, ярка нафарбаваная жанчына доўга аб нечым размаўляла з маёй мамай. Пасля падышла да нас з Надзечкай.

— Ну, что, заинька, поедешь со мной на машинке покататься? — сказала цётка, працягнуўшы да Надзечкі свае рукі з маленькімі тоўстымі, чырвонымі, нібы морква, пальцамі.

— Цёця Ларыса, не аддавайце мяне ім! Я не хочу ехаць! Ма-ма, за-бя-ры мя-не! Ма-ма, Лора! — плакала Надзечка, вырываючыся з рук чужога чалавека.

— Слухайце, Валянціна Сяргееўна, можа, пакінеце яе тут у нас, пакуль гэта пытанне будзе вырашацца? — спрабавала адгаварыць цётку мама.

—Ну вы же знаете, что суд постановил лишить Петра Константиновича родительских прав, на основании отсутствия постоянной работы, заботы о ребёнке, тем более он злоупотребляет спиртным, а тут ещё бабушка умерла! Хотите удочерить — собирайте документы, и через какое-то время будет вынесено решение по этому поводу. Всё, Серёжа, поехали! — сказаўшы гэта, цётка моцна бразнула дзверцамі «Волгі».

— Пачакайце, я сабяру чаго-небудзь ёй на дарогу! Яшчэ там вопратка яе і ранец з кніжкамі! Цацкі! — кінулася да машыны мама.

— Этого ничего не нужно! Закройте дверь!…

Калі машына знікла за паваротам, мы з мамай яшчэ доўга моўчкі стаялі і глядзелі ім услед. Пасля селі на ганак, мама сказала:

— Нічога, сынок, не плач, мы з татам хутка забяром яе назад! Чуеш? Забя-ром!

— Мама, я ведаю, што ўсё будзе добра! Але плачаш гэта ты! Калі яна прыедзе, хай бярэ гуляць мае пісталеты ці мой новенькі ровар…

Увечары я ніяк не мог заснуць. Мама з татам у гэты вечар не глядзелі свой любімы серыял. Яны доўга сядзелі на кухні, аб чымсьці размаўлялі, нечага спрачаліся…

Пеці не стала, калі лёг першы снег. Яго куры, якім не было чаго есці, прыбіліся да суседскіх. Міхайлавіч пагнаў іх у Пашын сарай, дзе на дроце ад настольнай лямпы вісеў некалькі дзён Пеця.

**Замест эпілога**

Калі б тады, дваццаць гадоў назад, мама настаяла на сваім, магчыма, у мяне была б ужо дарослая сястра. Тата не схацеў прыняць у сваю сям'ю іншага, чужога чалавека. Я ніколі не буду яго за гэта асуджаць. Было б яшчэ горш, каб ён, не любячы Надзейку, прыняў бы яе — ён пра гэта добра ведаў.

І хутчэй за ўсё зараз, праз многа год, ён шкадуе, што той восенню не зрабіў таго, пра што марыла яго жонка.

На жаль, час ніколі не даруе нам таго, што зроблена альбо не зроблена ў нашым жыцці. Так часы, дні, гады беззваротна знікаюць з нашага жыцця, пакідаючы толькі ўспаміны. Бывае, што і не зусім добрыя.

Цяпер, калі я гляджу на свайго чатырохгадовага сына, я бачу дзіцё з вочкамі колеру «чыстага, блакітнага, вымытага маладым травеньскім дажджом» неба…

*Жнівень 2013 г.*

## АЛЕСЬ БРАГІНЕЦ



Нарадзіўся ў 1981 годзе на Любаншчыне. Скончыў Гомельскі гандлёва-эканамічны ўніверсітэт. Жыве ў Гомелі.




# Паэзія

## ВІКТАР ЯРАЦ

### Зямныя эцюды



Далёка ад храмаў непальскіх, індыйскіх,
далін афрыканскіх, дзе цёпла зімой,
снег лёг на світанні на сцежку дзяцінства —
яе называюць гадоў сувязной.

І сонца Ван Гогам эцюды іскрыстыя
стварае ў сяброўстве з бярозай, сасной.
Снег лёг на світанні на сцежку дзяцінства
ці ж толькі адной вышыні сівізной?



Праз вёрсты, што ў тумане, далятае
світальнае гуканне цягніка.
І звоняць у ільдзінках небакраі,
якім махае цёплая рука.

І галубятнік выпускае з будкі
чародку ў неба, хмурае яшчэ.
І точыць шлях, як вуж, ледзь чутны, гнуткі
зімовай нечаканасці ручэй.



За ўсіх, за ўсіх, каго люблю і помню
ў марозным свеце, свежым ад снягоў,
малюся сёння ранішняму промню,
што выплавіла сонца ў вечнай домне
для блізкіх і далёкіх берагоў.

У век званкоў мабільных пасылаю
крылатай поштай белых галубоў.
Дыханне воблакаў над заінелым гаем,
дыханне дрэў жывых, якія маю
напішуць музыку зялёных галасоў.



Жывеш на белым свеце менш ці больш —
спасцігні ў радасці, спасцігні ў горы,
аб чым гаворыць ранні майскі дождж,
маўчаць аб чым сваім, як вечнасць, горы.

Раскусіш горкай мудрасці арэх —
і зноў, і зноў пытаеш у прасторы:
— Аб чым гаворыць самы юны снег,
што снег расстайны, позні, сэрцу дорыць?



Зацвітае бяссмертнік на кручах —
так раней, так даўно зацвітаў
тут, дзе вецер стагоддзяў прывучаны
слухаць выдыхі плёсаў і траў.
І святлеюць гады і аблокі.
І святлеюць пагляды акон.
Жаўтацветам дыхне — і здалёку
дух язычніцкіх чуецца дзён.



*Анатолю Вярцінскаму*

Мелодыяй жыццю жаўрук прачнецца —
і для жывых святло разгорне дзень.
І на зямлі народжанае сэрца
заб'ецца неўміручасцю ў гняздзе.

Каго спытаць: ці будзе так заўсёды?
Маўчаць аб тым зацята валуны.
Маўчыць курган. Як летапісы, воды
свой сказ вядуць аб чым у нашы дні?



Свет зямны збіраўся па часцінках,
склейваўся, ляпіўся вышынёй —
ад пылінкі ў полі, ад былінкі
да скалы над безданню крутой.

Нізка думкам — неба не ніжэе.
Глуха слову — неба не віной,
не віной, хоць з высі горыч сеяў
чорны вецер квецені парой.



Пакуль жыццё яшчэ вісіць на валаску,
малітвай ловіць кожны міг дыханне,
як затрымаць няўмольны бег секунд
да фінішнай мяжы —
нямой, расстайнай?

А тонкі-тонкі, ледзьве чутны валасок,
як праваднік надзей, трымціць, нацяты.
І бег секунд пякучы, нібы ток.
На крыжыку нацельным — Бог распяты.



Байкеры — маланкі на дарогах —
слепяць вочы і начы, і дню.
Матацыклаў самых модных рогі
на дыбы ўздымаюць цішыню.
Глушаць свет нервовы і стамлёны.
Тонкай ніткай сон ірвецца чый?
З далечы імчыцца гук сталёвы
у павязках чуйных аблачын.



Крамяныя, трывушчыя тут яблыкі былі —
водар свежы да вясны трымалі.
Высмакталі нафту — кроў зямлі, —
і сады здароўем заняпалі.

У якія далечы сышлі
сілы глыбіні — вякоў багацце?
— Высмакталі нафту — кроў зямлі, —
і зямля хварэе, —
кажа маці.



Прысніўся парк, дзе дрэвы без карэнняў,
прысніўся бор, дзе сосны без галін.
Стаяць ствалы — бязроднасць сутарэнняў.
Прыйшлі яны адкуль, чаму, калі?

Стаяць слупы. Дзе музыка? Дзе ж гнёзды?
Крок металічны, падкаваны крок
вартуе тэрыторыю. Пагрозны,
як свіст дубінкі, янычарскі зрок.



*Нілу Гілевічу*

Там, за барамі-лясамі,
квецень сплыла маладая.
Кліча не даль галасамі —
яблыня ў леце з пладамі.

Вераш: ёсць вернасць на свеце.
Ціха люляе-гайдае
вецце — калыскі бяссмерця —
яблыня ў леце з пладамі.



Хацеў бы дзень, што разбудзіў святлом,
здзіўленнем прывітаць, нібыта сёння
я ў свет прыйшоў, як навасёл у дом,
дзе свежай фарбай пахнуць нават промні.

Хацеў бы гэты дзень лічыць сваім
пачаткам-нараджэннем. Дзе ж мне толькі
пакінуць дні, дзе плыў падману дым,
дзе смех Іуды колкі, як асколкі?



З фальшывых вырываюся абдымкаў —
і свет шырэе, на вачах расце,
і сыпле ранак шчэбет, свіст і ціўкат —
а мне не цесна між бяроз і сцен.

У жніўны дзень, праменнямі спавіты,
іду пачуць спрадвечны сказ вякоў:
там каласы — праўдзівым шэптам жыта,
там шчырасцю — сінеча васількоў.



*Рыгору Барадуліну*

Завейныя снягі і пыл спякоты —
кругазваротам на шляхах зямных.
Шукае вецер мёд у цёплых сотах.
Жывіцай гоіць бор самлелы слых.

Не ведаю, якое ў гор дыханне,
а ведаю — ёсць розны лік акон.
Начны цягнік спяшае бегма ў ранне.
І будзіць сон чыёй вясны вагон?



*Генадзю Бураўкіну*

След самалёта — бінтамі над захаду ранай чырвонай.
След палазоў сінявою прабіўся праз поле, якім
Хтосьці спяшае дадому,
дзе ў шыбы заглядваюць клёны,
З коміна тчэцца ў вышыні сцежак прыветлівы дым.

Зорка азябла ўздыхне — і танометрам мерае месяц
Ціск заінелай бярозы над лёдам прыціхлай ракі.
Чуецца ў свеце сумётаў голас адчыненых весніц.
Грэецца ранняя зорка выдыхам цёплым людскім.



Да раніцы высокія гірлянды
высвечваюць глыбокі сон снягоў.
І ў вокны цішыня маўчаннем панды
заглядвае з далёкіх берагоў.

Знайсці б на свеце гук выратавальны —
бальзамны, жыватворны ў свеце гук, —
і песнямі зноў адгукнуцца тайны
тваіх вясновых губ, вясновых рук…



Начная ластаўка ў пакой мой заляцела
пад водбліскі абложных бліскавіц
і б'ецца, кружыцца пад столлю, і трымціць
крывінкай кожнай трапяткое цела.

Між сцен, угрэтых зацяжной спякотай,
аб чым хацела расказаць яна
душы, якой не спіцца да відна,
агорнутай задымленай гаркотай.



Ёсць імя кітайскае Цінцін —
так сініцы цінькаюць ля вокан
досвіткам марозным, ледзьве сінь
недзе прачынаецца высока.

Ты смяешся — весялее дзень
у чаканні першае завеі.
Юнае Цінцін, нявеглы цень,
абміні раскрыленыя веі.



У родным свеце і снягі, і травы
не будзяць даўніх дзён спакой і сны.
Там — у вяках— героі і варавы,
і здраднікі, і вернасці сыны.

Пра час, які адвёў мне Бог ласкавы,
скажу без падсалоджанай маны:
часцей свае душылі ваўкадавы,
чым людзі з нетутэйшай стараны.

## ВІКТАР ЯРАЦ



Нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірантуру па спецыяльнасці «Беларуская літаратура». Працуе выкладчыкам гэтага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Першыя вершы апублікаваў у газеце «Піянер Беларусі» ў школьныя гады. Актыўна пачаў выступаць у друку з 1966 года. Аўтар зборнікаў вершаў «Уваходзіны» (1976), «Добрыца» (бібліятэка часопіса «Маладосць», 1989). Прымаў удзел у падрыхтоўцы энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (40 артыкулаў). Каля 100 прац (артыкулы, рэцэнзіі, эсэ, тэзісы і літаратурна-публіцыстычныя нататкі) змешчаны ў часопісах, навуковых зборніках, энцыклапедыях, газетах Беларусі, Расіі, Украіны. Напісаў вучэбна-метадычны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў «Беларускія паэты — лаўрэаты Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР» (Гомель, 1983). Перакладае творы балгарскіх, летувіскіх, расійскіх, украінскіх паэтаў на беларускую мову. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

## АЛЕСЬ БАРДОЎСКІ

### Жоўты парасонік

Мы чыталі дождж без перакладу.
Дождж, што надакучыў, не злаваў.
З тваіх вуснаў ён змываў памаду,
Пацалункі з маіх шчок змываў.

Цёплы дождж на скуры парасону
Танчыў брэйк, бы неба абрынаў,
А маланкі лазернае шоу
Аздабляла сола перуна.

А калі гарэзны сонца промнік
Між аблокаў зноў зазіхацеў —
Вецер вырваў жоўты парасонік
І на ім у неба паляцеў.

Дзень, як дождж, прайшоў.
Са мною зноў ты.
Назаўжды б каб гэта, назаўжды!
А на небе парасонік жоўты
Ззяе нібы месяц малады…

### Памяці Алеся Пісьмянкова

У роспачы, у скрусе
Кранае ветрык скронь —
На Пісьмянковым лузе
Чужы пасецца конь

Чужыя людзі ў хаце,
Чужыя, не сыны.
А бацька побач з маці —
На могілках яны.

А сын далёка дзесьці
Там, дзе свае крыжы…
Куды ж прыедуць дзеці,
Як дзедаў дом — чужы?

І хлапчукам вясковым
Не чутны гэты боль —

На лузе Пісьмянковым
Чужы пасецца конь…

## Хросныя

Дзесьці за дарогамі,
Там, дзе сок бяроз,
За гадамі доўгімі
Я калісьці рос.

Памятаю добра я:
Перад хатай — бэз,
Бесядзь — маці хросная,
Бацька хросны — лес.

Там багун на купінах
Ды сасновы звон…
Ды не вернеш згубленых
Непаўторных дзён.

А дарогі розныя
Ўсё туды завуць…
Паўміралі родныя,
Хросныя — жывуць!

## Рэха журбы

*Л. К. Левановічу*

Быццам кара спасцігла нас божая —
Як мы вытрымаць гэта змаглі?!
Ў Клеявічы паехаў бы, можа, я,
Ды няма іх ужо на зямлі…
Колькі вёсак бяда тая вырвала —
Не змясціць усяго ў галаве…
Вось і еду я, еду з Пятрылава,
Дзе зямляк знакаміты жыве.
Нас разнеслі жыццёвыя ветразі —
Час бязлітасны сёння такі.
Там няма ні буслоў і ні Бесядзі,
Толькі з лесу прыходзяць дзікі.
А наўкола лясы маляўнічыя,
Траў гаючых квітнее дыван,

І прыходзяць радкі спавядальныя,
Каб пакласціся ў новы раман.
І старонкі, як соты пчаліныя,
Сэнсам поўняцца, мёдам нібы…
Толькі сняцца кліны жураўліныя,
Ды над Бесяддзю рэха журбы.



Не быў я вернікам спярша,
А сэрца розумам сталела;
Не разумеў, што ёсць душа,
Пакуль яна не забалела;

Не верыў я, што тут я госць…
Ды ад балючага папроку
Запарушыла быццам вока,
І я адчуў, што сэрца ёсць…



Спамін лета мроіцца далёкі…
Чэрвень аксамітам запалаў,
Я суніцы еў з тваёй далонькі,
Вуснамі тваімі запіваў.

І п'янеў, нібыта ад настойкі,
І ляцеў я зноў і зноў здалёк
На блакітных воч тваіх вясёлкі,
На агонь нібыта матылёк…

Развялі нас розныя дарогі,
Шмат гадоў ад тых часін прайшло…
Я суніцы еў з тваёй далонькі —
І смачней нічога не было.



Быў шлях да праўды камяністым
І не адзін у свеце цэлым.
Я быў таксама камуністам,
Ды толькі бел-чырвона-белым.

І не назваць сістэму кланам,
Ды там былі свае законы, —
І ўсе хадзілі пад райкамам:
Той быў нішто, хто не чырвоны.

Ды не шкадую я аб гэтым —
Я ў ліхалетныя гадзіны
Галасаваў сваім білетам
За змену колеру Радзімы.

## На падворку Анатоля Сыса

Час пераблытаў колеры і стылі
І сам змяніўся — нават не пазнаць.
А сёння дык Сыса ў школу не пусцілі,
Дзе ён вучыўся думаць і пісаць.

Гарошкаў слухаў родную гаворку —
Яна за сэрца так шчымліва брала, —
Чытала вершы памяць на падворку,
Напісаныя нібы шрыфтам Брайля.

Ды пройдзе час — калядныя марозы
Саломкай мяккай снег насыплюць долу.
І прыйдзе Сыс, выбітны і цвярозы…
А памяць сёння не пусцілі ў школу…

## Амстэрдам

Паліла. За прахожымі сачыла —
Ад сораму ужо не стыла кроў —
За шклом сядзела голая жанчына
На вуліцы чырвоных ліхтароў.

Як манекен, як гумавая лялька,
Глядзела абыякава праз шкло…
Хто йшоў паволі, хто праходзіў шпарка —
Тут столькі заклапочаных прайшло!

Што успамін аскому набівае,
Ды толькі ён настрою не псуе.
Прадажнага кахання не бывае,
Тут арандуюць цела за у. е.

Ды толькі ёсць другія вокны дзесьці —
Ля іх гараць другія ліхтары…
Сустрэне муж, парадуюцца дзеці.
Ўсё змые душ. І чорт яго бяры!

А дні ляцяць няспыннай чарадою,
І не ад шчасця хочацца завыць.
Бруд з цела лёгка змыецца вадою,
А бруд з душы якой вадою змыць?

На продаж секс. І ні граху, ні веры,
І непатрэбны словы святароў…
Рыпяць няспынна ў Амстэрдаме дзверы
На вуліцы чырвоных ліхтароў.

## Перамога

Ні малога там, а ні старога,
Хмызняком адзічэла наўколле.
Ёсць населены пункт Перамога
У напрамку Чачэрск–Краснаполле.

Называць бы яго так няможна,
Бо да студні ніякіх слядоў.
Ды азначаны знакам дарожным
Ён ужо цягам многіх гадоў

Не спяшайся, кіроўца, залішне —
Час абрынуўся тут, ці вярнуўся —
Тут сядзіць у засадзе даішнік,
Каб папоўніць бюджэт Беларусі…

Тры хаціны абапал дарогі
Паміраюць у суме і брудзе.
Тут яшчэ не было перамогі,
Але хочацца верыць, што будзе.

## Выспы часу

Аднойчы ў пошуках адказу,
Які мінулае кране,
Ты завітай на выспы часу
Да маладога да мяне.

Пабач, нібыта з-за фіранкі,
Праз дзён святло і змрок начэй
Імгненні спыненай маланкі
І позірк вабячых вачэй.

І вусны, што не ўсё сказалі,
Адчуй на вуснах на сваіх,
І вочы тыя, што кахалі,
Не патанула ты ў якіх…

Ды не знайсці на ўсё адказу,
Хутчэй «ужо», а не «яшчэ»…
Ах, як шкада, што рэчка часу
Назад ніколі не цячэ!

## АЛЕСЬ БАРДОЎСКІ



Нарадзіўся 3 мая 1946 года ў вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна. Пасля заканчэння Бялынкавіцкай сярэдняй школы атрымаў спецыяльнасць інжынера-механіка ў Джамбульскім тэхналагічным інстытуце. Друкаваўся ў перыядычных выданнях Беларусі, Украіны, Расіі. Аўтар паэтычных зборнікаў «На крыжы тваіх рук» і «Выспы часу». Сябра ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

ГЕНАДЗЬ ЛАПАЦІН

# и вырастим сад до его любованья собой…

*избранное для Людмилы*



моя любимая
июль
себя он с нею обретает
она такая золотая



любимая цветам под стать
вокруг нее им собирать
себя
и находиться рядом
затем чтоб называться садом



*Эдуарду и Наталье Акулиным*

Ім пёры анёлы з аблокаў скубуць…
*Эдуард Акулін*

1

журавли прилетают клином
журавли улетают клином
как единым пером журавлиным

все порывы и все надежды
все свершения и пора
золотая вмещаются между
двумя росчерками пера

2

пришли к Нему
а Он писал
перстом на землях Елеона
ушли
писать он продолжал
не знаем мы писал о чём он
на что он возлагал надежды
но знаем что сказал он между
и этим преподал урок
все основное между строк



*по мотивам Нины Матяш*

от многоцветья радостно в глазах
что даже в сердце праздник как порядок
и можно благодарным быть и за
быть от нее на расстоянье взгляда

но верим пальцам больше чем глазам
чтобы узнать как обретая тело
уходит образ в верхние пределы
напоминая цветом небеса

чтобы возникнув птицей многоцветной
в ладони бросить черное перо
и куст качнется опустевшей веткой
напоминая опустевший трон



1

и вдруг подумаешь
сад есть высшая форма
родства деревьев

и все цвета
жёлтые зелёные красные
не будут случайными и напрасными

и у каждого дерева свой цвет
остается в этом родстве

это как в песне
где у каждого свой голос
и все вместе

2

как высшей степенью родства
роднятся садом дерева
и каждое из них при этом
красуется
своим же цветом
и понимаешь
это Сад!
и понимаешь сад как песня
и песня сводит голоса
такие разные и вместе
затем чтоб состоялась песня



Небо на небе
сказала Вера

эта неба чистота
чтобы с чистого листа
без подсказок
без советов
начиналось это лето

если будет всё как надо
значит небо будет радо
повторить нас облаками
солнцем
месяцем
луной
звёздами над головой



сирень вернётся
рассмеётся

ветвями в небо устремится
чтобы похожей стать на птицу
так мы с сиренью проходили
урок небес
науку крыльев
чем от земных пределов выше
тем меньше меж ветвей излишеств
чем ближе к небесам
тем зримей
в сирени очертанья крыльев

и если вглядываться с неба
то видишь зряче
а не слепо



стрекозы
стрекозы
столько стрекоз
что самое верное определенье
тому что мы видим
стрекоз новоселье

и так по-хозяйски они в эти дни
на травах на листьях кустов и деревьев
что зримым становится их ощущенье
того что они в этом мире одни

никто им не нужен
и мы не нужны
и в этом они нам с тобою равны



*Верушке Лазебниковой*

1

девочка любуется стрекозами
и стрекозы тем ей отвечают
что они её не отличают
от цветов по зелени разбросанным
и находят в том себе предлог

покружившись над землёю танцем
на её ладошку опускаться
будто на раскрытый лепесток

2

девочка любуется стрекозами
золотыми звонкими блестящими
над землёю звёздами кружащими
девочка за ними наблюдает
так что даже не отводит взгляд
и под них ладошку подставляет
как под настоящий звездопад



любоваться ребёнка каждым мгновением
любоваться ребёнка каждым движением
это лучшее нашей жизни течение

и у каждой минуты своё название
и у каждой минуты своё состояние
Умиление
Овсепетая
Взыграние

и у каждой минуты своё движение
птицы ангела
бабочки
ветки сиреневой

и у каждой минуты своя тайна
и у каждой минуты своё чудо
и сходятся музыкой
как ноты минуты

и к вдохновению затем приходим
чтоб эту музыку
записать как мелодию



*Борису Петровичу (Саченко)*

чалавек — лодка
з лодачнікам
*Барыс Пятровіч*

не волей волн мы
а по воле
того кто в нас как на престоле
и впрямь плывём как лодки будто
он в нас всегда
он в нас повсюду
но где мы с ним вступаем в спор
и удержаться в нас не просто
он рассыпается на звёзды
на водах речек и озёр

возникло из памяти замовным словом
в нём те же образы
и та же основа
плывуць прыстолы па сіняй рацэ
плывуць па рацэ прыстолы прыстолы святыя
залатое вясло ў Хрыста ў руцэ
срэбнае вясло ў руцэ Марыі



однажды увидим
что сад он
совсем не слепой
чтобы своей красоты не увидеть
и вырастим сад
до его любованья собой



*Верушке Лазебниковой*

мальчик с жалейкой на девочку смотрит с открытки
девочки сердце для первого чувства открыто
девочка чувствует детской душою своею

будто бы мальчик любуется ею
девочка чувствует чем-то своим невесомым
будто бы он для неё для одной нарисован



моей любимой поэзия
которая её любит
и возносит
туда где многоголосье
птиц и цветенье
сирени
весенней
моей любимой поэзия
которая её любит
в каждом слове
и она на любовь
отвечает любовью

## ГЕНАДЗЬ ЛАПАЦІН



Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Закончыў філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Выдаў кнігі паэзіі «Без чисел и дат» (1997, 2003), «Лепить из снега» (2002), «Луны преобладанье» (2003), «Увидеть дерево» (2008), «Около облака» (2012). Працуе вядучым навуковым супрацоўнікам Веткаўскага музея народнай творчасці. Займаецца вывучэннем традыцыйнай культуры. Аўтар шматлікіх публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі ў такіх выданнях, як «Алеся», «ЛіМ», «Родное слово», «Верасень», «Антропологический форум» (Санкт-Петербург), энцыклапедычным даведніку «Беларуская міфалогія» (2004), энцыклапедычным слоўніку «Міфалогія беларусаў» (2011); сталы аўтар такіх выданняў, як «Живая старина» (Москва), «Palaeoslavica» (Cambridge). Укладальнік і адзін з аўтараў зборніка «Навуковыя запіскі Веткаўскага музея народнай творчасці». Таксама прымаў удзел у такіх падрыхтаваных музеем выданнях, як «Арнаменты Падняпроўя» (2004) і «Голоса ушедших деревень» (2008). Выдаў кнігу «“Ікона звалась свячой…”. Абрад «Свяча» ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны» (2012). Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

## ЛАРЫСА РАМАНАВА

### Побач

*Анатолю Сысу*

Сонца маленькім ружова-жоўтым абрыкосам апускаецца зранку на зялёнае голле каштана.
Гляджу на твае рукі. Шчылінкі, кропкі на паверхні скуры — гэта твае крокі, гэта сцежкі, перамогі і падзенні, што даваліся праз перашкоды адваротнага руху. Іх так многа!
Цябе, нібыта цара Ітакі, заўсёды цягнула дакрануцца рукой да далячыняў неба, да якіх ты плыў у чоўнах, што пралеглі двойчы на фалангах пальцаў рук і ног.
Ды толькі ж узор тваёй скуры — узор зямлі: сетка, мярэжка і ўлоў; зямля — Берагіня *сваё* беражэ. Так бераг зберагае раку.
А чалавек, гэткі маленькі, палявік, або лесавік, або той, што жыве ў чалавейніку — вялікім горадзе-агародзе, вартуе нябёсы: «Не трэба вам падаць! Дыхайце роўна, на поўныя грудзі, нябесныя і зямныя аблачынкі. Гарыце, нябесныя і зямныя вогнішчы! Бо як тады жыць — без Зямлі?
Так павучок, ледзь прыкметны воку, жыве да апошняга ля засохлай кветкі, бо пахне яна яму палыном і мёдам, ранейшым домам. Нібы старажытны індзеец, зберагае павук успаміны пра сны ды сны ўспамінаў.
Побач. Побач з ёй, кветкай.

*22 ліпеня 2009 г.*

### Словы

І раса мне скуру апячэ…
*Анатоль Сыс*

Ой, ішла Страла да ўздоўж сяла!
Ой, убіла Страла добра молайца…
*З песні*

Паляцелі словы ў свет…
Можа, словы стануць светам —
бліснуць Боскаю расою
паміж светам тым і гэтым?

Серабрыцца лісце ўранку
і крывёй сцякае.

Я схапіў рукой маланку!
Што рабіць мне з ёй — не знаю…

Выведу яе у жыта,
каб людзей не спапяліла:
— Тут ляжы, ў зямлю зарыта,
будзеш маёй Мілай.

На зямлі агонь шугае
па вясне зялёны:
нібы дрэвы, нібы кветкі,
узрастаюць словы.

*29 траўня 2009 г.*



*яблыням у садзе Анатоля Сыса*

—… апошні ліст у лістападзе
з якога дрэва падае?
—…з заснежанага «белага наліва»
з самай верхняе галіны

кранаецца лістка сарока
і аглядае ўвесь абшар

так часта падае душа
не бачыць прад сабой нічога

ды што з таго?

яе падзенне
на далоні Бога
у свеце іншым
іншы крок

*2003*

## Пасярод глыбокай вады, на аксаміце травы…

*Анатолю Сысу*

Прыйшоў нечакана з імжы,
з халоднай далёкай цішы:
«Як жывеш ты, Ларыса, скажы?»
На кашулі — пагоны: крыжы.

Мы доўга хадзілі ў зіме,
Мы доўга хадзілі ў віне
за слёзы, пралітыя тут,
рука за руку, без словаў;
у сне — ўсё і так вядома.

Зайшоў да сяброў у дом.
«Не страшка!» — аб дзверы — ілбом.
Сябрам — не ў радасць прыход.
Як калісьці: ідзе крыгаход,
зайцам мусіш скакаць і скакаць.

Мы стаялі прад вялікай вадой:
дзве ракі зліліся ў адной, —
каля Лоева Сож упадае ў Дняпро,
там ад срэбра вады зіхціць нават дно.

Мы выходзілі з гэтага дна
ад відна да відна,
на пясок, на траву,
да агню,
дзе шукалі разам з Фамой лілею,
нібы снег сакавіцкі,
белую.

*11–12 сакавіка 2010 г.*

## Нам Бог усміхаецца

і гэты свет
як боль народзін
сябе пазбыцца
нідзе
ні ў чым не паўтарыцца

здавалася б падобныя нарцысы
ці руні парасткі у полі
але ж падобныя
не болей

мінулы час не дакарай
твой Вырай
не мой Рай

вяртаецца з Выраю птушка Рух
туды дзе творыць чалавечы Дух

## Час прыходзіць

Ойча наш, Які ёсць на небе,
Ойча наш, Які — на зямлі,
хлеб наш надзённы дай нам сёння
і даруй нам нашы грахі!

Збаў ад спакусы мець замнога
багаццяў зямных, усе яны — тло.
Ці ж, Божа, не бачыш? Слабыя — ў дарозе,
мову народу аж заняло.

Косіць Чарнобыль свае пакосы, —
і памірае паціху люд…
Божа мілы, дай нам сілы
ўратаваць гэты свет ад згуб!
Божа мілы, дай нам сілы
вытрываць боль пакут…

Каго Ты любіш, таго караеш:
час прыходзіць збіраць камяні.
Калі ж застанецца тутэйшы апошні,
ласкай Сваёю не абміні

гэту зямлю і яго таксама;
мо распачне ён сабою род
людзей беззаганных, моцных, прыгожых,
хто не збаяўся б ісці ўброд
вечнай плыні жыцця…

## Вечнасць

Стаіць мост на сто вёрст.
А на мосце — слядок,
а на мосце — радок:
«Ці ж маўчанне — золата?»

Душа ідзе, постуе,
ў цішыні ступае,
ўзыходзіць на мост у сто вёрст,
пытае:
— Дзе ж вы, Малыя Чалавечкі,
Першыя сярод Першых?!

Глядзіць. Не бачыць.
Плача. Смяецца.
Шэпча. Крычыць. Кліча.
Хоча ўбачыць кагосьці
(…цябе ці мяне, нас абодвух?),

ці, можа, той снег,
што выпаў пасля Вялікадня,
які аднойчы проста абрынуўся
з каўша Вялікай Мядзведзіцы
на малюнкі Давіда і Каці
ў дзіцячым садзе,
на наскальныя малюнкі
ў Тассілін-Аджэры,
на якіх —
ужо больш васьмі тысяч гадоў
плачуць, таньчаць, смяюцца
Маленькія Чалавечкі.



Стаіць наша Ветка, стаіць…
штосілы трымаецца глебы, —
няхай сабе дожджык імжыць,
а сонца — аж на паўнеба!

Расце наша Дрэва Жыцця
пад позіркам светлых анёлаў.
Вяртаюць штораз з небыцця
словы. Дзіця іх прамовіла:

«Мама, глядзі, як птушка ляціць…
Гэта ж — усмешка Бога!»
І на малюнку ў яго — райскі сад.
…яшчэ не было нічога.



Таемны ўзор стварае Гасподзь —
звязвае ў адно два сэрцы.
Ў лагодзе гэтай расце Сусвет
пад гукі адзінага scherzo.

Не пытайся, адкуль яно ёсць —
ціхае замілаванне.
На ім трымаецца зямная вось —
каханне, каханне, каханне…



Хочацца плакаць ад вершаў,
ад простых, знаёмых словаў,
першасных, самых першых,
што раптам з'явіліся сёння.

Ўсё проста і мудра ў свеце!
Ці бачыш — такое свята:
дзень не праходзіць дарэмна,
калі ён запоўнены верай…

## ЛАРЫСА РАМАНАВА



Нарадзілася 28 студзеня 1968 года ў вёсцы Покаць Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці. Па адукацыі — філолаг (скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт у 1991 годзе), музеязнаўца. Узначальвала «Поўню» — філіял «Тутэйшых» у Гомелі. Паэт, фалькларыст, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Аддай асалоду Богу» (1998), «Птушкі і рыбы» (2004), «Святая вада» (2012). З 1993 года працуе ў Веткаўскім музеі старaабрадніцтва і беларускіх традыцый імя Ф. Р. Шклярава. Даследуе традыцыйную беларускую культуру. Адзін з аўтараў навуковых выданняў «Навуковыя запіскі Веткаўскага музея народнай творчасці», «Арнаменты Падняпроўя». Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Ветцы.

## ТАІСА МЕЛЬЧАНКА

### Сустрэча

Праз сон адчула: я ў бацькоўскай хаце.
І сэрца зноў ад радасці дрыжыць.
Наўдыбачках ля печы ходзіць маці,
Каб, не дай Бог, мяне не пабудзіць.

Яна такая ж, як і ўсе вяскоўцы, —
Сатканая з сузор'я дабрыні.
Жыццё яе — у клопатах бясконцых,
Бо думае аб дзецях дзень пры дні.

Ці ж я забуду рук тваіх калыску
І песню, што ласкава ў сон вяла?
О родная, ты ад мяне так блізка,
Вярну цяпло, што мне ты аддала.

…Тут маё сэрца — ластаўка на волі.
Сустрэчы хвіля — свята для душы.
Схаваю шчасце я ў твае далоні,
Ты пра сябе сягоння раскажы.

Я даражу абдымкамі тваімі,
Таму так дораг мне сустрэчы час.
…Мы застаёмся да сівін малымі,
Пакуль яшчэ матулі ёсць у нас.

### Родны кут

Любоў, як сонца, панавала ў хаце,
І родны кут утульным быў, як рай, —
Ужо тады мне гаварыла маці:
— Сцяжын радзінных ты не забывай!

Іх з іншымі не зблытаю ніколі.
Тут мой прычал і цеплыня раллі.
Адчула ў вёсцы неабдымнасць волі,
Бароў дыханне, моц сваёй зямлі.

…З грады сарвала першы агурочак,
Што ўжо абмыўся ранішняй расой.

І памяць сэрца адпускаць не хоча,
Бо маму прыгадала са слязой.

Няма яе, няма нікога з роду.
Улегліся навекі спачываць…
Сумуе дворык, хата і прырода, —
Мне ж некаму цяпло сваё аддаць.

Але ў старым гняздоўі заначую,
Хоць без бацькоў у ім ужо не рай…
Праз замець год матулін голас чую:
— Сцяжын радзінных ты не забывай!

## Вытокі

Агеньчык свечкі высвеціў паціру,
Манахаў, нахілёных над сталом,—
Братоў святых — Мяфодзія, Кірылу,
З каронай азарэння над чалом.
Узнёсласць урачыстая на ліках —
Бог не стаміўся іх рукой вадзіць, —
Ён на зямлю паслаў святых вялікіх
Люд паспаліты грамаце вучыць.
Таму не спяць Кірыла і Мяфодзій,
Ткуць азбукі славянскай палатно.
Хоць за мурамі ноч стамлёна ходзіць,
Ды ў іх вачах натхнёнасць і святло.
На палатне тым — літары, не словы.
Вось-вось, здаецца, гукі ажывуць.
Манахі вераць: заспявае мова, —
Яе пазней ВЫТОКАМ назавуць.
І зноў пяро гусінае рыпела,
Выводзячы «Аз», «Букі» і «Глагол»,
Каб я славянаў мову разумела,
На ручніку выносіла хлеб-соль…
Бо мову продкі зберагалі годна —
Таму жыве да сённяшняй пары,
Яна — духоўны летапіс народа,
Як тых імёны, хто яе стварыў.

## Дарагі ўзор

Бяссонную паслаў Гасподзь мне ночку…
І бачыцца зарніца з-за ракі,
Радзіма, што ў валошкавым вяночку,
Глядзіць у глыб стагоддзяў з-пад рукі.
Яна заўжды мне дорага і міла,
Таму заходжу ў роднае жытло, —
З яе крыніцы чэрпаю я сілу,
Каб светла-светла на душы было.
Яе бяссмерце ў куфры старадаўнім,
Дзе посцілкі, набожнік, андарак.
Лічылі бабку ў нас майстрыхай слаўнай,
У вёсцы ткаць ніхто не здолеў так.
Узоры не пабляклі і ад часу,
Застануцца такімі й сотні год.
А спадчына душою будзе нашай,
Пакуль жыве і вёска, і народ.
Спраду са слоў я не адну ніціну,
А потым сэрцам з іх абшар сатку,
А на світанні з любаю Айчынай
На бел-чырвоным станем ручніку.

## ТАІСА МЕЛЬЧАНКА



Нарадзілася 15 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Маркавічы Гомельскага раёна ў сям'і служачага. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны (1970). Працавала настаўніцай роднай мовы і літаратуры ў СШ № 53 г. Гомеля. Педагагічную працу сумяшчала з творчай. Аўтар кніг паэзіі «Вясковая песня», «Бацькоўскі дом», «Званок у верасень», «Каласы болю», «Добры знак», «Бяроста памяці», «Пуціна годнасці», «Сарцавіна роду», «На вастрыі тугі», «Крыж веры», «Музыка пачуццяў» (на рускай мове). Лаўрэат літаратурных прэмій А. Грачанікава, І. Мележа, расійскай прэміі Баяна. Выдала некалькі кніг перакладаў паэзіі і прозы са славянскіх моў: «Сябрына», «Кабзар», «Славянская повязь», «Касабланка». Многія вершы перакладзены на іншыя мовы. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

## ЯЎГЕН СЕРГІЕНЯ



Прынясіце, вятры,
Мне з радзімага краю
Пах вясновай вярбы
І нябёсаў акраец;

Кроплю свежай расы
З найбагацейшых палеткаў,
Дзе жытоў каласы
Ціха моляцца ўлетку;

Спеў майго салаўя,
Што на бэзе спявае,
Срэбны звон ручая,
Што мне ў сэрца ўпадае…

Прынясіце сюды
Гукі роднага краю…
Я адтуль не бяды —
Добрай весткі чакаю.



Смутак горкі сее каня,
Ці то нечага рабіць?
Не стамляючыся, з рання
Просіць неба: піць, піць, піць

Ой, чаго ж ёй не хапае?
Вось жа многа ёсць вады.
Мо якую тайну знае,
Стогне з нейкае бяды?

Ці то ў выраі шчаслівым
Яе дожджык з хмар паіў,
І таму глядзіць тужліва
На забруджаны разліў?

Наваколле маладзее.
Зазвінеў абшар лясны.
Ну навошта каня сее
Смутак з ранняе вясны?

## Вёска

Там мой застаўся жыццёвы трохкутнік:
Хата бацькоў, дзе свой лёс пачынаў,
Школа, дзе зведаў кахання пакуты,
Храм, дзе калісьці душой ачуняў.

Зараз бацькоўская хата — чужая,
Школа стаіць без акон і дзвярэй.
Толькі царква засталася жывая,
Месца спакою для жменькі людзей.

## Бабілонская вежа

Людзі, што будавалі Бабілонскую вежу,
Пэўна, думалі і размаўлялі па-беларуску.
Бо пасля таго, як Бог змяшаў мовы народаў,
Наступствы засталіся на нашай зямлі.
Беларусы заўжды някепскія будаўнікі,
А сыдуцца, дык не могуць дамовіцца,
На якой мове размаўляць ім.
Таму і не пераводзіцца трасянка.

## Араты

Хай пасецца конь на лузе
Ноччу, бо яму
Цэлы дзень араць у плузе
Поле дзірвану.

— Адпачне няхай скаціна, —
Кажа гаспадар.
І назаўтра хварасцінай
Гоніць на папар.

І за дзень каню разору
Як бы не скрывіць:
Калі скрывіць, без разбору
Будуць гнаць і біць.

Па жыцці нідзе не збочыць—
Вось яго закон.
І свабодзе цёмнай ночы
Радуецца конь.

## Жалейка

Хацеў бы на жалейцы я зайграць,
Усю тугу душэўную агучыць:
Адплакацца за ўсё, адсумаваць,
Каб болей іншых і сябе не мучыць.

Хай разляціцца той мінорны гук
Над паплавамі, дзе сканала лета,
Дзе між травінак сетку тчэ павук,
Дзе туманы, нібыта шлейф каметы.

А ў глыбіню спустошанай душы
Пральюцца гукі радасці, бы лекі…
Таму заўсёды ў зболенай цішы
Шукаю для душы сваёй жалейку.

## Пра сяброў

Пра Евангелле наш успамін.
Не змаглі (дванаццаць іх) з'яднацца.
Але здраднік быў толькі адзін,
А сяброў у Хрыста — адзінаццаць.

Прыйдзе роспач на колькі гадзін.
Ані з кім не захочацца знацца.
Супакойся, бо юда адзін,
А сяброў у цябе—адзінаццаць.

Мноства ёсць нешчаслівых навін:
Зноў народзіцца хрыстапрадаўца?..
Разумей: будзе юда адзін,
А сяброў у Хрыста — адзінаццаць.



Нахілі нябёсы да мяне,
Я хачу напіцца зорнай кавы,
Разглядзець нябёс узор яскравы
Насамрэч, як некалі у сне.

Каб блакіт не мог зашмальцаваць
Прамяністы бег таемных сцежак,
Узіраюся туды, у глыб бязмежжа,
Дзе Жыццё я буду сустракаць.

Што ні дзень, — нябёсы ля зямлі,
Вока цешаць воблакі і цені…
Бачыць замінаюць летуценні
Край, куды не ходзяць караблі.



Сіберна, і за акном калыша
Дрэўца голле дзівам на вачах:
Кожная галінка нешта піша
Кончыкам па небе на вятрах.

Хоць стаіць навокал сум сцюдзёны,
А яны, пазбаўленыя сну,
Пішуць літары шчасліва і натхнёна,
Як паэму пішуць пра вясну.

Аркуш неба, вышыня над дрэўцам,
І галінак ускалых-узмах…
Кожная асобна піша-б'ецца
Кончыкам па небе на вятрах.

## Малітва

Дапамажы, вялікі Божа,
У час нуды, у час імжы…
Калі ніхто не дапаможа,
Ты мне адзін дапамажы.

Параду дай мне, мілы Божа,
На ўсе пытанні адкажы —
Як падказаць ніхто не можа,
Ты мне парай, дапамажы.

Мяне вучы, нязменны Божа,
Як трэба дні свае пражыць
І міласэрна, і прыгожа —
Ты мне адзін дапамажы.

Дапамажы, магутны Божа,
Дайсці да вечнае мяжы,
Калі ніхто ўжо не паможа—
Ты мне тады дапамажы.



Хай ласка сонца кожнай сіраціне
З любоўю ў вочы й сэрца зазірне…
Якія б ні былі мае правіны,
А мама не цуралася мяне.

Была прыгожай маладой жанчынай,
Шчаслівая яна была ці не,
А ўсё натхненне кволаму хлапчыне
Душой дарыла, шчасце ткала мне.

Бяжыць жыццё, віхляе ручаінай,
То поспехам, то славай казырне…
А зазірнеш у вочы сіраціне…
«Дай, Божа, маму і яму, і мне».



Што прыгожага ёсць на Зямлі?
Адказаць проста так немагчыма.
Сярод кветак, што ў траўні ўзышлі,
Найпрыгожая, мусіць… жанчына.

Нават ружа ў зіхоткай расе,
Што для ўсіх захаплення прычына,
Параўнацца не зможа ў красе
З прыгажосцю каханай жанчыны.

## ЯЎГЕН СЕРГІЕНЯ



Нарадзіўся ў 1964 годзе на Берасцейшчыне. Закончыў Маскоўскі тэалагічны інстытут і Кіеўскую міжнародную тэалагічную семінарыю. Працуе святаром Евангельскай царквы. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

# ГАЛІНА ДАШКЕВІЧ (КЛІМОВІЧ)



Мама, даруй за хворыя вочы твае,
За абцужкі акуляраў,
Што скроні сціскаюць балюча.
За тое, што рэдка, любімая, песні пяеш,
Што светлыя мары твае
Адкрасавалі шыпшынай калючай.

Мама, даруй за косы сівыя твае,
Што несціханай завеяй
Маё развярэджваюць сэрца.
А на партрэце дзявочым —
Абрысы чароўнай красы
Вабяць, трывожаць,
Бо памяць нічым мне сцерці.

Мама, даруй за пакуты, нялёгкі твой лёс.
Долю настаўніцы, што паядналася з доляй сялянкі.
Кніга і серп узвышаюць цябе да нябёс,
Кніга і серп аздабляюць і ўнукаў світанкі.

## Бацьку

Мой аднадумец і дарадца,
Настаўнік строгі і суддзя,
Як мне да існасці дабрацца
На крутагорыне жыцця?

Маё ў знямозе пакаленне,
Тваё — закончыла палёт,
І не хапае нам цярпення
Стрымаць круты водаварот.

Як не стае духоўнай ежы
І цвёрдасці, і чысціні!
Стаім на ростані — сумежжы
Дабра і зла, бы здані, мы.

Адной трывогай апантаны —
Што будзе з краем і людзьмі?

Смыляць твае старыя раны
Ўсю ноч трывожна пад грудзьмі.

Ды рану свежую ніколі
Напэўна, ўжо не загаіць, —
З чарнобыльскім нясцерпным болем
Нам і нашчадкам трэба жыць.

Даруй мне, тата, родны, мілы,
Прабач, мой самы верны друг, —
Трывожуся: ці хопіць сілы
Закляты разарваць ланцуг?

## Дачка Палесся

*Кацярыне Паповай*

Натхнёная Тураўскай пушчай,
Дубоў старажытных паданнем,
Крывінка зямлі беларускай
Спяшае насустрач світанню.

Душа адчувае патрэбу
Спазнання адвечных вытокаў,
Дзе Прыпяць зліваецца з небам,
Дзе ў небе, як вежы, аблокі.

Жанчына з параненым сэрцам
І моцнай, як крэмень, душою,
Сустрэліся мы і, здаецца,
Заўжды Вы былі мне сястрою.

Мы сёстры, бо мы пахрышчоны
Кірылы магутнага словам,
І будзем маліцца да скону
Свяцейшай пакутніцы — Мове.

Мы ёсць, каб адрынуць праклёны
Ад песні з тугой жураўлінай.
Мы зробім усё, каб на троне
Заззяла яна, як княгіня.



Паміраў паляшук у закутку вясковае хаты,
Трызніў, клікаў надрыўна усіх сваякоў і стагнаў.
Сумны месяц агледзеў сялянскі ўвесь скарб небагаты,
Нібы ў чым вінаваты, свой позірк панікла схаваў.

Тры дачкі галасілі над бацькам памерлым няўцешна,
Тры свячы дагаралі ў халоднай вячэрняй імгле,
Месяц доўга глядзеў, як душа адлятала у вечнасць,
І падумаў: які неабсяжны прастор для яе.

## Паркан

Прыйшла бяда да ветэрана:
Падгніў паркан у дзядзькі Яна…
Хто ж дапаможа? Старшыня,
Тым больш, што нейкая радня.

Сустрэў той з ласкаю ў паглядзе,
Сказаў:
— Адсеемся, наладзім!
Паркан, як лялька, будзе ззяць!

Чакае дзядзька месяц, пяць.
Вяпрук суседскі ў агародзе,
Як старшыня, паважна ходзіць.

Зноў дзядзька рушыў на прыём.
Старшынька кажа:
— Вось дажнём,
Дажынкі, як належыць, справім —
За пару дзён паркан паставім!

Адсвяткаваў калгас дажынкі.
Зляцелі першыя сняжынкі,
Заззяў пад сонцам тонкі лёд.
А Ян памёр пад Новы год.

Ад старшыні, нібы ад пана,
Не дачакаўся ён паркана.
Своечасова стане, можа,
Каля магілы агароджа?..

## Мой ясны маю…

А раптам не заўважу, не пазнаю
У цемрадзі засмужаных гадоў…
Каханне першае, мой ясны маю,
Зялёны востраў пасярод снягоў.
Цяпельца, як ратунак для тапельца,
Саломінкі нацятая струна,
Цяпельца спадзявання грэе сэрца,
Што дажыву да сонечнага дня.
Убачу вочы, родныя да болю.
Вазьму тваю ласкавую далонь,
Нібы не расставаліся ніколі,
Нібы не пабялілі зімы скронь.
Сустрэчы ўсё жыццё сваё чакаю,
Цяпельцам спадзявання грэю кроў,
Каханне першае, мой ясны маю,
Зялёны востраў пасярод снягоў.



Ціха, пяшчотна наўкола,
А на душы неспакой.
Нехта заплакаў уголас,
Можа, па долі маёй.
Можа, анёл мой руплівы,
Што засланяў ад нягод,
Ператаміў свае крылы
Ад нескончоных згрызот.
Дух пахіснуўся ягоны,
Сэрца скавала ільдом
Непамыслот незлічоных
Пад непакорным чалом.
Божа, вярні мне анёла!
Грэшна бяскрылымі жыць!..
Долі скрыпучае кола
Па каляіне бяжыць.

## ГАЛІНА ДАШКЕВІЧ (КЛІМОВІЧ)



Нарадзілася ў старажытным Тураве ў сям'і настаўніка. Скончыла Мазырскі дзяржаўны педінстытут, працавала выхавацелькай у дзіцячым садку, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 6 Мазыра. Потым працавала ў Мазырскім інстытуце, вучылася ў аспірантуры. Абараніла кандыдацкую дысертацыю, дацэнт кафедры беларускай літаратуры. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах, у часопісах «Маладосць», «Полымя», «Вожык», «Падарожнік», «Бярозка», а таксама ў калектыўных зборніках. Больш як дваццаць гадоў была актрысай Мазырскага народнага тэатра, на аснове якога сёння створаны прафесійны драматычны тэатр імя Івана Мележа. Аўтар паэтычных зборнікаў «Верасніца» (1997) і «Паўлік кніжачку чытае» (2001). Сябра ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Мазыры.

# АРЫЯ-УЛЬРЫКА ГАТАЛЬСКАЯ

## Успамін
*Трыялет*

На лесвічнай пляцоўцы горкі пах.
Тут толькі што пранеслі хрызантэмы.
І ўздрыгнуў успамін забытай тэмы —
На лесвічнай пляцоўцы горкі пах!
Ўзлятае сэрца, б'ецца, быццам птах:
Я не забыла тэмы восеньскай квантэмы!
На лесвічнай пляцоўцы горкі пах,
Тут толькі што праплылі хрызантэмы.

## Праслаўленне

вас славіць
слінна словы ўслаць
усмак
салодкім спевам
скутасць скінуўшы
сягоння
ўсяго
сягаючы святога

скаромныя не носяць скрыдлаў,
а посныя не сняць спакусаў

вы самі скеміце
самотны
сумны
светлы
спеў стыне
ў стане
смерць не смерць —
скананне

не столькі сполаху ў вас
колькі сумнагляду



ахінуўшы ахоўна алешнікам
бы з атраманту
сіняе ночы
акрамоскам амяглыя плёсы
у абдымкі свае горне ціша

ля алівы агатавай пахкай
за апонай асокі аціхлай
у начы я ў атулку атрудным
у адрыне аджылае думкі

аџьмярыць свой амвон чорным неба —
толькі зор акіян адгукнецца
наваколлю авойкнуўшы рэхам

толькі камнем у гэтую студню
ахне слова
і зноў цішыня

## Запрашэнне

Прысмакаваліся жыцця прысолы прыкрыя:
прывычка.
Прыходзьце ў госці —
пакаштуем палкага партвейну.
Працягнем дзень цераз парог,
перапрастаем, перасцелем, падмалюем.
Пярліны ўпікаў пераніжам,
ператрушчым
падзеі прагарэлых авантураў.
Нагамі ўперад дзень,
нішчымніцай прагорклай ноч…
Прайшло…
Прысмакаваліся пагудкі песняў.
Пракінутыя некалі парогі-пуцявіны
прапалі ў прорве:
мой праклён прывычцы!
Прыходзьце ў госці —
падагрэем дзеі.



*К. Каліноўскаму*

Няма найменне…
Я нямею.
Не ўмею
выказаць у словах
Адчай сыходу,
утрапенне,
віну і грэх
над гэтай мовай.
Нас мала так.
Чырвонай кнігі
не завядуць на нашы словы.
Глыток свабоды, як адлігі —
і зноў мароз.
І карнік новы.
Нас ведаюць.
Даюць нам жару,
калі знаходзяць.
Паіменна.
Хапаюць, судзяць.
Ад цяжару сыходзіць хтосьці.
Ды нязменна
нясём, напяўшы ў коўш далоні
з палону бруду і мітрэнгі
свой скарб
праз чорныя калоны.
Усцяж крывавыя шарэнгі.
Няма наймення.
Не, не сніцца.
Не трызніцца.
Такая ява.
Пляц.
Зброя.
Пратакол.
Вязніца.
І дагараць сляды крывава.

## Яе Імя

Ад прыцягнення ночы зорнай
На міг свой позірк адарві.
Яна паўстане ўся ў крыві,
Яна ідзе нямой і чорнай.
Гучыць адна ўсяго струна,
Мелодыі няма і сэнсу.
Ад філасофскага працэсу
Ты адарвіся — вось яна!
Працягвае табе далоні
У ранах і ў пустой мальбе,
Яна глядзіць унутр цябе,
Яна сціскае ў жаху скроні.
Была раней, паўстане зноў,
Прыходзіць будзе і жахацца
І нас жахаць. Маўчаць, жагнацца,
Сумленнем абуджаць ад сноў.
Не просіць ні аб чым даўно:
Ёй гонар не дазволіць гэта!
Але адна ў яе ёсць мэта,
У позірку скразіць адно:
Успомні, назаві яе!
Імя яе, яе пароду!..
І будзе аднаму народу
Выратаванне на Вайне.

## Калядкі

Водбліскам цёплым жоўтай лампадкі
Воблак ад месяца свеціцца ледзь.
Воўк падрывае лапамі клець:
Мо разгавеецца сёння.
Калядкі!

Цёткі ды бабкі, пячыце аладкі!
Дзядзькі, цягніце кілбасы, віно:
Сыты павеці, поўна гумно,
Што ж нам скупіцца?
Калядкі!

Хай весялосць бразгаціць без аглядкі,
Свята не змуціцца сумам, нудой.

Гэй, паспявайце ж у такт за дудой!
Ці ж надта часта бываюць калядкі?!.

## Матыў начной дарогі

Чорная страла дарогі.
На асфальце ўроссып зоры.
Ставіць крута месяц рогі,
Вострыць месяц зухам шпоры.
Ноч у прыскі з-пад калёсаў.
З гону — вобдал! І ў аскепкі!
Злева — лесам, справа — лёсам
Застаюцца з гукаў злепкі.
Ноч імчыць насустрач ночы,
Ноч насустрач ночы мкнецца,
Бы зыначыць нешта хоча,
Бы змяніць усё бярэцца.
Аб святло святло пабіла,
Вочы ў вочы, фары ў фары.
Прыцягненне ночы, сіла.
Ноч — чароўная пачвара.
Аўтастрады прыцягненне
Як таемная гаворка,
Як вядзьмарства,
Утрапенне:
Толькі ў чорным небе зорка.



Скрыжаваныя ў гэтай зямлі
Два пачаткі спрадвечнай веры:
Колер чырвоны — колер крыві,
Колер белы — колер паперы.
Нахіліўшыся, ночы супроць,
Нехта выводзіць, бы плуг на раллі,
І паўтараецца ў словах стакроць
Колер паперы, колер крыві.

## Чаканне

Чаканне — вязніца без сцен мураваных,
турма, ад якой нікаму не ўцячы.

Да мура спадзевам на лёс прыкаваны
ланцуг, што слабее хіба што ўначы:
з-за кратаў нябачных у рукі Марфея
здаешся, ваеннапалонны гадзін.
Час коціцца шарам жука-скарабея,
марудны і цяжкі.
Парадак адзін:
чаканне,
як гвалт над прагрэсам і лёсам,
раздзел катаванняў у кнізе жыцця.
Тупее і гасне зняможаны розум:
хвіліны скуголяць кантаты ныцця.
Жаданні, як жылы,
ірвуцца ў кіпенні
і кроў быццам скроні жадае прабіць.
Губляеш за кропляю кроплю — цярпенне,
слабееш, знікаеш…
Чаканне…
Як жыць?
Імгненне яшчэ — і прыйшло,
і збылося.
Забытыя дні і гадзіны пакут.
Надоўга?..
А раптам ізноў завялося?
І гэтаю ноччу напомніць: «Я тут!»…

## АРЫЯ-УЛЬРЫКА ГАТАЛЬСКАЯ



Нарадзілася на Гомельшчыне, на беразе Дняпра, у раёне Жлобінскай Лебядзёўкі. Потым сям'я пераехала на Сож, і Гомель стаў родным горадам яшчэ да школы. Сярэдняя школа, музпедвучылішча, мастацкае вучылішча, супрацоўніцтва з мясцовым і рэспубліканскім друкам у якасці карэспандэнта. Адначасова з гэтым — дэбют з вершамі і званне дыпламанта на фестывалі аўтарскай песні і паэзіі ў Гомелі «Вясна-92». Упершыню надрукавалася ў рэспубліканскім выданні — часопіс «Першацвет» — у наступным годзе. З 1995 года жыла ў Мінску. Працавала ў «Чырвонай змене», вучылася на журфаку БДУ. З гэтага ж года ўдзельнічала ў літруху «Бум-Бам-Літ», выступала з вершамі па гарадах рэспублікі. Супрацоўнічала з Другой праграмай рэспубліканскага радыё, мінскім друкам, працавала мастаком-афарміцелем. Цяпер жыве ў Гомелі.

## АЛЯКСАНДР МУХА



Я знаю, не ищу ответа,
Что после весны всегда приходит лето,
Что зло слабее, чем добро,
Что не ржавеет серебро.
Я знаю, не ищу подсказки:
Добром кончаются все сказки.
И в сказках есть всегда правдивость,
Ведь существует справедливость…
Я знаю — есть любовь, есть мука,
И память в этом нам порука…
Я помню всех, кого любил,
И всех, кем я любимым был.
Я знаю, что, когда мне трудно,
Я поступаю безрассудно…
И ненавижу безразличье.
Я знаю всех личин обличье.
Я знаю — круглая земля.
Зачем на ней родился я?
И где мой путь, моя Планета?
И кто ответит мне на это?
Не знаю, как и почему
Я рифму потерял свою.
И почему стараюсь петь,
Кого стараюсь я согреть?

### Размышления

От поэта до дурака всего один шаг…
*Эдгар По*

Я подбираю рифмы,
Хоть на душе темно,
Ищу слова и мысли,
Которых нет давно,
Которые остались
Там, где цвела земля.
Зачем я возвращаюсь
Туда, где нет меня?
Ведь горы те уплыли, —

Мы стали забывать
Места, где так любили
Душою отдыхать,
Где были грёзы сладки,
Где верили в себя,
Где ближним недостатки
Прощали мы, любя.
Туда, где был я молод,
Где полны чувств слова.
Откуда этот холод
И сладкая молва?
Там не было ненастья,
Но возвращаюсь вновь
Туда, где наше счастье
Сплетала нам любовь.
Там жизни нашей прозу
Ещё я не узнал…
Там был я рад морозу,
Там я стихи писал.

## О поэте и стихах

> Пусть лучше б всё осталось в прозе,
> чего не смог я изваять.
> *Вячеслав Черноус*

Я был свидетелем не раз,
Когда поэт средь сотни глаз
Рассказывал нам жизни прозу,
Предвидя всю её угрозу;
Пытаясь что-то изменить
Иль стену лбом своим пробить…
Ему никто не мог помочь,
Но, разум отгоняя прочь,
Душой я всё ж к нему стремился.
Прошли года — я изменился.
Но в чувствах я остался с ним,
Бессилием своим томим.
Ему старался подражать,
Сравняться с ним ему под стать.
Но ты сказала: «Не греши,
Читай стихи, но не пиши.
Займись прямой своей работой.
А лучше — деньги заработай».

Писать стихи стало грешно?
Наивно, если не смешно.
А чтоб меня смогли понять,
Все чувства должен обуздать.
Добытчиком мне нужно быть,
А о стихах — совет — забыть…

## Октябрь

Золотые клёны…
Падает листва…
Лес ещё зелёный,
Есть ещё трава.
И дни отлетают,
Не проходят зря…
Полюбил я осень,
Запах октября.
Пробежала кошка,
Шерсть, как сто огней.
Пахнет моей дочкой, —
Спала, видно, с ней.
Трётся и мурлычет
Песенку свою.
Знает: её тоже
Я, как всех, люблю.
Голуби взлетели
С нашего двора, —
Что-то их спугнуло,
Может, детвора…
Клёна лист кружится —
Я его ловлю.
Миг короткий длится —
Я октябрь люблю.
Это часто видел,
Но потом забыл,
Как осенний лист тот
Я в руке крутил.
Долго любовался,
Бросить не хотел,
Словно в нём увидел
Собственный удел.
С ветром листья спорят, —
Жёлтый хоровод…

…Знаю, зима скоро,
С ней и Новый год.

## АЛЯКСАНДР МУХА



Нарадзіўся ў вёсцы Амелькаўшчына Хойніцкага раёна. Скончыў Гомельскі дарожна-будаўнічы тэхнікум (прамыслова-грамадзянскае будаўніцтва). Вершы пачаў пісаць пад уздзеяннем урокаў літаратуры і любімых паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Уладзіміра Караткевіча, Міхаіла Лермантава і Уладзіміра Высоцкага. Цяпер працуе ў дзяржпрадпрыемстве «ГарСАП».

## ГАННА НОВІК

### Нямая белая лілея

Я крэмзаў па снезе крывёй і радкамі,
Святло рэзаў цемрай, а боль — цягнікамі
І лёс праклінаў, што няўмольна знікае
Нямая.

Шукаў панацэі ад згубы ды змaну,
Свабоду не раз называў пробным камнем
І верыў, што будзе са мной набалелая
Белая.

Знікаючы, ведаў: праз процьму стагоддзяў
Хто-небудзь парэшткі мінулага знойдзе,
Пялёсткі твае зберажэ ад завеяў,
Лілея…

### Вадохрышча

Завітвай да мяне паваражыць,
Гады ў рады паверыць забабонам.
Я не скажу, што праўда пахне сконам,
Завітвай да мяне паваражыць.
За крыўдай праўда, гоман за гамонам…
І схлусяць карты, і прымусяць жыць.
Завітвай да мяне паваражыць,
Гады ў рады паверыць забабонам.

### Тут

О Гомель ! Жывая, рухавая піца.
Па звыклых маршрутах усё мітусіцца.
Тут звон капяжоў, бутыкі і кавярні,
Тут час прадаецца й губляецца марна,
Тут пошчак абцасікаў, дым цыгарэтны,
Расейская лаянка, боршч і катлеты,
Савецкая, Леніна, пляц Перамогі,
Тралейбусы цягнуць да месяца рогі,
Тут помнікі нейкім і бюсты паэтаў,
Тут лаўкі ад моладзі ломяцца летам,

Тут Сыс Анатоль атумечыў па парку,
Тут кожнае свята — і чарка, і скварка,
Бароўскі тут, Мельнікаў і Балахонаў,
Тут кожны сяльмашавец дасць кунштухоў вам,
Тут цяжка па крамах шукаць «крамбамбулі»,
Начамі ў «Еўропе» тусяцца дзявулі,
Тут летам студэнты ад сесіі енчаць,
Тут верцяцца думкі аб вечным і нечым,
Губляюцца словы, знаходзяцца ноты
І труціцца кожны сваёй адзінотай,
Тут сонца ў аконца і соллю па ране…
Свой горад над Сожам прыдумайце самі.



Па пояс у хвалях і сонечным ззянні,
Па вушы у птушках, па вочы ў світанні,
Па сэрца ў вясновым цяпле ненадзейным —
Чакае абсяг весялосці нядзельнай.
На дамбе прысесці і прыгаршчы спеваў
Апошнім ільдзінам кідаць ашалела,
І чуць, як цягнік выбівае прасторы
Бадзёрыя, пругкія такты-мажоры.
На гэтым затопленым беразе Сожа
Цябе дзед Мазай уратуе, быць можа.

## Перакананні

Страх,
спапялёны дазвання,
блуканне з клубком арыядніных нітак
па ўсіх скрыжаваннях.
Кожны паўстане з нябыту,
хто вечнасць спасцігнуць у стане —
адхланне. Каханне і
перавыданне
самога сябе, абпаленага
верай,
цнатлівасцю хрумсткай паперы,
што стала скрыжалямі,
ўджалены промнем вандроўнік
на росным світанні…

Свабода!!!
І перакананні.



Трызніцца восенню
І павуцінамі.
Мы з Вамі носьбіты
Мовы птушынае.

Найпрыгажэйшае
Една з пакутамі —
Цяга да знешняй свабоды
І ўнутранай.

Вочы самотныя,
Крылы збалелыя.
На прыцемак слотны
Зноў захварэлыя.

Пэўна, калісь
Між прывіднымі выспамі
Я Вас прымроіла,
Вы мяне выснілі.



Спажыўцы інфармацыі
Патанулі у сеціве.
Цені цемру абмацвалі,
Ды мяне не прыкмецілі.

І з дажджовымі кроплямі
Цішыню смакавала я,
Як пацеркамі дробнымі
Яна з прыцемкаў падала.

Спалі вершы і вірусы
У камп’ютары змучаным.
Вецер здзьмуць зоры сіліўся
Ў абмялелыя лужыны.

Згаладалымі пашчамі
Хмары поўню надкусвалі,

І зязюля час лашчыла
Ў састарэлым дамку сваім.



Дзе ты, зняможаны славай парожняю,
Хто табе кляўся кахаць да апошняга,
Колькі разоў дагаралі на вогнішчы,
Тоячы здраду і вечнае тоячы?
Сыпала зоркамі ў сэрцы дзіравыя.
Хворым пачуццям не зліцца з выявамі.
Выраем не ўратаваўся ад поўначы.
Пах цынамону набрыньвае роспаччу.
Падала, падала з неба імглістага
Вера апошняя дзеля няіснага,
Дзеля забытага і нетрывалага,
Неда-сканалага, недаспяванага…
Секла залевамі, сыпала квеценню,
Горад не раз быў лістотай замецены,
Вочы ахрыплі, крычаўшы аб літасці.
Раны зацягвала шэрай стабільнасцю…
І паасобку ў імгле акварэлевай
Таялі цені, на дождж захварэлыя.

## Імжа і праклёны

…Як жадаеш. А мне б і адвечна
Нырцаваць у імжу і праклёны.
Як жа далей… Маркоціцца свечка
На мяжы пустаслоўя і плёну.

Ліставей развучыўся напамяць,
На дратах крумкачы, нібы ноты.
Не шалей: хто народжаны падаць,
Хай не зведае марнасць палёту.

Кожнадзённым — Садом і Гамора.
Вокамгненным — віно і верлібры.
Абыякавым — верыць крамоле
І запарваць на досвітку імбрык.

Памаўчым пра спакой, і не болей.
Будзь са мною адным, і не меней,

Хоць душу раскрыжуе надвое
Барацьба сотняў год і імгненняў.

І калісьці праз сто ліхалеццяў,
Сто гадоў адзіноты, сто мрояў
На гасцінцы два цені прыкмеціць
У імжу закаханы вандроўнік.



Зранку
Ён п’е не расол —
валяр’янку.
Удзень
Палюе на шпаркі свой цень.

Вечарам
Трызніць пра нешта
і марыць аб нечым.

Кладзецца спаць з томікам Коласа,
Золкам ачуньвае…
з Танкам.

Снам абвяшчае байкот
Мой кот.

## Атрэсці з крылаў луску

Нібы косткі са смажанай рыбіны,
З дум
Адбіраюць свядомасць.
Толькі вер: ані здзекі, ні кпіны, ні
Тлум
Душаў нам не спустошаць.

Мы не рыбы з халоднай крывёю, не
Нам
Заплываць у мярэжы.
Хай смяецца над нашымі мроямі
Хам, —
Адно праўду рэжам.

Дэманструйце ж з запалам
Вы свой

Прыстасавальніцкі нораў!—
Ўсё адно вашы душы запалім
Святой,
Забытаю мовай.

## ГАННА НОВІК



Нарадзілася 17 снежня 1990 года ў Гомелі. Скончыла СШ № 19 з мастацкім ухілам. У 2008 годзе скончыла абласны ліцэй і музычную школу па класе гітары. Цяпер — студэнтка чацвёртага курса Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны. Захапляецца сюррэалізмам, постмадэнізмам, беларускай і ўкраінскай музыкай. Займаецца жывапісам, саломапляценнем, рознага кшталту хэндмэйдам. Друкавала свае творы ў часопісах «Маладосць», «Верасень», «Літаратурнай Гомельшчыне», газетах «Раніца», «Экалагічны веснік», «Гомельскі ўніверсітэт», «ЛіМ», міжнародным альманасе «Сланечнік». Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Гомелі.

## ВАСІЛЬ АНДРЫЕЎСКІ



Мне смагу слова не спатоліць
Ніколі.
А сэрца просіць, сэрца моліць —
Паволі.
І дзень прасякнуты дазвання
Трывогай…
Пішу, шукаючы не званняў,
А толькі Бога.



Дзе скрозь азёрная вада,
Палеткі збажыны азімай, —
Ёсць вёска сціплая — Града,
Мая дзівосная радзіма.

Зямлі калінкавіцкай сын,
Зямлі, што войнаў сніць пажары, —
Я помню возера Ліцвін
І слынных Юравіч абшары.

Вярнуць бы час шчаслівы той:
За плугам ходзіць дужы тата,
Матуля цэдзіць сырадой,
Прапахлая аерам хата…

О хата! Верыцца, калісь
Даруеш змушаныя крокі…
Чарнобыль мары спапяліў,
І тата на кладах высокіх.

Жыццё няпростае, інакш
Не мела б сэнсу ў ім нічога.
І толькі Госпад знае наш,
Каму якой ісці дарогай.

## Вербніца

Разліваецца ў аблоках
Свіст і шчабятанне —
Напаўняецца высокай
Музыкай світанне.

Пранікаюць гукі ў сэрца
Радасна і светла.
Навакол усё здаецца
Велічна-прыветным.

І плыве па-над зямлёю
Вербная нядзеля,
І лунаюць разам з ёю
Вера і надзея…

## Мая мова

Вечна ў сэрцы, як родная маці,
Беларуская спеўная мова.
Лёс не знішчыў і продак не страціў
У віхуры часін палыновых.

Покуль дыхаюць грудзі — трываю,
Днём, пражытым як след, ганаруся.
Ды я ў засені роднага краю
За цябе, мая мова, малюся.

## Думкі ля дуба, які памірае

Цябе абміналі на гэтай планеце
Шматлікія войны, стыхіі…
Ды нішчаць сягоння магутнае вецце
Сякеры і пілы ліхія.

Жыццё патанае у грукаце, гудзе,
Наўколле здаецца парожнім.
І цяжка паверыць, што болей не будзеш
Прытулкам для падарожных.

Апошнія моўчкі згараюць хвіліны,
І робіцца сэрцу самотна…

А недзе ўгары чутны клін жураўліны,
Як плач па красе першароднай.



Прыпяць журботна-маўкліваю стала,
Я ж яе помню адно працаўніцай.
З назвай хвалюючай «Янка Купала»
Цуд-цеплаход нечакана прысніцца.

Хуткасць імгненную зноў набіраю,
Да віртуальных акенцаў тулюся.
Слаўнай красой найдзівоснага краю,
Той, дачарнобыльскай, шчыра дзіўлюся…



Багдановіч… Максім…
Родны край не сканае,
Покуль горда над ім
Твая песня лунае.

Покуль радуюць слых
Беларускай гаворкай
І стары, і малы
Ў час прасветлы і горкі.

Глянь — валошка цвіце
Шчодра, хораша ў жыце.
У любві, дабраце
І нязломнасці жыцьмем!

## Храм у гонар іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасць»

*Айцу Георгію*

Ласкава Прыпяць заглядаецца,
Не налюбуецца й Мазыр —
Над наваколлем узвышаецца
Царква адметнае красы.

І на Вялікдзень, і на Троіцу,
Як і часінаю любой,
Сюды прыходжу, каб настроіцца
Душой і сэрцам на любоў.

Плыве над рэчкаю і горадам
Царкоўны звон — святы вястун.
Крыжоў і днём, і ноччу золата
Зіхціць і вабіць за вярсту.

Трывалы вераю не зломіцца
У спёку, слоту, маразы…
Твой храм паўстаў. Нашто саромецца
Такой шчаслівае слязы?

## Успамін

Цябе спаткаў не выпадкова, —
Душой адчуў і зразумеў.
На шчасце срэбнаю падковай
У небе месячык зіхцеў,

У сілу ліпень убіраўся,
І пацалунак гарачэў…
О Божа, як я захапляўся
Красой валошкавых вачэй!

Мінае ўсё. І наша лета
Сплыло, як тумановы дым.
Тваёю чысцінёй сагрэты,
Я мару сёння аб адным:

Яры мазырскія і замак,
І парк над Прыпяццю-ракой
Згадаеш ты калісь таксама,
На хвілю страціўшы спакой.



Чароўнай зоркай Мілавіцай
Нябёсам вечна захапляцца…
І мне б душой і сэрцам зліцца
З табой. І больш не расставацца.

## ВАСІЛЬ АНДРЫЕЎСКІ



Нарадзіўся ў вёсцы Града Калінкавіцкага раёна. Скончыў Мазырскі педінстытут — беларуская мова і літаратура. Цяпер працуе ахоўнікам у мазырскім аддзеле Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь. Выдаў кнігі «Пад літасцю нябёс», «Вербніца». Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Вясёлка», «Вожык», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і іншых выданнях. Сябар ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Мазыры.

## ВАДЗІМ БОЛБАС

### Трава мегаполіса

Пацягнула прайсціся па роснай траве
Ў дзень асенняга раўнадзенства.
Гэты покліч таемны у сэрцы жыве
Як прывет з пракавецця, з маленства.

Не па лузе над рэчкай, а ў горадзе, тут,
Дзе між гмахаў разлеглі газоны,
Дзе дамы, як грыбы, сярод поля растуць,
А у вокнах дамоў тых вазоны.

Падступіў мегаполіс, сяло праглынуў.
Тут цяпер і метро, і тралейбус.
Нібы ліст у канверт, у асфальт загарнуў
Урадлівую тлустую глебу.

Захмялелы ад восеньскага святла,
Не чакаў, што знаёмца сустрэну.
Ды, як спадчына вёскі, што колісь была,
Прарасло праз газон лісце хрэну.

Тут насуперак часу былое жыве,
Непарушны прыроды законы.
Мо таму так прыемна ісці па траве,
Не па сцежцы. Наўпрост па газоне.

### Варшава, снежань

Над Варшавай хуткія аблокі,
Нібы гусі з выраю, лятуць.
Хоць іх шлях ад поўначы далёкай,
Ды зімы чамусьці не нясуць.

Зелена у снежаньскай Варшаве,
Снегу і марозу — ані-ні.
Быццам позняй восені выявы.
Быццам згадкі ранняе вясны.

Дзень зімовы, але так нязвыкла,
Нібы заўтра птахі запяюць.

Вербы абляцелыя над Віслай
Цераз дзень, здаецца, зацвітуць.

Да Калядаў «Новы Свет» прыбраны
Перліны гірляндаў запаліў.
Дзверы і кнігарняў, і кавярняў
Для людзей гасцінна адчыніў.

Горад вельмі пекны, а жанчыны,
Нібы Маці Божая сама.
Для дзяцей — ласункі і яліны.
Шкода толькі, што зімы няма.

## Зіма

Мяце завея, белай калыханкай
Прыспала дрэвы, хаты і траву.
Ідзе зіма — халодная каханка.
Яе чакаю. З ёю ажыву.

Застылі рэкі. Пульхнай белай коўдрай
Паклаўся снег на тоўсты, цвёрды лёд.
І закружыла ноч рукою шчодрай
Над гэтай беллю зорак карагод.

А ўстане сонца — зробіць снег барвяным
І зыркім, ажно іскры уваччу.
І гэтым ранкам, доўга так чаканым,
На вузкіх лыжах шпарка паімчу.

Таптаў калісьці у краях далёкіх
Я сярод лета белыя снягі,
Што леглі назаўжды між гор высокіх,
Дзе ў хуткіх рэк крутыя берагі.

Ды мне туды няма цяпер дарогі.
Той край дрыжыць ад гора і пакут.
У гор тых і снягоў адно трывогі.
Няма спакою, радасці… А тут…

Над белым полем — белыя аблокі.
Далей за белым полем — белы лес.
І засцілае далягляд далёкі
Бялюткі снег, што падае з нябес.

А час бяжыць, не ведае прыстанку,
Пасыпаў снегам вусы, галаву…
Гудзе завея — белая каханка,
Пяе мне песні! Значыць — я жыву!



На Карлавым мосце музыка іграе на шклянках.
Ў ваду апускаючы пальцы, мелодыю лёгка вядзе.
Віруе натоўп. Тут кітайчык, румын, тут гішпанка.
Ты музыку тую ніколі не чуў і нідзе.

Мелодыя крапляў і шкла, ты пра што нагадала?
Мо гэтак спявае вада пад байдаркі вяслом,
Мо скрыпка вясельная гэтак калісьці спявала.
Мо спевы дзяўчат над вадой за купальскім вянком?

Ды не! Гэты спеў ні на што, ні на што не падобны.
Ў ім чуеш ты Брамса, Гліэра, ліцвінаў дуду.
Камусьці яна нібы стогн невыносны, жалобны,
А можа, то чыйсьці ўспамін пра былую бяду.

Пад воплескі публікі падаюць-звоняць манеты,
Вітае музыку спагадліва, шчыра народ.
А я ўспамінаю Сыса, спеў чароўны Забэйды
І даўні-далёкі за рэчкай дзяўчат карагод.

Бубны крышнаітаў. З касцёла уздыхі аргана,
Пад вежай надбрамнай гітара фламенка пяе.
На Карлавым мосце празрыстая музыка шклянак.
Да самага скону цяпер не забыць мне яе.

## Макі Монтэ-Касіна

Вораг шалёны спляжыў Айчыну,
Біцца за Волю лёс наш далёка.
Светлая Нарач, ці помніш ты сына?
Ён пад паўднёвым небам высокім!

Макі чырвоныя, чорная глеба,
Трохі паводдаль — блакітныя хвалі.
Зграю фашыстаў знішчыць нам трэба,
Тую, што хмарай накрыла Італію.

Неба над намі сіняе-сіняе,
А перад намі «прывід»-вяршыня.
Воіны Андэрса паабяцалі:
«Гэту вяршыню возьмем мы самі».

Сівы кляштар на стромай вяршыні.
Б'юцца рашуча «зубры»-беларусы,
Побач палякі, ангельцы, індусы —
Трэба з вяршыні ворага скінуць.

Зверху на галавы куляў завею
Сее фашыст, захапіўшы Святыню.
Бойка шалёная там, дзе квітнеюць
Макі чырвоныя Монтэ-Касіна.

Хлопцы-«зубры» ўспамінаюць Радзіму,
Глухнуць ад гуду гарматаў палякі.
Пекла такое —ад чорнага дыму
Чорнымі сталі чырвоныя макі.

Цёмная ноч пераможнаю стала.
Знішчаны вораг мужнай атакай.
Чорная глеба крывёй набрыняла,
А на чырвоным — чорныя макі!

Маці-зямля! Беларусь дарагая!
Мы ж за цябе на чужыне змагаліся!
Як жа сыноў ты — воінаў мужных
Кінула здрадна ў сібірскую сцюжу?

Што ж ты зрабіла з намі, Айчына?!
Ў нетры сібірскія кінула гінуць.
«Сцюжа ды ў цемры вочы ваўчыныя»
Узнагародай за Монтэ-Касіна .

Але ж не згіну, ў край свой вярнуся!
Сэрцам да Роднай Зямлі прытулюся.
Толькі заўсёды перад вачыма —
Чорныя макі Монтэ-Касіна.



Сумных восеньскіх кветак букет я нясу, разам з вершам, Паэту.
Ён далёка цяпер, уладарыць над ім толькі Слова ды Бог.
Уладарыць цяпер толькі Неба ды Вечнасць над ім.
Адышоўшы у Вечнасць, Паэт, ці пачуеш ты нас з Іншасвету?
Што параіш, што скажаш з высокіх нябёсаў жывым?
…
Адышоўшы ад нас, чалавек не зусім паміраe.
Пакуль помняць жывыя, ён з намі, ён побач жыве.
Як раней, грамаду аднадумцаў надзейных збірае.
Будзіць песню ў душы, да духоўнае працы заве.
…
Ды з Паэтам не так. Яго голас жывы і ў стагоддзях,
Хоць даўно ўжо няма яго родных, дзяцей і сяброў.
Так з Былога да нас і Гамер і Гусоўскі даходзяць.
Веру, Ты будзеш вечна жывым між людзей.
…
Ўсе мы сыдзем туды, дзе цяпер каралі і паэты.
Ўсіх мінулых вякоў прыгажуні, паны, ваяры.
Там сумуюць аб песнях, што тут, на зямлі, не дапеты,
Там жадаюць для нас лепшай, шчаснай пары.
…
Але як ні глядзі, ўсё хутчэй час імкне да змяркання,
Хоць, па праўдзе сказаць, не спяшаюся я ў Іншасвет.
Толькі хочацца верыць, шляхетная сумная пані
Назбірае й па мне позніх восеньскіх кветак букет.

Я нясу для Паэта
Сумных кветак букет…

## ВАДЗІМ БОЛБАС



Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Казакова Бабруйскага раёна. Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жыве ў Светлагорску. Выдаў кнігі «Забытыя прывіды мрояў», «К. І. Галчыньскі. Сёмае неба. Выбраныя творы». (20 твораў перакладаў і сумесна з А. Хадановічам). Празаічныя і паэтычныя творы ў перыядычных выданнях газета «Наша Ніва», «Сям'я» і інш. Сябра ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Жыве ў Светлагорску.

# Андрэй Мельнікаў

## Дарога на Гомель

*Паводле Зм. Бартосіка*

Калі ты адчуў, што стаміўся дарэшты,
І страчаны сэнс прагавораных слоў,
І не п’яняць ужо ні музы, ні вершы,
І не ратуе піўко з каньяком —
Значыцца, хлопец, заводзь рухавік!
Наколькі б ні быў ты накачаны пойлам —
З гэтага краю нуды ды жуды
Ёсць і дарога кірункам на Гомель!

Усё, што сціскала, пякло, прыгнятала,
Муліла што, завісала ў мазгох —
Хай адлятае ў геену з агнямі,
Плачам ды скрыгатаннем ў зубох.
Ты ж, дзядзька, давай, заводзь рухавік!
Не сумнявайся ў шляху ні на колькі!
Ёсць што наведаць у гэтым жыцці,
Пакуль цябе вабіць дарога на Гомель!

Ты не самотны на гэтай дарозе!
Не пералічыць тую безліч слядоў,
Што пакідалі ліхія стагоддзі,
Каб ты па іх сёння ехаў ды йшоў.
Так што, дзядуля, заводзь рухавік!
Дай Бог, каб была табе вольнаму воля!
Каб Гомель наведаў яшчэ у жыцці!
Каб не заблукаў па дарозе на Гомель!

## Гомель

У цэнтры — парк Паскевіча-Румянцава.
Бачна з моста пешаходнага Валатава…
Навабеліца, Мельнікаў Луг, Залінія…
А вакол — лясы-палі з нуклідамі.

Пускачы, Балбесаўка, Стары Аэрадром…
Горад,— дзе няма трамваяў і няма метро,

Горад з колькасцю народу, як Ерусалім…
Гэты горад — Гомель; я нарадзіўся ў ім.

Колькі тут усяго паразбурана!
Колькі знесена дурнымі віхурамі
І харошага і нягоднага —
Свайго, чужога, усенароднага!..

Колькі тут людзей пабіта-пастрэляна
І за фюрара, і за Леніна,
І за славу, і за грошы, і за проста так —
На тваіх вуліцах, у тваіх дамах.

Гідрапрывад, Забег, Манастырок,
Фестываль, Сельмаш, Давыдаўка, Прудок,
Азія, Каўказ, Свісток, Мільча, Кожара —
Дарагія мясціны. Хай — не кожнаму.

Гомель Северны, Гомель Западны…
Дзелены валасатымі лапамі…
Касцюкоўка, Любенскі мікрараён —
Усё гэта мой горад. Усё гэта — ён.

Я хачу цябе любіць, Гомель!
Я хачу з табою быць, Гомель!
Зразумець цябе хачу, Гомель!
І… Каб ты мяне любіў і помніў.

## Пахаванне кахання

Ты паехаў на лепшае свята жыцця.
Ды здараюцца ў ім і такія фінты:
За шчаслівым пачаткам — сумны працяг:
Абрываецца нешта ў душы. А затым —
І хаця там знайшлі табе цёплы куток,
Ды пітво не бярэ, не да смаку пірог.
І ужо не кранаюць ні жарты, ні смех…
З жыцця твайго сышоў чалавек.

Пахаванне кахання.

Здолеў ты да канца дасядзець за сталом.
Ды не здолеў забыць, што хацеў бы забыць.
Быццам бы у віры, твае думкі нясло,
І было ўсё адно: а што жыць — што не жыць.
І пасля, калі святу зрабілі кранты,

Ты не ўбачыў ўсё роўна ні свету, ні зор.
Толькі раптам прыйшло разуменне, што ты
Для кагосьці таксама… Таксама памёр.

Пахаванне кахання.

Развітаўшыся, далей сышоў ад людзей.
І застаўся з табой чорнай датаю дзень
Пахавання кахання.

## Сентыментальны ўспамін

Прафесар хварэў на пранцы. Студэнтка пра тое не ведала
І зрэалізоўвала шанцы. На поспехі мнагавектарныя.
Пісала забойныя тэксты, пампуючы з інтэрнэту…
А рэдактар быў алкаголік і хабарнік. Але пры гэтым
Увасабляў выданне харызматычнай моцы,
Якое лунала зданню над акіянам соцыуму.
Утраіх яны часам ездзілі на «Ляпісаў» і на Мадонну.
А потым вярталіся весела, хто — з пранцамі, хто — дадому;
ды зрэдку знаходзілі мігі піва папіць ля Нямігі.

## Сярод цемры

Маленькая частка свабоднага свету —
На целе муміі цёплая кроў,
У поўны штыль плыня свежага ветру,
Зялёная пляма сярод снягоў,
Сярод цемры.

Цябе ненавідзяць халуйскія зграі.
Цябе паспрабуюць панішчыць у тло.
Ды ты — прарасцеш, уваскрэснеш, паўстанеш
У новых агеньчыках новым святлом
Сярод цемры.



Абледзянела… Абледзянела мая дарога.
Там дух, душа і цела. Там дух, душа і цела.
А ім бы — да Бога!
У нябёсы — белай птушкай.
Толькі б крылы не раструшчыць

Аб тыя ледзяныя столі,
Што і над Мінскам,
І над Масквою.
Абледзянела. Абледзянела мая дарога…
Там — дух, душа і цела. Там — дух, душа і цела.
А ім бы — да Бога!

## Гэта — мы!

Калі нехта кажа: «Бывай!» — гэта шчэ не значыць — канец.
І хаця ў канвульсіях край, рана канстатаваць смерць.
І хаця не відаць — куды, і надзея — ні на каго,
Ты паслухай: звіняць званы. Гэта з намі гаворыць Бог.
Ты пачуеш: звіняць званы. Калі здольна пачуць душа
Голас продкаў з далечыні, голас, што не заглушыць час,
Голас памяці гэтай зямлі, гэтых рэчак, гэтых лясоў,
Тых народаў, што тут жылі… Ты паслухай: мацнее звон.
Гэта — скрозь цемру прамень. Гэта — вецер, што рве смугу.
Гэта — новы сонечны дзень. Гэта — скрозь забароны рух.
Гэта — годна узняты сцяг. Гэта — шыхт, што гатовы ў бой.
Гэта — крыж на тваіх плячах. Гэта — людзі разам з табой.
Гэта — тысячы моцных ног, што пячатаюць цвёрды рытм.
Гэта — не яны. Ведае Бог: гэта — мы!

## Вер!

Вер! Гэта для цябе — вольнага ветру поўны глыток.
Вер! Гэта для цябе — вялікі кубак чыстай вады.
Вер! І калі твае думкі свабодны — ты ўжо не халоп.
Вер! І калі ёсць абраныя, адзін з іх — гэта ты.
Вер! Гэта для цябе — белы цеплаход і скарбы розных краін.
Вер! Гэта для цябе — веліч сабораў і подыхі альпійскіх лугоў.
Гэта для цябе — замкі, і палацы, і бязмежжа снежных раўнін.
Гэта — для цябе! Ты станеш магутным! Будзь гатовы!
Вер, гэта для цябе — цяпло твайго сэрца падыме іншых з кален.
Гэта для цябе — планета без межаў і неабсяжны Сусвет.
Гэта для цябе — паэзія зорак і сонечны прамень.
Гэта — для цябе! За табою будучыня!
Вер!



Калі застаецца надзея толькі на Бога,
калі застаецца апора толькі на веру —
тады ясна бачыш, дзе твая, а дзе не твая дарога,
каменных ідалаў, як масла метал, пасячэ меч з паперы.

Калі застаецца надзея толькі на веру,
калі застаецца апора толькі на Бога —
тады не істотна, месца тваё — сярод акупантаў ці сярод касінераў.
Ідзі да Хрыста! І тады перамога Хрыста — твая перамога!

## АНДРЭЙ МЕЛЬНІКАЎ



Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гомелі. Скончыў ГДУ імя Скарыны. Піша па-беларуску і па-расейску. Большасць ягоных вершаў сталі песнямі. Вядомы беларускі бард. Жыве ў Гомелі.

## АЛЯКСЕЙ ДУЖЫ



Ещё темно на ледяных проспектах
И фонари блестят, как маяки.
Но вот, в короне утреннего света,
Шагает солнце ночи вопреки!
И на устах твоих улыбку замечая,
Я прошепчу на ушко, как всегда:
— Встаёшь, моя хорошая, родная?
Ты промурлыкаешь:
— Конечно, да!



Ножами остроточенных коньков
Мы рассекали ледяной покров.
Вокруг нас было столько ребятни!
Блестели радугой калядные огни…
Мы начали от счастья ликовать,
Что научились понемногу танцевать!
Но всё вдруг растворилось в один миг,
И городской шум в одночасье стих.
И поцелуи на устах моих
Застыли сахаром, до новых выходных…



Два сапфира глаз,
Кофты синий цвет
Вижу я сейчас.
И прекрасней — нет!



Пусть жизнь не всегда нам светила,
Но знаю, проснувшись с утра:
Мы вместе — небесная сила!
А порознь — зола от костра.



Былі в сердце моём холода,
Залетала холодная вьюга
Только где-то жила Она —
Дорогая моя подруга!

И однажды её повстречал,
Когда снежная буря кипела.
Вспыхнул в сердце влюблённом запал,
И шагнул я навстречу смело!

И теперь в моём сердце — весна,
И теперь в моём сердце — солнце!
Значит — быть мне с тобой навсегда!
Значит — вьюга уже не вернётся!



Ты мне явилась такая же светлая.
В небо смотрела, сидя у окна.
Хоть белой шалью метель беспросветная,
Где-то весна, в моём сердце — весна!
Утро. И сны разноцветные тают
Каплей воды на прозрачном окне.
Но образ твой вижу, тебя ощущаю.
И это — не сон! Это — чувство во мне!



Калі ішоў дамоў стамлёны,
Вісеў туман на лапах дрэў.
Над небасхілам шар чырвоны
Халодным полымем гарэў.
— Дзень добры! Я вярнуўся з ночы
Ў куток спакою і цяпла.
Цалую твае вусны, вочы…
Ты сонцам для мяне ўзышла!



Дзе рэчка Вілія пятляе,
Пляце карункі вольна, шчыльна,
Шпілі да неба уздымае
Наш старажытны горад Вільня.

Касцёлы готыкай палаюць,
І разам з віленскім барока
Ансамблі вуліцаў ствараюць
Калейдаскоп, чаруюць вока!



Зямля мая, умытая дажджамі,
Што з неба красавіцкага упалі…
Бярозак беластвольныя каралі
І косы вербаў залатымі льнамі!



Ты заснеш
пад музыку вятроў
На ускрайку ночы,
што знікае.
І ўбачыш
у люстэрку сноў
Каханага,
які цябе чакае!



Між намі вагоннае шкло…
Карункі малюе самота.
А ў сэрцы палае пяшчота
Ад думак, што з намі было.

Гадзіны мы будзем лічыць
На нашых прысадах чакання,
Якімі вядзе нас каханне,
Каб вусны да вуснаў… злучыць!



Зноў сэрца да сэрца
Ў абдымках гарачых
Імкнецца насустрач
У грудзях юначых.
А роздумы засціць
Жаданняў завея:
Яшчэ і яшчэ —
Дасягнуць апагею!



Каму ты аддасі сваё сэрца,
Жывую скарбонку кахання,
Той зможа марозам сагрэцца,
Адчуўшы яго існаванне.

## АЛЯКСЕЙ ДУЖЫ



Нарадзіўся ў Гомелі. Сярэднюю школу скончыў з залатым медалём. Скончыў Гомельскі дзяржаўны медуніверсітэт. Друкаваў вершы ў газетах «Петрыкаўскія навіны» і «Гомельскія ведамасці». Жыве ў Гомелі.

## ЛЕАНІД МУШТЭНКА

### Катрены
### (и не только)



В плотском томлении смерти есть холод:
Дух умирает, и рушится рай.
Заповедь свята, но в ней берёт повод
Грех, ибо сказано: «Не пожелай!..»



Вот тот даёт на помощь от избытка.
А этот вот от скудости своей
С себя снимает собственную свитку,
Чтоб дать её тому, кому нужней.



Не дай мне болезни тяжкой,
И смерти трудной мне не дай —
Уж лучше так: рвануть рубашку
И сразу стать на самый край!



Возможно правду замолчать,
Возможно взять за горло,
Возможно даже расстрелять
Или в могилу закопать, —
Нельзя убить! Упорно
Она пробьётся к нам опять
Уверенно и гордо.
Не научить бы только лгать!



Вся наша жизнь как будто на экране:
Всё — суета! И так из года в год…
Но суета и смысл существованью,
И ощущенье вечности даёт.



Задающий вопрос отвечает
За ответ на него: перед тем,
Как задать свой вопрос, он сначала
Должен трижды подумать — ЗАЧЕМ?!



Кто живёт, тот в будущее верит.
Но ведь мы живём сейчас и здесь:
Уважают, любят и лелеют
Не того, кто будет, а кто есть.



Блестят помазанные лбы.
О, фараоны! На мгновенье —
Владыки Предопределений
Или преемники Судьбы!..

А у подножий тронов их
Те, кто воздвиг все пирамиды,
Чьи имена в пыли забыты, —
И всё вместилось в краткий миг:

Ни фараонов, ни рабов, —
Лишь камни прошлого величья.
Всё стало Времени добычей,
Историей далёких снов…



Мы не следим за собственными душами:
Нет времени и нет у нас желанья…
Тот, для кого привычно малодушие,
Всегда найдёт слова для оправданья.



Хоть человек, пришедший в мир, не вечен,
Любовь к искусству прибавляет сил:
Столкнуть людей в окопы, скажем, легче
От балагана, чем от Дебюсси…



Мы страстно ожидаем перемен,
Желаем их и в тот же час боимся:
А вдруг из-за невидимых нам стен
Мелькнёт кулак Судьбы — и — р-раз по пысе!..



В который раз пытаются скрестить
Порядки «европейские» и «наши».
Выходит «блин» такой из этой каши,
Что в пору крикнуть: «Господи, прости!..»



И ненависть, и злоба, и любовь —
Вся наша жизнь в трудах сиюминутная:
Мы всё живём на улице ветров,
И все ветра нам кажутся попутными.



Довлеет Рок, страдает плоть живая, —
И вдруг Судьба подбрасывает приз!
Счастливые мгновенья пролетают, —
Воспоминанья тянутся всю жизнь.



Когда выходят «страждущие массы»,
В их криках и воздетых кулаках
Есть музыка написанного Марксом
Для сердцервущей поступи ЧеКа.

Хотя и скажет некто: «Это бесы
Народ сбивают с Божьего пути!..»
Но вот кому из всех в толпе известно,
Куда, зачем и с кем ему идти?..



Бывает так: летишь на встречу с милой,
Вдруг мордой в железобетонный столб!
О, если б нас так Родина любила,
Как мы её, — не разбивали б лоб.



Не всякого бросает жизнь на плаху,
Но, путь пройдя, вздохни и оглянись:
Ведь в том, что скрыто Будущее, — Благо,
Иначе пыткой стала б наша жизнь.



Что ни учи — «хождение по мукам»:
То пан, то раб, кто в славе, кто убит…
История лишь кажется наукой,
На деле — поле беспрерывных битв.

## Подражание И. Неверовскому

От древних Фив, «оковами звеня»,
Я строил мост к тебе через пустыню,
И грозный Ра потоками густыми
Лучей калёных обжигал меня.

«Пять тысяч лет» я был твоим рабом,
Мой каждый вздох отмечен пирамидой.

Я падал ниц, — твоя пинала свита,
Я пылью был, — была ты Божеством!

Века ушли, как вешняя вода
С долины распластавшегося Нила.
Ну, что ж, прости, пусть ты и не любила,
Зато ведь я любил тебя тогда.

От древних Фив, «оковами звеня»,
Я строил мост к тебе через пустыню,
И грозный Ра потоками густыми
Лучей калёных обжигал меня…

## ЛЕАНІД МУШТЭНКА



Нарадзіўся ў Гомелі. Скончыў у 1968 годзе Чарнавіцкае мастацкае вучылішча (дэкаратыўна-прыкладная мастацкая апрацоўка металу, кераміка, дрэва), Украіна; у 1975 годзе — Белдзяржуніверсітэт (юрыдычнае аддзяленне). Служыў у войску. Працаваў на розных пасадах ад мастака-афарміцеля да следчага і юрысконсульта, ад вартаўніка да настаўніка. Мае 14 працоўных спецыяльнасцей — муляра, тынкоўшчыка, сталяра, цесляра, слесара-рамонтніка, слесара-бляшаншчыка, каваля, чаканшчыка, газаэлектразваршчыка і іншыя. Выдаў кнігі «Попел сэрца», «Капля крови моей да на белом снегу», «Расстаньне», «Непричесанные мысли».

## СЯРГЕЙ САПОНЕНКА

### Прорастаю

Я прорастаю из себя
Куда-то выше,
Пытаясь жить, людей любя
И Небо слыша.

Я прорастаю из обид,
Переживаний.
Всё, что терзало, отболит,
Уже не ранит.

Я прорастаю из земли,
Галактик, пепла,
Чтоб время гибло на мели,
А вечность крепла.

Я прорастаю из пустот,
Во мне гниющих,
Из липкой тяжести забот
До райской кущи.

Я прорастаю, своего
Не вспоминая.
Пусть гибнет тело: из него
Дух прорастает.



Мы убегаем от людей,
от боли и проделок вьюги.
От одиночества затей
стремимся убежать в испуге.

Но от себя не убежать:
в любой стране, порой любою
придётся жить и умирать
наедине с самим собою.

## Подорожник молитвы

Когда изранишь душу невзначай,
ты не ищи у докторов лекарства,
чтобы изгнать бесцветную печаль,
что застилает время и пространство.

Когда не знаешь, как продолжить путь,
темно и скользко, словно зимней ночью,
а ураган не прекращает дуть,
тебе погибель скорую пророча, —

как подорожник, к ранам приложи
молитвы освежающей прохладу —
и убегут болезни из души,
и расцветёт она весенним садом.

## Мне снилось одиночество

Мне сегодня снилось одиночество.
Злилась ночь, и снег в глаза летел,
ветер выл безмолвные пророчества,
темнота творила беспредел.

Закричать я был не в состоянии,
шёпот мой глушила пустота.
Задыхаясь каменным молчанием,
вдаль неслись мгновенья и года.

Я одет был в наготу кромешную,
одеяла не хватало мне,
простынёй служила марля снежная,
что ютилась на сырой земле.

Я проснулся. Ночь лежит за окнами.
Тишина.
Лишь стук в моей груди.
А подушка вся от соли мокрая.
Я один.
Христос!
Не уходи!!!

## Неизданное

Как мне одиноко,
И грустно, и скучно!
Сугробом глубоким
грозит с неба туча.

И я замерзаю,
никак не привыкну
к тому, что нет к маю
возвратного цикла.

Ведь жизнь — скорый поезд,
не спрыгнешь с подножки;
во время былое
закрыто окошко.

А май, разве был он
в крутой карусели,
когда с ярким криком
лошадки летели?

А люди всё мимо
проходят, не глядя
на то, как ранимы
моих дней тетради.

Пишу — неужели
по воздуху пальцем?
Стихи завертелись
в снегах издаваться.

## Рождество

Ночь
разлеглась на планете —
прочь
не прогнать, не умчаться.
Что
не горело, не светит,
в том
не отыщешь лекарства.

Плач
в темноте раздаётся.

Вскачь
пролетают столетья,
но
не отыщется солнце,
дно
вязким эхом ответит.

Вдруг
в небесах загорелась,
вьюг
темноту разрывая,
звёзд
бесконечная смелость,
рос
чистота неземная.

Взгляд
в полночь бросило Небо,
глад
по Себе там узрело.
Бог,
чтоб голодным дать Хлеба
в срок,
воцаряется в тело.

## Распявший

Огромные гвозди,
терновый венец, —
терзания злости
железных сердец.

Погасшее небо
над тёмной землёй,
и жизни нелепость
пред смертью одной.

Я был там и видел,
как всё перенёс
и умер Спаситель
и Бог мой — Христос.

Я вбил эти гвозди,
мной свит был венец,

души моей косность
была, как свинец.

Прости меня, Боже,
за страшный мой грех!!!
Я верю: Ты можешь
помиловать всех.

## Розы

Жёлтые розы долго цвели,
листья роняли в сырость земли.
Жёлтые розы — ветры разлук,
в них затухает чувство и звук.

Белые розы как облака:
лишь всколыхнётся жизни река,
глянешь, в помине нет их уже.
Белые розы — юность в душе.

Алые розы поздно нашлись,
с ними познал я радости высь,
хоть забелело полголовы.
Алые розы — розы любви.



Как земле не кружиться,
если цветут пионы,
если о чём-то птицы
бредят в листве зелёной?

Как земле не кружиться,
если бушует лето,
если душа-криница
песней течёт неспетой?

Как земле не кружиться,
если стучится сердце,
рвётся через границы
светом любви согреться?



У меня на часах усталость,
у тебя на часах разлука.
Как же, милая, оказалось,
что дышали мы друг без друга?

Разве жизнью назвать мы сможем
одиночество двух вселенных,
до немыслимости похожих,
угасающих в пыль смиренно?

Но мы встретились неслучайно,
чтобы в нас загорелись звёзды
и великая жизни тайна
нам шептала: «Любить не поздно».

У тебя на часах усталость,
у меня на часах разлука.
Так давай всё начнём сначала,
подарив бытие друг другу.

## Подожди до весны

Подожди до весны,
пусть завьюжится осень,
золотою позёмкой
летя в пустоту.
Ничего не ответит
она на вопросы,
лишь уронит печально
снежинку-звезду.

Подожди до весны,
пусть пророчат
нам старость.
Что бояться её,
коль душа молода?
Не придёт к нам
непрошенной гостьей
усталость,
потому что
мы любим и верим всегда.

Подожди до весны:
там цветы не завянут
и наполнятся реки
живою водой,
будет царствовать правда,
растают обманы.
Потерпи до весны,
оставаясь со мной.

## СЯРГЕЙ САПОНЕНКА



Нарадзіўся ў 1966 годзе. Аўтар двухтомнага зборніка вершаў «Сердце на бумаге», выдадзенага ў Германіі, зборнікаў «Versus» і «Вера, надежда, любовь», якія выйшлі ў Беларусі. У Францыі выйшлі зборнікі паэта «Люблю» і «Журавлик бумажный», ва Украіне — першы том збору твораў. У Галандыі выдадзены зборнік вершаў Р. Макчэйна «Песни Сиона» ў перакладзе Сергея Сапоненкі. У ЗША па яго сцэнарыі знята літаратурна-музычная кампазіцыя «Блаженство». На словы Сяргея Сапоненкі напісана больш за 150 песняў. Website: http://www.saponenko.com.

## УЛАДЗІМІР АГАФОНАЎ

### Любовь

дни коротки а ночи подлиннее
весь воздух здесь пропах зимой и серой
броневики на небе словно на войне
а ниже тишина натянута как нервы

хотеть так хочется хотеть хотеть
любить как дети и подарки и открытки
пусть жадны жабры всех попавших в сеть
я против даже добровольной пытки

и так фонит от горя в окружающих домах
от рака крови и до рака щитовидки
счастливых нет а умных до хрена
но вряд ли спляшут облака от их улыбки

любовь как бомж идёт из дома в дом
никто её нигде не любит
стой под стрелой и висни под винтом
пока не прогремели трубы

и станет поздно гнать не понял не узнал
когда слиняют в Африку все птицы
любовь возьмёт поедет на вокзал
и больше никогда не возвратится

да я б на вашем месте рельсы разобрал
закрыл бы на год все аэропорты
зиму с любовью вместе перезимовал
а летом с ней поехал на курорты

ну вот идёт идёт с открытым ртом
смешней смешных красивей всех красивых
идёт шатается над рвом
куда летят от выстрела в затылок

всё как всегда ни башни ни границ
сама весёлая такая
хотеть успеть и заслонить
она должна Любовь обязана дойти до Рая

## Тридцать три

тридцать три будто было не было
листья падают я стою
я конечно счастливей некуда
у меня есть друзья в Раю

я люблю это точно солнце
просто счастлив когда пишу
про берёзы на линии фронта
и про то как куда-то спешу

ах как жалко бывает у пчёлки
но у пчёлки бывает мёд
ёлки-палки и палки-ёлки
фосфор и кристаллический йод

говорила глухая тетеря
только ты той тетере не верь
я к примеру ни разу не верил
и не путал с окнами дверь

я вообще никогда не путал
где яйцо а где Божий Дар
вот стою я осенним утром
и счастливый смотрю на пожар

пацаны я конечно весёлый
но меня веселей на земле
осенями канадские клёны
когда все полыхают в огне

отскакали тартарские шапки
те что с красной звездой на лбу
у меня расстреляли папку
мы теперь с ним в одном году

это было шестого июня
прямо в Пушкина день рожденья
нет я старше родного папули
я стою и смотрю на осень

эй вы Ангелы-санитары
те что возят на Божий Стол
я еще молодой или старый
ждёт хирург меня или укол

молодая сестра милосердья
вмажет может не мне одному
если вижу в огне деревья
посмотрю ли сады в дыму

у меня в январе день рожденья
это если считать по Руси
Он — за ним через день я
по преданию он в тридцать три

а какая в Израиле осень
у них Пасха как наш июнь
я наверное переросток
Он же к осени был в Раю.



*В. О.*

я стою на Английской набережной
и смотрю на закат над Васильевским
впереди между Малым и кладбищем
я живу на Пятнадцатой линии

за спиной у меня радуга
а на острове солнце со сфинксами
здесь бы Бродский лежал рядом бы
но не все стихи сходны с жизнью

написал о своём возвращении
Мандельштам на Восьмой линии
но совсем не на этом севере
Мандельштама последний раз видели

Гумилёв был убит не в Африке
не на Пятой своей линии
расстреляли его красные
не индейцы из Абиссинии

кинул Хармс сторону Петроградскую
нарезая винта на Васильевский
где к тому же табачная фабрика
на Девятой стоит линии

удалось и в Венеции Бродскому
написать попрощавшись со сфинксами

охраняется город кошками
с человеческими лицами

все поэты всегда возвращаются
как Гомеровский Одиссей
и на Стрелке огня дожидаются
две колонны чужих кораблей

от одной до другой набережной
через всю Неву
я за солнцем еду как по радуге
по мосту Николаевскому

## Звездопад

мне идти никуда не надо
я уже куда надо пришёл
началась пора звездопада
я сегодня звезду нашёл

я находку свою не прячу
если хочешь бери смотри
врут про холодность звезд
моя — горячая
у неё же огонь внутри

я её привяжу на шапку
чтоб всегда ходить под звездой
в честь неё назову лошадку
познакомлю их всех с тобой

хорошо кто в рубашке родился
или если когда звездопад
если звёздочки стали садиться
значит кто-то этому рад

ну а кто без звезды — товарищ
их на небе — бери люби
посылай им воздушный шарик
как письмо с объясненьем в любви

смерти нет ни гадать ни плакать
нам не надо на звёздный след
ни одной звезде никогда не падать
скорей небу быть на земле.



когда луна и солнце заодно
когда цари меняют свою свиту
нам многое тогда разрешено
и каждый шаг становится молитвой

передо мной лежали города
и падали мне на голову плиты
я шёл туда и не туда
я был звездой и был метеоритом

но в этот час который вне времён
со мной не сладят никакие пули
я каждый раз как заново рождён
меня как будто в Иордане окунули

мне нет преград во всех концах земли
и кто имеет уши слышит
что зарождается в крови
чем всякое дыханье дышит

моя звезда по-прежнему горит
и свет мой точно также светит
летают птицы ходят корабли
и новые родятся дети

всё хорошо как в лондонских домах
я только словно тихий ветер
передо мной волшебная страна
ну самая волшебная на свете.



чтобы жизнь как прогулка по саду
когда все в ожидании Спаса
чтобы справа шагала радость
ну а слева чтоб было счастье

обязательно чтобы сердце
там где пели бы аллилуйя
чтоб на свете не было смерти
и Иудина поцелуя

чтобы были любимые рядом
и смеялись они как дети

ничего бы мне больше не надо
лишь сбылись бы желания эти

чтобы не было всяких если
и сейчас наступило б завтра
чтобы все хорошие вести
наконец оказались правдой

## УЛАДЗІМІР АГАФОНАЎ

Нарадзіўся ў 1965 годзе пад Кіевам. Маленства і юнацтва прайшлі ў Гомелі, дзе жыў да канца 1990-х гадоў. Аўтар раманаў «Продается дом», «Тебе», апавяданняў, п'ес. Вершы і ўрыўкі з прозы публікаваліся ў калектыўных зборніках, перыядычным друку Гомеля. Удзельнік праекта «Солнце-цветы» (Мінск). Працуе садоўнікам пры праваслаўным манастыры ў Крыме.

## СЯРГЕЙ КРАСНАБАРОД



Мы останемся в мифах… Если кто-то, конечно, оставит.
Если жил ни «по шерсти», ни «против», а так, как велела судьба.
И казалось кому-то — играешь без правильных правил.
И казалось тебе — это ты правил жизненный бал.

Помнить вечно не будут — надеяться даже не стоит.
Псом живым быть потешней, чем умершим львом…
Мифы правят умами. И сам себе каждый готовит
Уникальную сказку для тех, кто пока что живой.

### Пазлы

Мы планируем жизнь — от рожденья до часа исхода.
Технологий достаточно — выбери и держись.
Алгоритмы успеха и славы, здоровья, любви и дохода
Распинают на пазлы картинку с названием «жизнь».

В каждом — просто игра. Без сомнений. Без смысла. Без Бога.
Без корней, без надежды — со смертью один на один.
В каждом блекнут по-своему краски — где быстро, где долго,
Обрекая картинку на хаос чуть-чуть впереди.

Так становятся прутьями клетки условные грани,
Внутрь которых мы сами себя поместили заранее.
Только страшно уже на картинку смотреть целиком.
Технологий сбежать от себя удивительно много.
Так похоже на «чем ближе к церкви, тем дальше от Бога»…
Мы планируем жизнь… чтоб за прутьями слепнуть легко.

### Возращение

Я выпил здесь не худших дней нектар.
Здесь пыльный воздух весь наполнен мною.
Наверное, отец так иногда
Грустил на лавке, прислонясь спиною

К родному дому… Там теперь пустырь.
Активный стронций там теперь хозяин.

А здесь — крупнопанельный монастырь
Цивилизации — с окошками-глазами.

Окно снаружи — глаз, но изнутри — экран.
И книги цитаделью вдоль дивана,
Хранители имён, событий, стран,
Как атрибут земли обетованной,

Где яд не худших дней я пил светло и долго.
Но оседает пыль на нежилую твердь…
Мне грустно здесь бывать, как будто в странном морге,
Где время в протокол свою заносит смерть.



Смотри, кто правит бал! Смотри, что чистит перья
На тризне по душе, избитой и нагой.
Ведь странникам давно не открывают двери.
И в церкви Бог как будто бы другой.

Как будто зря печаль по измельчавшим людям.
Как будто стариков жалеть запрещено.
И отчуждённо злость гниёт в банальном блуде.
И неуверенностью жить предрешено.

Предрешено смотреть в унылые экраны,
Искать забвенья, жертвуя собой.
Предрешено стареть и жухнуть слишком рано
И позволять другим владеть своей судьбой.

С тобою — лишь душа негромким утешеньем,
Чтоб тихую обитель отыскать.
С тобою — лишь печаль да таинство крещенья,
Чтобы покоем душу обласкать.

Дано ли распознать спасение и омут?!
Дано ли возлюбить в себе сокрытый дух?!
Смотри, кто правит бал — и правит по-иному,
Чем завещал Господь — чтоб распознать беду…



Мы все на иждивении у Бога.
Надменный шарм распластанных обид.
И дух томится осознаньем долга,
Который наглухо в сознанье вбит.

И длится век бессонных многоточий.
И трутся спинами бессмысленные дни.
И зарифмованное прозябанье строчек
С убийством ни за грош роднит.

И требование благодеяний
Привычно, как словесная возня…
Я снова полон ядом подаяний,
Не зная, кто заплатит за меня.



Неуютное счастье: жить!..
Не от мира сего приплод.
Можно в несколько слов вложить
Жизни вверенный Богом код.

Чтобы жечь себя по ночам
Над условно пустой строкой.
Только б видеть, знать и молчать,
Но слова держать под рукой.

Чтобы жизнь искупал процесс
Неуютного счастья: жить!
Чтоб слова появлялись без
Адресованной Богу лжи.

## Наблюдения утешителя

Чужая жизнь… Я ублажаю зависть…
Там хлеб вкусней и веселей вино.
Там у плодов всегда крупнее завязь.
Во снах там интереснее кино.

Я снова глупо Бога вопрошаю:
Чужая жизнь уже ль так хороша?

Уже ль мой путь мной не был предрешаем?
Или сомненьями измаялась душа?

Чужая жизнь… Я брежу странным мигом,
Когда себя сумею погрести во прах.
Своё же непереносимым игом
Рождает в каждом проявленье страх.

Тускнеют притуплённые желанья.
Дела становятся банальны до тщеты.
Чужое жадно обновленьем манит
И недоступность… И счастьем маеты…

Захер-Мазох, я зависть ублажаю…
И на коленях к Богу: вразуми!
Аз есмь! Я вновь и вновь перерождаюсь.
Но эта жизнь — моя, моя, какая есть, пойми!

Чужая жизнь… Всего лишь наблюдатель!
Не пожелать! Гордыню не впустить!
О Боже, моего мне бесконечно хватит!
И за моё меня карай… или прости…



Всё будет, как есть… Мы уверенно движемся к смерти.
Что слова говорят? И о чём несказанье молчит?
То ли боги смеются над нами взахлёб, то ли черти.
То ли сердце живёт, то ли просто бесцельно стучит.

То ли в яблоке червь истязает цветущую сущность.
То ли кружит звезда над печальным пространством полей.
Мы уверенно топчем тропу, выбирая окружность
Из запасников форм. И пройти по-иному не смей!

Кругосветное дао. Сплетение света и тени.
Исчезает душа, то ли в сумерках разум застрял.
Искажение снов, искажение воль и хотений,
Как причина наличия дней, исчезающих зря…

## СЯРГЕЙ КРАСНАБАРОД



Нарадзіўся ў 1964 годзе. Першая публікацыя вершаў з'явілася ў 1982 годзе ў гомельскай шматтыражнай газеце «За высокое качество». З таго часу вершы, апавяданні, мініяцюры на рускай і беларускай мовах друкаваліся ў калектыўных зборніках, часопісах «Першацвет», «Дзеяслоў», газетах «Літаратура і мастацтва», «Пикник», «Ярмарка», «Гомельская правда», «Гомельские ведомости» і інш. Аўтар кнігі «Стихотворения» (Гомель, 2000) і 10 кніг у самвыдаце. Працуе рэдактарам на Гомельскім абласным радыё.




# Спадчына

## Іван Сяркоў

### Вось табе і пагоны ў кішэні!

*Урывак з аповесці «Мы з Санькам — артылерысты»*

Да экзаменаў заставаўся ўсяго адзіны дзень. Бацька з Глыжкам з раніцы пайшлі ў калгас вазіць на ток снапы, а следам, упараўшыся ля печы, майнула і бабуля з сярпом. Мы з Санькам, сышоўшыся ў нашай хаце, селі за геаметрыю асвяжаць у галаве тэарэмы. У хаце было ціха, і нам ніхто не перашкаджаў, апрача знадаедлівых мух. Вось калі мы пачалі каяцца ў мінулых школьных грахах! Вучылі, называецца, абы помніць да вечара, абы Бісектрысу вакол пальца абвесці. Цяпер цяжка тое асвяжаць, што ў галаве толькі пераначавала. А трэба ж, калі сабраліся з калгаса ў артылерыю! І мы так стараліся, што калі нашы прыйшлі на абед, у нас з Санькам у галовах была ўжо каша: вострыя вуглы пераблыталіся з тупымі, градусы з радыусамі і халера з хваробай. Да вечара мы наогул пачмурэлі. У мяне нават пачалі перасякацца паралельныя прамыя лініі, з якімі, калі верыць падручніку, яшчэ ніколі такога не здаралася.

А ноччу мне нават саснілася бісектрыса. Не, не наша настаўніца па матэматыцы, не Мар'я Антонаўна, якую мы між сабой у класе так называлі з-за яе высокага росту і худзізны, а самая натуральная бісектрыса — прамая лінія з геаметрыі, якую і хлебам не кармі, а дай толькі падзяліць вугал надвае. Ляжу гэта я сабе на печы, а яна і заходзіць у хату — ні чалавек, ні звер, ні машына, а штосьці такое, як лінейка ці вяроўка, падзеленая на сантыметры і міліметры. І даўжынёй з качаргу. Я адразу скеміў: бісектрыса, хто ж яшчэ. Дзверы за ёй, нібы ў казцы, самі зачыніліся, і яна пытае ліслівым голасам:

— Дзе ў вашай хаце вуглы?

Мне каб спалохацца, а я — ні грама, але сэрцам чую, штосьці яна нядобрае задумала, і пачынаю грубіць:

— А табе нашто?

— Дзяліць, — кажа, — буду.

І вось бярэ яна сваё дзяліла, падобнае на брыгадзірскую казу, якой мераюць поле, і пачынае з кута. Раз адмерала, два, тут мяне і зусім злосць узяла. Ах жа ты, думаю, хлудзіна няшчасная, цябе ж не прасілі, не звалі. Знайшлася гаспадыня на чужыя вуглы! І як закрычу ўголас:

— Не дам дзяліць, бацьку скажу!

А яна мяне як штурхне ў плячо сваёй казой і бабульчыным голасам пытае:

— Што гэта ты дзяліць сабраўся?

А я толкам яшчэ не прачнуўся і мармычу:

— Вуглы дзяліць не дам!

— А хто іх збіраецца дзяліць? — здзівілася бабуля. — Здаецца ж, мірна жывём, бацька яшчэ не ажаніўся, мачыхі яшчэ вам не прывёў. А там Бог святы ведае. Можа, яшчэ і давядзецца, — пераняла старая на сваё і ўздыхнула. А калі даведалася, што гэта ў мяне быў такі сон, і прадракла:

— Давучышся ты са сваёй анцілерыяй, што і не тое падзеліш.

З дому мы з Санькам у той дзень выйшлі на досвітку і ў вучылішча прыйшлі рана — баяліся спазніцца. Ды і клопат у нас быў важны: сесці там, дзе не будзе той змяі ў акулярах, трапіць да спагадлівага маёра. Можа ж, хоць адным вокам што падгледзім, калі будзем гінуць.

Але то ўсё былі летуценні. Хто ў нас там пытаў, дзе каму хочацца сесці. Пастроілі групамі, як мы былі запісаны ў спісах, зрабілі пераклічку, і пайшлі шпакі, наступаючы адзін другому на пяткі, па класных пакоях — што нам з Санькам удалося зрабіць пры такой строгасці, дык хоць сесці за адзін стол. Усё ж такі, калі таварыш побач, спакайней. А на стале ўжо кожнаму па два аркушы паперы са сшыткаў у клетачку, а на паперы пячатка і нумар. Не пераменіш, не схітруеш. А калі ў клас зайшлі экзаменатары, не ведаю, як Санька, я ж проста абвяў увесь. Яна! Чорная і ў акулярах! Гэта ж каму не шанцуе, таго і бацька лупцуе. А з ёй яшчэ і лысаваты капітан у падмогу. Добры маёр камусьці іншаму дастаўся.

І што яны прыдумалі, змяя з капітанам? На дзвюх дошках напісалі розныя задачы, а потым паказалі, якому раду якую з іх рашаць. Ну і колькі той карысці, што селі мы з Санькам побач? У яго капітанская задача, а ў мяне — змяіная, у яго — на тупыя вуглы, а ў мяне — на вострыя. Тут не падгледзіш і не падкажаш, выграбайся сам як можаш. Ды і яны між сталамі шастаюць, нібы заведзеныя, боязна нават вокам скасавурыцца, не тое што галаву павярнуць. Правільна казаў Юрка: тут толькі трымайся.

Але, на наша здзіўленне, задачкі аказаліся лёгкімі. Рашылі мы іх не самыя першыя, але і не апошнія. Першы я паклаў ручку і пацёр далонь аб далонь ад задавальнення, а потым і Санька следам за дзедам. Калі мы, паклаўшы на экзаменатарскі стол свае рашэнні, выходзілі з класа, там яшчэ чалавек з дзесяць сядзела хто як: хто грыз ручку, хто ў глыбокай задуменнасці трымаўся рукой за галаву, хто шкроб у патыліцы. А яны кажуць — сяло!

На экзамене па алгебры нашы рады парадзелі, там-сям за сталамі ўжо сядзела па адным, але мы з Санькам ужо не так калаціліся, хоць зноў быў і той жа клас, і тыя ж парадкі, і тыя ж экзаменатары. Па чацвёрцы за геамет-

рыю ў нас было ўжо ў кішэні. Не такая яна і лютая тая чорная ў акулярах, як мы наслухаліся. Гэта хто двойку атрымаў, хто ўжо за парогам, для таго — канешне.

Пасля алгебры мы хадзілі па вучылішчы як свае, не ведаючы яшчэ і адзнакі. Гэта Юрка надаў нам упэўненасці. Прыбегшы ў вучэбны корпус, калі мы ўжо выйшлі з класа ў калідор, ён сам перарашаў нашы задачкі і сказаў, што ўсё ў нас правільна, менш як па чацвёрцы не будзе, калі мы чаго там не нахамуталі. А пасля гэтага павёў нас і ў сталоўку, дзе ён быў на той дзень дзяжурны. Праўда, там ужо ўсё паелі, але знайшлося і нам па поўным алюмініевым карцы кампоту і лусце добрага, сапраўднага хлеба, а не такога, як мы ядзім дома, у якім палавіна бульбы і рознай іншай мешані, каб мука так не разыходзілася. Словам, пасля алгебры мы ішлі з Санькам дахаты амаль шчаслівыя і сытыя. Я, праўда, быў менш сыты за Саньку. Са сваёй лусты я нёс палавіну дамоў на пачастунак Глыжку.

Па фізіцы было вуснае апытанне. Трымцелі ўсе, як цюцькі на марозе! А са мной здарылася такое, што я ледзь не пасівеў. Той самы капітан, што быў і на матэматыцы, загадаў мне рашыць на дошцы задачу. Задача як задача — нічога мудрага, мы ў школе спраўляліся і не з такімі. Перамножыўшы кілаграмы на метры, я хуценька знайшоў адказ і бадзёра далажыў:

— Атрымалася дзве конскія сілы, таварыш капітан!

І тут у класе як зарагочуць! Не ўсе, праўда, а толькі двое з тых культурных гогаляў, і асабліва ў рабым летніку. У мяне і сэрца спынілася, вушы заняліся агнём: усё — праваліўся. Канец свету. Гляджу на дошку нібы на новыя вароты, і нічога не разумею, рука з мелам трасецца, не іначай у ліхаманцы. І раптам вушам сваім не веру.

— Малайчына. «Пяць»! — сказаў капітан і, звяртаючыся да веселуноў, дадаў: — Розніцы няма, што конскія, што лашадзіныя. Ён беларус. Фізіка на ўсіх мовах — фізіка, і смяецца той, хто смяецца апошні. Вось вы, — паказаў ён пальцам на рабы летнік, — ідзіце-тка да дошкі і пакажыце нам, ці ёсць у вас падставы рагатаць.

А я, толькі выйшаўшы за дзверы, нарэшце добра ўцяміў, чаму мяне паднялі на смех. А капітан! Не, гэта не капітан, а родны бацька. Хоць бы ён даў таму шляхціцу што-небудзь такое, каб той праваліўся. Яшчэ пабачым, як яно будзе. Мяне такі мае конскія сілы вывезлі, паглядзім, як ён выедзе на сваіх лашадзіных.

Мы з Санькам не ішлі дамоў, а таўкліся пад дзвярыма класа, каб дачакацца, як выйдзе той рагатун. Таўкліся і яго сябры.

І вось ён выйшаў, чырвоны і збянтэжаны. Таварышы акружылі яго цесным гуртам, трывожна зашапталіся. Падчулі і мы — тройка. Гэта нас вельмі расчаравала. Тройка яшчэ не значыць, што ён праваліўся. Вось калі б кол, было б добра — толькі б яго тады і бачылі ў вучылішчы. Але і так маё самалюбства было ўсцешана. Няхай нос не дзярэ. Сталіца мне знайшлася.

І вось надышоў дзень, калі мы здалі апошні экзамен — напісалі рускі дыктант. Адзнак мы яшчэ не ведаем, іх вывесяць на дошцы аб'яў толькі заўтра,

але Санька так упэўнены, што нам пашанцуе і з дыктантам, быццам гэта і не экзамен, а семачкі. Хто ж яго тады і напіша, як не мы — лепшыя грамацеі сёмага «А»? Вось чаму мы на крылах ляцім дамоў і пасвістваем.

І як нам не свістаць, калі на нашым шляху да запаветнай мэты не засталося ніводнай перашкоды? Праўда, будзе яшчэ медыцынская камісія, але ж мы не зломкі якія, каб яе баяцца. Рукі і ногі на месцы, галава варыць, вочы і вушы, нібы ў добрага ката, усё бачаць і чуюць за пяць вёрст. Дык што нам камісія? Таму і дома яшчэ з парога я ўсім сваім пахваліўся, што мае пагоны ў шапцы.

...Прыйшоў вечар, мабыць, апошні для нас з Санькам вечар у роднай вёсцы. Адмыкалі на вуліцы каровы, вяртаючыся з лугу. Угаманіліся на вербах вераб'і, сытыя пасля дзённых налётаў на проса. Улёгся пыл пасля коней, якіх пагналі на луг у начное. І каля Скокавага двара абазвалася балалайка. З-за экзаменаў мы з Санькам не былі на пагулянках чорт ведае колькі — сходзім у апошні раз. Там, у нашай артылерыі, мабыць, такой волі не будзе. І, кажучы па сакрэту, хацелася крыху і пакрасавацца перад падлюбскімі шпакамі — Смыкам, Касцікам-балалаечнікам і Чыжыкам, калі ён не ў начным, — хоць мы ў гэтым сабе і не прызнаваліся. Ды і Каця з Сонькай-Кучараўкай няхай паглядзяць, задавакі мы няшчасныя ці не.

Але на пагулянцы нас чакала расчараванне. Каці і Сонькі не было. Дзяўчаты сказалі, што яны таксама нацэліліся ў навуку, хочуць паступіць у тэхнікум і таму сядзяць вечарамі ў Глёкаў і дзяўбуць граматыку. Гэта добра. Значыць, не ходзяць без нас гуляць.

На пагулянцы адразу зрабілася нецікава. Для прыстойнасці мы крыху пастаялі, перакінуліся слоўцам-другім з хлопцамі і пайшлі, так з ніводнай і не станцаваўшы. Хацелася непрыкметна змыцца, але наўздагон нам паляцела ўсё ж дзявочая насмешачка:

— Ох-ох, ваша высакароддзе, камандзіры!

Ахвота была з імі звязвацца. Мы з Санькам вышэй за гэта, нават не азірнуліся і, не змаўляючыся між сабой, пашыбавалі да Глёкавай хаты.

У адным з акон было святло. З-за фіранкі чуваць ціхая дзявочая гамонка. Яны, Каця з Сонькай. Зубраць. Тут мы з Санькам і пачалі шпацыраваць міма акон туды і назад пад свой любімы марш. Санька вядомы свістун, а тут перасвістаў самога сябе. Як мог, дапамагаўся. Раз за разам, праходзячы пад самымі вокнамі, мы на момант сціхалі і прыслухоўваліся, якое атрымоўваецца ўражанне. Ага, у хаце стала ціха — пачулі. Бачым, фіранка калышацца — падглядваюць. А потым дружна гэтак:

— Хі-хі-хі!

І больш нічога. Колькі мы пасля ні тапталіся, колькі ні маршыравалі, за акном — нібы вымерлі. А потым і лямпа патухла. Не выйшлі.

Тут Санька не на жарт раззлаваўся, а я дык і зусім разгневаўся. Падумаеш — цацы! Бачылі мы такіх. Ды мы, можа, там, у сябе ў артылерыі, і не такіх паненак знойдзем. Пойдзем у звальненне ў горад і пазнаёмімся. З намі тады

любая пойдзе. А яны няхай хіхікаюць. І ад уяўлення таго, як гэтыя зубрылкі будуць румзаць і кусаць сабе локці, калі мы пад крэндзель будзем гуляць з гарадскімі, адразу зрабілася лягчэй на душы. Але крыўда ўсё ж засталася. З ёй мы і разышліся па хатах.

А раніцай усё гэта забылася. Мы былі ўжо ў вучылішчы, калі яно яшчэ толькі паснедала і строем з песнямі ішло ад сталоўкі, нам карцела хутчэй даведацца, ці прынялі нас.

Мы думалі, што будзем першыя, але ў спартыўным зале была ўжо процьма іншагародніх, якія жывуць у казармах, ды і мясцовых — хоць гаць гаці. Яны ўюцца каля сцяны, дзе вывешаны паперы, быццам мошкі мак таўкуць: адны падыходзяць, другія адыходзяць, трэція зноў вяртаюцца, вачам сваім не вераць, хто смяецца, хто руку сябру паціскае, а хто і стаіць моўчкі, апусціўшы галаву, або здзіўлена пазірае па баках — няўжо гэта праўда, што мяне не залічылі?

Санька ў спісе прынятых знайшоў сябе адразу і балюча пляснуў мяне па плячы:

— Ёсць!

А ў мяне — нібы вочы завязаны. Усе прозвішчы на сваю літару прачытаў і зверху ўніз, і знізу ўверх — няма. Сэрца — нібы ў калодзеж упала, і ногі ледзь стаяць.

— Не можа таго быць! — расхваляваўся і Санька. — Глядзі, каб куды так не ўціснулі, не па алфавіту. Не святыя ж яны, могуць і памыліцца.

Прайшліся мы з ім у дзве пары вачэй па ўсім даўжэзным спісе ад нейкага Анікеева да якогась Яцука — ніхто мяне нікуды не ўціснуў, няма мяне сярод тых, каго прынялі. Крыўдна да болю, я ледзь не плачу. Я ж так стараўся, так зжыўся з марай пра вучылішча, пра артылерыю, што лічыў ужо сябе без пяці мінут там, у казармах, у страі са звонкай песняй, каля гармат, і вось — на табе, як абухом па цемю. Кінуліся мы да другой паперы — адзнакі па дыктанту. Тут усё і высветлілася: Саньку — тры, мне — два. Вось дзе я спатыкнуўся, вось дзе пагібель мая.

Цяпер і Санька свайму святу не рады, ён таксама нібы апушчаны ў ваду, але спрабуе мяне суцешыць, маўляў, не ўсё тое і святло ў акне, што вучылішча. Жывуць жа людзі і без яго, не паміраюць. Ён сапраўдны сябра і дзеля мяне гатовы на ўсё:

— Хочаш, і я забяру свае дакументы? Пайшлі яны свіней пасвіць, каб я вучыўся ў іх без цябе.

І я веру, што гэта не проста прыгожае слоўца. Ён можа, ён такі. Але што мне з таго толку — сам не гам і другому не дам? Ён пад гарачку забярэ, а потым усё жыццё каяцца будзе, а я застануся вінаваты. Не хачу я, няхай вучыцца з богам. А мне заставацца вечным шпаком.

Тут адкуль ні ўзяўся Юрка, прыбег даведацца пра нашы поспехі і, даведаўшыся, толькі свіснуў:

— Ну і ну-у, і як ты, Іван, умудрыўся?

А чорт жа мяне ведае, вось умудрыўся ж. Пра што і не думаў, на тым спатыкнуўся. У школе менш за чацвёрку ніколі не было, а тут як насланнё нейкае.

Але неўзабаве ўсё высветлілася. Юрка схадзіў у прыймовую камісію, кагосьці там папрасіў і вярнуўся з маім дыктантам. Выйшлі мы з шумнага спартыўнага зала далей ад цікаўных вачэй, селі на лавачку пад сасной і пачалі разглядваць, на чым я спёкся. А вось на чым — на падвоеных літарах. І памылкі ў асноўным зроблены ў адным сказе, дзе гаварылася, што нейкі прафесар ехаў пасажырскім аўтобусам па нейкай там трасе. Вось гэты самы прафесар са сваёй паездкай мяне і падвёў пад манастыр, каб ён назад не вярнуўся. Усё я напісаў з адной літарай «с»: і прафесар, і пасажырскі, і траса. Проста з галавы вылецела, што па-руску трэба з дзвюма. А там яшчэ і па дробязі назбіралася: недзе проста літару прамінуў, дзве-тры коскі паскупіўся паставіць — і бывай, вучылішча! І ўсё з-за той мымры, што нам дыктавала, — не магла крыху на падвоеных пасіпець, як сіпела наша падлюбская русіца.

І вось я вяртаюся дахаты адзін, без Санькі. Яго паставілі ўжо ў строй і павялі ў сталоўку есці артылерыйскі паёк, а мне і яшчэ такім жа недарэкам вярнулі пасведчанне аб адукацыі, сказалі суцяшальнае слова, што наша яшчэ ўсё наперадзе, і адправілі прэч з вачэй.

Я іду не з вучылішча, я іду з хаўтураў, пахаваўшы сваю артылерыю, сваё афіцэрства. Што дома бацьку сказаць, які грошы, пазычаныя ў дзеда мне на новыя штаны, вярнуў ужо назад? А крый божа сустрэнецца хто з настаўнікаў, да якіх таксама дайшла слава пра нашы з Санькам поспехі, — скрозь зямлю мала праваліцца, згарэць можна ад сораму.

І хто нас прасіў трубіць: пагоны ў шапцы, пагоны ў кішэні? Саньку пашанцавала, а мая шапка аказалася дзіравая. Вось табе і гарадскія паненкі пад крэндзель. Тут да сваіх цяпер носа не паказвай.

Спачатку я хацеў пераседзець дзе-небудзь за ваколіцай вёскі да цёмнага, каб потым прашмыгнуць, нібы мыш, у свой двор, не сустрэўшы на вуліцы нікога з аднавяскоўцаў, але перадумаў. А ці не лепей зараз, пакуль усе на працы? Толькі не трэба ісці па вуліцы, а па-за гародамі, а потым цераз платы, цераз парканы, дзе дабрачынныя людзі і не ходзяць, а толькі зладзеі ды ўцекачы. Сабак я не баюся. Сабака пабрэша, самае страшнае — за лытку грызне, а пытаць жа не будзе, здаў я экзамены ці не. Значыць, і славы не разнясе.

Наша хата на замку — яшчэ ўсе ў калгасе, і мяне сустрэў толькі Жук, завіляў хвастом, пачаў лашчыцца, за што і атрымаў добрага выспятка. Не лез бы ўжо хоць ён са сваімі пяшчотамі. Сабака зашыўся ў будку і, пакуль я адмыкаў хату, пакрыўджана паглядваў адтуль на мяне, быццам пытаючы: чым ён тут вінаваты?

Хоць і лета, я залез на печ і пакутую, і суцяшаю сам сябе: трэба яно мне, тое вучылішча-мучылішча, шчасце вялікае — строем хадзіць ды кожнаму казыраць. Не вялікі страх і ў калгасе парабіць да салдатаў, толькі вось хлопцы мянушку якую-небудзь прылепяць — гэта ўжо абавязкова. Ну, што ж — пражыву і з мянушкай.

Калі бабуля прыйшла з калгаса, я ўсё яшчэ перажываў.

— Чаго ты там стогнеш? — спытала яна, сеўшы на ўслон перахліпнуць з дарогі. — Захварэў, ці што?

Няпраўда, я не стагнаў, гэта я так уздыхаў, нібы кавальскі мех. А наконт хваробы бабуля добрую думку падала. Цяпер я ведаю, што сказаць бацьку: медыцынскую камісію не прайшоў — «зарэзала»! Дактары праклятыя! Медкамісія — гэта вам не двойка за дыктант. Я ж невінаваты, што здароўя няма.

Так я яму і сказаў за вячэрай, нават вокам не міргнуў. Трэба ж як-небудзь пасля ранейшай пахвальбы свой гонар ратаваць. І бацька толькі рукамі развёў — ну і ну, Саньку-замухрышку прапусцілі, а мяне, такога дзябёлага і вышэйшага за яго на галаву, — забракавалі. Тут у самы акурат заступілася за мяне бабуля:

— Чаго ты прычапіўся да чалавека? Санька не валяўся ўсю зімачку з сыпняком, а гэты ледзь выкараскаўся з таго свету. Думаеш, усё гэта бокам не выйшла?

І бацька паверыў.

Пазней за ўсіх заявіўся дахаты Глыжка. Яны з бацькам сёння з апошнім возам снапоў прыпазніліся, дык давялося хлопцу самому на луг каня ў табун адганяць. Убачыўшы мяне, брат кінуўся да стала:

— Ну што, Іван, узялі?

Бабка яго хуценька астудзіла:

— Ідзі памыйся, нячысцік мурзаты! Не бачыш, у чалавека гора — дахтары зарэзалі.

Нячысцік стаіць і вачыма лыпае — зарэзалі, а я жывы…

## ІВАН СЯРКОЎ



Нарадзіўся 4 студзеня 1929 года ў вёсцы Пакалюбічы Гомельскага раёна. У 1947 годзе закончыў сямігодку і паступіў у Мінскае падрыхтоўчае вучылішча — скончыў у 1952 годзе. Да 1955 года служыў у арміі. Працаваў у гомельскай раённай газеце «Маяк». З 1960 года — рэдактар, а з 1961 па 1989 год — галоўны рэдактар Гомельскай абласной студыі тэлебачання. У 1962 годзе скончыў завочна журфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З 1977 года з'яўляўся сакратаром Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Памёр 27 траўня 1988 года.

# ЛЕАНІД ГАЎРЫЛКІН

## Песня

*Апавяданне*

Пятро Рагавы, высокі, у старым саламяным капелюшы, перакінуўшы праз руку плашч, стаяў ля пошты, уткнуўшыся ў газету.

— Здароў! — падышоў я да яго. — Віншую! Учора па радыё чуў тваю песню.

— Ну і як? — спытаў ён, не адрываючыся ад газеты.

— Ты пачакай, я зараз атрымаю грошы за інфармашкі, тады пагутарым…

Пятро Рагавы ледзь не ўсё сваё жыццё працаваў гадзіннікавым майстрам у Рэпіцы, у невялікім раённым гарадку. Майстар ён быў выдатны. Многія хваліліся, што гадзіннік, адрамантаваны ў Рагавога, ішоў дакладней за новы. І вось нечакана для ўсіх ён звольніўся, пераехаў у абласны цэнтр, паступіў на нашу тэлестудыю памочнікам рэжысёра. Спачатку, праўда, яго не вельмі хацелі браць. Дырэктар студыі тлумачыў яму, што работа памочніка практычна ніякага дачынення да яго кампазітарства не мае, што яна заключаецца ў тым, каб абслугоўваць перадачы, падрыхтоўваць рэквізіт, сачыць за цішынёй у павільёне ў час перадачы, падстаўляць застаўкі — адным словам, усяляк стараўся давесці яму, што гэта работа хутчэй для ўчарашняй школьніцы, а не для саліднага мужчыны, які мае сям'ю. Тым больш што яму няма чаго нават і разлічваць на кватэру, бо ў студыі ёсць творчыя работнікі яшчэ без кватэр. Рагавы абыякава выслухаў усе довады дырэктара і настойваў, каб яго ўзялі на студыю, што ён ніякіх прэтэнзій наконт жылплошчы мець не будзе.

Аднойчы перад пачаткам перадачы мы сядзелі ў дыктарскай, і я ўвесь час пытаўся то ў аднаго, то ў другога, колькі часу засталося да перадачы. Нехта сказаў, што ў мяне ж свой гадзіннік на руцэ. Я пахваліўся, што мой гадзіннік паказвае правільна час адзін раз у суткі, што яго даўно пара выкінуць, але ніяк не збяруся купіць новы. Рагавы папрасіў паглядзець гадзіннік, пакруціў у руках і моўчкі сунуў сабе ў кішэню. У панядзелак ён прынёс яго. Плату за рамонт катэгарычна адмовіўся ўзяць. З таго дня я ўвесь час шукаў зручнага моманту, каб неяк аддзячыць яму за паслугу.

— Як песня? — спытаў ён, калі я выйшаў з пошты.

— Мне спадабалася. Толькі не разумею, чаму аб'яўляюць, што яе напісаў самадзейны кампазітар. Не гавораць жа, што самадзейны празаік напісаў раман.

— Гэта вельмі далікатнае пытанне, — схаваў ён газету ў кішэню плашча. — Ты куды цяпер?

— Я вольны, — адказаў я.

— Мне хутка ў музычнае вучылішча. Можа, пройдземся крыху?..

На рагу вуліц, той, па якой мы ішлі, і той, што перасякала яе, каб захаваць ад вачэй пустыр, парослы высокай лебядой, паставілі невялічкі шкляны павільён «Марожанае».

— Заглянем, — запрасіў я Рагавога.

Ён паглядзеў на мяне праз акуляры блакітнымі вачыма, а потым усміхнуўся так, як усміхаюцца дарослыя наіўным учынкам дзяцей.

— Пойдзем, пасядзім крыху, — настойваў я. — А, Пётр Сямёнавіч?

— Зайсці можна, нават пасядзець можна, — і ён зноў усміхнуўся так, як і раней.

Мы аблюбавалі столік у кутку з таго боку, дзе нас не даставала сонца.

Я прынёс віно, напоўніў шклянкі, а Рагавы не звяртаў на мяне ўвагі, сядзеў, азіраўся, нібы ўпершыню папаў сюды.

— Ну, Сямёнавіч, за тваю песню, — падняў я шклянку. — Што ты паглядаеш усё, як у музеі, бяры!..

— Узяць я магу. Гэта не цяжка, — і зусім нечакана для мяне прызнаўся. — Але не п'ю. Ёсць на свеце такая рэч, як язва страўніка…

І тут я ўпершыню звярнуў увагу, які бледна-хваравіты ў яго твар, якія сіняватыя мяшкі пад вачыма і які ён увесь ненатуральна худы. Белы лоб у маршчынах, тонкі завостраны нос. Бяскроўныя губы.

— Гэта ж гамза, — без ранейшай настойлівасці прапанаваў я. — Лічы, што лякарства.

— Ведаю… Чысты вінаградны сок, сонечная энергія, вітаміны, глюкоза… Усё ведаю, — ён усміхнуўся аднымі вачыма. — А калі сапраўды ты хочаш мяне напаіць, то вазьмі лепш бутэльку кефіру.

І вось мы сядзім і п'ём кожны сваё. Маўчым. Я і сам не ведаю, чаму адчуваю няёмкасць, нібы сорамна, што я, здаровы чалавек, цаджу віно, а ён…

Рагавы дапіў шклянку кефіру, паглядзеў на мяне, спытаў:

— Ты ведаеш, дзе мы сядзім?

— Ведаю, — не разумеў я яго. — У звычайнай харчэўні.

— На гэтым месцы, — ён агледзеўся зноў навокал, мне здалося, ён нібы чаго баіцца ці чаго шукае, — дзе, як ты гаворыш, звычайная харчэўня, да вайны стаяў невялічкі драўляны дом, у якім я нарадзіўся і вырас.

Я ні аб чым не распытваў, бо адчуваў, што ён у такім настроі, калі цяжка маўчаць, калі вось-вось сам пачне ўспамінаць, а пытаннямі можна толькі перашкодзіць.

— Тады мне здавалася, што наш дом самы лепшы ва ўсім горадзе. А была звычайная сялянская хата. Хаця і зусім нядрэнная. Улетку я спаў на гарышчы. Бацька, памятаю, спецыяльна для мяне сена на базары купляў. Смачна спалася на тым купленым сене. Была ў нас вялікая веранда. І садзік быў. Яблыні і вельмі многа сліў. Я, як і памятаю сябе, заўсёды любіў музыку. Кожны вечар у парк бегаў слухаць духавы аркестр. Да вайны ў парк пускалі за грошы, дык я пералазіў у глухім месцы праз цагляную сцяну. А потым у наш дом правялі радыё. У кутку над сталом вісела такая шырокая чорная талерка і гаварыла. Адарвацца не мог ад той талеркі, калі перадавалі музыку. Страш-

на хацеў навучыцца іграць. Але каб купіць які інструмент — і не заікайся. На штаны ўсім не хапала. Нас пяцёра расло, жэўжыкаў. Праўда, калі мы падраслі, самі пачалі зарабляць, стала лягчэй. Пасля сямі класаў пайшоў на завод. Хацеў зарабіць грошы і купіць сабе баян. Грошы сабраў, але купіць баян не давялося: пачалася вайна.

Усю вайну быў разведчыкам. Між іншым, радавым, — раптам у Рагавога павесялеў твар: успомніў нешта цікавае. — Спачатку, як чалавека адукаванага, мяне прызначылі камандзірам. Камандзірам пабыў некалькі дзён, не паспелі і паперы аформіць. Загадаў мне камбат паслаць разведчыкаў прасачыць там за нейкай дарогай. Дык, думаю, навошта некага буду пасылаць, калі сам змагу схадзіць і паглядзець. І пайшоў. Не атрымаўся з мяне камандзір. Пад Масквой быў паранены. Працаваў на ваенным заводзе. Рабілі прыборы для самалётаў. У сорак пятым прыехаў дамоў. Прыйшоў на гэтае месца, дзе мы цяпер сядзім, а тут толькі лебяда ды палын на папялішчы. Пахадзіў, пасядзеў на камені. Да вайны ля нашага парога ляжаў вялікі круглы камень. Адзін той камень і застаўся ад нашага дома. Можа, дзе і цяпер яшчэ ляжыць… А потым пайшоў на вакзал, таварняком і прыехаў у Рэчыцу, дзе жылі мае бацькі.

Цяпер смешна і гаварыць, але тады я лічыў сябе ўжо старым чалавекам. Здавалася, што жыццё прайшло, застаецца толькі даганяць упушчанае ў час вайны. Паспяшыў ажаніцца. Было мне тады дваццаць тры гады… Працаваць уладкаваўся ў гадзіннікавую майстэрню. Нядрэнна зарабляў, скора пабудаваў сабе добры дом. Нарадзіліся сыны. Іх двое ў мяне… Але, ведаеш, мне ўвесь час здавалася, што я не жыву сваім жыццём, я нібы чакаю нечага іншага, нечага сапраўднага, пасля чаго ўжо нічога больш не захочацца. Ты разумееш?.. Вось мы цяпер сядзім на тым месцы, дзе быў наш дом, яго няма, але я не магу з гэтым прымірыцца, недзе ў глыбіні душы не магу паверыць, што таго дома няма. Ён ёсць, я проста не хаджу туды. Разумееш? І вось тое маё адчуванне нечым было падобна на гэта… Гадоў праз дзесяць пасля таго, як ажаніўся, калі ўжо не вельмі цягнула быць з жонкай, прывык, ці што, пачаў я хадзіць у завадскі аркестр. І ведаеш, з таго часу маё жыццё мела сэнс толькі таму, што быў аркестр. Што б я ні рабіў, ці ў майстэрні, ці дома, усё гэта рабілася для таго, каб потым мець права пайсці на рэпетыцыю аркестра. Узнікала думка — і не раз — кінуць усё — і дом, і сям'ю, пайсці ў музычнае вучылішча, ды нельга было. Падымаліся сыны, трэба было іх вучыць, выводзіць на самастойную дарогу. Можа, ад суму, што я так не магу здзейсніць сваю мару, пачаў пісаць песні. Ды што то былі за песні?.. Смех адзін. І ўсё ж некаторыя з іх спяваў заводскі хор. Але хутка кінуў самадзейнічаць. Разумееш, мне трэба была музыка кожны дзень, мне хацелася ёй жыць, толькі ёй, а самадзейнасць… Да свята, да агляду якога іграем, а потым месяцамі не збіраемся на рэпетыцыі. Адна радасць заставалася — сыны. Хлопцы ў мяне добрыя выраслі. У бацьку не ўдаліся. Большы тэхнікай захапіўся, школу з медалём закончыў, пасля інстытута канструктарам працуе. Меншы спачатку фатаграфіяй цікавіўся. Думаеш, мне мала каштавала тое захапленне? Але

хутка ён кінуў сваю фатаграфію. Тады якраз нафту знайшлі недалёка ад нас, пайшоў працаваць на буравую. Цяпер — памочнік бурыльшчыка і завочна ў геалагічным інстытуце вучыцца. Вось так… Пачаў пра даваенны дом расказваць, а расказаў пра ўсё… Відаць, твой кефір падзейнічаў, — усміхнуўся Рагавы.

— Пад такі настрой толькі б выпіць шклянку? — настойваў я.

— Я сваё выпіў. Я некалі піў, — прызнаўся Рагавы. — Але алкаголікам не стаў. Часам сумна і пуста было, таму і піў. А цяпер не магу. Усё. Цяпер я ўжо берагу сябе, берагу тую кроплю здароўя, што ёсць. Хочацца пажыць яшчэ, вельмі ж цікавае жыццё пачынаецца.

— Вам падабаецца быць памочнікам рэжысёра?

— Падабаецца? — паглядзеў на мяне так, нібы я сапраўды сказаў нейкае глупства. — У майстэрні я меў больш за дзвесце рублёў у месяц, а ў студыі толькі шэсцьдзесят. У Рупіцы жыў дома, а тут на кватэры. Але нічога. Дзеці на сваім хлебе, жонка настаўнічае, на сябе таксама зарабляе. А мне маіх шэсцьдзесят на аўсяны суп у дыетычнай сталоўцы хапае… Галоўнае ж, я вучуся ў музычным вучылішчы. Завочна. З-за гэтага я і паступіў на тэлестудыю. Толькі ты не вельмі расказвай, бо гэта, можа, каму і не спадабаецца. Я так падумаў, у студыі ёсць інструменты, а ў мяне нямала вольнага часу, дык за пяць год я вучылішча і асілю. Дарэчы, мне пара, — паглядзеў ён на гадзіннік. — Праз дваццаць мінут у нас лекцыя.

— А жонка не пярэчыла? — спытаў я ў яго на вуліцы.

— Ёй сказаў, што побач з тэлестудыяй цудоўная дыетычная сталоўка, а мне трэба дыета, — не разумеў я, ці ён жартаваў, ці гаварыў сур'ёзна. — Пра вучылішча ёй не заікаўся нават. Цяпер, як даведалася, лічыць, што я пад старасць з глузду з'ехаў.

— Але ж пяць год — гэта сапраўды нямала.

— Хе! Пяць год, — усміхнуўся ён. — Сорак сем праляцела — не заўважыў калі. А пяць год — і азірнуцца не паспееш.

Нас абагнала маладзенькая дзяўчынка, даўганогая, у высокіх жоўтых чабоціках, у белым кароткім знізу шырокім паліто, раскідаўшы на плячах доўгія светлыя валасы, — уся яна нагадвала нечым асенні кляновы ліст. Дзяўчына бліснула чорнымі вачыма на Рагавога, сказала:

— Пайшлі хутчэй, Пець, а то спознімся, — і застукала абцасамі па ступеньках.

— Чуеш, мяне яшчэ Пецем называюць, а ты думаеш, што стары. Вось толькі не магу так хутка, як яна, узбегчы па ступеньках, а так самы нармальны студэнт. Колькі часу там?

— Хутка шэсць, — паглядзеў я на свой, адрамантаваны Рагавым, гадзіннік.

— Усё правільна. Ідзе дакладна. А ты збіраўся яго выкінуць. Я даў сабе слова больш за гадзіннікі не брацца, а тут не вытрымаў. Мяне проста абурыла твая некампетэнтнасць. Цяпер такіх механізмаў не робяць. Гэта ж першы выпуск «Победы». Ну, дзякую за пачастунак, — ён пацiснуў маю руку.

Я стаяў і глядзеў, як ён павольна падымаўся па прыступках, як потым адчыніў цяжкія дзверы…

## ЛЕАНІД ГАЎРЫЛКІН



Нарадзіўся 22 мая 1935 года ў пасёлку Стэп Добрушскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і служачага. У 1952 годзе паступіў на аддзяленне філасофіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а праз два гады перавёўся на аддзяленне журналістыкі. Пасля заканчэння ўніверсітэта (1957) працаваў адказным сакратаром рэдакцыі церахоўскай раённай газеты «Ленінец», а ў 1960–1977 гадах — рэдактарам на Гомельскай студыі тэлебачання. З 1967 года адначасова з'яўляўся сакратаром Гомельскага абласнога аддзялення СП БССР. У 1977–1979 гадах — галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм», у 1979–1986 гадах — сакратар праўлення СП БССР. У 1986–1989 гадах — загадчык аддзела літаратуры часопіса «Вожык». Сябра СП СССР з 1964 года. Першыя апавяданні надрукаваў у 1959 годзе (часопіс «Маладосць»). Аўтар зборнікаў аповесцяў і апавяданняў «Рукі не здрадзяць», «Прашу звольніць мяне», «Пакінутая на досвітку», «Вясенні разліў», «Урок без перапынку», «Ружы для каварнай жанчыны», раманаў «Не магу без цябе», «Зямля дзяцей нашых», «Матчына хата», «Застаюся з табой». У 1987 годзе выйшлі Выбраныя творы ў 2 тамах. Памёр 5 лютага 1989 года.

# ІВАН КІРЭЙЧЫК

## Шчыміць душа

*Анатолю Бароўскаму*

Па даху дождж татахкае
Наўподбежна, наўподбежна.
На вышках сена пахкае
Лье водары мурожныя.
Накошана над Начаю,
Над Цною, мо над Ланяю,
Такое ўжо ж удачнае —
Пагодлівае, ранняе.
Драмлю.
І ўспамінаецца
Далёкае, забытае:
З касцамі ў лузе раніцай
Пракос вяду нібыта я.
Трава такая ўкосная,
І росная, і ў квецені.
І я… зусім дарослы я —
Сямнаццатае лета мне.
Касцоў мо каля трыццаці,
А я іду паперадзе…
Ганю пракос да Прыпяці,
Валю пракос па беразе.
На мне кашуля потная.
Няхай — на сенакосе я!
З сяла на плёс з палотнамі
Ідуць дзяўчаты босыя.
Дзяўчаты пасміхаюцца.
Смяюцца мне, так думаю.
А раніца… А раніца!..
Птушыная. Нятлумная.
Бывала, так накосішся —
Пяе душа да восені…
Ды раптам пераносішся
Туды, дзе жыць прыйшлося мне.
Пад Гомелем, пад Гомелем
Лугі ўжо ходзяць ходырам,
І касавік з лугоў ліе
Да горада ўсе водары.

Хтось цёхкае мянташкаю
На досвітку астуджаным.
І вылятаеш пташкаю,
Разбуджаны, узбуджаны.
Пасланыя начальнікам, —
Не для каровы з козкаю! —
Якіясь камунальнікі
Газон таўкуць акоскамі.
І сэрца спатыкаецца,
Сляза на вочы просіцца:
Не тая гэта раніца,
Не з той расіцай-росіцай.
І гэтай касавіцаю
Не будзе сена зроблена:
Трава, што пакланіцца б ёй,
На водкупе ў Чарнобыля…
Па даху дождж пастуквае.
Прыйшоў, нібы самлелы, я.
Здаецца, спаў бы суткамі —
Шчыміць душа збалелая…

## Абапал Сожа

Абапал Сожа — травы, травы,
Так і не чэплены касой.
Бярозак светлыя купавы
Бягуць услед нам паласой.
За цеплаходам
Ціхім ходам
Здалёку сіні бор ідзе.
Нам разнаквеціцца прырода
Па берагах і на вадзе.
Мінаем Рудню,
Клёнкі,
Плёсы,
Над кручай Гомель, нібы звон.
І ўскрозь пялёсткі,
Ўскрозь пялёсткі,
Як і спрадвеку,
Як здавён.
Яны высвечваюць да неба
Надрэчча, шчодрае наўздзіў,
І цеплаход — як белы лебедзь,

Што ў разнатраўі заблудзіў.
Яны высвечваюць бяздонне,
Увесь касмічны непрагляд.
Злівае сонца ў кветкі промні —
Святлом у неба йдуць назад.
Вяслуе бусел роўна,
плаўна
З лугоў да водшыбных сяліб…
І ўсё так добра,
Ўсё так слаўна,
Усё так велічна,
калі б…
Калі б нам душы не каробіў
Тупы чарнобыльскі сіндром —
Людской нядбайнасці Чарнобыль
Махнуў і тут сваім крылом.
І ўжо Надсожжа —
свеце мілы,
Што не змяняеш нізашто, —
Здаецца горкаю магілай,
Прыбранай кветкамі. Нашто?..
Застыгла ўсё, як па камандзе «смірна»,
Хіснулася паветра памялом —
І па зямлі зялёнай,
цёплай,
мірнай
Ударыў дождж, бы з безлічы ствалоў.
Ва ўкрыцце ўсе —
пад дахі, парасоны —
Спяшаюць адусюль,
бягуць бягом…
І толькі дуб быў велічна-спакойны.
Як выклікаўшы на сябе агонь.

## Месяцовы каляндар

*Дванаццаць вершаў*

**1. Студзень:**

Ого ж! Мароз куслівы самы,
Аж сонцу дзівіцца бальшак.
Ды снег пяе пад палазамі,
А мне здаецца — свішча шпак.

**2. Люты:**

Нас люты і кліча і вабіць туды,
Дзе мчыцца лыжнёўка, нібы са слюды,
Дзе гоман і спрэчка, задзёрысты смех,
Дзе звонка спявае пад лыжамі снег.
Нас кліча і вабіць яшчэ і яшчэ
Туды, дзе лыжнёўка за вецер хутчэй…

**3. Сакавік:**

Ну вось і адступіў мароз…
Над полем кнігаўка ад шчасця плача.
Ружовяцца ў гаях ствалы бяроз
Дзявочымі абліччамі няйначай.
Палоняць сінь і невядомы пах.
Глядзіш на сонца ў небе, як на дзіва.
Вітаецца жаўрук — вясёлы птах,
Табе крылом махаючы шчасліва.

**4. Красавік:**

Краскі ў лузе, краскі ў лесе:
Лотаць, сон-трава, цюльпаны…
Красавік — вясёлы месяц,
Зыркім колерам адданы.

**5. Травень:**

Прывітанне, весняе здзіўленне! —
Вішні па-над Сожам зацвілі.
Сонечнай маланкаю праменне
Ў майскім паламалася галлі.

**6. Чэрвень:**

Пад Гомелем, пад Гомелем
Лугі ўжо ходзяць ходарам,
І касавік з лугоў ліе
Да горада ўсе водары.

**7. Ліпень:**

Слаўна ў ліпені: вербы і лозы
Мыюць ногі ва ўсплёсках вады,
І выходзяць на бераг бярозы,
Як з ясенінскай песні, сюды…

**8. Жнівень:**

Ад спякоты, як печ, спелы жнівень.
А над нівай шуміць зернялівень.
Б’е размашыста сонечным градам.
Спелы жнівень гудзе зерняпадам…

**9. Верасень:**

Вось і верасень з паўнюткім кошыкам
Чырвонагаловікаў, баравікоў…
Травы шорсткія — шчэць на вожыку
Натапырыліся пад рукой.
А з травы ўсё новы і новы
Пазірае чырвонагаловы…
То хіба  іх пакінуць можна,
Калі гэткі прыгожы кожны?..
…Ходзіць верасень грыбны па-над Сожам.

**10. Кастрычнік:**

Кастры такія восень развяла,
Такія восень фарбы запаліла! —
Ляцелі ў вырай ластаўкі з сяла —
Вышэй над лесам задзіралі крылы.

**11. Лістапад:**

Сваю самоту, роспач, крык трывожны
Пранеслі ў небе жураваў ключы,
І ціха ходзіць восень па-над Сожам,
Барвовы ліст пад ногі кладучы…

**12. Снежань:**

У снежня снег ахлапністы, густы.
Наўраз аж раздалося наваколле.
Пад навіссю прыпала долу голле,
Прыселі пад маністамі кусты.

## ІВАН КІРЭЙЧЫК



Нарадзіўся 19 сакавіка 1935 года ў вёсцы Гута на Ганцавіччыне. Працаваў уласным карэспандэнтам газеты «Дняпровец», загадчыкам аддзела пісьмаў газеты «Перамога Кастрычніка» (г. Ветка), намеснікам адказнага сакратара газеты «Гомельская праўда», рэдактарам абласной студыі тэлебачання. Аўтар паэтычных зборнікаў «Аснова» і «З маіх крыніц», а таксама кніг нарысаў і апавяданняў «Багацце душы — людзям», «Калінавая квецень». Празаічныя творы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Вернутае шчасце», «Люблю будзённы дзень» і інш. У літаратурным запісе Івана Кірэйчыка выйшлі кніга ўспамінаў партызана Р. Лабазеева «Лясныя пабрацімы» і дакументальная аповесць М. Качана «Апалены ранак». Памёр 16 лютага 1996 года.

## УЛАДЗІМІР ВЕРАМЕЙЧЫК

### Прыпяць

*Станіславу Пятачэнку*

Прыплыві, падхапі і нясі мяне, Прыпяць,
Калі зноў я прыйду да тваіх берагоў,
Дай з далоняў гаючай вады тваёй выпіць,
І мне хопіць здароўя на сотні гадоў.
...Вецер сена скубе на паромах-няўклюдах,
Перад бураю Прыпяць наморшчыла твар.
Каля Юравіч голасам, поўным прастуды,
Пачынаюць грамы агалошваць абшар.
На прасторах ракі разлягаецца рэха,
Падбіраюцца лёскаты грому сюды.
Калі ў дождж рызыкнеш
Прыпяць ты пераехаць —
Поўны човен збярэш дажджавое вады.
Па калені ў пяску нараўлянскія сосны,
І не выбрацца соснам на бераг круты,
І ніколі іх шышкі у Прыпяць не плёснуць,
Калі іх не закоцяць гарэзы-вятры.
Мараць сосны: пакінуць пясчаную грыву,
На хаду распрануцца, адкінуць сукі,
А затым паляцець з залатога абрыву
І аддацца на волю цячэння ракі.
Я прашу: «Нараўлянскія сосны, жывіце!
Не шукайце нідзе прыгажэй стараны.
Кожны гук, калі ласка, сабе забярыце
З хваляў Прыпяці — вечна напятай струны.
Хай ля ног вашых стройных
грымяць крыгаходы,
Б'юцца хвалі ў чаканні знаёмых вятроў,
Карагоды шумяць і плывуць параходы
У той край, дзе знайшоў і сябе, і любоў».
Знаю, прыйдзе калісьці жыцця майго восень,
Папрашу перад смерцю сяброў дарагіх:
«Мне зрабіце труну з панадпрыпяцкіх сосен,
Каб і там для мяне шум ракі не аціх».

## Каралева Палесся

Я Прыпяці выток і вусце,
Яе пачатак і працяг.
Яна ніколі не адпусціць
Цябе з хмурынкай у вачах.
Як дываны, лугі раскіне,
Падорыць небу сваю сінь
І рыбы на кручок накіне
На юшку царскую усім.
Раўнуюць к Прыпяці нас жонкі,
Мы ж ёю трызнім па начах.
Нам сніцца плёскат хваль гамонкіх
І вогнішча гаркавы пах.
Стагі вартуюць бераг левы,
На правым — вецер голле гне…
Плыве Палесся каралева
У сны мае, у дні мае.



На Палессі ёсць мясціна —
Барбароў,
Ды не там мая хаціна
Між бароў.
Выспяляе ранак росы
Па кустах.
І завуць да працы косы
На лугах.
Азярцо знаёмым вокам
Блісне вам.
Верасы у сотні кроках —
Быць грыбам.
Серабрыцца, ззяе Прыпяць,
Невад схне.
Не, лясных ніяк не выпіць
Чараў мне.
Збудаваць бы там хаціну
Між бароў.
На Палессі шмат мясцінак —
Барбароў.

## Новы сад

Удовін сад цвіце халодным цветам,
На зрэбным голлі кветкі там ды сям,
Дажджлівае ідзе зямлёю лета —
Адкрыта завязь бурам і вятрам.
Гаспадару, што спіць даўно на Шпрэе,
У сны прыходзіць родны той куток:
Дыміцца комін, мякка сонца грэе,
У садзе — жонка, ён і іх сынок.
Сам гаспадар не бачыць і не чуе,
Што пасівела верная ўдава,
Што вецер голле ўсохлае дратуе,
Што па зямлі пажухлая трава.

І родны сын спяшаецца здалёку
Заехаць да матулі на дзянёк.
І новы сад акопвае рыдлёўкай
Ля дрэў старых зусім непадалёк.
Праходзяць вёсны… Ў кіпені малочным
Птушыныя не моўкнуць галасы.
Удовіны святлеюць крыху вочы,
Хоць больш і больш сівеюць валасы.

## Трэскі

Ты помніш, маці, ў годзе сорак пятым
Стаяў у вёсцы нашай стук і гром.
Прыйшлі з вайны вялікае салдаты,
І кожны будаваў часовы дом.
А бацька наш не змог з зямлі падняцца
І скласці нам хоць нейкі там дамок:
Застаўся ён навечна ў вечнай хаце,
І на магіле — з дзеразы вянок.
Зайздросціў я тады чаму папала.
Больш медалям, што гладзілі сябры,
А ты мяне к суседу пасылала
Па трэскі, каб нам бульбы наварыць…
Жыццё ідзе… Таўшчэзнае бярвенне,
Што дваццаць год чакала маіх рук,
Цягну на рыштаванне з захапленнем,
І зноў стаіць над вёскай гром і стук.
Жаўцеюць трэскі каля новай хаты,
І волю ты цішком даеш слязе:

На самазвале цацачным заўзята
Мой сын бабулі трэсачкі вязе.

## Сонцу

Сонца!
Буду я тваім матросам.
Да цябе з зялёнае зямлі
Падымуся я па промнях-тросах,
Што ў зямлю навекі ураслі.
Сонца
падымацца загадала,
Зашумелі звонкія лясы.
Зрок
адмераў, колькі да прычала,
Чуліся падтрымкі галасы.
Я лячу да сонца
не па шчасце:
Мне і на зямлі яго стае.
Аднаго баюся я:
упасці,
Не дасягшы прыстані свае.

## Сэрца

Малым любіў я на падлозе спаць,
Накрыўшыся старою світкай бацькі,
І пад сяннік скамечаны хаваць
Свае, вайной пакінутыя цацкі.
Пустыя гільзы, востры нож-цясак
Сляпы бінокль у шэрым футарале.
Святло ад зорак біла наўскасяк,
Я варушыўся — гільзы шаргаталі.
…Праходзіць маці ценем на сцяне,—
Мне ж сніцца луста аржанога хлеба.
На правы бок кладзе яна мяне
І шэпча: «Сэрца прыцiскаць не трэба.
Шануй яго, пабачыш, падрасцеш:
Без сэрца жыць, як нам цяпер без таты,
Без сэрца не дарога, а узмеж,
А з сэрцам — ты шчаслівы і багаты».
Маленства, дзе ты? У грудзях маіх

Не камячок, а цэлы шар агністы,
Іду зямлёй, шукаю слоў сваіх
І сэрцам правяраю усё чыста.

## УЛАДЗІМІР ВЕРАМЕЙЧЫК



Нарадзіўся 1 лістапада 1937 года ў вёсцы Петрыцкае Брагінскага раёна. Скончыў у 1955 годзе Рэчыцкае педвучылішча. З 1966 года працаваў дырэктарам Ведрыцкай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна. Друкуецца з 1955 года. Выдаў зборнікі вершаў «Прыпяць», «Яснасць», «Люблю», «Клянуся Прыпяццю», «Ліхаўня», аўтар паэм «Родны дом», «Выклікаю вясну Перамогі», «Педвучылішча», «Наша Чырвонка». Памёр 26 снежня 1999 года.




# Гутарка

## Помніць гісторыю і шанаваць

Шаснаццатага кастрычніка 1951 года ў гарадскім пасёлку Хойнікі Палескай (цяпер Гомельскай) вобласці ў маладой сям'і крэдытнага інспектара Дзяржбанка Аляксандра Іванавіча Лякіна і яго жонкі Вольгі Адамаўны, настаўніцы роднай мовы і літаратуры, нарадзіўся сын Валодзя. Праз пяць гадоў яны пераехалі ў Калінкавічы, дзякуючы чаму наш горад набыў свайго будучага гістарыёграфа, краязнаўца і пісьменніка. Напярэдадні свайго юбілею — шасцідзесяцігоддзя — юбіляр адказаў на пытанні карэспандэнта «Калінкавіцкіх навінаў».

*— Уладзімір Аляксандравіч, адна з вашых кніг — «Прозвішчы калінавага краю» прысвечана гісторыі родавых прозвішчаў калінкаўчанаў. А што ведаеце вы пра сваю ўласную радаслоўную?*

— Мой прадзед па бацькоўскай лініі Іван Арсенавіч Лякін (прозвішча паходзіць ад хрышчэльнага імя Аляксандр) родам з Разаншчыны, у сярэдзіне XIX стагоддзя служыў у Бабруйскай крэпасці-цытадэлі. Калі выйшаў у адстаўку, ажаніўся з беларускай і стаў жыць сялянскай працай у вёсцы Ціхань Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні. А род па маці ідзе з вёскі Лясец, што побач з Азарычамі, на поўначы Калінкавіцкага раёна. То была дробная шляхта Вішнеўскія і хлебаробы Бойкі (прозвішча ад назвы адной з карпацкіх народнасцяў, мусіць, перасяліліся калісьці з Украіны).

Па гэтай лініі радавод прасачыў з сярэдзіны XVIII стагоддзя. На жаль, больш раннія метрычныя кнігі не захаваліся. Там было шмат цікавых людзей, асабліва сярод рода Вішнеўскіх, усе мужчыны якога, па іх статусе «аднадворцаў», павінны былі несці абавязковую пятнаццацігадовую царскую ваенную службу. Мой прадзед Пётр Міхайлавіч Вішнеўскі ў дзевятнаццацігадовым узросце быў прызваны радавым у Падольскі пяхотны полк. Удзельнічаў у Крымскай вайне 1853–1856 гадоў, быў узнагароджаны срэбным медалём «За абарону Севастопаля». Закончыўшы службу, вярнуўся дадому, жаніўся і завёў гаспадарку. А ў 1877 годзе, калі пачалася чарговая руска-турэцкая вайна, зноў паклікалі Пятра ў Падольскі полк. Адбыў усю кампанію і быў узнагароджаны салдацкім Георгіеўскім крыжам і гадзіннікам за выратаванне ў баі афіцэра. Толькі праз дзесяць год паўторна, але на гэты раз ужо канчаткова, звольнілі ветэрана з вайсковай службы.

Ацалеўшы ў жорсткіх баях, вынесшы на сваіх плячах груз сялянскай працы, дажыў да 102 год. А яго пляменнік Васіль у родную вёску Лясец так і не вярнуўся, застаўся на Каўказе, дзе знаходзіўся яго полк. Там у 1874 годзе нарадзіўся сын, і гэта той вядомы ваенны хірург, акадэмік медыцыны А. В. Вішнеўскі. Так, стваральнік сусветна вядомай «мазі Вішнеўскага» — сродку для зажыўлення ранаў.

Два мае дзяды, па бацьку і маці, былі на Першай сусветнай вайне, а пасля працавалі на зямлі. Будучы сялянамі-серадзнякамі, у свой час уступілі ў калгас і тым самым, відавочна, выратавалі сем'і ад раскулачвання і высылкі.

Бацькі пазнаёміліся ў Азарычах у канцы 1930-х гадоў, а пабраліся пасля вайны ўжо, калі бацька вярнуўся з арміі. Нас у сям'і было чацвёра: дачка (памерла ў дзяцінстве) і трое сыноў. Я — старэйшы. Дзякуючы выдаўцам кнігі па гісторыі Калінкавіцкага раёна «Льецца памяці рака» ў шэрагу вядомых землякоў, ветэранаў вайны і працы названы і мае бацькі, якія пакінулі пасля сябе добрую памяць у калінкаўчан.

*— Уладзімір Аляксандравіч, вы аўтар некалькіх кніг па ваеннай гісторыі, аб падзеях 1812 года на Беларусі. Чаму звярнуліся да гэтай тэмы?*

— Нацыянальная незалежнасць — гэта абсалютная каштоўнасць. Гісторыя поўная прыкладаў, калі народ, страціўшы яе, станавіўся сыравінным рэсурсам у руках заваёўнікаў, губляў сваю тэрыторыю, культуру, мову, урэшце знікаў. Незалежнасць можна захаваць, толькі маючы баяздольнае войска і вайсковыя традыцыі. Веданне сваёй ваеннай гісторыі — гэта імунітэт народа ад бяспамяцтва. У сваіх кнігах, прысвечаных вялікай эпапеі 1812 года, якая змяніла лёс нашага і некаторых іншых народаў Еўропы, я распавядаю, як яна адбілася на гісторыі Беларусі і беларусах, якім давялося ваяваць тады адзін супраць аднаго ў шэрагах варагуючых войскаў.

*— Чатыры вашы кнігі прысвечаны гісторыі калінкавіцкай зямлі, людзям, якія яе ўславілі. Што падштурхнула да гэтай працы?*

— Займаючыся радаводам, знайшоў у архівах мноства цікавых дакументаў, якія асвятляюць невядомыя раней старонкі нашай гісторыі, багатай на падзеі і яркія таленты. Пра гэта было нямала розных газетных публікацый, але асобных выданняў, за выключэннем, мабыць, раённай гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць», не мелася.

Першая кніга на гэту тэму, «Свет православия на калинковичской земле», напісаная ў сааўтарстве з протаіерэем а. Георгіем Камінскім, выйшла ў 2006 годзе. Затым была выдадзена манаграфія «Фамилии калинового края». Да 450-гадовага юбілею Калінкавічаў, у 2010-м, з'явіліся яшчэ два выданні па гісторыі: «Мы с берегов Каленковки» и «Калинковичи на перекрестке дорог и эпох». Выдатную прадмову да апошняй напісаў наш зямляк, пісьменнік, лаўрэат многіх літаратурных прэмій Віктар Апанасавіч Казько, імем якога названа адна з новых вуліц нашага горада. Для мяне было вялікім гонарам атрымаць ад яго рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў… Другую рэкамендацыю мне даў Анатоль Бароўскі, таксама зямляк — родам з Мазыршчыны.

– *Што цікавага можаце ўспомніць пра сваю флоцкую службу?*

— Пасля заканчэння ў 1969 годзе калінкавіцкай СШ № 1 паступіў у ваенна-марскую вучэльню, затым служыў афіцэрам на караблях і ў берагавых частках Ціхаакіянскага, Балтыйскага і Паўночнага флатоў. Даводзілася бываць у далёкіх паходах, сустракацца з вядомымі людзьмі, напрыклад адміралам Анры дэ Голем, пляменнікам нацыянальнага героя і прэзідэнта Францыі, кубінскім генералам Арнальда Очоа, чалавекам легендарнага і трагічнага лёсу. Два маіх таварышы, з якімі служыў у маладыя гады ў 130-й брыгадзе супрацьлодкавых караблёў Паўночнага Флоту, пасля сталі вядомыя не толькі на флоце, але і ва ўсёй краіне. Зямляк беларус Мікалай Скок стаў контр-адміралам, сібірак Кастусь Барскоў даслужыўся да віцэ-адмірала і ў свой час кіраваў паспяховай аперацыяй па ўздыме ў Баранцавым моры патанулай атамнай падлодкі «Курск»…

– *А як здарылася, што вам давялося выконваць «інтэрнацыянальны абавязак» у Афрыцы?*

— Ёсць такая сярод вайскоўцаў прымаўка: ад службы не бегай, на службу не напрошвайся. Атрымаў распараджэнне і апынуўся ў 1988 годзе ў Анголе, горадзе Луанда, дзе быў тады савецкі ваенна-марскі вузел касмічнай сувязі. Наогул жа мы, у адрозненне ад кубінцаў, якія знаходзіліся там, афіцыйна ў баявых дзеяннях не ўдзельнічалі, але ў жыцці здаралася ўсялякае. Памятаю, мой таварыш ляцеў па службовых справах на невялікім транспартным самалёце ў адну з ангольскіх правінцый. Раптам пілот «атрымаў радыё», што недалёка над джунглямі збіты кубінскі самалёт, пілоты выратаваліся, але на зямлі іх узялі ў кальцо «ўнітаўцы» (байцы антыўрадавай групоўкі). Патрабавалася падтрымка з паветра, пакуль падаспее дапамога. Былі яны на борце толькі ўдваіх, і наш афіцэр устаў за кулямёт. Паўгадзіны над гэтым месцам кружылі, але лётчыкаў выратавалі.

Ангола вельмі прыгожая краіна. Мне за час службы шмат дзе прыйшлося пабываць, але нідзе я не бачыў такога чыстага акіяна, такіх выдатных пляжаў, такой насычанай расліннай зеляніны. Вядома, даймалі спякота і трапічныя ліўні, забойчая (у прамым сэнсе слова) малярыя, якая забрала ў нас больш жыццяў, чым баявыя страты. Ангольцы — народ вясёлы і дабрадушны. Ну, а твар вайны ўсюды аднолькавы…

– *Чым цікавіцеся, над чым працуеце цяпер?*

— У маім узросце людзі ўжо часта задумваюцца, ці правільна пройдзены жыццёвы шлях, чаго ты дасягнуў, што добрага змог зрабіць для іншых. Мне няма на што скардзіцца, я адчуваю сябе патрэбным грамадству чалавекам, які працуе з каштоўным матэрыялам: нашым словам і нашай гісторыяй. І праца ў краязнаўчым музеі — па душы. Калі пытаюць — якое ў цябе захапленне, чым займаешся пасля працы, адказваю — чытаю і пішу кнігі па нашай гісторыі і культурнай спадчыне. Цяпер збіраю матэрыял пра жыццё і творчасць калінкавічаніна, беларускага паэта, а пазней савецкага ваеннага пісьменніка Дзмітрыя Рыгоравіча Сергіевіча, чый стагадовы юбілей хутка будзе адзначацца.

– *Што б вы хацелі пажадаць сваім чытачам?*

— Даўно вядома, што народ, этнас, перастае існаваць з таго моманту, калі ў ім рвецца пераемнасць пакаленняў, людзі перастаюць атаясамліваць сябе са сваімі продкамі, карацей — губляюць, забываюць сваю гісторыю. Быў час, калі мы ўшчыльную падышлі да гэтай «кропкі незвароту», ды і цяпер, як здаецца, недалёка ад яе адышлі. Маштабы страты нашай гістарычнай спадчыны ўражваюць. Мне давялося нямала папрацаваць у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі з рознымі дакументамі, у тым ліку царкоўнымі метрычнымі кнігамі, галоўнай крыніцай даследаванняў радаводаў. Па калінкавіцкім Свята-Мікольскім храме за 1560–1836 гады, калі яны вяліся на польскай мове, захаваліся толькі тры невялікія сшыткі, за наступныя гады (вяліся ўжо на рускай мове), да 1918-га — менш чым палова. У гады Грамадзянскай вайны і пазней, калі нішчылі «класава чужы элемент» і «ворагаў народа», захоўваць сямейныя архівы было небяспечна, і яны знішчаліся самімі ж уладальнікамі.

Напярэдадні і пасля акупацыі Калінкавічаў фашыстамі паўсюдна спальваліся паперы і фатаграфіі, якія мелі дачыненне да савецкай улады, а праз два з паловай гады — да ўлады акупацыйнай. І нават у мірныя 70-я гады знойдзены пры разборцы былога дома калінкавіцкага святара схаваны ім царкоўны архіў быў па-варварску раскрадзены і знішчаны.

Захаваннем ацалелага з калінкавіцкай гістарычнай спадчыны мы навечна абавязаны людзям, якія пайшлі ўжо з жыцця і якіх мала хто памятае: юравіцкім педагогам Ю. Ю. Папелю і В. Ф. Ісаенка, калінкавіцкім настаўнікам і работнікам установ культуры І. П. Літвіненка, А. А. Ладзік, В. Ф. Мішчанкову і К. В. Шчарбіну. Патрыёты роднай зямлі, гісторыкі і краязнаўцы па прызванні, яны дзесяцігоддзямі неслі, не даючы загаснуць, і перадавалі іншым агеньчык нашай агульнай памяці.

Але ўсё ж многія забытыя старонкі калінкавіцкага летапісу яшчэ чакаюць сваіх даследнікаў. Мы не ведаем імёнаў кожнага дзясятага са шматлікіх тысячаў савецкіх салдатаў, якія загінулі і пахаваны на беларускай зямлі. Напэўна, дзесьці сярод нас жыве і сёння калінкаўчанка, якая ў далёкім 1943 годзе, калі ёй было ўсяго дванаццаць гадоў, па заданні падпольшчыкаў вывела з горада ў лес да партызанаў нямецкага антыфашыста Б. Таўберта. Пасля вайны ён расшукваў сваю выратавальніцу, але яе сляды згубіліся.

А хто нам можа расказаць пра абставіны гібелі і імя лётчыка савецкага «штурмавіка», падбітага над горадам 7 студзеня 1944 года? А хто такі «Фёдар», які быў цяжка паранены ў баі з фашыстамі і падарваў сябе гранатай разам з групай немцаў на чыгуначным пераездзе Галявіцы? Дзе пахавана пакараная смерцю ў горадзе фашыстамі адважная падпольшчыца А. Яновіч? Ды колькі яшчэ старонак і фактаў жыцця калінкавіцкага краю не раскрыта, не даследавана! Мы не ведаем імёнаў кожнага дзясятага з многіх тысячаў савецкіх вайскоўцаў, якія загінулі на калінкавіцкай зямлі.

Асвятляць гэтыя і іншыя, яшчэ не разгорнутыя, старонкі нашай гісторыі мусіць ужо маладое пакаленне беларускіх краязнаўцаў.

*Гутарыў Сяргей Саковіч.*




# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

ІРЫНА БАРОЎСКАЯ

## Слова паэта песняй адгукнецца...

**Saepe stilum vertas:**
***Пошукі новага ў беларускай песеннай лірыцы***

Беларуская прафесійная песенная лірыка знаходзіцца ў пэўным творчым пошуку і, безумоўна, мае велізарныя поспехі, бо беларуская паэзія нараджалася з песні. Песенная лірыка — адметная састаўная частка нацыянальнай культуры нашага народа. Песенныя традыцыі былі вызначальнымі ў развіцці нацыянальнай паэзіі ў даваенны і асабліва ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Да формы песні звярталіся практычна ўсе вядучыя беларускія паэты канца ХХ стагоддзя.

Адчуўшы сітуацыю празмернай эксплуатацыі пэўных вобразаў, тэм, моўна-выяўленчых сродкаў, што прывяло да несвядомых і свядомых паўтораў і пры гэтым стварыла ілюзію другаснасці, пераймання і ў выніку — страту аўдыторыі, паэты вымушаны шукаць новыя сродкі і прыёмы вобразнага выяўлення. Найбольш перспектыўным трэба адзначыць стварэнне пэўных цыклаў песняў, аб'яднаных адзінай задумай. Цыкл твораў, прысвечаных адзінай тэме, вытрыманых у адзіным стылі, значна ўзмацняе агульнае гучанне і дазваляе раскрыць задуму і ідэю аўтараў. З'яўленне араторый, кантатаў, песенных альбомаў, музычных казак сведчыць аб якасных зменах у традыцыйных формах класічнай песні.

Вакальна-інструментальным паэтычным творам (або цыклам вершаваных твораў) узнёсла-ўрачыстага гучання з'яўляецца *кантата* (ад лацінскага *canto* 'спяваю') [1, с. 152]. Паасобныя інтанацыйныя абароты набліжаюць кантату да традыцыйных беларускіх народных, асабліва рэкруцкіх, песень. Кантаты на творы Я. Купалы стварылі А. Багатыроў, Р. Пукст і І. Лучанок («Курган»).

Асобнае месца кантата займае ў творчасці паэта Міхася Башлакова. Дзве кантаты на вершы паэта выконвае хор Белдзяржтэлерадыё. Музыку да іх

склаў Генадзь Ермачэнкаў. У першую кантату пад назвай «Дні залатыя» ўвайшло 7 частак: «Нібы сон», «Музыка дажджу», «Вяселле», «Не знікай з небасхілу майго», «Адзінокай свечкай стыне», «Прыцерушыў сняжок», «Дні мае залатыя». Трагічна ўспрымаецца гучанне кантаты «Радзіма надзей і трывог», чатыры часткі якой («Вандроўнік», «Крыжы-абярэгі», «Птушкі белыя», «Я прайду па Палессі») паказваюць пошукі лірычным героем сваёй Радзімы, птушкі якой пачарнелі, крыжы-абярогі не ратуюць: *Пад усхліпы / Чарнобыльскіх ветраў, / Пад усплёскі / Атручаных вод / Я паплачу / Ў цішы гэтых нетраў / Па табе, / Па табе, / Мой народ…* («Я прайду па Палессі») [2, с. 80].

Не менш трагічна-журботна гучыць кантата Уладзіміра Пецюкевіча «Дарога-сцяжына матулі і сына» (музыка Дзмітрыя Даўгалёва) [3, с. 21]. Паэт сцвярджае, што замест песень з галубінаю пяшчотай павінна прыйсці музыка нябесная, што кліча да палёту. А словы *з перапёлчынай смагай* павінны саступіць *гукам перуновым*. Уся кантата аўтара ўвасоблена ў лепшых класічных традыцыях. Так, даволі складаны па задуме і канструкцыі твор «Матчына блаславенне» вытрыманы ў фальклорным стылі (паўторы, звароты, паралелізмы): *Бласлаўляю цябе, бласлаўляю цябе / На шчаслівую долю, сыночак, / Ты расці, як вярба, будзь здароў, як вада, / І прыгожы, як сінь-васілёчак!* [3, с. 22].

Народныя традыцыі абумовілі паэтыку большасці песень, што ўвайшлі ў цыкл. Гэта заўважана ў зваротах да месяца (*Месяц мой спагадны, месяц мой лагодны, / Як табе я рады ў старане бязроднай!*), язміну (*А тут яшчэ — ах, чарадзей! — / Язмін цвіце, язмін цвіце.*), матулі (*Да цябе вяртаюся я марай / У лагодны твой, матуля, спеў.*), сына (*Наказала маці сыну: / Не забудзь, мой сын, сцяжыны.*). Разам з тым мы маем справу не з простай фальклорнай кантамінацыяй, а з адраджэннем класічных традыцый у новых умовах жыцця.

У яшчэ больш яркай ступені праявіліся падобныя пошукі ў араторыі Уладзіміра Пецюкевіча «Зорка Палын» (музыка Дзмітрыя Даўгалёва): *Тут шуміць, гудзе Курапацкі бор, / Карканне варон, смутак і жуда, / Аняменне душ, пацямненне зор… / Зоркаю Палын узышла Бяда* [3, с. 14].

У апошнія гады многія пісьменнікі выкарыстоўвалі алюзіі з «Апакаліпсіса», беларускі паэт таксама не абыходзіць такую форму ўвасаблення: *Узняўся белы птах з палыну горкага, / Святло запальвае святым крылом. / Няўжо ды збудзецца мой сон вясёлкавы — / Спаўзе халодны змрок у буралом?* («Узняўся белы птах») [3, с. 12].

*Белы птах* узнімаецца над усёй краінай, дзе лунае дух волатаў-асілкаў, пад велічнымі курганамі спяць нашы славутыя продкі, што дазваляе паэту павесці гаворку пра традыцыі і перспектывы бытавання нацыі. Паэт нават свядома ідзе на выкарыстанне алюзіі і ў песні «Шляхам палыновым» [3, с. 13], амаль літаральна перафразуе славуты зварот бессмяротнага «А хто там ідзе?»: *А хто такі там ідзе ў немалой грамадзе?..* Як і ў Купалы, улюбёныя вобразы магутных курганоў становяцца помнікамі на шляху народа ў будучыню, бо падобныя да званоў, якімі трэба ўзрушыць неба: *Курганы, курганы, курганы… / Насыпае іх сёння Чарнобыль* («Курганы») [3, с. 20]. Аўтар больш не чуе галасоў птушак: *Перастала зязюля лічыць, / Сціхла сіваваронка, не крача*

(«Курганы») [3, с. 20]; *Знямелі салаўі, знямела ціша ў гаі, / Зязюльчына «ку-ку» не чуецца ў бары, / На возеры сівым адны вятры гуляюць, / І вёслы – напалам, і човен – дагары…* («Знямелі салаўі») [3, с. 12].

Паэт просіць прабачэння ў роднай зямлі за ўсіх людзей, што стварылі Чарнобыль, пыл якога зрабіў чорнымі палі, сады, буслоў і нават людзей: *Зямля пакутная, душа балесная, / Даруй, што я цябе не засцярог, / Ды, можа, крышачку сагрэю песняю, / Хоць і яна з тугі тваіх дарог* («Даруй, зямля мая») [3, с. 15].

На гэтую зямлю не вернецца азёрнай чайкай-чаіцай легендарная Яраслаўна («Мая князёўна»):

*Плач Яраслаўны над зямлёй*
*Калышуць хвалі слынныя.*
*Не зводзься горкаю тугой,*
*Мая князёўна мілая* [3, с. 16].

У творах падобнай накіраванасці арганічна гучаць нават пафасна-ўзнёслыя выразы. Надзвычай арганічна ўспрымаюцца звароты да вышэйшых сілаў і асабліва Малітва – форма, якая з часоў Купалы амаль не распрацоўвалася выяўленчымі сродкамі песеннай лірыкі («Споведзь збуджанага», «Божа, малітву паслухай»):

*Божа мой, даруй нам, кволым,*
*Сілы дай расправіць плечы*
*І вярні, вярні нам голас*
*Векавечны, чалавечы.*

*Амін…*

(«Малітва») [3, с. 19]

Зусім у іншай, нават антанімічнай, танальнасці вытрыманы цыклы песень для дзяцей. Паэты-песеннікі пераканаўча паказалі, што тут чакаюцца сапраўдныя знаходкі і адкрыцці. У. Пецюкевіч разам з кампазітарам Дз. Даўгалёвым стварылі дзіцячую музычную казку «Птушыны кірмаш», якая ўяўляе сабой сольныя песні Жаўрука, Вераб'я, Сарокі, Вароны, Глушца, Дзятла і іншых птушак. У «Песні-Уступе» і «Песні-Фінале» збіраюцца і спяваюць усе ўдзельнікі кірмашу:

*Тук-тук-тук, ча-ча-ча, чык-чырык, курлы,*
*Дзінь-дзінь, глю, чуф-чуф, кар,*
*Добры дзень, сябры!*

*Вас вітае, сонцам свеціць,*
*Непаўторны наш,*
*Самы лепшы ва ўсім свеце*
*Песенны кірмаш.*

(«Песня-Уступ») [3, с. 117]

Паэт паказаў сябе майстрам перадачы птушыных спеваў, у якіх прасочваюцца ўяўленні і паводзіны галоўных герояў. Яго ўлюбёны Жаўрук спявае двойчы, бо яго срэбны галасочак, падобны званочку, з'яўляецца своеасаблівым камертонам да ўсёй гукавой палітры канцэрта-выставы:

*Палі жытнёвыя люблю,*
*Лугі, азёры, рэкі.*
*Вясновы гімн зямлі пяю,*
*Душою з ёй навекі.*

(«Другая песня Жаўрука») [3, с. 126]

Цікава ўспрымаецца песня Вераб'я, які вельмі хоча паказаць сябе. Сарока (*Сіньярыта Сарачыні*) і Індык (*Сіньёр я Індычыні*) з'яўляюцца на гэтым балі гасцямі: Індык нагадвае Паўліна, у якога настолькі прыгожы рознакаляровы хвост, наколькі брыдкі голас, якім можна толькі напалохаць. Індык уяўляе сябе каралём — і такая неадпаведнасць памкненняў і здольнасцяў выклікае іранічную ўсмешку:

*Лясныя птахі, глю-глю-глю!*
*Чаго маўчком пасталі?*
*Спявайце мне, як каралю,*
*Я ацаню ваш талент.*

(«Песня Індыка») [3, с. 122]

Не менш парадыйным вобразам выступае і Глушэц, які запрашае ўсіх, хто хоча славы, у свой хор:

*Чуф-чуфы, чуфа-чуфом —*
*Тут няма сакрэту:*
*Хто мяне заве глушцом —*
*Сам глушэц адпеты.*

(«Песня Глушца») [3, с. 123]

Песні Жураўля ўносяць у гул аркестра адпаведную мінорнасць і лёгкі сум, якія надаюць музыцы словаў разнастайнасць і поліфанічнасць.

Падобныя вобразы ствараюць неабходную атмасферу весялосці, карнавальнасці, нават гратэску, нібы на балі цацак у славутага Эрнста Гофмана «Шчаўкунок, ці Мышыны Кароль».

Незвычайнай і цікавай з'явай усёй беларускай песеннай спадчыны з'яўляецца «Цацачная крама» Л. Дранько-Майсюка (музыка Зміцера Вайцюшкевіча). Аўтар упэўнены, што «весялосць — нацыянальнае багацце беларусаў, таму ў «Цацачнай краме» шмат смеху, жартаў, дасціпнасці, радаснага настрою, салёных слоўцаў, народных выразаў, часам — горкай іроніі» [4, с. 4]. Вытокі падобнага дзейства можна ўбачыць у батлейцы, у скамарошніцтве, у традыцыйных фэстах-кірмашах са славутым выпускніком смаргонскай ака-

дэміі — вучоным мядзведзем, што працуе за цэлы цырк. Бо беларус з даўніх часоў, з дзяцінства звык да таго, што з ім нараўне можа гаварыць конік, зайчык, ліска, нават воўк. Для дзіцяці — гэта своеасаблівы працяг гульні, казкі, сваёй, роднай. Менавіта таму ва «Уступнай песеньцы Гаспадара» паэт спрабуе даць ключ для спасціжэння адметнага цыклу, які, як падкрэсліваецца, перш за ўсё ўяўляецца забаўкай:

*Цацкі ж не абы-якія;*
*Не гліняныя — пустыя;*
*Не драўляныя — глухія…*
*Цацкі ўсе як ёсць — жывыя!* [4, с. 12].

Цацкі заклiканы ўздзейнічаць эмацыянальна, абуджаць адпаведныя пачуцці і разлічаны ў першую чаргу на знешняе ўздзеянне. Цыкл песень дасягае сваёй мэты — слухач адразу трапляе ў сусвет чароўных гукаў, дзе дамінуе забаўна-ўсхваляваны маналог галоднага Ваўка, які, аказваецца, зусім не шкодны, не бандыт, нават не дробны хуліган, а проста — галоднае божае стварэнне, якое просіць даслаць ежы. Воўк даволі сучасны — ён ведае, што існуе гуманітарная дапамога: *Шліце ежу мне з-за мора, / Каб не спруцянеў!* Поруч з галодным, крыху наіўным Воўкам жывуць разумная Варона, баязлівы Барсук, памяркоўны Мядзведзь. Пра дзяцінства апошняга паэт апавядаў у песеньцы «Два мядзведзікі» (гэты ўлюбёнец дзятвы палез спаць на сасну, у той час як яго разумнейшы брацік спаў у пасцелі і бачыў у сне салодкую маліну). Згадае дапытлівы маленькі слухач і працавітага Каня, і задаваку Пеўня, і злога Сабаку, і незалежнага Зубра. Па сутнасці, дзіця трапляе ў карагод з гэтымі добра вядомымі па казках героямі, а таму такімі пазнавальнымі, блізкімі, роднымі. Падчас яны падсвечваюцца новымі гранямі, рысамі характару. Звяры не вінаваты, што трапляюць у «чалавечыя» ўмовы. Казёл скача на стол, бо яго не пускаюць за стол, Мядзведзь гатоў прадацца ў любы цырк за лыжку мёду. Маладзенькі слухач з задавальненнем паслухае казачку, у якой дакладнае слова з умела падабранай музыкай мае выразныя дыдактычныя ўстаноўкі. Цыкл значна ўзбагачае дзіцячую песенную лірыку на якасным узроўні.

Разам з тым у той жа «Уступнай песеньцы Гаспадара» поруч з заклікам таргавацца ёсць намёк, што забаву цацкі даюць і дарослым, якім варта купіць іх не толькі для дзяцей, але і для саміх сябе. У кожнага з цацачных герояў вылучана адна, дамінуючая рыса характару, што дазваляе аднесці творы да алегарычна-ўмоўнага жанру (байкі і прытчы). Невыпадкова заключная «Песня Гаспадара» сцвярджае сілу ўздзеяння цацкі на чалавека:

*Каб вы маглі адчуць*
*У цацак столькі сілы,*
*Што ад калыскі йдуць*
*За намі да магілы!* [4, с. 120].

А яе выразны алегарызм падкрэслівае прыпеў:

*Людзі, людзі дарагія,*
*І малыя, і старыя,*
*Вы нібы, як цацкі тыя,*
*Завадныя і жывыя* [4, с. 121].

Тады зусім па-іншаму глядзіш на насельнікаў крамы. І ўжо не дзіцячыя асацыяцыі ўзнікаюць ў свядомасці, а цацачная крама вырастае да межаў дарослага жыцця, у якім кожны робіць свой выбар. Адразу ўяўляецца вобраз сучаснага мужчыны, які моцна абкружаны жаночай увагай, губляецца як Мужчына і становіцца падобным да задаволенага Пеўня, што не здольны на сапраўднае Каханне, а ўсе адносіны зводзіць да звычайнай фізіялогіі: *Я тапчу курэй усмак / І ня знаю меры*, ці рэфрэн *Мудрасць простая мая: / Будуць куры — буду й я!* («Песенька задаволенага Пеўня») [4, с. 36]. Перад дарослым чытачом паўстае простае, шэрае, будзённае жыццё, дзе кожны выбірае свой шлях і навек застаецца Варонай, якая здольная адмовіцца ад розуму, калі ёй гэта патрэбна, злым Сабакам, што брэша на ўсіх, *гуляшчай* Кошкай, якая заўсёды ліжа твар свайму гаспадару, а гаспадыні — *дык тое, чым садзіцца.* Ці ўсё ж сказаць усяму «Не!» і жыць, як незалежны Зубр, памяркоўны Мядзведзь? Каб паказаць пэўныя аналогіі, аўтар нават свядома выкарыстоўвае алюзію на славутыя вобразы баек К. Крапівы. Няма адзінага прачытання «Цацачнай крамы», і гэта вельмі добра, бо кожны чытач (слухач) мае ўласны жыццёвы вопыт і выбар, таму знойдзе ў радках нешта сваё.

Вобразна-выяўленчая палітра песеннай лірыкі Л. Дранько-Майсюка абумоўлена адметнасцю тэматыкі твораў. Зразумела, што для песень, вытрыманых у рамантычна-ўзнёслай традыцыі, неабходны і адпаведны ўзнёслы настрой, які вымалёўваецца з дапамогай адпаведных лексем (*замак, прынц, ружа, лілея, Версаль, Парыж, крышталь, срэбра*). Па-майстэрску Л. Дранько-Майсюк стварае неабходную атмасферу суму, лёгкай журбы, прадчування трагедыі, дзеля чаго выкарыстоўваюцца амаль зрокавыя апісанні адпаведных з’яў прыроды (*дождж, туман, ноч*). Выразным кантрастам да рамантычна-ўзнёслай лексікі з’яўляецца выкарыстанне слоў нізкага стылю, падчас нават вульгарызмаў: *бздзік, бздура, прыдуркі, зусім дурны.* Як чалавек, які надзвычай тонка адчувае музыку, Л. Дранько-Майсюк выключную ўвагу надае гукавому афармленню кожнага радка і слова. Менавіта гукавыя паўторы пераўтвараюць мову ў злітнае цэлае і прымушаюць успрымаць іх як своеасаблівую рытмічную метафару [5, с. 156]. Найбольш яскравыя ўзоры — гукапераймanne «гаворкі» Ваўка, у прыпеве якога чуваць адно завыванне: *Я ня шкодны Воўк, / Я галодны воўк… У-у-у*. Найбольшы стылістычны эфект гукапераймanne дае ў тым выпадку, калі гукавое збліжэнне слоў падкрэслівае іх вобразнасць, падмацоўвае змест фразы [6, с. 177]. Так, паўтор [а] часта заўважаецца з паўторам [у], [о], прычым паўторы галосных спалучаюцца з прыёмам анаматапеі, што дапамагае перадаць шырыню, працяглaсць гучання, падкрэсліць, выдзеліць асаблівыя, характэрныя рысы вобраза. Маналог Вароны прасякнуты варыяцыямі яе спецыфічнага «р» — гуку рытмічнага і рэзкага, паўтор якога іншы раз выкарыстоўваецца для выразнай зніжанасці стылю, а побач з гукаперай-

маннем *кар-р-р!* стварае ў радку дакладны вобраз разумнай Вароны: *Добра ведаю я — кар-р-р! / Дзе рубель, а дзе даляр… / Дзе гандляр, а дзе махляр… / Дзе таварыш, дзе спадар* [4, с. 24]. Такое выключна ўважлівае стаўленне не толькі да зместу, але і да гучання твораў у значнай ступені і тлумачыць цікавасць кампазітараў да песенных тэкстаў Л. Дранько-Майсюка. А таленавітая спроба спалучэння нацыянальных і агульнаеўрапейскіх традыцый сведчыць аб тым, што на гэтым шляху аўтара чакаюць новыя поспехі.

Адметнай з'явай у беларускім песенным мастацтве выступілі песні роздуму, філасофіі, разваг аб сэнсе жыцця і месцы чалавека на зямлі, песні, заснаваныя на асноўных тэндэнцыях хрысціянскага гуманізму. Так, вялікі беларускі паэт Рыгор Барадулін у сваёй творчасці звярнуўся да псальмоў (зборнік «Ксты», 2005) [7]. Тэксты паклаў на музыку і спявае Алесь Камоцкі. У час жорсткасці і канкурэнцыі, бездухоўнасці і ўсёдазволенасці менавіта зварот да душы так неабходны кожнаму з нас:

*Як у сцюдзёную раку,*
*Памалу ў Біблію заходжу,*
*Бо веру, што душу злагоджу,*
*І, думаю, бяду ўраку* [7, с. 80].

Псальмы — гэта лірыка з усімі яе умоўнасцямі, гіпербаламі, іншы раз алагічнымі злучэннямі слоў, пра што трэба памятаць, інакш можна прагледзець асноўнае [8, с. 1]. Важную асаблівасць формы псальмоў неабходна захоўваць у перакладзе: «*Вычарпалася ў скрусе жыццё маё, і леты мае ў стагнотах*» (Псальм 30:11); «*Як бацька даруе сынам, так даруе Госпад тым, хто баіцца Яго*» (Псальм 102:13). Асаблівасць грунтуецца на так званых паралелізмах: адно і тое ж сказана двойчы, але па-рознаму. Дарэчы, такая форма паэзіі актыўна выкарыстоўвалася і самім Ісусам Хрыстом: «*Не судзіце, каб і вас не судзілі. Бо якім судом судзіце, такім вас судзіць будуць; і якою мераю мераеце, такою і вам адмераецца*» (Мф. 7: 1, 2); «*І вось, усё, як хочаце, каб рабілі вам людзі, так і вы рабіце ім; бо ў гэтым закон і пракокі*» (Мф. 7: 12). Гасподзь адкрывае, павучае, дыдактыка ў яго набывае напеўную форму, якая не забываецца, а, наадварот, гучыць, як верш, як нечалавечая мелодыя, незвычайна цудоўная, як і той свет, які Ён напоўніў Сабой і Любоўю.

У псальмах Рыгор Барадулін арганічна яднае біблейскі пачатак і нацыянальны. Адбіраючы з псальма толькі адзін верш, паэт развівае пэўную думку, засяроджвае ўвагу на праблемах нацыянальнага, сацыяльнага, духоўнага зместу нашага жыцця. Аўтар арганічна, глыбока пераносіць вечную філасофію Біблії на нас, чытачоў, грамадзян сваёй Беларусі, вяртае нас, супыняе на простых і заўсёдных ісцінах:

*Дні на зямлі твае,*
*Як дзень адзін.*
*Калі ён скончыцца —*
*Ніхто не скажа* [7, с. 86].

Таму неабходна кожнаму з нас у жыцці паспяваць усё рабіць, *бо дарабляць не вернешся.* Чалавек не ведае, колькі яму наканавана жыць на гэтай зямлі. І толькі сонца, якое паэт называе *служкай боскай мілаты,* ведае свой захад і разлівае шчыра сваё цяпло і святло. У вершы скарыстаны вобразны паралелізм, які пашырае і паглыбляе аўтарскую задуму праз метафарызацыю сітуацыі для стварэння яскравага, найбольш запамінальнага вобраза з мэтай глыбокага ўздеяння на чытача:

*Ты знікнеш —*
*Не заўважыцца прапажа.*
*Рацэ няўцям,*
*Як шмат растала льдзін* [7, с. 86].

Мова псалмоў Рыгора Барадуліна даволі складаная. Яна насычана таўталагічнымі паўторамі, якія, безумоўна, узмацняюць асноўную думку твора: *на гонях родных / Рунь рунейшая* [7, с. 82], *руйнуйце сівыя руіны* [7, с. 85], *жывыя руіны руінаў* [7, с. 85], *не прывыкла сябе / Вінавацiць віна* [7, с. 89], *на крыжы / Укрыжуй* [7, с. 91]. Іншы раз назіраюцца паўтарэнні не столькі блізказначных слоў, колькі слоў блізкагучных: *мелкія ў суцяшэння кішэні* [7, с. 85], *вязні — як вузялкі / На вяроўцы пакуты* [7, с. 87], *кара твая відушчая ведае* [7, с. 88], *дзе ліха лішаць ліхадзеі* [7, с. 88] і г. д.

Пры гэтым вельмі актыўна паэт скарыстоўвае магчымасці марфалагічнай сістэмы мовы. Напрыклад, на аснове адзінага кораня *-бо(а)л'-* уводзіць у сказ дзеяслоў, назоўнік і ступень параўнання прыслоўя: *разбаліцца боль балючэй* [7, с. 85]. Або: *Узвышаймася. Бо на ўзвышэнне / Вышыні нябёсаў стае!* [7, с. 85].

Гукапісу паэт надае вельмі вялікую ўвагу. Своеасаблівыя спалучэнні, нібы гукавая гульня, яскрава ўзмацняюць рытмічнасць вершаванай мовы, што, канешне, надае большую эмацыянальнасць і засяроджвае на глыбіні выказанай думкі:

*Не ўзвышэнне сябе самога,*
*А ўзвышэнне з самога сябе.*
*Непадсільная перамога*
*У нясконченай барацьбе* [7, с. 84].

Псалмы Рыгора Барадуліна — яскравы прыклад высокага майстэрства, мастацкага таленту, калі мова дапамагае спасцігаць глыбіню філасофскай думкі, прымушае задумацца. Як стылістычная фігура, шматпрыназоўнікавасць надае радку панарамнасць, шырыню для сцвярджэння простай ісціны — пустая душа не можа ўзвысіцца, усё жыццё неабходна напаўняць яе і ўзвышацца *над забытасцю, над імшою, / Над прадоннем цёмнай маны, / Над спустыненаю душою* [7, с. 85].

Праз аўтарскія перыфразы паэт сцвярджае, што «*душа — гняздоўе / Прыцемку й святла*», а «*вусны — вусце думкі, / Што сама На вышсце просіць у душы дазволу*» [7, с. 84], мы ж *Часовыя, / Не ведаем, калі / Душа пакіне нас, / Як думка высі* [7, с. 84].

Даволі шырока паўстае ў псальмах параўнанне, як мастакоўская своеасаблівасць пісьменніка, яго стаўленне таго, што адлюстроўваецца ў творы [1, с. 223]. Найчасцей у Рыгора Барадуліна параўнанні вербальныя, якія характарызуюць працэс дзеяння, і інверсіраваныя, структурныя кампаненты якіх размешчаны ў адвольным парадку: *Шыю катаву, як маладая каханка, / Абаўе непаслабна / Вяроўка старая* [7, с. 87], *Поўніцца вока старое бяссонна / Смуткам, / Як поўня на скразняку* [7, с. 97], *Высахнуць цяжка воку, / Як мору* [7, с. 97], *Вычэрпвае, / Як з чаўна ваду* [7, с. 97] і г. д.

Пэўная група псальмоў заснавана на антытэзе: *Бачыць далей маладое вока, / Вока старое глядзіць глыбей* [7, с. 97], *Ноч з галавы, / А дзень жыве з вачэй, / Ноч грэшна бавіць час, / А дзень пацешна* [7, с. 98]. Супастаўленне — гэта кантраст, які дазваляе глыбей зазірнуць у пэўную праблему, раскрыць аўтарскую асноўную думку: *Слаўлю цябе / І жыву я табой, Госпад, / А смерці гэта няміла* [7, с. 96].

Нестандартныя спалучэнні слоў, што складаюць аснову метафарычных пераносаў, дазваляюць ствараць думку, у якой хаваецца дадатковы змест: *Мы зараслі / Лясамі хлусні. / Пачуй нас і пакарчуй / Пакоры нашае пні* [7, с. 91] і г. д.

Спалучэнне вялікай ідэі і не меншага майстэрства яе ўвасаблення прывяло да поспеху: псальмы Рыгора Барадуліна — філасофская паэзія, якая прымушае думаць і разважаць. Умела скарыстаныя сродкі мовы накіраваны на сцвярджэнне ідэй любові да Бога, да людзей, ачышчэнне душы і нараджэнне ў ёй святла.

У цэлым беларуская прафесійная песенная лірыка знаходзіцца ў творчым працэсе, у выніку якога адбываюцца зрухі ў стылі (нездарма яшчэ ў старажытнасці гаварылі «*Saepe stilum vertas iterum quae digna legi sunt scripturus*» — «Часцей паварочвай стыль, калі хочаш напісаць нешта годнае для перачытвання»), формах і вобразах. Вельмі хочацца, каб і надалей адбывалася развіццё і рабіліся новыя адкрыцці на глебе пашырэння цікавасці і прыцягнення да сябе ўвагі не толькі беларускамоўнага, але і замежнага слухача.

**Літаратура**

1. Рагойша, В. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах : дапам. / В. Рагойша. — Мінск : Беларуская энцыклапедыя, 2001. — 384 с.

2. Башлакоў, М. Матчыны грыбы перабіраю : вершы / М. Башлакоў. — Мінск : Ураджай, 2000. — 86 с.

3. Пецюкевіч, У. Узняўся белы птах : Песні. Вершы. Балады. / У. Пецюкевіч. — Вільня, 2004. — 561 с.

4. Дранько-Майсюк, Л. Цацачная крама : кніжка для вялікіх і малых [Тэкст] / Л. Дранько-Майсюк. — Мінск : Медисонт, 2008. — 128 с. — (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 6).

5. Тынянов, Ю. Н. Проблемы стихотворного языка : статьи / Ю. Н. Тынянов. — М. : Сов. писатель, 1965. — 304 с.

6. Голуб, И. Б. Стилистика русского языка : учебн. пос. / И. Б. Голуб. — М. : Рольф ; Айрис-пресс, 1997. — 448 с.

7. Барадулін, Р. Ксты / Р. Барадулін. — Мінск : Рым.-катал. Парафія св. Сымона і св. Алены, 2005. — 472 с.

8. Клайв Стейплз Льюис. Размышления о псалмах // Библиотека Альдебаран : http://lib.aldebaran.ru —30 с.

## ІРЫНА БАРОЎСКАЯ



Нарадзілася 28 лютага 1968 года ў Мазыры ў сям'і пісьменніка. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт ГДУ імя Ф. Скарыны і аспірантуру пры ім. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працуе ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Дацэнт кафедры замежных моваў, выкладчык. Даследуе вобразна-выяўленчую сістэму беларускай песеннай лірыкі. Аўтар манаграфій «Паэтыка беларускай песеннай лірыкі» (Мінск, 2003), «Беларуская песенная лірыка (моўна-выяўленчая сістэма вобразнасці)» (Гомель, 2004), «Пад зоркаю Кахання і Любові (творчыя партрэты майстроў беларускай песеннай лірыкі)» (Мінск, 2008), шэрагу артыкулаў у часопісах «Роднае слова», «Неман», газеце «Літаратура і мастацтва» і інш. Жыве ў Гомелі.

ДЗМІТРЫЙ ПАЎЛАВЕЦ

## Вандроўка па Палессі з Іванам Мележам

Аналізуючы цяперашні стан культуры ў Беларусі, стаўленне да яе з боку грамадскасці, усё больш пераконваюся ў тым, што мы з неба зоркі (часцей чужыя) хапаем, а што пад нагамі (сваё, роднае) — не заўважаем. «*Мы не заўважаем, як гадуем і сілкуем сваю культуру чужымі сокамі, як гэта робяць расліны-паразіты, не задумваючыся над тым, што нас напаткае засуха; што, адплыўшы ад аднаго берага і не прыстаўшы да другога, мы заб'ём і загубім апошнія маральныя сілы свае і вечна будзем цягнуцца за чужым, таму што ў нас не застанецца анічога свайго, ані нават сваёй самастойнай мовы, ані свайго роднага слова, ані сваёй літаратуры*» [1, с. CIV], — як дакладна і мудра адзначаў яшчэ 150 гадоў таму выдатны расійскі пісьменнік, вучоны У. І. Даль, ацэньваючы стан тагачаснай рускай культуры, і ў прыватнасці мовы. Гэтыя словы як найлепш характарызуюць і стан сучаснай беларускамоўнай культуры. Каб такога не здарылася, мы павінны належным чынам вывучаць простую і шчырую беларускую літаратуру і засвоіць яе сабе, як усё жывое засвойвае добрую страву, ператвараючы яе ў жывую плоць. А для гэтага, як падаецца, неабходны пошук новых прыёмаў і тэхналогій у сістэме навучання як сярэдняй агульнаадукацыйнай, так і вышэйшай школы, неабходна звярнуць увагу на міжпрадметныя сувязі, на літаратурнае краязнаўства, якое на сёння апынулася амаль што забытым. Якраз краязнаўчы матэрыял стымулюе актыўнасць асобы вучня і студэнта да пазнавальнай дзейнасці, да свядомага творчага пошуку, садзейнічае фарміраванню патрыятычных пачуццяў, далучэнню да ўсебаковага і глыбокага вывучэння геаграфіі, гісторыі, прыроды, культуры свайго рэгіёна, сваёй малой радзімы. Эфектыўным прыёмам такога навучання і выхавання з'яўляецца знаёмства з фактамі з жыццяпісу пэўнага пісьменніка, асэнсавання асаблівасцяў ягонай творчасці. Важна надаць вучню і студэнту імпульс цікавасці да асобы мастака і ягоных твораў, абудзіць патрэбнасць пранікнуць у таямніцы і сэнс жыцця. На Гомельшчыне, да прыкладу, гэта можна было б ажыццявіць на ўроках беларускай літаратуры ў межах культуралагічнага праекта з умоўнай назвай «Вандроўка па Палессі з Іванам Мележам». Пачынаць працу можна з вельмі шчымлівага, шчырага прызнання нашага славутага земляка, які ў сваіх успамінах пісаў: «*Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшы, даражэйшы. Багата можа быць у чалавека за жыццё іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных, але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым не забываецца, не адступае ўдалеч; сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў — ён самы дарагі, самы шчымлівы! Куток гэты — тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства.*

*З радасцю і болем пад'язджаю я кожны раз к родным сваім мясцінам. Ад Гомеля ці ад Мазыра… пачынаюцца гарады, станцыі, вёскі, на якія не магу не глядзець без хвалявання: Рэчыца, Васілевічы, Мазыр — для мяне не проста назвы паселішчаў, а як бы жывыя істоты, таварышы маладосці… Чым бліжэй вядзе дарога к Глінішчам, тым бліжэйшыя, даражэйшыя таварышы выходзяць насустрач — Юравічы і Хойнікі, Княжыца і Тунеўшчына. І нарэшце — родныя Глінішчы, дзе ўжо выходзяць насустрач такія таварышы, якія не названы на самых дасканалых картах, але якія моцна, на ўсё жыццё прапісаны ў сэрцы. Луцішчы, Тур'я, Канапельскае, Казекава, Перавельскі круг, Паўлаў круг, беразняк, балота, выганы. Гайкі гэтыя даўно сцёрты з зямлі так, што і пнёў не засталося, у рацэ вады па костачкі, «кругі» многія высахлі нашчэнт — і ўсё ж яны жывуць успамінам у сэрцы, шчымлівай, непатрэбнай тугой страты*» [2, с. 499].

Вышэйзгаданы праект меў бы інтэграваны культуралагічны характар. З яго дапамогай можна ахапіць такія галіны навукі, як геаграфія, гісторыя, экалогія, тапаніміка, архітэктура, мовазнаўства, ну і, канечне ж, літаратура. Праца над ажыццяўленнем праекта дазволіць далучыць вучняў і студэнтаў да пошукава-даследчыцкай дзейнасці, будзе абуджаць цікавасць да свайго краю праз вывучэнне гісторыі роднай вёскі, рэгіёна, іх геаграфічнага становішча, экалогіі, збор матэрыялаў пра знакамітых землякоў, фальклорную спадчыну сваёй мясцовасці. Безумоўна, што галоўная роля ў ажыццяўленні дадзенага праекта будзе належаць настаўніку роднай мовы і літаратуры, бо ён, як зазначаў І. Мележ, «*павінен найперш і заўсёды разумець, што заняты самым сур'ёзным родам дзейнасці, працуе з жывою істотай, з чалавекам. Я думаю, што самы страшны вораг настаўніка ў яго рабоце — гэта фармалізм, бюракратызм, казёншчына. Настаўнік павінен быць перш за ўсё чалавечным*» [3, с. 534]. Вось якраз гэтага, на жаль, і бракуе цяпер многім настаўнікам, якіх загрузілі непатрэбнай бюракратычнай працай.

Гаворачы пра Палессе, І. Мележ прызнаваўся: «*Гэта — мая радзіма. Я тут нарадзіўся, тут непаседлівым хлапчуком шныпарыў у балотных зарасніках, непраходных, як джунглі. Тут дакрануўся да загадкавага свету балот, ён уразіў маё прывіднае дзіцячае ўяўленне. Зараснікі гэтыя, балоты, край гэты назаўсёды ўлюбілі мяне ў хараство прыроды, хараство жыцця*» [3, с. 309]. Сапраўды, Палессе — гэта ўнікальны край з багатай гісторыяй, адметнай, непаўторнай духоўнай спадчынай, якая мае шматвяковую традыцыю. Гэта край, які мае выключнае значэнне не толькі для Беларусі, бо тут, на думку выдатнага расійскага славіста Н. І. Талстога, улюбёнага ў гэтыя мясціны, знаходзіцца прарадзіма ўсяго славянскага свету. Да ўсяго, Палессе — гэта і непаўторны прыродна-ландшафтны рэгіён, багаты на своеасаблівыя назвы населеных пунктаў, водных аб'ектаў, балот, лясоў, якія патрабуюць фіксацыі і захавання, таму што многія ўжо зніклі, а іншыя знаходзяцца пад пагрозай знікнення.

Добрым падручнікам і даведнікам для знаёмства з Палессем можа быць «Палеская хроніка». Безумоўна, раманы названага цыкла — гэта мастацкія творы, у якіх шмат аўтарскага вымыслу, разам з тым тут захавалася шмат геаграфічных назваў, дакладных ці часткова змененых пісьменнікам, на-

прыклад: Алешнікі (Алексічы), Вадовічы, Глінішчы, Загалле, Курані (Каранёўка), Міхалі (Міхалёў), Мокуць (Моклішчы), Туманы, Юравічы. Думаю, што адзінаццацікласнікам будзе цікава і займальна разам з І. Мележам і ягонымі героямі выправіцца ў падарожжа па маршруце Хойнікі–Курані (Каранёўка)–Алешнікі (Алексічы)–Глінішчы–Вадовічы–Юравічы. Найперш карысна патлумачаць сэнс назваў паселішчаў, у якіх адбываюцца асноўныя падзеі, апісаныя ў творы. Так, назва галоўнай вёскі, *Курані*, суадносіцца са словам ***курань*** ʹбуданʹ; *Мокуць (Моклішчы)* — з дзеясловам *мокнуць*, гэта вельмі мокрае месца*; Вадовічы* пастаянна залівала *вадой*, якая доўга не спадала*; Глінішчы* — месца, дзе капалі гліну; *Загалле* — мясцовасць, якая знаходзіцца за ***галам*** ʻчыстае месца, прастораʼ; *Юравічы* хутчэй за ўсё названы так па імені першага заснавальніка ці ўладара паселішча; *Алексічы і Міхалі* — па родавых прозвішчах першапасяленцаў.

Не меншую цікавасць выкліча і гістарычны каментарый пра мястэчка Юравічы, вядомае з 1510 года як спадчына зямян Сенькі і Федзькі Багданавічаў-Сярбінавых, потым належала Касцюшковічу, С. Аскерку, разбуранае пад час казацкай вайны 1648–51 гг. З 1683 г. мела каралеўскі прывілей на вольны гандаль і кірмашы. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай у складзе Расійскай імперыі — цэнтр воласці Мінскай губерні. Тут былі паштовая станцыя, прыстань, бальніца, мужчынскае і жаночае народныя вучылішчы, касцёл Раства Багародзіцы (у ім захоўваўся цудадзейны абраз Юравіцкай Маці Божай), Свята-Троіцкая царква, сінагога, ладзіліся вядомыя на ўсю акругу кірмашы. У 1926–31 гг. цэнтр Юравіцкай воласці Мазырскай акругі. Археолагі дададуць, што каля вёскі знаходзіцца адзін з самых старажытных на тэрыторыі нашай краіны археалагічных помнікаў — стаянка першабытнага чалавека, а таксама гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі і курганны могільнік дрыгавічоў. Мастацтвазнаўцы раскажуць, што ў цэнтры вёскі на высокім узгорку левага берага Прыпяці ў 1717–46 гг. езуітамі пабудаваны мураваны комплекс, у які ўваходзілі касцёл, кляштар і калегіум, што гэта цудоўны ўзор позняга беларускага барока, які захаваўся часткова і ў якім зараз месціцца жаночы праваслаўны манастыр Раства Багародзіцы, што дае надзею на яго аднаўленне і другое жыццё.

Паводле прызнання самога пісьменніка, у рамане захаваны «*ўсе дарогі, лясы і пералескі, назвы некаторых вёсак і нават імёны некалькіх, праўда другарадных, герояў. Я не выдумаў поле, пра якое марыў Васіль, і цагельню, каля якой ён біўся з Глушаком. Ёсць у сапраўднасці (амаль ужо зарасло) возера, у якім намервалася ўтапіцца Хадоська; і дарога, па якой Ганна ехала на кірмаш, і плошча, дзе гэтыя кірмашы адбываліся*» [3 с. 405]. Дагэтуль захавалася, урасла ў балота грэбля паміж Алешнікамі/Алексічамі і Куранямі/Каранёўкай, якія па паўгода былі адрэзаныя ад другіх сёл, грэбля, насыпаная жыхарамі абедзвюх вёсак пад кіраўніцтвам Міканора Дамецыка, якая «*звязвае Курані са ўсім светам… звязвае разам сёлы, лясы, сенажаці. Звязвае людзей з людзьмі!*» [4, с. 394]. Дасюль на ўскрайку Каранёўкі, кажуць, захаваліся рэшткі цагельні, ля якой Васіль Дзятлік біўся з Яўхімам Карчом за лапік урадлівай зямлі. Яшчэ расце груша-

дзічка, пад якой быццам бы сустракаліся-мілаваліся Васіль і Ганна. Дарэчы будзе і апісанне Юравіцкага кірмашу, на якім Чарнушкі куплялі Ганне вясельныя строі: «*На плошчы, акружанай драўлянымі і каменнымі будынкамі — крамамі і крамкамі юравіцкіх гандляроў і кааперацыі, было ўжо даволі густа вазоў і людзей… плошча запаўнялася вазамі, людзьмі ўсё гусцей і гусцей, станавілася ўсё цясней і цясней, рос шум, гоман, крыкі*» [4, с. 263, 265]. У другой частцы «Подыху навальніцы» пададзена не менш маляўнічае апісанне Юравіч: «*Вулачка выводзіла Апейку на другую, трохі шырэйшую, таксама без бруку і тратуара… перад вачыма мяняліся хаты: найбольш старыя, найбольш пад гонтаю, усе драўляныя… выводзіла на брук галоўнай вуліцы, дзе быў і гаманкі дашчаны тратуар, і там-сям… камяніцы, дзе было тое, што вылучала паселішча з іншых…Галоўная вуліца — Леніна — была даўжэзная: цягнулася ўсцяж гары болей як на тры кіламетры, пакуль не ўпіралася ў зыбучы пясок, у цёмны хвойнік. Другая такая ж вуліца, так жа ўсцяж гары, але бліжэй, прыціскаючыся да самага падножжа, ішла ў другі бок, між ліп, між вербаў, да самай аздобленай хмызнякамі роўнядзі лугавой нізіны… Наперарэз гэтым дзвюм бегла з цеснаты гары яшчэ адна вялікая вуліца; усё ніжэй, ніжэй, між хат пад саснячкі, у прыпяцкія пяскі, к той жа прыстані*» [5, с. 190]. Там жа, дзе гэтыя вуліцы скрыжоўваліся, было тое, што выклікала пашану ўсіх прыезджых, быў цэнтр: «*установы, нардом, аптэка; тут былі магазіны, рынчная плошча, крамкі прыватныя, краўцы і шаўцы*» [5, с. 191]. Цяпер ад тых Юравіч засталіся хіба што вуліцы — Горная, Падгорная, Вадовічы, Савецкая — такія ж працяглыя, але заасфальтаваныя, няма рынчнай плошчы і прыстані, разбураны будынак даўняй аптэкі, не ладзяцца кірмашы.

Да месца будуць дарэчныя і цікавыя назіранні Апейкі аб талерантнасці палешукоў, аб асаблівасцях іхняй гаворкі, звычаях, аб рамёствах і занятках, аб зямлі, балотах і лясах. Захапленне ў Апейкі, гонар за родныя мясціны выклікала тое, што тут у кожнай хаце жылі выдатныя людзі. «*У адной славіўся на ўсё сяло пчаляр… у другой — дзівосны грыбнік… у трэцяй слава ззяе над паляўнічым… гэты ведае такія сакрэты рыбацтва, пра якія іншым і не снілася; той такі выдумшчык, што як збярэцца — жываты папарвяце; той так спявае, што за сэрца возьме; той — казачнік, той — балалаечнік, той — скакун. А колькі майстроў — касіць, капіць, стагі складваць; жаць, малаціць, веяць! Пячы хлеб, варыць патраўку, калоць свіней, рэзаць цялят! Праць, ткаць, бяліць палатно! Пілаваць дровы, плесці лапці!*» [5, с. 171]. Скажыце, дзе, у якім творы вы бачылі на такім невялічкім тэкставым адрэзку пералік заняткаў, прафесій людзей?

Нам падаецца, што такое незвычайнае падарожжа не толькі садзейнічацьме пасяховаму засваенню зместу твора, але і навучыць юнакоў, дзяўчат захоўваць духоўны скарб сваёй Радзімы, памнажаць прыгажосць бацькоўскай зямлі, каб у сэрцах падлеткаў ніколі не сцёрся прывабны куток Бацькаўшчыны, каб яны імкнуліся занатаваць тое, што яшчэ жыве, цепліцца ў людской памяці, каб яны, спасцігаючы малое, зразумелі вялікае, усвядомілі сябе нашчадкамі багатай культурнай спадчыны. Важна, каб моладзь адчула ўнутраную патрэбнасць цеснай еднасці з роднай зямлёй, з бацькоўскай хатай.

**Літаратура**

1. Даль, В. И. Напутное слово / В. И. Даль // Даль Владимир. Толковый словарь живого великорусского языка : в 4 т. — М.: Рус. яз., 1981. — Т. 1 : А–З. — LXXXVIII + 699 с., 1 портр.

2. Мележ, І. Выбраныя творы / І. Мележ ; уклад., прадм. і камент. С. Андраюка. — Мінск : Беллітфонд, 2001. — 576 с.

3. Мележ, І. Збор твораў : у 10 т. — Мінск : Маст. літ., 1983. — Т. 8 : Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю / І. Мележ. — 680 с.

4. Мележ, І. Збор твораў : у 10 т. — Мінск : Маст. літ., 1981. — Т. 5 : Людзі на балоце: Раман з «Палескай хронікі» / І. Мележ. — 415 с., 4 л. іл.

5. Мележ, І. Збор твораў : у 10 т. — Мінск : Маст. літ., 1982. — Т. 6 : Подых навальніцы: Раман з «Палескай хронікі» / І. Мележ. — 573 с., 4 л. іл.

## ДЗМІТРЫЙ ПАЎЛАВЕЦ



Нарадзіўся і вырас на Пінскім Палессі ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта па спецыяльнасці «Філалогія», выкладчык беларускай і рускай моў і літаратур. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Спецыялізацыя — гісторыя беларускай мовы, яе стасункі з іншымі славянскімі мовамі. Кола зацікаўленасці — беларуская анамастыка, пытанні культуры мовы, гісторыя беларускай культуры, станаўленне беларускай арфаграфіі, краязнаўства. Мае звыш 150 публікацый у навуковых і папулярных выданнях («Беларуская лінгвістыка», «Беларуская мова», «ЛіМ», «Полымя», «Роднае слова», «Русская речь»), краязнаўчых матэрыялаў у рэспубліканскіх і мясцовых газетах. Сааўтар «Русско-белорусского словаря спортивных терминов», «Фальклорнага слоўніка Гомельшчыны», кнігі «Святло каштоўнасцей духоўных. Жлобінскі край: мінулае і сучаснасць» (пад агульнай рэдакцыяй В. С. Новак, А. А. Станкевіч). Жыве ў Гомелі.

ТАЦЦЯНА ФІЦНЕР

## Ці «Самая чароўная кветка» — каханне?

*Асэнсаванне феномена кахання сучаснымі беларускімі пісьменнікамі*

Тэма кахання і звязаная з ёй праблема гендарных узаемаадносін з'яўляецца, без перабольшання, прадметам даследавання кожнага творцы, незалежна ад яго палавой прыналежнасці. Аб'ектам дадзенага даследавання з'яўляецца кніга «Самая чароўная кветка» [1], у якой прадстаўлены творы сучасных беларускіх пісьменнікаў і пісьменніц (беларуска- і рускамоўных) пра каханне. Бясспрэчна, кніга не дае поўнага ўяўлення пра асэнсаванне праблемы ўзаемаадносін полаў сучасным айчынным прыгожым пісьменствам, не дазваляе прасачыць эвалюцыю асобна ўзятага аўтара ў вырашэнні гэтай праблемы. Усё ж, на наш погляд, некаторыя творы з'яўляюцца паказальнымі ў адлюстраванні гендарных узаемаадносін нашага грамадства на пераломе стагоддзяў. Каханне ў анатацыі да кнігі трактуецца як пачуццё, «што хвалюе сэрца, высакародзіць душу, робіць жыццё радасным ці прыносіць трывогі і пакуты, становіцца прычынай жыццёвай драмы». На думку ж псіхолагаў, каханне — усяго толькі ілюзія, бо «грунтуецца на памылковай ацэнцы партнёра» — «узаемная містыфікацыя партнёраў» [2, с. 67]. Так, пачуццё гэтае неадназначнае. І ўцягвае ў такія ж неадназначныя, але больш шырокія і складаныя (гендарныя) адносіны прадстаўнікоў абодвух полаў.

Як вядома, міфы, аднойчы створаныя культурай і размножаныя ў шматлікіх тэкстах, маюць уласцівасць уплываць на падсвядомасць індывідаў (мужчын і жанчын) на працягу многіх стагоддзяў. «Двума фундамэнтальнымі мітамі заходняй культуры ёсьць аповед пра скрынку Пандоры і біблійны міт пра грэхападзенне» [3, с. 34], — лічыць К. Мілет. Менавіта апошні міф рэгламентуе паводзіны полаў, тлумачыць ніжэйшы статус жанчыны ў патрыярхатным грамадстве — гэта плата за непаслушэнства (калі не заглыбляцца ў сімвалічнае значэнне міфа). «Грахоўнасць» Евы, яе «віна» ў тым, што «рай страчаны», аўтаматычна пераносіцца на ўсіх жанчын будучых пакаленняў. Іх «віна» не меншае з часам. Улічваючы факт наяўнасці гендарна-нейтральнай (агульначалавечай) і гендарна-матываванай віны, апошняя, як зазначае Т. Ровенская [4], найбольш характэрна жанчынам. На думку даследчыцы, грамадства кантралюе жанчыну пры дапамозе «даведзенага да фарсу» хрысціянскага комплексу віны. Насамрэч грахоўнасць жанчыны, лічыць К. Мілет, гэта не больш як міф, які стварылі мужчыны і карыстаюцца ім сабе на карысць [3]. Аднак, на наш погляд, мужчыны сталі заложнікамі імі ж створанага міфа. Недавер да жанчыны абарочваецца іх паражэннем, становіцца іх фобіяй, што і пацвярджаюць ніжэйразгледжаныя творы пісьменнікаў.

Так, **В. Гапееў** у апавяданні **«Кропка на карце»** [1, с. 94–99] па-мастацку даследуе псіхалогію патэнцыяльнага халасцяка. Саракагадовы Віктар пазнаёміўся з жанчынай праз газетную рубрыку «Знаёмствы» і, пасля ліставання, якое доўжылася тры месяцы, паехаў да яе. «У іх усё атрымалася. Не пошла, а шчыра. Без прытворстваў, без штучнасці, з увагай да жаданняў адно аднаго. Па-дамашняму цёпла і па-вясковаму спакойна…» [1, с. 99]. Нягледзячы на гэта, герой апавядання вельмі трывожыцца: «Віктар адчуваў сябе ў нечым падманутым. Вось толькі ў чым — зразумець не мог. Усё як быццам было добра, а прадчуванне нейкай бяды, няшчасця жыло, варушылася калючым шарыкам. Была нейкая пагроза. Якая? Каб жа ведаць…» [1, с. 99]. Герой свядома шукае падман. Бяду, няшчасце, пагрозу, падман яму, як лёгка здагадацца, нясе жанчына з яе шчырым жаданнем мець сям'ю: мужа і дзяцей. Для героя В. Гапеева адстойванне сваёй адзіноты ёсць перамога. Віктар такім чынам на працягу ўсяго твора і выйграваў у паядынках з жанчынамі. Не факт, што ён не будзе адстойваць сваю адзіноту і на гэты раз, бо адчуваць сябе «ў пастцы» герою невыносна. У чым прычына? Паталагічная няўпэўненасць героя ў сабе, недавер да жанчыны? Боязь будаваць доўгатэрміновыя адносіны? Як вынікае з тэксту, вінаватая ў такім стане рэчаў усё роўна жанчына, бо спакушае яна: «Узгадаў, як яна ўмела зацягнула яго ў ложак. Быццам і сама першая сябе прапанавала, але ж прымусіла яго да яе ісці!» [1, с. 99]. Такі сцэнарый жыцця (будучыя знаёмствы праз газетныя аб'явы) дзесяць гадоў таму Віктару прадказала зацяжараўшая ад яго і пакінутая ім жанчына, патлумачыўшы гэта наступным чынам: «Бо ты ніколі нікога не палюбіш. У цябе наперадзе толькі разлік» [1, с. 94]. Такім чынам, у творы яшчэ паўстае праблема разумення сутнасці кахання мужчынамі і жанчынамі.

Крыху іншы сцэнарый развіцця падзей падае **М. Касцюкевіч** у апавяданні **«Звычайная гісторыя»** [1, с. 135–138], што не адмаўляе ў выніку «віны» жанчыны. Адно што жаночыя вобразы, прадстаўленыя ў творы, можна разглядаць як бінарную апазіцыю святая/блудніца, даволі характэрную для еўрапейскай культуры. У героя М. Касцюкевіча, таксама Віктара, ёсць каханая. Больш таго — нявеста. Герой зрабіў свой выбар і вельмі ім задаволены. Яго Алена — «чыстая душа». Аднак спрацоўвае традыцыйнае — «не пагуляў як след» [1, с. 135]. На чарговым начным дзяжурстве ў паліклініцы, дзе падпрацоўваў хлопец, з ім здараецца выпадак, які ў большай ці меншай ступені паўплывае на далейшае яго жыццё. Віктар праводзіць ноч з «чарнявай сімпатычнай дзяўчынай» у «вузкіх ружовых портках, у шэрым швэдары, што ладна аблягаў ці не завялікія для яе сярэдняга росту грудзі» [1, с. 135], якая выпадкова аказалася ў гэтым месцы менавіта ў гэты час. Апісанне дзяўчыны, як бачым, правакацыйнае, бо падаюцца яе жаночыя вабноты. Дзяўчына сапраўды прыгожая, праўда, са шкоднымі звычкамі: ад яе «злёгку патыхае віном», яна «зусім па-мужчынску» паліць. Улічваючы той факт, што ў героя да гэтага выпадку «не было простага мужчынскага досведу *лёгкіх* (вылучана намі. — *Т. Ф.*) кантактаў з жанчынамі» [1, с. 137], то ён ніяк не мог прапусціць «такога спрыяльнага выпадку» [1, с. 137]. У выніку разважанняў

накшталт тых, што кожны мужчына падобна павёў бы сябе на яго месцы, герой вырашае дзейнічаць. А ў выніку вінаватай аказваецца ўсё ж дзяўчына: «Віктар, адчуваючы калыхлівае цяпло яе грудзей, наблізіў твар да вільготна-бліскучых вуснаў і пацалаваў. Яна ўзняла рукі, і *яму нічога не засталося* (вылучана намі. — *Т. Ф.*), як зняць з яе швэдар…» [1, с. 137]. Праўда, у аўтарскай пазіцыі адчувальны дакор герою, які не прайшоў тэст «на маральную чысціню» — заплямі́ў сябе здрадай. І невядома яшчэ, ці ўдасца яму выйсці сухім з сітуацыі, што склалася: «начная знаёмая» аказалася сяброўкай нявесты Віктара, у кватэры якой ім і выпала сустрэцца раніцаю. Аўтар выяўляе матывы паводзін героя і наўмысна не падае развязкі твора. Чытач мусіць сам паразважаць аб магчымых наступствах яго паводзін. Займець каханне не так складана, як зберагчы яго. Віктар хоча мець за жонку «святую», аднак не супраць «пакарыстацца» і «блудніцай». З апошняй можна дазволіць сабе не мець доўгатэрміновых адносін, таму Віктар раніцай і спяшаецца пазбавіцца ад яе: «Узяўшы з крэсла адзенне, паклаў дзяўчыне ў кішэню дробязі на метро і не тое каб груба, але занадта ўжо халодна разбудзіў ды выправадзіў яе» [1, с. 137].

Грамадскае ўяўленне пра жанчыну/жаноцкасць адрозніваецца ад прынятага ў соцыуме ўяўлення пра мужчыну/мужчынскасць. Ад мужчыны чакаецца актыўнасць у пошуку каханай, яму дазваляецца большая свабода ў адносінах з супрацьлеглым полам, накапленне вопыту. Жанчыне ж прадпісваецца цнатлівасць, пасіўнасць: чаканне адзінага, які «й на печы знойдзе». У адваротным выпадку жанчына адразу апынаецца па другі бок мяжы святая/блудніца. У пацверджанне такой сацыяльнай нормы патрыярхатнага грамадства разгледзім апавяданне **А. Федарэнкі «Вецер»** [1, с. 260–263]. У цэнтры мастацкага даследавання аўтара-апавядальніка — «прыгожы, высокі, статны», гадоў трыццаці мужчына, які выпівае «хоць патроху, але часта, забягаючы перыядычна ў кавярню, балазе работа дазваляе — працуе ён побач, паркоўшчыкам» [1, с. 260]. Мужчына прадстаўляецца наведвальнікам кавярні сапраўдным прозвішчам — Вецер. Таксама называе сябе і няўдачнікам-рыфмаплётам, і непрызнаным геніем, і графаманам. Менавіта Вецер расказвае апавядальніку сваю гісторыю: гісторыю юнака-паэта, што «трапіў у пастку» пад назвай Аксана. З тых часоў не толькі яго талент, а і ўсё ягонае жыццё змарнавалася… Без «допінгу» герой не можа існаваць і дня. Штовечар п'янага мужчыну з кавярні забірае жонка. Пазіцыя аўтара ў адносінах да героя, хоць на першы погляд быццам і нейтральная, зводзіцца да вядомага выразу «шукайце жанчыну»… Менавіта жанчына, дакладней жонка Ветра Аксана, вінаватая ў дэградацыі героя, бо здраджвае яму. Ці так усё на самай справе? Ужо згадвалася, што традыцыйна мужчынам не забараняецца назапашваць вопыт міжпалавых стасункаў да шлюбу, шукаць сваю жанчыну. «Яна была для мяне ўсяго толькі гульнёй, баўленнем часу… Цэлае жыццё — сапраўднае! — наперадзе, а гэта так, падрыхтоўка, прэлюдыя, размінка, назапашванне матэрыялу, набыццё вопыту… Аб чым бы яна ні загаварыла, я ўсё пераводзіў у жарт, у сцёб» [1, с. 261], — апавядае Вецер. «Патроху я ўжо і

тады бухаў» [1, с. 261], — дадае герой, якому на час знаёмства з Аксанай было толькі 17 гадоў. Ці не было гэта пачаткам дэградацыі, у якой абвінавачваецца жонка? Можа, ахвяра не ён? У тэксце акцэнтуецца ўвага на такіх рысах характару героя, як бязвольнасць і пасіўнасць: «І развесціся — неяк лянота, ды і не бачу прычын, усё адно наступная будзе такая ж, усе яны аднолькавыя для мяне цяпер. Такія планы, талент, жыццё — усё загубіла!» [1, с. 262]. Але чаму Аксана не кідае мужа-п’яніцу? Гэта традыцыйнае жаданне быць замужам, ці яе стрымлівае абяцанне «не кіну любога»? Але як да ўсяго гэтага «прывязаць» каханне? І навошта тады Аксана здраджвае Ветру? Пытанні застаюцца без адказаў, бо межы апавядання не дазваляюць выказацца жонцы Ветра. Дый аўтар не ставіць гэта сабе на мэце. Мы ведаем толькі «праўду героя».

І. Саўкіна зазначае, што «калі мы прызнаём прынцыповую рознасць паміж мужчынам і жанчынай, то, напэўна, неабходна прызнаць і тое, што саманазіранне, самавыяўленне жанчыны ў літаратуры, яе погляд на свет і на сябе ў свеце ў чымсьці, а можа і істотным чынам, адрозніваецца ад мужчынскага» [5]. Гэта тычыцца і разумення кахання, і наогул гендарных узаемаадносін. У тэкстах пісьменніц (у адрозненне ад аўтараў-мужчын) жаночыя вобразы больш псіхалагічна выверaныя, іх учынкі больш матываваныя. Пісьменніцы таксама прымаюць бінарнасць святая/блудніца ў паказе жаночых вобразаў, але інтэрпрэтацыя іх не такая катэгарычная, бо мяжа паміж гэтымі паняццямі вельмі рухомая. А галоўнае, не адлюстроўвае ўсю разнастайнасць праяўленняў жаноцкасцей. Творы ўзнаўляюць і грамадскія стэрэатыпы, а найперш той, згодна з якім сэнсам жыцця для кожнай жанчыны становіцца каханне. І часам яно мае большую каштоўнасць у параўнанні з жыццём, як у выпадку з гераіняй аповесці **А. Брава «Бязлітасны мой воін»** [1, с. 53–70]. У гэтым творы пісьменніцу больш цікавіць каханне («самая ірацыянальная з усіх чалавечых праяваў» [1, с. 54], «нейкі фатальны ўсплёск эмоцый» [1, с. 54]), а не яго наступствы ці рэцыдывы. Паміж радкоў аповесці прачытваецца, што каханне і шлюб — рэчы не тое каб зусім не сумяшчальныя, аднак у іх розныя мэты. Каханне дае чалавеку адчуванне паўнаты жыцця, яго сэнсу, спраўджанасці. На жаль, ніхто не можа гарантаваць яго працягласць. А шлюб, як лічаць культуролагі [7], першапачаткова быў скіраваны нават не на працяг роду чалавечага (дзеці нараджаліся і да ўзнікнення нуклеарнай сям’і), а на кантроль над жаночай сексуальнасцю, а ў выніку на законнасць спадкаемца з мэтай перадачы яму бацькоўскага статусу і маёмасці. А. Брава ў аповесці асэнсоўвае прыватны выпадак кахання, не ставячы на мэце рабіць вялікія абагульненні. Пачуццё гераіні «разбіваецца» аб этычныя нормы грамадства: каханы гераіні і адначасна закаханы ў яе мужчына — Сергіенка — мае сям’ю, таму, хоць і не без ваганняў, пакідае каханую. Да ўсяго, закаханы мужчына баіцца свайго пачуцця: «...Ты стрымаў у сабе нарастаючую хвалю кахання. Але як жа, Божа, табе хацелася любіць! Таму спяшаўся ўцячы ад мяне, бо баяўся, што я штосьці ў табе растрывожу беспаваротна, непапраўна, і тады зямля, як у галалёд, перастане быць апорай і касмічны віхор умо-

мант змяце ўсё, што ты так доўга і цяжка будаваў, — дом, сям'ю, кар'еру» [1, с. 65]. Такія паводзіны героя цудоўна тлумачыць сусветнавядомы псіхааналітык К. Хорні: «Мы ведаем альбо невыразна, падсвядома адчуваем, што моцнае пачуццё, страсць можа вывесці з раўнавагі, прывесці да экстазу, прымусіць чалавека адмовіцца ад вельмі многага, ад сябе самога ўключна, карацей, азначае скачок у бязмежнае. Таму сапраўдная страсць надзвычай рэдкая» [6, с. 9]. Далей аўтарка «Жаночай псіхалогіі» зазначае, што «мы (у дадзеным тэксце займеннік «мы» ўбірае ў сябе прадстаўнікоў абодвух полаў. — *Т. Ф.*) імкнёмся быць стрыманымі і заўсёды гатовыя да адступлення, падпарадкоўваючыся, па магчымасці, інстынкту самазахавання. Мы, натуральна, баімся згубіць сябе ў іншым чалавеку» [6, с. 10]. У адрозненне ад Сергіенкі галоўная гераіня твора літаральна не можа жыць без кахання і каханага. Свой дыягназ яна вызначае як «адсутнасць неабходнай для жыцця субстанцыі любові» [1, с. 66]. У яе не стае імунітэту, каб перамагчы хваробу-каханне. Інстынкт самазахавання не спрацоўвае. Жыццё само па сабе не з'яўляецца для яе самакаштоўным. Без кахання яно губляе сэнс, таму гераіня выбірае смерць. Згодна з фіналам твора гераіня памірае менавіта тады, калі гіне ад кулі яе каханы. Суадносіць гэты вобраз з паняццем «блудніца» ніяк не выпадае, бо каханне да жанатага мужчыны аплочана занадта высокай цаной.

Не ўсё так трагічна ў іншых, прадстаўленых у кнізе, жаночых тэкстах. А прычыну неўладкаванага жаночага жыцця/лёсу аўтаркі найперш бачаць у паводзінах мужчын, больш дакладна — у іх нявернасці. Апавяданне **В. Кадзетавай «На Радаўніцу»** [1, с. 117–121] падае вобраз мужчыны, які стаўся ахвярай асабістай сексуальнасці ці бесхарактарнасці. Усё сваё «дарослае» жыццё ён, па сутнасці, пражыў з дзвюма жанчынамі: жонкай і каханкай. Спачатку ён здрадзіў другой (ажаніўся), а потым усё жыццё здраджваў першай (хадзіў да каханкі). І так і не змог пакінуць ні адну з іх. Свае паводзіны герой тлумачыць брату наступным чынам: «Я Хадоску шкадую. І характарам яна добрая, і гаспадыня неблагая, і маці клапатлівая. Але ж прэсная нейкая. А Марыля… Ты каб ноч з ёю пабыў, дык назаўсёды запомніў бы» [1, с. 120]. Марыля, якая была каханкай Васіля да яго шлюбу з Хадоскай, засталася ў гэтай ролі і надалей, дараваўшы яму і шлюб з Хадоскай, і смерць ненароджанага дзіцяці. Чаму Васіль не ажаніўся з ёю? Чаму высватаў у суседняй вёсцы Хадоску? Дзяўчына нічога не ведала пра мінулае свайго жаніха, аднак, хоць і ненаўмысна, перайшла дарогу Марылі, а ў выніку стала ахвярай адносін Васіля і Марылі.

Ці задавальняла гэтая сітуацыя жанчын? Хадоска, якая аднойчы ўсё ж праявіла характар і сабрала рэчы мужа, каб ён выбіраўся да Марылі, пазней змірылася з такім станам рэчаў. Аднак, як зазначае пісьменніца, з таго часу «ў Хадосчынай душы нібы амярцвела ўсё» [1, с. 121]. А пра Марылю ў тэксце сказана, што замуж яна не выйшла. «І дзяцей у яе таксама не было. Ці не з-за таго, даўняга? А можа, саромелася?» [1, с. 121]. Жылі жанчыны па-суседску, але нават ніколі не віталіся. Крыху прымірыла іх толькі смерць Васіля — не стала мужчыны, знікла і прычына непрыязі жанчын адна да адной.

Зусім па-іншаму, упэўніўшыся ў здрадзе мужа, паводзіць сябе гераіня апавядання **Т. Мушынскай «Бабіна лета»** [1, с. 187–192]. Рашучая, валявая, рашэнне Тамара прымае аднойчы і назаўсёды: «…з Алегам жыць больш не змагу» [1, с. 189]. Як і ў папярэднім творы, мужчына, сустракаючыся са сваёй будучай жонкай, «меў іншую жанчыну» [1, с. 189]. А калі яна часова паехала на вёску з мэтай аздаравіць сына, муж зноў не застаўся без жаночай увагі. Гісторыя атрымалася даволі банальная: вярнуўшыся ноччу з хворым сынам, Тамара застае мужа «на канапе з нейкай дзеўкай. Абое — у чым маці нарадзіла» [1, с. 189]. Здрада мужа дадае духоўнай моцы жанчыне, высвечвае лепшыя якасці яе характару. Тамару не палохае ні той факт, што ў яе маленькі сын на руках, ні тое, што яна «другі раз цяжарная…» [1, с. 189]. Маральную падтрымку гераіня атрымлівае з боку маці: «Трэба нарадзіць другое. Я дапамагу» [1, с. 190]. Усё ў Тамары ўдалося: і дзеці прыстойныя выраслі, і пакахала яна, і замуж яшчэ выйшла, і нават нарадзіла трэцяга сына. Мужу-здрадніку менш пашчасціла. Ён расплочваецца сваім лёсам за парушаную сямейную ідылію: «А мой былы муж яшчэ раз ажаніўся, толькі і там нешта не склалася. Спіўся ён у рэшце рэшт» [1, с. 190].

Такім чынам, сучасныя беларускія аўтары, асэнсоўваючы феномен кахання, выяўляюць адметнасць жаночага і мужчынскага поглядаў на ўзаемаадносіны полаў, фіксуюць сучасныя нормы паводзін полаў, рэпрэзентуюць аўтарскае бачанне праблемы ўзаемаадносін полаў. Як вынікае з твораў, пісьменнікі «віну» за «страчаны рай» ускладваюць, як правіла, на жанчыну. Але часам і яны бачаць прычыну страты Эдэма ў паводзінах моцнай паловы чалавецтва. У жаночых тэкстах сітуацыя кардынальна мяняецца: парушаюць ідылію ва ўзаемаадносінах з каханымі менавіта мужчыны. Нявернасць мужчыны не заўсёды вядзе да разрыву адносін з ім, але абавязкова спустошвае душу жанчыны. Часам лепшы варыянт — расстанне. Пісьменніцы намастацку асэнсоўваюць значнасць кахання ў жыцці жанчыны, яго суаднесенасць не толькі з асабістым шчасцем і лёсам гераінь, а нават і з жыццём.

**Літаратура**

1. Самая чароўная кветка : аповесці, апавяданні / уклад. Алесь Лесавік. — Мінск : Маст. літ., 2010. — 318 с.

2. Некрасов, С. Н. Жизненные сценарии женщин и сексуальность / С. Н. Некрасов, И. В. Возилкин. — Свердловск : Изд-во Уральского университета, 1991. — 168 с.

3. Мілет, К. Тэорыя сэксуальнай палітыкі / К. Мілет // ARCHE : Кабеты. — 1999. — № 3. — С. 6–41.

4. Ровенская, Т. «Виновата ли я?..», или Феномен гендерной вины (на материале женской прозы 80-х — начала 90-х годов) / Т. Ровенская // Гендерные исследования. — 1999. — № 3. — С. 214–224.

5. Савкина, И. «Разве так суждено между людьми?» / И. Савкина // Север. — 1990. — № 2. — С. 149.

6. Хорни, К. Женская психология (Избранные главы из книги) / К. Хорни ; пер. с англ. Е. И. Замфир ; вступ. ст. и прим. М. М. Решетникова. — СПб. : Санкт-Петербургский институт психоанализа, 1993. — 48 с.

7. Киселева, Т. Г. Социальный образ женщины в культурах мира / Т. Г. Киселева // Общественные науки и современность. — 2003. — № 3. — С. 162–171.

## ТАЦЦЯНА ФІЦНЕР



Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Буда-Сафіеўка Лельчыцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт ГДУ імя Ф. Скарыны і аспірантуру (завочна) пры ім. У 2003 годзе ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэме «Гендарныя праблемы ў беларускай літаратуры ХХ стагоддзя». Працуе на кафедры беларускай літаратуры ў ГДУ імя Ф. Скарыны. Жыве ў Гомелі.

# Змест

### ІВАН САЧУК



### АЛЕСЬ БРАГІНЕЦ



## ПАЭЗІЯ

### ВІКТАР ЯРАЦ



### АЛЕСЬ БАРДОЎСКІ

## ГЕНАДЗЬ ЛАПАЦІН



## ЛАРЫСА РАМАНАВА



## ТАІСА МЕЛЬЧАНКА



## ЯЎГЕН СЕРГІЕНЯ

### ВАСІЛЬ АНДРЫЕЎСКІ



### ВАДЗІМ БОЛБАС



### АНДРЭЙ МЕЛЬНІКАЎ



### АЛЯКСЕЙ ДУЖЫ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ПАЛАЦ**

*Літаратурны альманах. Гомель. 2013*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Анатоль Бароўскі, Генадзь Лапацін*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 20.01.2014. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 13,96. Ум. друк. арк. 49,4.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 39.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.